

# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**2** (1000)

ЛЮТЫ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»

Мінск 2013

*ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

# ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

*У вашых руках лютаўскі нумар часопіса. І гэты чарговы нумар — незвычайны. На ягоным шмуцтытуле, як вы заўважылі, у знакавых дужках пазначана лічба — 1000. Так, гэта і ёсць юбілейны, тысячны нумар часопіса «Полымя».*

*Каб дайсці да гэтай своеасаблівай творчай вяршыні, спатрэбілася дзевяноста гадоў і два месяцы. Такі ён, часавы абсяг; нялёгкі, падчас трагічны, палымянскі шлях. Пра гэта неаднаразова згадвалася намі на старонках часопіса з нагоды юбілейных дат. Сягоння з гістарычнай вышыні мы не толькі аглядаем зробленае, аднак і ўпэўнена ўзіраемся ў будучыню. Як не ўсе вядомыя ў нашай літаратуры хрэстаматыйныя творы сышлі ў свой час са старонак «Полымя». Цэлыя пакаленні айчынных творцаў паяднала адметная гісторыя часопіса, пачынаючы з тых знакавых імён, што стаялі ля яго вытокаў (Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, П. Галавач, М. Лынькоў), і заканчваючы плеядай сучасных маладых аўтараў, якім і належыць сама літаратурная будучыня Беларусі.*

*У XXI стагоддзі айчынная літаратура захоўвае і прымнажае лепшыя палымянскія традыцыі, застаючыся адной з самых гуманных літаратур свету. На старонках «Полымя» друкуюцца творы і многіх замежных аўтараў, блізкія і зразумелыя нам, беларусам, сваім чалавекалюбівым зместам. Наватарскія пошукі вядуцца з улікам здзейсненага славутымі папярэднікамі, таго духоўна-мастацкага арсенала, які годна паставіў айчынную літаратуру на самы высокі ўзровень і дае магчымасць пачуць новыя творчыя сілы.*

*Часопіс не забывае і пра свае грамадскія абавязкі: расказвае пра сягоннявшнюю Беларусь, пра лёсы і жыццёвыя клопаты многіх і многіх суайчыннікаў, гаворыць пра дасягненні сучаснай беларускай навукі, пра духоўныя далягляды нашай гісторыі і культуры. А ў рубрыцы «Наш край» творчымі намаганнямі шырокага кола аўтараў мы разам ствараем сучасны партрэт Бацькаўшчыны.*

*Віншуючы часопіс з 90-годдзем, Прэзідэнт нашай краіны А. Р. Лукашэнка зазначыў: «Дзейнасць вашага калектыву спрыяе прафесійнаму росту маладых талентаў, аб'яднанню творчай інтэлігенцыі краіны і развіццю мастацкага слова ў рэчышчы традыцый, закладзеных выдатнымі майстрамі мінулага, дапамагае захаваць багацце духоўнай культуры беларускага народа, выявіць глыбіню і адметнасць нацыянальнага характару».*



Галіна ВАСІЛЕЎСКАЯ

# БЕЛЫЯ ПАРАСОНЧЫКІ З ТАПОЛІ...

*Апавяданне-быль*

***Прысвячаецца памяці маёй маці Марыі Адамаўны***

Кожны год на пачатку лета, калі студэнты раз’язджаліся на канікулы, з Масквы да нас ранішні цягнік прывозіў Маіну. Выкройвала яна са сваіх турыстычных паездак-паходаў тыдзень-два і заўсёды адпачынак пачынала з Мінска.

У гэты час у паветры лёталі белыя парасончыкі з таполяў. Свавола-вецер гуляў з імі: то падыме аднаго высока ўверх, то апусціць аж да самай зямлі. Захоча — збярэ разам некалькі і зноў гуляе, пакуль наблізяцца і яны да зямлі, а там затрымае іх якая-небудзь лужына. І тады здаецца, што лужыну летам скаваў мароз.

Ніколі Маіна не папярэджвала, што прыедзе, бо ведала, яе чакаюць, ёй рады. І ў суботу, каб усе былі дома, роўна а палове дзявятай яна націскала кнопку нашага званка і чула, як весела, нецярпліва звініць-пераліваецца званок, чула, як там, у кватэры, таропка ідуць да дзвярэй, чула радасны вокліч:

— Майя прыехала!

Пузаты рукзак ляціць на падлогу, і яна кідаецца ў абдыкі.

— Майя… Маюша, Маіна…

Гляджу на яе, углядаюся ў твар, шукаю змены, што адбыліся за год. Змен няма. Толькі ніжэй на лоб апусцілася пасмачка яе чорных як смоль валасоў. І ўсё. А можа, я не хачу бачыць змен? Для мяне яна — сястра, якая не мае права старэць, бо яна малодшая.

— Ну вось я і дома, — на вачах яе слёзы. Слёзы і на маіх вачах.

---

*__Васілеўская Галіна Ануфрыеўна__ нарадзілася 15 студзеня 1927 года ў г. п. Клічаў Магілёўскай вобласці. У 1932 годзе сям’я пераехала ў Мінск. Да вайны скончыла шэсць класаў сярэдняй школы. Пасля вайны экстэрнам здала экзамены за дзесяцігодку (1945). У 1950 годзе скончыла аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працавала радыёжурналістам, літаратурным супрацоўнікам часопіса «Сельская гаспадарка Беларусі». З 1959 да 1977 года была рэдактарам аддзела часопіса «Работніца і сялянка», з 1977 года загадвала аддзелам нарыса, а з 1979-га была адказным сакратаром часопіса «Полымя». З 1982 па 1988 г. узначальвала бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.*

*Выдала кнігі: «Маланка ўначы», «Малюнак на снезе», «Юныя назаўсёды», «Бывай, Грушаўка!», «Я еду на вярблюдзе», «Крылы, альбо Адзін год з жыцця Віталя Пятроўскага», «Выбранае: аповесці і апавяданні» і іншыя.*

Летам, калі яна ў чарговым паходзе, мы з асаблівым нецярпеннем чакаем яе лісты. Бо яны заўсёды з на дзіва прыгожых мясцін: то з Салавецкіх астравоў, а то з Вяткі…

Мяне яе лісты заўсёды хвалююць, прымушаюць думаць, успамінаць. А ўспаміны гэтыя зусім не звязаныя з тым, пра што яна піша. Бо ў тых мясцінах я не была ніколі…

У наша размеранае, рытмічнае жыццё яна ўрывалася як віхор.

Мы трое на кухні: Майя, я і мой сын Юрый. Я гатую сняданак і моўчкі ўсміхаюся. Ад радасці, што бачу яе і што яна такая ж непаседа, якой я помню яе і люблю. Муж Пятро, павітаўшыся з ёю, вяртаецца ў свой кабінет і стукае на пішучай машынцы. Два выхадных дні ён аддае творчасці.

Юра выбірае са стосіка на палічцы газету, пакладзеную спецыяльна для Майі, і падае ёй. Майя праглядае апошнюю старонку.

— У філармоніі канцэрт арганнай музыкі, — падказвае Юра.

— Выдатна. Пачнём з філармоніі.

— А што ў тэатрах? Ой, «Паўлінка»! Цікава, як спраўляецца новае пакаленне купалаўцаў з гэтым спектаклем? Сходзім абавязкова!

Яна апускае газету.

— Нічога лепшага, здаецца, у жыцці не бачыла… Першае ўражанне ад мастацтва… Платонаў… Глебаў… Пола… Дзядзюшка… Ржэцкая… Станюта… Бог мой, што за акцёры! Я ж магла іх глядзець бясконца. З тэатра не выходзіла б і ноч бы сядзела там у зале, толькі б яны былі на сцэне… Цемната, у горадзе за тэатрам яшчэ няма ніякіх ліхтароў, навокал страшэнныя разваліны…

— А мы вечарам ідзем у тэатр, — падхопліваю я.

— На сустрэчу з Вялікім Мастацтвам, — дадае яна.

Пасляваенны разбураны дашчэнту Мінск. Тэатр хутка вярнуўся з эвакуацыі. Цёмныя вуліцы, па баках горы бітай цэглы, якія нагадваюць пачвар, спаленыя дамы, у пустых каробках якіх гудзе, гуляе, раскашуе вецер і вые, як жывая істота. А мы ідзём, дзве дзяўчынкі-падлеткі, школьніцы, заядлыя тэатралкі. Мы анічога не баімся, не павінны баяцца, бо перажылі вайну, фашысцкую акупацыю.

Тады ініцыятарам нашых паходаў была я, для Майі ж на самай справе — мая мама:

— Ты не павінна пакідаць яе адну, ідзіце куды хочаце, глядзіце што хочаце, толькі б яна не думала, не вярэдзіла сваю памяць…

І мы хадзілі, хадзілі, хадзілі. Я гаварыла, яна слухала. Але часам я заўважала, што нічога яна не ўспрымае, пакуль не ўзяў яе ў свой палон тэатр.

Накрываю на стол. Дзверы на балкон расчынены. З пакоя відаць высокае дрэва белай акацыі. Яно ўзнялося вышэй чатырохпавярховага дома. За акацыяй расце магутная таполя.

Зусім нядаўна на балконе стаяла крэсла, у ім, прыкрытая пледам, сядзела мая старэнькая маці. Каля яе масцілася Маіна. Яна старанна падварочвала плед пад маміны ногі, каб не прахапіў ветрык і, абняўшы іх, знізу ўверх глядзела на мамін твар.

— Мілая, мілая мама Муся. Як я рада, што бачу вас.

— І я рада. Ну што ў цябе новенькае, што харошае адбылося ў жыцці тваім?

— А нічога. Усё па-старому. Студэнты ў мяне… як студэнты! Я сябрую з імі, люблю іх. З імі мне хораша.

— Ну а… асабістае?

— Разбіваць чужую сям’ю, пакідаць дзяцей сіротамі не магу. — Яна ўсміхаецца: ужо іншым тонам дадае: — Відаць, наканавана мне лёсам не пускаць далей карэнняў…

— Не трэба так гаварыць, — у голасе мамы смутак.

— Як мне добра з вамі, харошая мама Муся, вы нават не ўяўляеце, нават не здагадваецеся, — пераводзіць яна гаворку на іншае.

— Чаму ж не перабіраешся да нас жыць?

— А вось вазьму і перабяруся.

— Колькі гадоў абяцаеш…

Цяпер ужо гэта для мяне ўспамін, балючае мінулае. Бо мамы няма. А Маіна на балконе з Юрам. Яна жмурыцца на сонца, працягвае руку і ловіць белы парасончык з таполі, заціскае ў кулак, нейкі час трымае і разводзіць пальцы. Вецер падхоплівае, і ён ляціць, падымаецца вышэй за балкон… Майя праводзіць яго позіркам. А я моўчкі, з трывогай назіраю за ёй.

За сталом, як заўсёды, яна садзіцца насупраць адкрытага балкона, і каля яе месца на сподачак я паставіла срэбраны кубак, сказаўшы ёй: «Лячыся срэбрам, кажуць, памагае». Яна неяк абыякава махнула рукой: «Мне ўжо нішто не дапаможа. Я і не спадзяюся. І ты не старайся».

У пакоі лёгка дыхаецца, светла ад сонца, якое спынілася над балконам, расплавілася ў спякотным небе і, здавалася, свеціць толькі нам.

Юрый прынёс свежую, па ўсіх правілах завараную гарбату, пачаў разліваць па кубках. Маіна ўзяла свой, хуценька паставіла назад, і твар яе збялеў.

— Табе дрэнна? — спалохалася я.

— Нічога, проста кубак гарачы, усё роўна як бляшаны. А бляшаным кубкам, ты ж ведаеш, я столькі разоў апякала сабе рукі…

— Прабач, я не хацела.

— А нічога.

— Навошта я паставіла на стол гэты кубак? — дакараю сябе. Я ж стараюся, кожны яе прыезд стараюся, каб нішто нічога ёй не нагадвала. Гаворым з ёй пра ўсё, толькі не пра мінулае. Нібыта яно выкраслена з нашай памяці. Нібыта яго не было зусім.

А яна сказала пра бляшаны кубак так, як гавораць пра тое, пра што ўвесь час думаюць. І я зразумела, мае намаганні, мае імкненні, каб яна нічога не ўспамінала, — дарэмныя. Не ўспамінаць яна не можа. Бо дзеля гэтага прыязджае сюды кожны год, каб пакланіцца свайму мінуламу.

Пасля сняданку, калі Юрый пайшоў па білеты ў філармонію, яна спытала ў мяне:

— Не ведаеш, дзе знаходзіцца вуліца Шырокая?

Упершыню за многія пасляваенныя гады яна задала гэтае пытанне.

— Я цікавілася. І нічога не разумею. У новым мікрараёне. А тады ж Мінск быў намнога меншы. Не было ніякіх мікрараёнаў, а вуліца Шырокая была.

— Яна была ў цэнтры, — сказала Маіна. — Нас ганялі разбіраць развалíны ля опернага тэатра, у якім фашысты зрабілі канюшню. Мы ішлі калонай хвілін дзесяць, не болей. Значыць, недзе блізка… ад опернага. — Яна замаўчала, нібы вагаючыся, гаварыць ці не, і дадала: — Я ўжо шукала сама, але не знайшла. Здавалася, помніла ўсё жыццё, толькі баялася зноў прайсці гэтай дарогай, баялася — сэрца не вытрымае…

— І я шукала, — дадала я, — але не ведала, дзе шукаць. А ў даведніку вуліца з такой назвай ёсць.

— Значыць, гэта не яна.

— Можа памянялі назву? — выказала меркаванне я. — Ведаеш, пасля вайны ўсім хацелася хутчэй забыць пра яе. Столькі яна прынесла гора. Стараліся тады, каб нішто не нагадвала… А тут, у цэнтры — канцлагер… Можа нават жыхары гэтай вуліцы папрасілі памяняць назву. Магло быць і так.

— Магло…

Мы з ёй на кухні, я выцірала посуд, а яна сядзела за сталом і задуменна глядзела ў акно.

— Я хачу знайсці яе… я ўжо змагу. Паможаш мне? Машына ў цябе на хаду?

— Едзе пакуль…

Толькі што неба было светлае, спякотнае, аж залатое, бо ў ім расплавілася сонца. Але нечакана прыляцеў вецер, захістаў цяжкія зялёныя галіны дрэў, і яны зашумелі, зашалясцелі незадаволена. Вецер прыгнаў хмару — цёмную, аж сінюю, і такую вялікую, што закрыла яна сабой золата сонца і шыр неба. Прыплыла яна як жывая, страляючы маланкай і сварачыся перуном. Маланка разразала хмару напалам, і здавалася тады, што зараз абедзве палавіны не вытрымаюць і грукнуцца на зямлю.

Пастаяла хмара над галавою, і раптам шугануў магутны лівень. Нібы заплакала неба. Ад колаў машыны ва ўсе бакі ляцелі фантаны вады, дворнікі не паспявалі расчышчаць ветравое шкло.

Мы, як у проламку, рынуліся ў сваё абпаленае вайной дзяцінства, галоднае, з дымам пажарышчаў, з разбуранымі ўшчэнт дамамі, гарадамі і знявечанымі чалавечымі лёсамі. Паімчаліся шукаць той страшны бераг, той высачэзны край абрыву, за якім канчалася ўсё…

Да Тэатра оперы і балета, пабудаванага да вайны на самым высокім месцы ў Мінску, на Траецкай гары, мы пад'ехалі з вуліцы Максіма Горкага. Маіна глядзела па баках, потым сказала:

— Калі мы калонай вярталіся назад у канцлагер — былы Тэатр оперы і балета заставаўся ў нас з левага боку.

Павярнула машыну, абмінула тэатр, стала ціха, думала, можа яна яшчэ што ўспомніць.

Зноў павярнула налева, праехала крыху і адчула на сваім плячы руку. Прыпынілася ля абочыны. Дворнікі працавалі не спыняючыся.

— І тады быў дождж, — пачула я ціхі голас. — Мы з татам апошні раз былі разам якраз тут, дзе стаіць машына. З раніцы працавалі і да позняга вечара. Паабапал калоны немцы з сабакамі, тыя брэшуць. Да гэтага часу не магу цярпець сабак, не выношу іх брэху… Вось па гэтай вуліцы нас і гналі, галодных, мокрых. Мы дрыжэлі ад холаду, і тата мяне прыкрыў крысом свайго пінжака… Мне здаецца, што мы ўвесь час ішлі прама і толькі адзін раз павярнулі налева ў вароты канцлагера. Як гэта вуліца называецца?

— Куйбышава.

— І да вайны так называлася?

— Не ведаю.

Ціха едзем па вуліцы. Майя ўглядаецца ў будынкі, што стаяць злева. Басейн завода «Гарызонт», інжынерны корпус, каля яго — пляцоўка.

— Спыніся тут.

Паварочваю на пляцоўку, каб не перашкаджаць руху тралейбусаў. І раптам пачула:

— Мне ў рукі трапіў дакумент, які быў аформлены ў Маскве ў 1963 годзе, пра нацысцкі тэрор на акупіраванай тэрыторыі СССР. Там пра Беларусь многа напісана… Бедная наша Радзіма… Фронт пад Сталінградам, а ў нас нацысты знішчалі народ. Колькі канцлагераў было ў Мінску акрамя на гэтай злашчаснай вуліцы Шырокай. Знішчалі, каб вызваліць сабе нашу зямлю, тэрыторыю, бо ім цесна было ў Германіі. Яны вышэйшая раса. Значыць, іншых трэба забіваць…

Яна замаўчала. Я разумела, як ёй цяжка гаварыць пра гэта.

— Больш нічога не гавары, хопіць… — папрасіла я.

Але яна нібы не чула мяне.

— З гэтага дакумента я дазналася, што толькі ў адным канцлагеры на вуліцы Шырокай за 1943—1944 год было знішчана 20 тысяч чалавек… Потым людзей сталі вывозіць у Трасцянец, за горад, каб знішчаць… Там напісаны такія жахлівыя падрабязнасці.

Твар яе пацямнеў, губы дрыжэлі.

— Хопіць! Не гавары! Не вярэдзь сваю душу.

— Я павінна табе расказаць.

— Не трэба, прашу цябе, не трэба.

Я абняла яе, яна ўся дрыжэла. Нейкі час мы моўчкі праседзелі ў машыне. Маіна трохі супакоілася.

Калі скончыўся рабочы дзень і з прахадной завода «Гарызонт» паказаліся людзі, яна схамянулася. Мы выйшлі з машыны. Майя пачала разгублена азірацца навокал, углядвацца, мабыць, шукаць тое, што магло б напомніць ёй аб былым: можа што-небудзь ды засталося… Але не, нічога.

— А што там да вайны магло быць… у канцлагеры? — нерашуча спытала я.

— Хіба я табе не гаварыла?

— Не.

— Канюшні. У конскіх стойлах — нары. Па шэсць чалавек спалі на адных нарах. Падлогі не было. Фашысты, відаць, спецыяльна не дазвалялі выкінуць стары конскі гной, каб больш смярдзела…

Слухала я і не ведала, што рабіць, дзе шукаць і як знайсці тое, што разбурылі, можа, сорак гадоў назад. Недзе ж павінны застацца сляды мінулага?..

А з прахадной завода ўсё плыў паток рабочых. Многа маладых твараў, але былі і сталага веку. Маіна пайшла ім насустрач. Я за ёю. Яна рашуча падышла да сівога мужчыны, спытала ў яго:

— Прабачце. Вы не ведаеце, як да вайны называлася гэта вуліца?

— Шырокая, — адказаў мужчына. — Тут, дзе стаіць наша прахадная, праходзіла вуліца Шырокая.

— Цяпер гэта Куйбышава? — дапытвалася яна.

— Правільна. Цяпер называецца Куйбышава.

— А не ведаеце, дзе, у якім месцы на Шырокай знаходзіўся канцлагер?

— Там яшчэ да вайны канюшні былі, — удакладніла я.

— Ведаю, чаму не, вунь там. Бачыце нізкі аднапавярховы будынак на рагу Варвашэні і Куйбышава? Тут цяпер шпіталь. У гэтым будынку да вайны знаходзілася адміністрацыя. Я ў канюшнях юнаком працаваў, коней малады вельмі любіў… А ў час вайны там сапраўды было страшнае месца…

Маіна збялела і не міргаючы глядзела туды, куды паказваў наш новы знаёмы. Баялася я, што яна зараз упадзе, таму развіталася з тым, хто памог нам, абняла яе і ціха павяла да мышыны. Яна ішла спатыкаючыся.

Я ведала, што магло ў гэтую хвіліну адбывацца ў яе душы, што яна перажывала зноў…

— Давай… падыдзем… туды.

Але ісці яна не магла, падкошваліся ногі. Я ўсадзіла яе ў машыну, мы трошкі праехалі і хутка спыніліся насупраць таго месца, дзе ў двары раслі вялікія таполі. Цяпер нізкі стары і высокі новы, прыгожы будынак шпіталя злучала нізкая агарожа, за якой, адчувалася, знаходзіцца вялікі двор.

— Вуліца тады была брукаваная, і вось тут, — яна паказала вачыма на броўку асфальтаванага тратуара, — быў глыбокі кювет, дзе схавалася я. А тут, дзе плот, — вароты былі вялізныя, чыгунныя.

* * *

…Чэрвень 1944 года. Потым, калі я ўспаміналa гэты дзень, мне здавалася, што была сярэдзіна чэрвеня. Бо многа падзей адбылося ў тыя апошнія дні. Але Маіна назвала дакладна — дваццаць сёмае. Значыць, гэта было раніцай 27 чэрвеня 1944 года, за шэсць дзён да вызвалення Мінска.

Зноў жа, гэта пасля мы палічылі, што за шэсць дзён. А тады яшчэ нічога не ведалі.

У горадзе поўна вялізных машын, раней мы ніколі такіх не бачылі. Гэта для іх расчышчалі вуліцы ад развалін вязні канцлагераў, турмы і жыхары горада. Цяжкія, гружаныя машыны паўзлі па вуліцах, і здавалася, пад імі ўгіналася зямля. Потым мы дазналіся, што яны везлі бомбы да Дома ўрада, каб 3 ліпеня ў 12 гадзін дня ўзарваць яго…

Мінск ужо быў франтавым горадам.

27 чэрвеня 1944 года… У гэты жахлівы для Маіны дзень у цэнтры горада грымела музыка. У драматычным тэатры адбывалася ўрачыстасць, на якую з'ехаліся дэлегаты нават з іншых краін свету. Апратка ў іх была незвычайная: нябачаныя мной ніколі сурдуты, дзіўныя капелюшы. Яны ўцяклі з нашай краіны ў васямнаццатым, бадзяліся па свеце і цяпер адусюль прыехалі ў Мінск на Усебеларускі Кангрэс, на якім нямецкія фашысты абвясцілі Беларусь «незалежнай»…

У гэты ж дзень да нас прыйшла Майя, дзесяцігадовы вязень фашысцкага канцлагера на вуліцы Шырокай.

…Іх, усіх вязняў, грузілі ў вялікія машыны, крытыя чорным брызентам. У адной з іх, з самага краю сядзелі Майя, яе маці Іда, Ідалія, і пяцігадовая сястрычка Ларыса. Бацьку ў тую раніцу яна не бачыла. Вялізны двор быў забіты машынамі.

Цвіла таполя. Белыя парасончыкі лёталі між машын, і адзін злавіла Ларыса. Яна заціснула яго ў кулачок. Тварык яе пасвятлеў, і яна заўсміхалася.

— Мама, глядзі, якая прыгожая пушынка, як маленькі парасончык.

Яна развяла пальчыкі, вецер падхапіў парасончык, і ён паляцеў. Ларыса заплакала.

— Я табе зараз налаўлю многа-многа парасончыкаў, толькі не плач.

Маіна скокнула ўніз і пачала бегаць паміж машынамі, набітымі людзьмі, каб злавіць парасончык. Яна падскоквала, спяшалася, бо ведала, што зараз машыны паедуць і іх усіх павязуць у другі канцлагер. Так ім сказалі.

А вецер падымаў парасончыкі ўсё вышэй і гнаў іх з лагернага двара.

Дзяўчынка падбегла да варот, ля якіх стаяў стары немец з аўтаматам. Яна зусім забылася, што да варот падыходзіць нельга, што за гэта заб'юць. Яна думала толькі аб адным: як злавіць парасончыкі, каб не плакала Ларыса. Раптам немец схапіў яе за руку, і не паспела яна крыкнуць, не паспела спалохацца, як апынулася за варотамі. Яна хацела вярнуцца назад да машыны, бо там мама, Ларыса і іншыя цёці, з якімі разам сядзела ў адной камеры турмы, працавала на торфараспрацоўках. Цяпер іх усіх павязуць некуды, а яна не будзе ведаць, дзе іх шукаць, і застанецца адна на ўсім свеце ля гэтай высокай цаглянай сцяны, наверсе якой яшчэ многа-многа наблытана калючага дроту, застанецца ля гэтых вялізных варот. Ёй стала жудасна. Яна павярнулася тварам да варот і, абдзіраючы пазногці, уціснула пальчыкі ў жалезны паз, пацягнула на сябе. Але вароты не адчыніліся. Тады яна пачала стукаць па іх сціснутымі кулачкамі. Вароты былі мёртвыя. Толькі там, па той бок ёй пачуўся страшны голас немца: «Vek! Vek!»

Яна не ведала, каму ён крычыць. Мо таму, хто падышоў да варот з таго боку, з боку лагера, ці ёй… Але адышлася ад варот, села ў кювет ля дарогі, прыціснулася тварам да пыльнай травы і заплакала. Яшчэ раз падысці да варот баялася.

Пачуўся гул машын. Прыўзняла галаву. Вароты расчыніліся… і пачалі выпаўзаць машыны. У адной яна ўбачыла маму з Ларысай.

— Мама, што мне рабіць?! — крыкнула.

— Ідзі да цёці Мусі! Мы цябе там знойдзем!

І яна прыйшла да нас…

Мы займалі маленькі пакойчык у прыватным доме. У двух другіх пакоях жылі муж і жонка, гаспадары гэтай кватэры. Трэба было неяк растлумачыць ім, чаму ў нас з'явілася Маюша.

Але спачатку мая мама пра гэта не думала. Яна спаліла ў печы яе лагернае адзенне з жоўтымі круглымі плямамі, прышытымі на спіне і грудзях. Нагрэла вады, вымыла Маіну, частым грэбенем вычасала яе густыя чорныя валасы. Накарміла і паклала спаць. Заснула яна імгненна.

— Беднае дзіцё, ты паглядзі, якія ў яе ручкі, — прашаптала мама, краем хусцінкі выціраючы слёзы. — Чырвоныя і апухлыя. Пальчыкі і далонькі патрэскаліся.

— Ад чаго гэта? — спытала я.

— Відаць… апечаныя. Нарві трыпутніку, я зраблю ёй кампрэс, як прачнецца.

— Добра.

Мы выйшлі ў кухню і пачалі ціха раіцца, што сказаць суседзям.

Новы чалавек у хаце, хай сабе і малы, можа прынесці многа бяды. Калі дзяўчынку ўбачаць фашысты, нас усіх могуць расстраляць. Мама нават не гаварыла пра гэта, мы і так ведалі: Майя была падобная на сваю маці.

Праз адчыненае акно чуўся нейкі далёкі гул. Быццам недзе грымела навальніца, і вецер даносіў яе водгулле да нас.

— Трэба яе схаваць, — сказала мама. — У хляўчуку, у падвале хляўчука, або на гарышчы.

— Лепей на гарышчы. Там цяплей. І там стаіць скрыня са старымі падручнікамі. У ёй можна схавацца, яна памесціцца…

Мама паглядзела на мяне, уздыхнула.

— Добра, сапраўды гарышча лепей… Ты пабудзь ля яе, а мы пойдзем, трэба ж нешта згатаваць…

Я засталася ў пакоі чакаць, пакуль прачнецца Майя. Спала яна трывожна, круцілася на ложку і ўздрыгвала ў сне. Я асцярожна, каб не разбудзіць, накрывала яе…

Стукнулі веснічкі. Можа, з работы вяртаюцца суседзі, гаспадары? Я асцярожна падышла да акна. Ля веснічак стаялі двое немцаў і нешта гаварылі між сабой, пазіраючы на наш ганак. Я адляцела ад акна і ў імгненне апынулася на кухні.

— Немцы! На двары немцы!

Мама ўбегла ў пакой, схапіла ў ахапак дзяўчынку і, нешта шэпчучы ёй на вуха, каб не спалохаць сонную, паклала на падлогу.

— Лезь пад ложак, дзетка, лезь, можа, шукаць не будуць.

Маіна глядзела на нас спалоханымі вачыма і не магла зразумець са сну, што ад яе патрабуюць. А ў мамы дрыжэлі рукі.

Я пазірала на двор з-за фіранкі. Немцы ішлі да ганка, але зусім не так, як хадзілі яны раней, усе тры гады, гэтыя ішлі неяк нерашуча, спыняючыся, нібы

вагаючыся, ісці ці не. Потым падняліся на ганак і не застукалі адразу, а зноў нешта перагаварылі між сабой і толькі потым пацягнулі за ручку дзвярэй.

Госця ўжо была пад ложкам, калі немцы пастукалі ў дзверы. Мама схапіла ручнік:

— Распранайся, — прашаптала мне і адкінула коўдру.

Я хуценька распранулася, легла пад коўдру, мама абвязала маю галаву ручнікам і толькі тады пайшла адчыняць дзверы. Я прыслухоўвалася, што робіцца на ганку. Але было ціха.

Хутка мама вярнулася адна, без немцаў.

— Пыталіся, ці ёсць у доме мужчыны і юнакі. Я сказала, што няма, адны жанчыны. Яны і пайшлі.

Тата хаваўся на гарышчы ў сене, а майго брата Віці дома не было.

— Нейкія дзіўныя немцы, — сказала я, здымаючы з галавы маскіроўку пад вельмі хворую.

— І ім мо надакучыла ўжо. Хто іх ведае.

Не паспела я ўстаць, як пачуўся гул машыны. Зноў стукнулі веснічкі. Мама глянула ў акно і паказала мне рукою ляжаць. Я думала, што вярнуліся немцы, заматала галаву ручніком. Нецярпліва забарабанілі ў дзверы, мама зноў пайшла адчыняць. Міма нашага пакоя прабеглі гаспадыня з мужам, схапілі ўжо, відаць, загадзя падрыхтаваныя клункі і кінуліся назад, цягнучы гэтыя клункі. Загула машына і зноў стала ціха. Мы не ведалі, вернуцца яны ці не. Маіну з нашага пакоя не выпускалі. Але ніхто не вярнуўся. І толькі потым мы зразумелі, што нашыя суседзі ўцяклі з немцамі.

Кожны дзень мы чакалі, што па госцю нашу прыйдуць яе бацькі. Але ніхто не прыходзіў. Пальцы на Майіных ручках пачалі зажываць, яна не здымала кампрэсаў, і я карміла яе, як малую…

Па радыё некалькі разоў перадавалі адну і тую ж аб'яву: «3-га ліпеня роўна ў 12 гадзін дня юнакі і мужчыны, дзяўчыны, жанчыны і дзеці павінны з'явіцца на сход на пляцоўку ля Дома ўрада. Хто не прыйдзе — будзе расстраляны».

Горад гарэў, зноў, як у сорак першым. Фашысты, уцякаючы, палілі ўсё, не дазвалялі тушыць. Ды і не было чым — воданапорныя вежы ўзарваны, і ў горадзе не было вады. Чулася кананада. Спачатку далёкая, потым усё бліжэй і бліжэй. Пачала ўжо дрыжэць зямля — спачатку ад далёкіх выбухаў, потым — ад блізкіх і з усіх бакоў.

І трэцяга ліпеня ў шэсць гадзін раніцы Мінск быў вызвалены.

Сапёры апусціліся ў сутарэнні Дома ўрада. Таму было шмат бомб, узрыўчаткі. Ад іх ішло многа тонкіх дроцікаў…

Мінчане на сход не сабраліся.

Нашы прыйшлі раней…

Ішлі дні. Бацькоў нашай госці не было. Цішком яна плакала. Мы яе суцяшалі, казалі: «Можа, адвезлі іх у далёкі лагер у іншы горад. А які цяпер транспарт? Пеша ідуць».

Потым па радыё перадалі, што з канцлагера на вуліцы Шырокай фашысты вывезлі ўсіх вязняў у вёску Трасцянец і там іх знішчылі.

Мы не верылі, спадзяваліся, што родных Маіны сапраўды перавезлі ў іншы лагер. Але ў той жа дзень, як пачулі пра гэта, цішком я і яна пайшлі ў Трасцянец. Мы ішлі па спаленым горадзе, і дарога здавалася бясконцай… Убачылі тое месца, тую яміну, у якой трупы вязняў, каб займалі менш месца, руйнавалі трактарамі. А потым перад самым вызваленнем Мінска спалілі іх. Рэчы, якія не згарэлі, ляжалі асобна. Сярод іх Маіна знайшла кацялок з ініцыяламі «І. Л.» — Івана Лазоўскага, яе таты…

* * *

…Цяпер мы ехалі гэтай жа дарогай. Шумны, амаль двухмільённы горад рыхтаваўся да свята, свята вызвалення. Чырвоныя сцягі калыхаў вецер. Чыстыя, прыбраныя вуліцы і ўпрыгожаныя дамы, здаецца, віталі кожнага. Ззялі вітрыны магазінаў. Імчаліся машыны, перапоўненыя тралейбусы, аўтобусы і трамваі везлі людзей. Ва ўсіх справы, ва ўсіх клопаты, радасныя, святочныя.

Я прыпынілася ля магазіна, каб купіць кветкі, потым і мы ўліліся ў бясконцую плынь машын…

Я думала пра Маіну, пра яе лёс… Выпадкова яна засталася жыць і стала мне сястрой. Потым усё было проста: школа, маскоўскі інстытут, затым — выкладчыца гэтага ж інстытута. Пра што думала, успамінала яна? Відаць, пра тое ж. Яна выканала апошняе жаданне сваёй маці… «Ідзі да цёці Мусі…»

На горцы, там, дзе знішчалі людзей, цяпер высіцца помнік. Мы падышлі да яго, паклалі кветкі. Жанчына нашага веку падышла і таксама паклала кветкі.

— Хто ў вас тут? — спытала я.

— Брат, Валодзя. Яго схапілі на вуліцы ў канцы чэрвеня сорак чацвёртага. Аблава была ў горадзе, а дакументаў — ніякіх. Хлапчо яшчэ, чатырнаццаць толькі споўнілася. А высоканькі быў… Яго забралі і разам з усімі на Шырокую адвезлі. А адтуль сюды… Такі хлопчык харошы быў…

Я слухала жанчыну і думала пра той страшны час… Адным шанцавала… другім не… Але ніхто не ведаў тады, не мог ведаць, што будзе з ім праз хвіліну, праз гадзіну, што сёння, заўтра будзе…

Дождж перастаў, як і пачаўся. З-за хмар выглянула сонца і запякло і засталося на небе. І куды дзеліся хмары, і перуны, і маланкі. Быццам не было іх толькі што.

На лясной паляне спявалі птушкі…

Мы моўчкі стаялі, схіліўшы галовы…

* * *

…Летась Маіна прыехала з Масквы як заўсёды. Развітацца ўжо з горадам і са мною. Больш прыязджаць не зможа. Цяжка. Фізічна цяжка.

Я жыву ў той жа кватэры, што і сорак гадоў назад, з тым жа маленькім балкончыкам, на якім некалі летам сядзела мая ўжо вельмі старэнькая і вельмі хворая мама.

Тата, інвалід Грамадзянскай вайны, памёр раней.

Стары сад яшчэ больш пастарэў і стаў рэдкі. І дрэвы паміраюць. Але тыя, што цяпер жывуць, па-ранейшаму вясной зелянеюць, радуюць вочы тых, хто іх бачыць.

Майя ў свой апошні прыезд жыла ў мяне толькі тыдзень. Хадзіла па сваіх трагічных мясцінах ужо адна, без мяне. З дому я не выходжу. Але з ранейшай трывогай чакала яе.

Вярталася яна позна, стомленая вельмі, бо зноў абыходзіла мясціны, дзе апошні раз бачыла жывымі маму, любімую сястрычку. Ездзіла ў Трасцянец, дзе закончылася жыццё яе родных…

А ёй, відаць, небам наканавана было жыць.

Каб помніць…



## Мікола МАЛЯЎКА

### КРУЖЭЛКА

***Зямлячцы Ніяне Загарэўскай***

Кружэлка з песнямі да Бога
Спявае ў хаце, як жывая,
І голас твой мяне, зямнога,
Да вечнай тайны далучае.

Для шчасця створан свет блакітны,
Ды шмат у ім благіх спакусаў,
І песня кожная — малітва
За родны край, за беларусаў.

Здаецца мне, бліжэй да раю
Зямля з-пад ног сплыла ў нябёсы,
За словам слова паўтараю —
І ачышчаюся праз слёзы.

Як быццам я сарваўся з кручы,
Не ўніз, а ўгору, адзінокі,

---

***Маляўка Мікалай Аляксандравіч*** *нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Піша для дарослых і дзяцей. Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы ды сосны…» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

Лячу на голас мілагучны
Туды, за белыя аблокі.

Сцяной стаяць гадьі між намі,
Ды за рэальнасці мяжою
Душа мая ў блакітным храме
З тваёй зліваецца душою.

Два галасы гучаць з палёгкай —
Суладна радасці і скрусе:
Мы разам молімся ў палёце
За родны край, за беларусаў.

І не спяшаюся здалёку
Вяртацца да сябе, зямнога,
Хоць і маўчыць ужо на покуці
Кружэлка з песнямі да Бога.

## ДОЛЯ ВЫПРАБОЎВАЕ...

Доля выпрабоўвае з запасам —
Спёкай, сцюжай і дажджом.
Як ні цяжка нам бывае часам,
А працуем — і жывём.

Ураджаем радуе нас поле.
Усміхаемся часцей:
І зімой хапае хлеба-солі
Для сябе і для гасцей.

Цешыць неруш яблыкаў у садзе,
Свежы мёд у сотах ёсць.
За святочны стол і песня сядзе,
А яна — вясёлы госць.

Шчасця мы, Радзіма дарагая,
Не шукаем за мяжой.
Праца выжыць нам дапамагае,
Песня — акрыяць душой.

Доля выпрабоўвае з запасам —
Спёкай, сцюжай і дажджом.
Як ні цяжка нам бывае часам,
А працуем — і пяём.

* * *

З зямлі
Зямлі не відаць.
Да рыскі абсягу —
Рукою падаць,

І скрозь упіраецца вока —
У леса сцяну недалёкую,
У берагавыя кусты,
У туман густы.

Убачыш болей —
З крылатаю доляй:
З акна самалёта,
З касмічнай арбіты —
Шырэе абсяг,
Для вока адкрыты.

Найлепей, аднак,
За думкаю следам
Падняцца над векам,
Падняцца над светам —
І з гэтай магічнай арбіты
Разглядваць зямлі краявіды,
Жыццё ў прасторы і часе —
З мінулым і будучым у запасе.
Губляецца ў дымцы
Абсягу рыска,
Абсяг — неабдымны,
А бачна ўсё блізка,
Рукою падаць…

З зямлі —
Зямлі не відаць.

## ГЛЕДЗЯЧЫ Ў ВОЧЫ

Людзям гледзячы ў вочы,
Радасцю лёгка дзяліцца.
Ну а хто з нас ахвочы
Перад людзьмі павініцца?

Крывім душою дзесьці,
Трацім для праўды апору —
Хочацца вочы адвесці,
Каб не бачыць дакору.

У сталіцы і ў пушчы,
Дома, бывае, на дачы
Хочацца вочы заплюшчыць,
Каб насмешкі не бачыць.

Цьмее святочная просінь,
Мучыць бяссонніца ўночы —

Век свой пражыць не проста,
Людзям гледзячы ў вочы.

## БАЛАДА

Мужчына з Марса,
Жанчына з Венеры
Блукалі ў касмічных абшарах калісьці.
Шчасліва сышліся ў зямной атмасферы —
І першы раз у жыцці
Абняліся.

Зямля наша іх, маладых, парадніла
На ўлонні сямейным — духоўна і крэўна:
Высока яны, пяшчота і сіла,
Ўзнялі сваё радаводнае дрэва.

У вечнасць ляцяць
Гады, як імгненні,
Пад знакам любові, кахання і веры, —
І лучаць вякі і пакаленні
Мужчына з Марса,
Жанчына з Венеры.

* * *

Белы снег — на зялёныя вербы,
На вясновую прыгажосць.
Эх, шчасліва вярнуцца цяпер бы
У студэнцкую маладосць!

Там наперадзе — цэлая вечнасць,
Не прысніцца разлука і ў сне:
Пад вярбою зарэчнаю вечарам
Ты яшчэ ўсміхаешся мне.

А разлука, як сваццcomponents благая,
Перайначыла ўсё ў жыцці,
І цяпер да цябе, дарагая,
Толькі ў думках і можна дайсці:

Атуліць пяшчотай,  журбою,
Запрасіць у начное кіно,
Параднiцца пад нашай вярбою,
Пад вярбою, засохлай даўно.

Ды ніякая сіла не верне
З маладосці вось так, удваіх…
Белы снег — на зялёныя вербы,
Белы снег на ўспамінах маіх.

## У БРОДЗЕ, ЗА МОСТАМ СТАРЫМ

Купаюцца позна дзяўчаты
У бродзе, за мостам старым.
А Нёман цячэ — ружаваты
Ад вечаровай зары.

Над берагам вербы звісаюць.
Ні хат, ні палатак нідзе.
Як быццам гэта русалкі
Сышліся ў яснай вадзе.

Чароўныя постаці ў руху,
Нібы на карціне жывой:
І грудзі тугія,
І рукі,
Узнятыя над галавой.

Трывожная птушка не ўспырхне.
Сплылі па вадзе галасы.
І толькі рухі ды пырскі
Гавораць на мове красы.

Да раніцы, пэўна, не спаў бы,
Ад казкі пагляднай наўзбоч,
Але карціну ў запаснік
Схавала летняя ноч.

## СЛАНЕЧНІКІ

Без дажджу яны не сохлі.
Сонца ззяла ўсё ярчэй,
І сланечнікі ад сонца
Не адводзілі вачэй.

Залаціліся ў абновах,
Загарэлі, адцвілі —
І высокія галовы
Пахілілі да зямлі.

Наглядзеліся на сонца
І цяпер усе яны,
Семкі выспеліўшы ў сотах,
Бачаць сонечныя сны.

## ГРОНКА БЭЗУ

Мала поля, мала лесу,
Мала неба над зямлёй.

Я малюю гронку бэзу
У кватэры гарадской.

Белы свет зацьмілі хмары,
Сумна, холадна зімой,
Ды прыгожа ўмее марыць
Каляровы пэндзлік мой.

Расцвіла суквеццяў гронка
Ад душэўнага цяпла,
І гудзе над ёю звонка
Госця майская — пчала.

Заблудзілася ў пялёстках,
Цешыць музыкаю слых,
Быццам я вярнуўся ў вёску —
Да вытокаў дарагіх.

Сонца ззяе, як улетку,
І далёка ўсё відаць,
Адшукаў на шчасце кветку,
У якой пялёсткаў — пяць.

Свет змяніла гронка бэзу
З залацістаю пчалой —
Многа поля, многа лесу,
Многа неба над зямлёй.

* * *

Мы жывыя,
Пакуль здзіўляемся,
Хмурымся — і ўсміхаемся,
Марым — і ў быт зазямляемся,
Падаем — і падымаемся,
Вінаватыя, каемся
Перад людзьмі
І Богам.

Мы жывыя —
Пакуль абнаўляемся,
Рады клопатам
І дарогам.

Страшна,
Калі абыякавасць ціхая
Днём і ноччу агортвае:
Чалавек яшчэ дыхае,
А душа ў яго —
Мёртвая.

## ЛІСТОК ПАПЕРЫ ЧЫСТАЙ

Лісток паперы
Чыстай, як сумленне, —
Бяскрылы без душы
І без натхнення.

Ён можа стаць
У небе неабдымным
Лірычнай песняй,
Урачыстым гімнам.

Аможа нават
Не ўзляцець з падлогі,
Скамечаны
І кінуты пад ногі.

Не забівайце,
Словы без натхнення,
Лісток паперы
Чыстай, як сумленне.

## ПА БІБЛІІ, ЖЫЦЦЁ — ЧАРОЎНЫ ЛУГ

Па Бібліі, жыццё — чароўны луг.
На свет гляджу з усмешкай і праз слёзы,
Паміж мінулым, пройдзеным нялёгка,
І будучым стаю — і доўжу рух
Адвечных клопатаў, за кругам круг.
Так, я пастух свайго зямнога лёсу,
Але вядома толькі на нябёсах,
Калі ўпаду на лузе я, пастух.

З дыханнем навальніц, з разгонам ветру
Жыццё маё ўбывае непрыкметна.
Пад сонцам ясным тут, сярод людзей,
Ці шмат яшчэ для пастухоўства часу?
Я пазіраю ў неба ўсё радзей,
Нібы баюся пэўнага адказу.





Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ЛІХАЛЕЦЦЕ*

*Раман*

## Частка трэцяя

### IV

Усё абышлося, пад вечар былі ўжо на месцы. Перш за ўсё распрэглі і напаілі коней, потым расказалі пра сустрэчу з ваўкамі.

— Ваўкоў развялося незлічона, — сказаў Мурашка.

— Правільна дзейнічалі, — пахваліў Косця. — Ваўкі — як і людзі, хітрасці і жорсткасці ім не пазычаць.

Прыпісніка Храбрых з коньмі вярнулі назад, хоць ён прасіўся застацца з партызанамі.

— Пад вясну прыходзь, — сказаў яму Пятро Мачалаў. — Тады ты больш спатрэбішся, а пакуль што вяртайся. Пра тое, дзе быў, нікому ні гу-гу!

— А то я не ведаю, — быў адказ. — Прыйду, кроў з носа, а прыйду!

— Даўно нешта Афінагенава не відаць, — дзе гэта ён прапаў? — пацікавіўся аднойчы Косця, сустрэўшы Мурашку. — Ужо ж даўно не наведваўся.

— І я не ведаю, — азваўся той, — прапаў, нібы бунька на вадзе. Я ўжо і сам думаю, дзе ён мог падзецца. Зрэшты, служба ў яго такая. Можа, да каго ў іншы атрад пайшоў. Або начальства выклікала. Начальства ў яго строгае.

— Ці не мароз яго недзе затрымаў?

— Можа, і мароз. А можа архіў свой шукае.

— Які архіў?

— Ну, службовы архіў у яго прапаў, у пачатку вайны. Мітусня пачалася, хто-куды. Вось архіў і згінуў, і які яго лёс — невядома. Дык Іван Мітрафанавіч вельмі ўстурбаваны, баіцца, каб немцам не дастаўся. Як-ніяк, архіў энкавэдэ.

Косця адчуў усю далікатнасць гэтага пытання і не стаў распытваць.

Зіма 1942—1943 гадоў і сапраўды выдалася яшчэ больш суровай, чым папярэдняя, маразы даходзілі да трыццаці і болей градусаў. Бесперастанку і не слабеючы, нібы наваліліся аднекуль, шугалі завеі, мяла пазёмка. Снегам засыпала дарогі і сцяжынкі, а ад марозу трашчалі сучча і дрэвы. Гнёў страх, што ў кожную хвіліну, як кот на мыш, могуць напасці карнікі. Добра, калі ўцячэш, а калі не? Тады бывай, белы свет.

Тая аблава ў канцы 1942 года, якую адчуў на сабе атрад Косці Хлябіча, нанесла немалую шкоду ўсяму партызанскаму руху ў раёне Белавежскай

* Працяг. Пачатак у № 6—9, 2012 г., № 1, 2013 г.

пушчы. Партызанаў стала меней, дзейнічалі, па сутнасці, дробныя групы. Іх было недзе каля дзясятка. Халады, снег і мароз, трэба сказаць, не дапамагалі баявой рабоце, але дыверсіі не прыпыняліся. Дзейнічалі паасобку. Зрэдку хадзілі на «жалезку», наладжвалі засады на шасейных дарогах, знішчалі лініі сувязі, палілі маёнткі.

Жыццё і побыт лясных людзей — суровыя. Патрэбна была не толькі зброя, але і харчы і адзенне. У Косці нарыхтоўкай і дастаўкай прадуктаў і цёплых рэчаў займаўся гаспадарчы ўзвод. Наконт харчоў з некаторымі вёскамі існавала нават пэўная дамоўленасць. Сяляне самі збіралі партызанам харчаванне: хлеб, сала, вараныя яйкі. Вечарам клалі ўсё гэта ў загарадзь ля крыжа, які звычайна стаяў пры ўваходзе ў вёску. Ноччу прыходзіў нехта ад партызанаў і забіраў. Атрымлівалася так, што ніхто ні ў кога не прасіў, ніхто нікога не бачыў, хаця ўсе ведалі, як усё робіцца. Вяскоўцы маўчалі, і гэта было маўчанне, якое збліжала людзей, згуртоўвала, азначала высокую ступень узаемапаразумення.

Цяжэй было з вопраткай, абуткам, якія ў партызанаў хутка зношваліся. Асабліва цяжка стала ў лютым. Усё часцей чуліся незадаволеныя галасы. Скардзіўся Калода:

— На фронце, кажуць, ужо даўно кажухі атрымалі, яшчэ восенню, а мы самі павінны думаць, дзе той кажух узяць.

— Кажухі патрэбны! — згаджаўся Мурашка, у якога ў самога быў надта паношаны кажушок. — Што кажух, то не вата! Кажух грэе!

Зменшыць напружанасць у «кажушным пытанні» вызваліся Свісціян з Маркелам. Абмеркавалі план дзеянняў. Пачаць вырашылі з Ліпны — вёскі на поўдзень ад Камянца.

У дарогу выбраліся з вечара, як сцямнела. Ішлі, каб не зблудзіць, уздоўж ручаіны з назвай, як помніў Свісціян, Крывуля. Каля Ліпны Крывуля ўпадала ў Лосьну. Ліпна — вёска вялікая, двароў на восемдзесят, стаіць на Камянецкім гасцінцы, у даліне, каля Бабіцкай гары. З аднаго боку рака Лосьна, з другога — поле, лес. Падыходзілі з боку лесу. Пацягнула дымком, жыллём, нават чымсьці смажаным.

— Дранікі пякуць! — шморгнуў носам Маркел.

— Пякуць, і якраз для цябе, — зласліва пасміхнуўся Свісціян.

Пачаць вырашылі з Купрыяна Шайбака. Гэта быў заможны гаспадар, меў участак зямлі, вадзіліся ў яго і грошы. Жыў з краю вёскі, з таго, што ад Бабіцкай гары. Падышлі, пастукалі ў акно.

— Хто там?

— Адчыняй! Свае!

— Хто?

— Адчыняй, замерзлі…

Загрукацела жалезная завала. Купрыян адчыніў дзверы. Ззаду за гаспадаром, акрыўшыся нейкай адзежынай, стаяла яго жонка Настуся. Месячнае святло ледзь пазначала абрысы іх постацей. Вядомага на ўсю акругу Свісціяна яны пазналі адразу. Пазналі і насцярожыліся. Апошнім часам і Купрыян, і Настуся, як і ўся Ліпна, жылі ў паняверцы. Асабліва блізка падступала трывога ўначы, калі наведваліся паліцаі ці хто-небудзь яшчэ.

— Ну што? — загаманіў Свісціян, угнуўшы галаву, каб не зачапіць за дзвярны касяк, і прагна, праз шырокія ноздры, удыхнуў паветра.

Ніхто яму нічога не адказаў. У хаце было ціха і цёмна. Пабудаваў яе Купрыян, відаць, не так і даўно, таму яшчэ адчуваўся пах смалы.

— Ну што, укланіст? — удакладніў сваё пытанне Свісціян.

— Які ўкланіст? — не зразумеў Купрыян.

— Ты ўкланіст, ад барбы ўкланяешся! А як ты думаў?

На пачатку ў Купрыяна мільганула думка, што начныя прышэльцы маюць патрэбу ў самагонцы і за тым і з'явіліся, але пра самагонку не ўспаміналі і паводзілі сябе надта нветла.

Гаспадыня запаліла святло, укруціла кнот і стаяла, абгарнуўшыся хусткай-шаляноўкай і калоцячыся ад страху. Забыла нават пазанавешваць вокны. Свісціян зірнуў на яе прысадзістую постаць, сашчэпленыя на грудзях рукі, дробныя кудзеркі, што звешваліся з ілба і скроней.

— Вокны прыкрый! — загадаў ён. — Ці сігнал хочаш падаць?

Настуся кінулася выконваць загад.

— А газа адкуль? — азваўся Маркел. — Немцам служыце? На той бок перакінуліся? Такога ад вас не чакалі! — Ён шумна шморгнуў падобным на бульбіну прыплюснутым носам.

Перапалоханыя гаспадары маўчалі, ураджаныя грозным выглядам начных гасцей. Грудзі ў аднаго і ў другога перакрыжаваныя стужкамі з патронамі, на дзягах — гранаты, у руках заціснуты вінтоўкі, абое абросшыя і даўно не голеныя, не раўнуючы як чэрці з балота. Шапак не здымалі.

Натопленая печ спакушала цяплом. Свісціян падышоў да яе і абапёрся спінай, прытуліў свой, як ён лічыў, застуджаны яшчэ ў польскай турме, хрыбетнік, затым азірнуўся, павёўшы шырокім, з круглымі ноздрамі носам. Маркел стаў пасярэдзіне хаты. Снег на адзенні і на шапках у аднаго і другога абтаў і цяпер іскрыўся сярэбранымі кропелькамі вільгаці.

— Ну што? — пачаў Свісціян і здзекліва ашчэрыў зубы. — Думаеш, што схаваўся? На печы схаваўся? Пад жончыным сцягном!..

Купрыян маўчаў. Стаяў насупіўшыся, насунуўшы на ногі апоркі.

— Што маўчыш?

Гаспадар як зацяўся, ні слова не казаў, толькі шумна дыхаў, соп, прадчуваючы нядобрае.

— Ад вайны, каб ты ведаў, не схаваешся, не адляжышся, як мядзведзь у берлагу! Яна ўсюды дастане!

— І ўсюды, і кожнага! — пацвердзіў Маркел, закінуўшы за плечы вінтоўку. — Датумкаў?

— А ён, бачыш, ліха яго матары, абхітрыць захацеў. Не на таго напаў! Мяне не абхітрыш! — Свісціян паглядзеў па сценах і перайшоў да галоўнага: — Кажух маеш? — Калматыя чорныя бровы пагрозліва навісалі над яго вачыма і шырокім наздраватым носам. Ён брудна мацюкнуўся, пераступіў з нагі на нагу, і ўсе пачулі, як грозна зарыпелі яго боты.

Купрыян пачасаў за вухам і не адразу зразумеў, што да чаго і што ад яго хочуць, але цяпер уцяміў.

— Кажух маеш? — больш выразна паўтарыў Маркел, засунуўшы рукі ў глыбокія кішэні свайго кажуха. — А то мы таго! Няма ў нас часу размаўляць з табой!

Купрыян, датумкаўшыся нарэшце, пра што ў яго пытаюцца, адказаў:

— Сярмяга нейкая ёсць…

Выгляд узброеных і надта непрыхільна настроеных людзей (Маркела Божыка — былога камянецкага «збуіча» — Купрыян таксама пазнаў) страшыў.

— Сярмяга? — здзівіўся Свісціян, палічыўшы, што Купрыян з яго здзекуецца. — Сярмягу пакінь сабе! Адчыняй, падліц, камору! Адчыняй, каму гавару!

— Там нічога такога няма.

— Пабачым! Адчыняй, ядрона вош! Бачу, што ты мяне яшчэ не ведаеш… — Глыбокі шрам на Свісціянавым ілбе наліўся чырванню, калматыя бровы сышліся на пераноссі. Ён крутнуў галавой і з размаху ўдарыў сябе кулаком у грудзі так моцна, што там, у сярэдзіне, нешта нібы застагнала.

— Не гарачыся! — мякка прыпыніў яго сябар.

— Ой, Свісціянка! — узмалілася Настуся, пляснуўшы далонню аб далонь. — Не рабі гэтага! Хочаш, я перад табой на калені ўстану! Устану, толькі не рабі!

— Не трэба мне твае калені, — буркнуў сабе пад нос Свісціян. — Нашла што прапанаваць — калені… Хутчэй адчыняй! Чаго топчашся?!

— Як табе, Свісціянка, не сорамна гэтак ганіцца? — працягвала ўшчуваць гаспадыня.

— Ага, ты мяне яшчэ павучы.

— Быстра давай! — на высокай ноце падаў голас Маркел, перайшоўшы чамусьці на рускую мову.

Гаспадар — яму нічога не заставалася — праз сені паслухмяна пакіраваўся ў камору, Свісціян — за ім, ззаду Маркел нёс запаленую лямпу. Глуха бразнуў замок і рыпнулі дзверы.

Сялянская камора — гэта звычайна цэлы свет, тут і прадукты, і зерне ў засеку, куфар, адзенне. У кутку, ля засека, стаяла кадушка з квашанай капустай і яблыкамі, але яна нікога не зацікавіла. Кажухі віселі на сцяне: і святочныя, і Купрыянаў дарожны, падбіты цёмным сукном, і Настусін, яшчэ дзявочы, на кішэнях відаць была вышыўка жоўтымі ніткамі. Свісціян матлянуў галавой:

— Маркел, забірай!

Напарнік паздымаў кажухі і згарнуў іх усе разам. «Абнасіліся хлопцы, абтрапаліся. Гэта будзе дарэчы!» — мармытаў ён сабе пад нос.

— Чужы кажух цела не грэе, — ціха прамовіў Купрыян, але госць пачуў. Слых у Свісціяна — востры.

— Ну, пагавары яшчэ ў мяне. Пагавары! То так гэтай прычындалінай агрэю, — ён выразна паляпаў далонню па прыкладзе сваёй СВТ, якую трымаў пры баку, — што мала не будзе!

— Ой, людкове, што ж гэта яны робяць! — залемантавала Настуся, зноў пляснула ў далоні і ў адчаі счапіла іх перад сабой. — Ой, што ж гэта такое! Ой, людкове, ашалець можна! Забіраюць!

— Ну, пагавары ты яшчэ ў мяне! — Свісціян паправіў на плячы вінтоўку. — Эйш ты якая! Глядзі, а то па законах ваеннага часу…

— Ой! Ой! — не пераставала жанчына. Паспрабавала прасіць: — Ачомайся, саколік мой, ачомайся!

— Ціха, дурніца! — яшчэ болей вызверыўся на яе Свісціян, зноў схапіўшыся за СВТ. — Зараз ты ў мяне залемантуеш! Ты яшчэ мяне не ведаеш! Забяру ўсё! Усё! Бо мне іголка — і тая патрэбна! Мне ўсё патрэбна!

— Не!

— Што не? Што не?

— Пакінь! — параіў Маркел. — Кабылу не перабздзіш, бабу не пераспорыш!

Купрыян пачаў супакойваць жонку, і тая збольшага аціхла, толькі хліпала носам і ражком хусткі выцірала вочы.

— Падмёткі на боты ёсць?

— Адкуль? — падкрэслена шчыра здзівіўся гаспадар. — Адкуль? Я ж боты не шыю…

— І гэтага няма. Нават падмёткаў няма! Не шыеш, кажаш?.. — Свісціян правёў вачыма па каморы раз, другі і спыніўся на куфры, на якім вісеў замок.

— Куфар адчыні!

Купрыян марудзіў.

— Ну!

Купрыян сагнуўся, дрыжачымі рукамі намацаў недзе знізу, пад скрыняю, ключ, сунуў яго ў замок і з бразгатам адамкнуў, падняў вечка.

— Маркел, сюды свяці! — загадаў Свісціян і пачаў выкідаць з куфра розныя сямейныя транты, капацца ў прыскрынку, шукаць.

— Гадзіннік дзе? — накінуўся ён на Купрыяна.

— Адкуль? Хто мне яго даваў? — агрызнуўся той.

— Дык які ж ты чалавек без гадзінніка?

— А нашто мне ён? Я ўжо не малады, не кавалер.

Свісціян крыху аціх, вытрымаў паўзу, узняў галаву, адарваўся ад куфра. Адчувалася, што ён пра нешта думае, хоча спытаць.

— А золата? У цябе павінна быць!

— Якое золата?

— А ты не ведаеш?

— Не.

— Ну і хлус жа ты! Замест таго каб па-добраму, добраахвотна аддаць: «Бярыце, людзі добрыя, бо вам спатрэбіцца», — ты нахабна лжэш, маніш, хаваеш, утойваеш! Эх, што за людзі!

— Ды няма яго ў мяне! — у голасе Купрыяна пачуўся адчай.

— Ты мне зубы не загаворвай! Так я і паверу, — Свісціянавы вочы ажно пацямнелі ад гневу. — Я не толькі камору абшукаю, я агарод успару, а знайду!

— Дык няма!

— Пабажыся!

— Далібог!

— Мне шкадуеш? Усё роўна нехта забярэ!

— Каб было, дык ужэ ж аддаў бы.

З каморы яны вярнуліся ў хату.

— Ану, Маркел, заглянь у печ, можа там яно?

Маркел зняў з пляча вінтоўку, паставіў у куток, дзе стаяла чапяла, і палез абмацваць печ, у якой Настуся пякла хлеб.

— Няма, — далажыў ён, абмацаўшы пячное нутро і страсаючы з рук і рукавоў сажу.

— Ну дык злазь! — злосна скамандаваў Свісціян.

Маркел злез з прыпечка і зноў закінуў за плячо вінтоўку.

— Скупяндзя! — незадаволена і асуджальна прамармытаў ён і запытальна зірнуў на напарніка.

— Радзюжку якую дай! — звярнуўся Свісціян да гаспадыні.

Настуся прынесла старую посцілку, у яе яны загарнулі кажухі і некалькі пар бялізны, завязалі вузлом. Свісціян ускінуў гэты набытак Маркелу на плечы, і яны, крэкчучы, выкаціліся нарэшце з хаты.

— Голымі нас пакідаеш! — ідучы ззаду, ныў і енчыў Купрыян.

Плакала, шморгала носам жонка.

— Голы — ён, ліха яго матары, як святы, — здзекліва падбадзёрыў яго Свісціян, аглядаючы здабытак. — Святым будзеш.

— Заіржавела ў табе сумленне, чалавеча, — уздыхнуў Купрыян.

— А ты сваё чым змазаў, каб не ржавела?

— Кажух — справа нажыўная, — суцешыў Маркел, папраўляючы на плячы вінтоўку. — І Бог сказаў, што дзяліцца трэба. Так што выбачай!

Перад парогам Свісціян прыпыніўся, павярнуў галаву ў Купрыянаў бок:

— Глядзі, каб маўчаў, а то ведаеш…

Купрыян палахліва змоўк.

— За цынгель[1] дзёрну, і ўсё.

Зрабіўшы такое недвухсэнсоўнае папярэджанне, яны рушылі з хаты і пайшлі далей.

Забрахалі сабакі.

— Сабак столькі! Не адагнацца ад сабак! — здзіўлена пакруціў галавою Маркел.

— Сабака не воўк! — прабурчэў напарнік.

Другім пачысцілі Геранiма Пыталя, забралі кажух і шапку-бравэрку. Ужо світала, калі выбраліся з вёскі. Спяшаліся.

Нейкі чалавечак, угнуўшы галаву, ішоў насустрач, умінаючы ботамі ранішні сняжок. Папіхаўся тонкім ядлаўцовым кіем. Неба ўсё больш святлела, і ранішні сняжок цьмяна адсвечваў на бліскучых халявах. Свісціян тузануў Кузёмку, яго шэрую зімовую світку і шапку-магерку, шчыльна насунутую на галаву.

— Стой! — гукнуў Свісціян. Кузёмка спыніўся. — Кажухі шыеш?

— Шыю.

— Каму?

Кравец пашкроб патыліцу:

— Многім. Адразу і не ўспомніш. Міхалю шыў.

— Якому Міхалю?

— З Перкавіч. Многім шыў.

— Ты мне, ядрона вош, зубы не загаварвай, а то я… — Свісціян тузануў плячом, за якім вісела вінтоўка, тая ажно падскочыла. — У наступны раз каб усіх успомніў.

Яны размінуліся.

— Эй! — гукнуў услед Маркел, калі яны ўжо разышліся ў розныя бакі. — Каб маўчаў! Каб нікому ні слова, што бачыў нас!

Кузёмка паскорыў крок і прыгнуўся яшчэ ніжэй.

Днявалі на хутары ў Крымянцы, у знаёмых. Яшчэ ішлі ноч і другую, і пад раніцу былі ў Міжбор'і, у сваёй зямлянцы. Купрыянаў кажух дастаўся камісару Пятру Мачалаву.

## V

Жыццё страшыла і ўдзень, і ўночы. Смерць хадзіла побач і пагражала кожнаму. Пасля Сталінграда немцы сталі асабліва злыя і нервовыя. На кожным кроку чулася: «Halt!», «Zurück!»[2]. Бязлітасным вокам пазірала дула ў зброі. Хацелася кудысьці ці за штосьці схавацца, каб ніхто не знайшоў. У вайну многія прускаўцы адрасцілі бароды. Нібы хаваліся за бараду. Праўда, і гэта было небяспечна. У Камянцы адзін местачковец адгадаваў быў доўгую бараду, дык немцы палічылі яго за яўрэя і застрэлілі на месцы.

Страх, які валодаў людзьмі, стаў галоўным матывам іх паводзін. Больш за ўсё даймаў клопат, каб хоць як ацалець у гэты жорсткі, неміласэрны час.

---

[1] Цынгель — спускавы кручок у вінтоўцы *(мясц.)*.

[2] Стой! Назад! *(ням.)*

Гэтым, як і ўсе, жылі і Кужалі. Жылі, прытрымліваючыся той спрадвечнай ісціны, маўляў, якое ні ёсць жыццё — яно жыццё, трэба яго прымаць і лічыцца з ім. Так яны і рабілі — Лявон і Фёкла.

Нарэшце і сюды дайшлі весткі пра Сталінград. Завітаў неяк Кузёмка. Пасярод зімы, пасярод вайны. Цяпер ён хадзіў рэдка, бо гэтыя вандроўкі сталі небяспечнымі. Людзі, усё наваколле, вандроўніка ведалі, але ўлада, немцы з паліцаямі, чаго добрага, і за партызана маглі палічыць. На дварэ стаяла сапраўдная зіма, студзень. Мароз. Трашчалі платы, і рыпеў снег пад нагамі. Нерухома, як прывіды, туліліся да хат укрытыя снегам азяблыя дрэвы, нібы чакаючы, калі іх запросяць у хатняе цяпло сагрэцца. Маразы даходзілі да трыццаці і больш градусаў. Ваўкі, лісіцы і зайцы падыходзілі пад прускаўскія сялібы ў пошуках ежы. Да вокнаў падляталі вераб'і з сініцамі, нецярпліва падскоквалі на падваконніках і малацілі дзюбкамі ў шыбіны, нагадваючы пра сябе: «Дайце, гаспадары, якой спажывы, бо мы галодныя!»

У марознай імгле чырванелі вокны сялянскіх хат. Над комінамі нерухома стаялі густыя белыя дымы. У Кужалёў ацялілася Ланька, прывяла бычка. Лявон прымаў цяля і вярнуўся ў хату, калі ўжо добра сцямнела. Распрануўся. Памыў рукі. Увайшла Фёкла з вязанкай хворасту, апусціла вязанку каля грубкі. Ад холаду адубелі рукі, і яна стала хукаць на пальцы. Развязала і зняла з галавы цёплую хустку, зняла кажушок, паправіла на галаве валасы, сабраўшы іх на патыліцы і замацаваўшы грэбенем. Затапіла грубку, падкінуўшы туды хворасту.

У сенях пачуўся шоргат, хтосьці намацваў клямку, каб адчыніць дзверы. Нарэшце дзверы паддаліся, і нейкі чалавек нясмела пераступіў парог. За ім з сяней дыхнула холадам, у хату ўкаціліся густыя клубы белаватай пары. Гэта быў Кузёмка. Лявон здзіўлена паглядзеў на госця, якога даўно не бачыў. Худы, абцягнены сухой скурай твар, калматыя, але пасівелыя ўжо бровы, усё тая ж незразумелая блазенская ўсмешка.

— Што, не пазнаеш? — у сваю чаргу здзівіўся і госць, абвяшчаючы аб сваім з'яўленні.

— Здароў, Кузёмка!

— Добры вечар! — адказаў той, паставіў у куток свой ядлаўцовы кій, узяў адтуль венік і абмёў ад снегу боты. — Халадно! Мароз такі, што ў носе закалола. Але на тое Бог і напусціў холаду, каб чалавек мерзнуў. За грахі мерзнем.

Гарэла лямпа, і ў яе святле боты заблішчэлі дагледжанымі халявамі. Госць сцягнуў з галавы шапку-магерку, зірнуў у покут і размашыста, на ўсю даўжыню рукі, перахрысціўся, потым шырока і прыязна пасміхнуўся, падышоў да грубкі і стаў грэць рукі.

— Распранайся! — гасцінна прапанаваў гаспадар.

Кузёмка зняў і павесіў на цвік каля дзвярэй світку, сказаў гаспадыні свой выпрабаваны камплімент:

— А ў вас, як заўсёды, чыстасць!

— Ну, якія навіны? — пачаў гаворку Лявон, па прывычцы прыгладжваючы над ілбом чубчык.

— Ёсць і навіны! — Кузёмка ўмасціўся на лаве каля печы, павёў тудысюды галавою. На гэты раз ён прынёс вестку пра акружэнне і разгром нямецкіх войскаў пад Сталінградам. Прускаўцы пра гэта яшчэ не ведалі.

— Я ў Лесках нядаўна быў, за Камянцам. Там народ дасведчаны, з партызанамі знаюцца. Нарэшце, кажуць, пад Сталінградам абкружылі і ўсыпалі. Абкружылі яшчэ ў пачатку снежня, а цяпер ужо па ўсім! Узялі ў палон цэлую армію на чале з генералам Паўлюсам. Абкружылі і гоняць.

— Куды гоняць? — не зразумеў Лявон.

— Туды, адкуль прышлі, дадому. У немцаў, кажуць, абмарожаных шмат, бегчы не могуць.

— Нарэшце! — адгукнулася Фёкла. — Слава Богу!

— Цішэй! — азірнуўся Лявон. — І сцены маюць вушы… Адкуль ты ведаеш? — спытаў ён у Кузёмкі.

— Я ж кажу, што быў у Лесках.

— У Лесках?

— Там народ дасведчаны, што і казаць! Надзявае на вушы слухаўкі і слухае. Рызыка вялікая: калі хто скажа і даведаюцца немцы, дык расстраляюць. У Лесках народ не такоўскі, граматны! Лескі! І яшчэ адно дзіва! Савецкі горад Ленінград так і не здаўся. Чым толькі немцы яго не дастаюць, а ён стаіць, як скала. Голад там такі, што не апісаць.

Расказваючы, Кузёмка ажно запыхаўся, шумна дыхаў.

— Ой, цяжка ім! — завойкала Фёкла. — Галодныя!

— Як у Расіі калісьці, — успомніў Лявон, — у Паволжы, у дваццатым годзе. Але тады засуха была.

— А ў вас пакласці на зуб што ёсць? — Кузёмка прынюхаўся. — Я чую, капустай пахне…

— Капуста ёсць і таўканіца, — сказала гаспадыня.

— Ну то давай! — узрадаваўся вандроўнік, бо, відаць, быў надта згаладнелы.

Фёкла пайшла на кухню. Чутно было, як запаліла там печ, сыпанула на скавараду дробна накрышанага сала, і яно засквірчэла, нібы пратэстуючы і скардзячыся на сваю долю.

У грубцы меладычна патрэскваў хворост.

— Зіма — клопаты з апалам, — паспачуваў Кузёмка, перасаджваючыся да стала.

— З дровамі заўсёды клопат, — сказаў гаспадар.

Забег заклапочаны Васіль. Яму зноў прыйшоў загад ехаць у пушчу на нарыхтоўку і вывазку лесу. Не з'яўляўся чамусьці на прызначанае месца Афінагенаў, і невядома было, куды ён падзеўся, што з ім магло здарыцца і чаго чакаць. Васіль павітаўся, сеў на столак ля печы.

Фёкла прынесла і падала на стол вялікую міску гарачай яшчэ капусты, затым бульбу са шкваркамі і хлеб, і Кузёмка пачаў вячэраць. Працаваў лыжкай не спяшаючыся, паважна. Павітаўшыся з Васілём, павёў размову далей:

— А я каля Бабіцкай гары Свісціяна сустрэў. Іду гэта я з Ліпцы ў Бабічы, гляджу — ён, Свісціян. А за ім Маркел Божык, за спіною цэлую вязанку кажухоў валачэ. Свісціян як зіркне на мяне з-пад сваіх навіслых броваў, дык па мне адразу, чую, па целе дрыжыкі пайшлі. Пытаецца ў мяне: «Каму ты, ядрона вош, апошнім часам кажухі шыў?» Я падумаў і кажу: «Хіба я помню? Я іх столькі нашыў, што ўвесь Камянец можна апрануць. Усім шыў…»

— А ён што? — насцярожыўся Лявон. — Ад яго ўсяго можна чакаць.

— Ён як вызверыцца на мяне! Ты мне зубы, кажа, не загаворвай, а то я і волавам пачаставаць магу! І рукою па стрэльбе паляпаў.

— На гэта ён майстар.

— Але ж і налякаўся, — прызнаўся Кузёмка і, сагнуўшыся, абмацаў чамусьці спіну. — Напалохаўся больш, чым тых ваўкоў, пра якіх я вам калісьці расказваў, аж мароз па скуры пайшоў. А што! Цяпер чалавек — што муха. Стрэляць — і няма!..

— Дзіва што! Ён жа пры зброі! — умяшаўся ў гутарку Васіль.

— Ой, шмат на ім жалеззя целяпаецца, і за спінаю, і на поясе. Страшны! Зямля пад ім угінаецца. І Маркел носам злосна шморгае і глядзіць па-ваўчынаму. Не дай бог трапіць ім у лапы.

— Можа табе са страху здалося? — пасміхнуўся Лявон. — Можа перабольшваеш? Гэта ж цяжка валакчы на сабе столькі зброі. Ды яшчэ па снезе! Ды і кажухі таксама. Пэўна, здалося табе.

— Не-е!

— Я яго ведаю, Свісціяна гэтага! — узяла Кузёмкаў бок Фёкла. — Ён па жызні такі.

— Як воўк, толькі на дзвюх нагах. І кажуць, што кажухі бярэ, а сярмягу не хоча. Яно і зразумела: сярмяга не грэе.

— Цяпер ён, пэўна, у партызанах, — сказаў Лявон. — З Маркелам разам.

— Цяжка ім у лесе, — паспачуваў Васіль.

— Цяжэй ужо, мусіць, і не бывае, — згадзіўся Кузёмка. — Ой, людкове!..

За вокнамі зарыпеў снег, пачуліся чыесьці цвёрдыя крокі. Бразнула клямка ў сенях, прачыніліся дзверы ў хату, і на парозе з’явіўся солтыс Хрысан.

— Ну што, гаспадар? — сказаў ён замест прывітання. У вачах затаілася нешта нядобрае. Нібы незадаволены быў чымсьці. Падуў на рукі, каб іх сагрэць, і стаў церці адну аб адну.

— А што? — пытаннем на пытанне адказаў Лявон. «Сярдзіты ты нешта сёння», — падумаў ён, пазіраючы на Хрысана, і ўспомніў прымаўку: «Ад сярдзітага не чакай розуму».

— Ёсць распараджэнне.

— Якое?

— Загадана сабраць цёплыя рэчы для нямецкай арміі.

— А нашто? — пацікавіўся Кузёмка, спыніўшы есці і затрымаўшы лыжку ў руцэ.

— Як — нашто? Не ведаеце чаму патрэбны рукавіцы?

— Дык ужо вясна хутка.

На Кузёмкавым твары з’явілася нешта накшталт усмешкі ці ўхмылкі, вусны шырока рассунуліся, агаліўшы шчыліну ў зубах. Солтыс строга зірнуў на дзівака і пакруціў пальцам ля скроні.

— Не гавары глупства!

Па тым, як упэўнена, па-начальніцку трымаў сябе Хрысан, адчувалася, што ён прадстаўнік улады, і нават не нейкай мясцовай, а высокай, вярхоўнай. Разважаць ён не любіў і раней, а цяпер у гэтым як быццам і патрэба адпала. Сказаў — усё адно як сякерай адсек.

— Я папярэджваю! — з пагрозай у голасе прамовіў ён.

Кузёмка, не перастаючы працаваць лыжкай, уцягнуў галаву ў плечы:

— Я маўчу.

Хрысан зняважліва скрывіў вусны, пасміхнуўся і нагадаў вядомую ў Прусцы прымаўку:

— Яшчэ марац укусіць за палец. Па іншых вёсках ужо сабралі, а мы толькі чухаемся. Дачухаемся! Немцы цырымоніцца не будуць. Не такая гэта нацыя, парадак любяць.

У тым, як солтыс размаўляў, непрыхільна і нават пагардліва, відаць была незычлівасць у адносінах да людзей.

— Вунь нават Пацаў у каталажку пасадзілі, у Высокае завезлі, — з прытоеным задавальненнем паведаміў ён.

— Пацаў? — не паверыў Лявон, яго гэта страшэнна здзівіла.

— І я пра гэта не чуў, — паціснуў плячыма Кузёмка, не выпускаючы з рук лыжку. — Аднака! Такі свет настаў, што ні палажы, ні пастаў…

— Сядзяць! Бранаўцы іх туды запраторылі, сядзяць як міленькія. — Хрысан сказаў гэта злосна: так, маўляў, ім і трэба.

— А якая прычына?

— Без прычыны і хвост не матляецца.

— Дык за што? — спытаў Васіль. У яго ажно голас перасмыкнуўся: усё ж такі Якаў Арыстархавіч быў кумам.

— Як — за што? Кантынгент не здавалі. Падаткі! Немцы абклалі Бранавічы падаткамі, а Пацы ўхіляліся. На вывазку дроў у пушчу нават не збіраліся. Арыстарх жа з нямецкімі пагранічнікамі дружбу вадзіў, тымі, што ў Лішні стаяць, на заставе. Спадзяваўся, што абароняць. Аж не! А гэта Астап заявіў. Прыехаў амтскамісар з жандарамі і паліцаямі. Зрабілі вобыск. Пазнаходзілі і жыта шмат, і свіней, і авечыя скуры, і самагонкі! Шмат бутэлек! Усё забралі. Год канцлагеру далі, аднаму і другому.

— І Амброжыю? — здзівіўся Лявон.

— І Амбржыю таксама. А што ён — святы? — зарагатаў Хрысан. — Пакуль што ў Высокім сядзяць.

— Ну, такога яшчэ не было, — сказаў Кузёмка. — Але вока Божае бачыць, — тут Кузёмка padняў уверх палец, — бачыць усё, што робіць чалавек, ведае нават, што думае.

Солтыс нахмурыў бровы і зноў перавёў погляд на Кузёмку, які стаў раздражняць яго:

— А ты ўсё поўзаеш, як хмара па небе?

— Не, браце, да неба яшчэ далёка, — знайшоўся Кузёмка. — Некалі Ісус Хрыстос хадзіў па зямлі ды за нас маліўся.

— А ты, я бачу, надта набожны стаў! А ты ведаеш, хто ты?

— Хто?

— Ты ніхто! Толькі Богам прыкрываешся.

— Без Бога не да парога. — Кузёмка моўчкі скончыў вячэру, выцер вусны рукавом і перахрысціўся.

Размова не клеілася.

— Плёткі разносіш! — упікнуў Хрысан.

— Якія плёткі? — не зразумеў Кузёмка.

— Калі і чуў што, то трымай язык за зубамі! А то менціш абы што!

Солтыс павярнуўся да дзвярэй, збіраючыся выходзіць, бразнуў клямкай:

— Ну, загад я перадаў, — напомніў ён, — сваю справу зрабіў. Што мне загадаюць, тое я і раблю, а там — ваша справа. Я не для каго не раблю выключэння.

Адчыніў дзверы і выйшаў. Потым, ужо з сенцаў, напомніў Васілю:

— А ты пра пушчу не забывай! Пакуль маразы трываюць!..

— Дагаджаем, як скуле, — сказаў Васіль, калі солтыс выйшаў. — Любіць на кім вярхом ездзіць!

У хаце ўсталявалася на нейкі час цішыня, і, счакаўшы, Кузёмка сказаў:

— Нядобрая слава ідзе пра яго. Надта службісты, але не з той нагі скача! Пакрыўдзіў мяне, а за што?

— Бо дурань! Жыве, у сабакі воч пазычыўшы, — азваўся Лявон. — Гэта я пра Хрысана кажу. З людзьмі трэба ладзіць. Але нічога не зробіш, сцісні зубы і маўчы.

— Так, — згадзіўся Кузёмка.

— Гэта не ад добрага жыцця цёплыя рэчы спатрэбіліся! — зноў загаманіў Лявон. — Скулля ім, а не цёплых рэчаў! Калі на іх паморак прыйдзе!

Затым Фёкла пачаставала вандроўніка ліпавым чаем з сушанымі ажынамі, якія госць надта хваліў: «Смачнейшыя за свежыя!» Выпіў дзве кварты ўзапар, ажно ўспацеў.

Пасля Хрысана завітаў Кухта, пастукаў у дзверы, даў «добры вечар».

— Добры вечар, Лаўр Яўсеевіч! — прывітаў яго гаспадар.

Дзяк шморгнуў скрыўленым носам і зірнуў на Кузёмку, які сядзеў, крыху адсунуўшыся ад стала.

— У вас госці!

— Кузёмка зайшоў.

Славутага вандроўніка Лаўр Яўсеевіч ведаў і кіўнуў яму асобна.

— А чаго гэта солтыс да вас прыходзіў? — пацікавіўся дзяк, умошчваючыся на лаўцы ля сцяны і гаворачы густым басам.

— Загад абвясціў, — Лявон пачухаў патыліцу, — цёплае адзенне для немцаў трэба.

— А што, змерзлі?

— Халадно.

Жар у грубцы ірдзеў, пераліваўся, усхопліваўся блакітнымі язычкамі полымя, кідаў чырванаватыя водсветы на падлогу. Лявон дабавіў яшчэ пару паленаў.

— А я чуў, што Саветы не даюць ім мерзнуць, — нібы запярэчыў дзяк, перайшоўшы з баса на альт.

— Усё адно мерзнуць, — сказаў Кузёмка, — бо мароз. Бягуць ужо ад рускага марозу. Дадому бягуць, бо ў Германіі цяплей. Пад Сталінградам яго абкружылі, дык настрой ужо не той.

— Ну, вядома, не той, — згадзіўся Лаўр Яўсеевіч, — калі ўжо да званоў справа дайшла.

— Да якіх званоў? — не ўцяміў Кузёмка і ад цікавасці ажно прыадчыніў рот.

— Да царкоўных. На пераплаўку здымаюць, метал патрэбен для нямецкай арміі. На пераплаўку, а там — на снарады.

Цяпер усе зразумелі, пра што ідзе гаворка. У хаце ўсталявалася цішыня, чутно было, як патрэсквалі дровы ў грубцы. Фёкла яшчэ напарыла чаю з ліпавага цвету і ажын, пачаставала Лаўра Яўсеевіча і сына.

— Ну, мусіць, справы дрэнь, калі ўжо званы знімаюць, — выказаў сваё меркаванне Васіль. — Неважнецкія справы, калі звон спатрэбіўся.

— Нада палагаць, — у няпэўнай форме згадзіўся з ім Лаўр Яўсеевіч і, агладзіўшы бародку, дадаў: — Чуў я ад айца Клаўдзія, што бальшавікі патрыярха аднавілі, уладыку Аляксія прызначылі, месцаблюсціцеля. Цяпер патрыярх ёсць.

— Няўжо? — у адзін голас здзівіліся прысутныя.

— Будзем спадзявацца на лепшае, — дзяк ізноў з альта перайшоў на бас.

— Калі патрыярха аднавілі, дык і калхозы распусцяць! — упэўнена сказаў Кузёмка. — Не будзе калхозаў.

Лаўр Яўсеевіч, пэўна, хацеў яшчэ нешта сказаць, але ўстрымаўся, толькі махнуў рукой. Развітаўшыся, ён пайшоў дадому, у хаце застаўся Кузёмка разам з гаспадарамі. Васіль таксама яшчэ крыху затрымаўся.

— Вася, Якаў Арыстархавіч, як-ніяк, твой кум, — напомнілі Лявон з Фёклай. — Трэба дапамагаць. Можа яны там з Амброжыем галодныя, дык з харчоў што адвезці. Высокае не так і далёка.

— У Хвядосі трэба спытаць і паехаць, — сказала Фёкла.

Васіль згадзіўся, і некаторы час яны зноў сядзелі моўчкі.

— А як жа царква без звона будзе? — затрывожыўся Кузёмка. — Званіць жа трэба кожную нядзелю і калі хто памрэ. Без звону ніхто і ведаць не будзе.

— А як у тую вайну было? — успомніў Лявон. — Тады таксама без звона засталіся.

— Тады іншая справа, яго сам бацюшка зняў ды ў Расію павёз, каб немцам не дастаўся, — сказаў Кузёмка, расшпіліў кашулю і ўздыхнуў: — Што за часы насталі — такіх яшчэ не было! Іду гэта я сёння раніцай — гадзін можа сем ці восем, яшчэ не світала, — праз Бабічы. Насупраць Зміцера Зуба куст чорнай смародзіны расце ды так пахне, ажно нос у мяне затрашчаў. Дальбог, чыхнуў, хоць пах вельмі прыемны. Дык што гэта такое? Зіма, мароз, снегу поўна, а ад смародзіны гэткі пах!

— Вясну пачула, — азваўся Лявон.

— Можа, знак які?

— Можа.

Яны памаўчалі.

— Але трэба спаць, — сказаў Кузёмка, пачухаўшы шыю і пазіраючы на цёплую печ. Шырока пазяхнуў і перахрысціў рот.

— Мудрасць мацней за лёс, — дадаў ён, пацёршы пальцамі лоб і адрасуючы гэтыя словы, відаць, найбольш самому сабе, бо ніхто з прысутных іх не ўцяміў. Але вышэй галавы не скочыш.

Кузёмка застаўся начаваць, а Васіль пайшоў да сябе.

## VI

Нашы знаёмыя — Косця Хлябіч, Беражняк, Калеснікаў, Мурашка, Кубартаеў, Бокша, Ванька-масквіч, Санька-сібірак, Мачалаў, Грышка Пішчык, Свісціян з Маркелам, Непагодзін з Мандрыкіным, Бонк, Калода, Храбрых і яшчэ некалькі чалавек — трымаліся разам, атабарыўшыся ў зямлянцы каля лясной вёскі Міжбор’е. Прыйшоў, як і абяцаў, Шпронькаў прыпіснік Храбрых. Хударлявы, у старым кажушку, перацягнутым сырамятнай папружкай, за плячыма хатулёк з дарожным харчам. Харч адразу ж раздаў новым знаёмым.

Зямлянка звычайная — з нарамі, дашчатым сталом пасярэдзіне, сасновым лапнікам пад нагамі. Як ні стараліся яе ўцяпліць, прамерзла наскрозь, нягледзячы на тое, што ля сцяны стаяла і тапілася печ. Ад яе было больш дыму, чым цяпла, хаця тапілі, здавалася, сухімі бярозавымі дровамі. Цьмяна свяціла, ледзь-ледзь разганяючы цемру, напоўненая барановым лоем бутэлька з адбітым рыльцам і скручаным з анучы кнотам. На столі і сценах дрыжалі цені людзей, што сядзелі вакол стала. Да куткоў святло не даходзіла, там панавала густое, змрочнае сутонне. Насельнікам гэтага сховішча, здавалася, нічога іншага не заставалася, як гуляць у карты, у «падкіднога». Тыя, хто не ўдзельнічаў у гульні, ляжалі на нарах і паціху размаўлялі, прыглушана кашлялі. Калеснікаў прышываў латку на гімнасцёрку. Іголка слухалася яго, напэўна, горш, чым «дзягцяр», латка тапырылася, і шоў выходзіў грубаватым.

Мандрыкін зноў недзе прыдбаў гітару (тая загінула ў час аблавы) і ціха наспеўваў, ледзь кранаючы струны:

Чёрный ворон,
Что ты вьёшься
Над моею голово-ой…

Аднастайнасць стамляла. Увесь час хацелася есці; як заўсёды, не хапала хлеба, солі, усяго не хапала. За прадуктамі наведваліся ў вёскі, на хутары.

Грышку з Маркелам яшчэ пазаўчора паслалі раздабыць таго-сяго, але яны нешта доўга не вярталіся. Вярнуліся толькі сёння пад раніцу, прынеслі харчу і тытуню.

— Правізія! — узрадаваўся Бокша.

— Сала, хлеб і цыбуля! — далажыў Грышка. Скептык па натуры, цяпер ён выглядаў жвавейшым, нават усміхнуўся.

— Цяжка было несці? — паспачуваў Непагодзін.

— Свая ношка не цяжка! — адказаў Маркел.

— Панятна! — азваўся Віцька-масквіч.

Хлеб быў непрапечаны, з асцюкамі, але, як вядома, галодныя зубы асцюкоў не чуюць. Знайшлося і каліва солі. Бокша любіў макнуць цыбуліну ў соль.

Перакусілі. Запілі гарачым травяным адварам, які называлі чаем. Прыемны на смак, ён грэў нутро і падвышаў настрой.

— Эх, каб зараз чаю нашага, калмыцкага! — мройліва сказаў Кубартаеў, ссунуўшы на патыліцу кубанку і выціраючы спацелы лоб.

— Якога? — не зразумеў Грышка.

— Калмыцкага. — Кубартаеў пачаў расказваць, як ён гатаваў свой калмыцкі чай: — Кіпячу малако, і кідаю туды чорны чай. Ліставой. Дабаўляю капельку солі і слівачнага масла. Зноў кіпячу. Праганяе хмель. Люблю калмыцкі чай! Атлічны напітак!

— Няўжо можа быць смачны салёны чай? — усумніўся Грышка. — Не веру.

— О! Яшчэ які смачны! — даводзіў сваё Кубартаеў.

— Ну ўжо вясна хутка, — нібы сам сабе сказаў Мурашка, — вясной лепш партызаніць, вясной кожны кусцік начаваць пусціць.

Яно, вядома, так, пусціць, сумненняў у гэтым не было, але вясной узрастала небяспека блакады. Гэта таксама ўсе ведалі. Блакады можна было чакаць кожнай хвіліны.

Маркел, замарыўшы чарвячка, адразу ж закурыў, прыпаліўшы ад вугельчыка, які дастаў з печы. Курэц ён заядлы, скурыць адну цыгарку і тут жа пачынае скручваць другую.

— Ну, браце, ты па тытунёвым паху немцаў навядзеш! — зрабіў яму заўвагу Свісціян. — Яны ж толькі пра тое і думаюць, каб Свісціяна дзе знайсці.

— Не навяду, ім цяпер ад холаду насы пазакладала, — жартам адказаў напарнік. — Кажухоў у іх таксама для ўсіх не хапае. Для ўсіх не настараешся.

— Вядома, не настараешся, — пацвердзіў хтосьці з новых. Гэта быў Цыбуля.

— Адкрыюць гэтыя сволачы калі-небудзь другі фронт ці не? — невядома каго спытаў Бонк і шумна ўздыхнуў.

— А што яны — дурныя, каб адкрываць? — загаманіў Бокша. — Яны хочуць, каб Расія дарэшты аслабела, тады яны пераможцамі будуць. Хітрасць! У міжнародным маштабе!

— Расія не аслабела, — запярэчыў яму Мачалаў. — Наадварот, Расія больш моцнай стала. Гэта Сталінград паказаў. Далі па карку! Адмарозілі член!

І сапраўды пасля Сталінграда сумненняў у тым, што Чырвоная Армія прыйдзе і сюды, бадай што ні ў кога не было. Можна было толькі спрачацца аб тэрмінах.

Косця паправіў апрануты наапашкі кажушок, падцягнуў крысо, якое адцягваў пісталет, што ляжаў там у кішэні. Яго, як камандзіра, непакоіла, што

людзі, як яму здавалася, пакрысе страчвалі жвавасць і баявы настрой. Напамінак пра Сталінград будзіў у ім патрабавальнасць.

— Хопіць сядзець, — пачаў ён, — трэба нешта рабіць, ваяваць трэба, а то вінтоўкі паржавеюць. Адпачнем пасля вайны. І камітэт ад нас патрабуе спраў. Давайце падумаем, каб не проста так, не з кандачка. Разам прымем рашэнне.

Пасля гэтых слоў у зямлянцы стала ціха. Цішыня працягвалася, пакуль яе не парушыў Маркел:

— А ў мяне скула на паясніцы вылезла, — паскардзіўся ён.

Скулы назалялі многім, фурункулёз з’яўляўся нібы прафесійнай партызанскай хваробай. Прычынай гэтаму было дрэннае харчаванне, прастуды.

— Ты мала рухаешся, — ці то паспачуваў, ці то ўкалоў яго Грышка і ўжо з відавочнай з’едлівасцю дадаў: — Сядзіш на месцы, як квактуха. Вось скула і чапляецца. А каб пайшоў на заданне, каб рухаўся!

— Я можа больш за цябе рухаюся, толькі ты гэтага чамусьці не бачыш, — апраўдваўся Маркел, — не заўважаеш.

— І ў мяне скула, — ціха крэкнуў Калода.

Кубартаеў, падкінуў у печ бярозавае палена — ад сухіх бярозавых дроў менш дыму. Побач на стульчаках сядзелі Пятро Мачалаў, Віцька-масквіч і Санька-сібірак. Санька быў на баку тых, хто лічыў патрэбным дзейнічаць. Самому Саньку надта хацелася забіць немца, і ён шкадаваў, што такое яму яшчэ не надарылася.

— А фрыцы безупынку пхаюць і пхаюць паязды на ўсход, і днём, і ноччу, — прамовіў Непагодзін, — а ў нас вось міны няма. Эх, шкада!

Каб падрываць цягнікі, чыгуначнае палатно, масты, патрэбны былі міны, узрыўчатка. А дзе іх узяць? Лагер пад Грудцом, дзе выплаўлялі тол, разбураны, карнікі там знішчылі ўсё, у тым ліку запас снарадаў.

— Каб мост які падпаліць! — ціха прапанаваў Мандрыкін, адклаўшы ўбок гітару. — Аднавіць мост не проста. Тут сапёры патрэбны. А без маста рух спыняецца.

— Масты яны калючым дротам абцягваюць і кулямёты ставяць — не падступішся, — запярэчыў яму ўсё той жа Грышка Пішчык.

Да размовы далучыўся Каленікаў, выказаў сваё меркаванне:

— Не блага было б таксама напасці на нейкі нямецкі гарнізон, каб крыху напалохаць фрыцаў ды іх прыслужнікаў, а заадно і свае харчовыя запасы папоўніць. Толькі дзе ў гэтых мясцінах шукаць такі гарнізон? Трэба далёка ісці…

— Невядома, дзе знойдзеш, а дзе згубіш, — азваўся Віцька-масквіч. — А можа на васток падацца? Там мы, як ні кажы, больш патрэбныя. На фронце і ваяваць лепш, там усё ясна, апрадзялённа, усё панятна, а тут палажэніе такое, што цiжало разабрацца. Не, там мы больш патрэбныя.

— Патрэбныя мы і тут! — зычна запярэчыў Свісціян.

— Я Свісціяна падтрымліваю, — пазяхнуўшы, заварушыўся Маркел. — Мы і тут патрэбныя. Вясною будзе лепш, лягчэй будзе.

— Гэта як фартуна павернецца, — сказаў Бонк.

Косця не вытрымаў:

— Трэба ўжо зараз дзейнічаць, а вы, панімаеш, адно толькі разважаеце пра цяжкае становішча! Вось прыйдзе Чырвоная Армія, трэба будзе адчытацца, справаздачу зрабіць. Тады спытаюць, і строга спытаюць. А што мы скажам? Сядзелі, чакалі…

Прысутныя маўчалі.

— Адпачнем пасля вайны, — дадаў Косця, — а цяпер…

— Тут па шашы штодня паштовая машына ходзіць, — варухнуў галавою Калеснікаў. — Паміж Камянюкамі і Камянцам. Карэспандэнцыю дастаўляюць…

— Каб як перайняць яе! — зразумеў Калеснікаву думку Мурашка. — Засаду зрабіць і перастрэць.

— А можа лепш мост узарваць? — паўтарыў сваю прапанову Мандрыкін.

А Грышка зноў запярэчыў:

— Толу няма! Каб тол, дык і машына падарвалася б, і мост згарэў!

— Абальем газай — і ўсё ў парадку!

— Ага, газы ў цябе шмат.

— Не, трэба непасрэдна заняцца машынай, — стаяў на сваім Калеснікаў. — Засаду зрабіць! Справа не складаная. Ударыць з усіх ствалоў, і ўсё.

Беражняк як начальнік штаба палічыў патрэбным папярэдзіць:

— Узбраенне слабое, патронаў мала, боезапас на нулю.

— Узбраенне слабое, — згадзіўся Косця, — але, я думаю, на тую паштовую машыну хопіць. Давай, браток, бярыся за гэтую справу.

Гэта адрасавалася Беражняку і прагучала як загад, камандзірскі загад. «Беражняк — паваротлівы, — прыкінуў Косця, — на яго спадзявацца можна. Справіцца».

— Колькі чалавек вам спатрэбіцца на гэтае заданне? — спытаў ён.

Усе зноў на хвіліну прымоўклі.

— Чалавек пяць, думаю, хопіць, — прыкінуў Беражняк. — Я — шосты.

Узяў Беражняк з сабой Калеснікава, Мурашку, Санька-сібірака, Бонка і Храбрых, пра якога сказаў: «Хай пройдзе баявое хрышчэнне». Камандзір згадзіўся. Падахвоціўся быў яшчэ і Цыбуля, але Беражняк палічыў, што людзей дастаткова, і адказаў яму не без усмешкі: «У цябе, Цыбуля, вінтоўка без мушкі, а ў такой справе дакладны прыцэл патрэбен». Цыбулю і сапраўды няёмка было, што вінтоўка ў яго — старая, яшчэ царская «трохлінейка» — без мушкі.

— Добра, — згадзіўся камандзір. — Даю вам два дні.

Рушылі вечарам, было ўжо цёмна. Ноччу і часткай наступнага дня трэба было прайсці добрых трыццаць кіламетраў. Выбраць месца, залегчы і чакаць. Выканаць заданне і ў тэрмін вярнуцца. Напрамую ісці не рашыліся, ішлі пачарнелымі ляснымі сцежкамі, абмінаючы вёскі і дарогі. Усе ў цывільным, у целагрэйках, Беражняк у кажушку (пастараліся Свісціян з Маркелам), але падперазаныя вайсковымі рамянямі. Ішлі спяшаючыся, зброю трымалі пры баку, у дулы свістаў вецер. Устанавілася нарэшце мяккая адліга, пацяплелым паветрам дыхала ў твар. Ногі правальваліся ў глыбокі, але ўжо па-веснавому рыхлы снег, пакрыты ледзяной скарынкай. У поўдзень на прыпёках снег раставаў, асядалі сумёты, агаляючы чорныя пні і купіны, а ноччу зноў замярзала, і паляны зацягваліся хрусткім зярністым шарпаком.

Калеснікаў — са сваім «дзегцяром», які ў яго заўсёды напагатове. У вёскі не заходзілі. У адну — здаецца, гэта былі Хадасы — усё ж такі зайшлі (там былі Мурашкавы знаёмыя), папрасілі крыху прадуктаў, узялі сала, хлеб, пляшку самагонкі.

Не дайшоўшы да Камянюкаў, выйшлі на шашу-брукаванку, што злучала Белавежскую пушчу з Камянцам. Выбралі ўзгорак, парослы густым кустоўем. З гэтага месца шаша добра праглядалася тым сваім канцом, які ішоў у кірунку Камянца.

— Давайце, хлопцы, тут і засядзем, — прапанаваў Беражняк, — на гэтым пагорку. Пазіцыя не благая. Тут ён прыпыніць ход.

Замаскіраваліся. Беражняк агледзеўся. Там-сям, з другога боку шашы, на пагорках, зелянелі, вызваліўшыся ад снегу, лапіны азіміны. Непадалёк па снезе з прыпынкамі праскакаў заяц. Спыніцца, падніме вушы, пастаіць, прыслухаецца, а потым зноў пакладзе вушы на спіну, прынюхаецца і скача далей. І гэтак даскакаў да ельніка. «Скачы, скачы, касы, калі хочаш жыць, — падумаў Беражняк, — а то тут неспадзеўнае для цябе можа пачацца».

У другой палавіне дня сонца, нібы чымсьці незадаволенае, схавалася ў лахматых хмарах. Сядзелі доўга, чакалі, парадкам змерзлі, ад холаду адубелі рукі і ногі, хоць ад саснякоў, ад крохкага голля крушыны і вербалозу ўжо павявала адлігай.

Пад вечар удалечыні, у напрамку Камянюкаў, убачылі зарава, гарэла, пэўна, нейкае селішча. Пэўна, немцы палілі прыпушчанскія вёскі…

Праз колькі часу, калі ўжо стаміліся чакаць і ад холаду зусім адубелі, пачуўся гул аўтамашыны, якая рухалася з боку Камянца. Сапраўды, унізе з-за павароту нарэшце паказаўся прыземісты брудна-зялёнага колеру грузавік з фанернай будай замест кузава. Рухаўся з натугай. За грузавіком віднеліся клубы чорнага дыму: шафёр, відаць, добра ціснуў на газ, каб узабрацца на пакрыты снегам пагорак. Не такі ўжо высокі, але вымагаў свайго.

Беражняк ціха адвёў назад курок аўтамата, і ўсе пачулі гэты ціхатлівы гук і зрабілі са сваёй зброяй тое ж самае.

— Біць па пакрышках і маторы! Па маёй камандзе!

Машына набліжалася. Ужо можна было за ветравым шклом убачыць няясную постаць шафёра. Санька адчуў, як у руках закалацілася вінтоўка.

— Па фашыстах — агонь! — скамандаваў Беражняк.

Ударылі з усіх ствалоў. Шафёр, зразумеўшы, што адбываецца нешта неспадзяванае, спыніўся, даў задні ход, але не здолеў справіцца з кіраваннем, і грузавік мітусліва скаціўся з шашы і асеў у кювеце. З кузава тут жа выскачылі немцы і пачалі адстрэльвацца. Двое ўпалі адразу, паваліліся як снапы. Беражняк біў па кабіне. Заўважыў, як ад халоднага зімовага сонца заіскрылася разбітае кулямі ветравое шкло. Санька таксама страляў, страляў спяшаючыся, гучна бразгаючы затворам. Вадзіцель памкнуўся быў уцякаць, але і яго дагнала чыясьці куля, і ён нязграбна, як п'яны, зваліўся ў снег. Партызаны, коўзаючыся на зледзянелым пагорку, падбеглі бліжэй, страляючы ўжо амаль ва ўпор. З кузава паляцелі фанерныя трэскі. Прабітыя кулямі колы выпусцілі паветра, і машына асунулася на дол.

— Камра-ад! Камра-ад! — даносілася з машыны.

Саньку здалося, што там жанчына, і яму стала шкада яе, ён хацеў папярэдзіць таварышаў, але ўжо было позна. Калеснікаў забег ззаду і ўдарыў у тарэц кузава з свайго «дзегцяра». Крыкі аціхлі. Бонк, Мурашка і Храбрых праз адчыненыя дзверы кінуліся сабраць трафеі: зброю, адзенне, дакументы. У вадзіцеля з рукі знялі гадзіннік. Забралі радыёпрыёмнік, што знаходзіўся ў машыне. Не пакінулі і цыгарэты, якія знайшлі ў кабіне, у «бардачку». Беражняк з Калеснікавым і Санькам, спяшаючыся, нацадзілі з бака саляркі і аблілі грузавік. Беражняк кінуў запалку, і ўспыхнула полымя, а потым спакваля, паступова, нібы не жадаючы таго, ахапіла ўсю машыну. Заклубіўся чорны дым.

Нельга было марудзіць. Разабраўшы трафеі, кінуліся ад шашы ў лес. Беглі порстка, не трэба было падганяць. З Камянца можа ўжо і заўважылі чорны дым і, магчыма, спяшаліся на дапамогу. Ззаду бег Храбрых. Беражняк чуў, як ён цяжка і напружана дыхаў.

Першым апамятаўся Калеснікаў.

— Ну вот! — прамовіў ён на хаду.

— Усё, у сушнасці, проста! — дадаў Растатуеў.

— Колькі ж іх там было? — запыхаўшыся, спытаў Беражняк.

— Двое і жанчына, — паведаміў Храбрых, выціраючы ўзмакрэлы лоб.

— А жанчына нашто?

— А хто ж ведаў?

Беражняк мацюкнуўся і сплюнуў.

— Ну што ж, справа зроблена, — быццам падвёў вынік Калеснікаў. — Як і планавалі. А што жанчына, дык што ж, усякае здараецца.

Мінут праз дваццаць пачуліся стрэлы. Гэта з'явілася падмога з Камянца. Прыбыўшыя пачалі бязладную страляніну ў бок лесу, але Беражняк і яго сябры былі ўжо далёка. Ранкам наступнага дня яны вярнуліся да сваіх. Вяртаючыся з засады, партызаны звычайна неслі нешта са зброі: то трафейны карабін, то пару пісталетаў, то гранаты. Так было і на гэты раз. Трафеі — карабін, два пісталеты, радыёпрыёмнік і нешта з адзення — здалі камандаванню.

— Дзёрзка! — пахваліў Косця, выслухаўшы даклад Беразняка пра вынікі нападу на машыну. — Машыну спалілі?

— Спалілі, — адказаў Беражняк.

— Малайцы. Аб'яўляю падзяку.

— Чыстая работа! — хваліўся Бонк, дастаючы з кішэні пачак трафейных цыгарэт і частуючы імі сяброў.

— Далі фрыцам жару па першае чысло! — дадаў Мурашка. — Атрымалі па карку. Цяпер, думаю, справы павінны пайсці.

— Хваліся, ды не папярхніся! — азваўся Грышка, беручы цыгарэту і прыкурваючы.

* * *

На пачатку вясны да іх пачалі далучацца новыя людзі, найболей з акружэнцаў. Некаторыя прыходзілі цэлымі групамі да дзясятка чалавек. Каля зямлянкі ставіліся буданы.

## VII

Неяк аднаго дня на раніцу прыбыў упаўнаважаны Афінагенаў. Варта пераняла яго яшчэ на падыходзе да лагера і прывяла ў зямлянку. Пры ім знаходзілася ахова — двое з аўтаматамі. Прывёў іх Мурашка. У зямлянцы панаваў змрок і дрымотная цішыня. У поцемках мала што можна было разабраць. Шыбала ў нос здушаным паветрам і вільгаццю. Госць чыркнуў запалкай, і цемрыва адступіла ў куткі. Запалілі газнічку.

— Добры дзень, таварышы!

— Добры дзень! — адказаў Косця, які адразу пазнаў упаўнаважанага.

Госць павітаўся са старымі знаёмымі за руку і, не змёўшы з ботаў снег, сеў ля стала на чурбан. Перад гэтым зняў з-за плячэй свой ППШ і павесіў на цвік. Аўтаматчыкаў праводзілі ў зямлянку, дзе знаходзілася кухня. З дарогі трэба было перакусіць.

— Вас не адразу і знойдзеш, — няпэўна сказаў упаўнаважаны: ці то пахваліў, ці то папракнуў. — А Новікаў дзе? — спытаў ён, хоць пра лёс Дзмітрыя Новікава ўжо ведаў ад Мурашкі.

— Загінуў наш камандзір, — адказаў Косця, таксама прысеўшы за стол.

— А хто цяпер за камандзіра? Вы?

— Мяне выбралі.

— Ну што ж, выбралі дык выбралі.

Партызаны пасунуліся да іх бліжэй, абступілі з усіх бакоў. Толькі што перад гэтым вярнуўся з чарговага свайго «прыватнага», ці, як ён казаў, «аўтаномнага рэйду» Калеснікаў. Вярнуўся змораны і згаладнелы, твар аброс шэрым шчаціннем, але выраз на твары — вясёлы. Спераду, на шыі, як заўсёды, вісеў «дзягцяр», з якім Якаў Ксенафонтавіч не расставаўся. Далажыў камандзіру пра вынікі свайго «рэйду». З засады ўдалося абстраляць падводу з паліцаямі, двое скаціліся на дарогу і засталіся ляжаць, а астатнія разбегліся хто куды. Але галоўнае, што сустрэў і прывёў з сабой Барыса Смаляка з групай партызанаў, якія адбіліся ад атрада пасля той аблавы і цяпер шукалі старых сяброў. У групе былі і новенькія.

Косця расказаў пра гэта ўпаўнаважанаму, той згодна паківаў галавой, дастаў з кішэні пачак папярос «Казбек», пачаставаў жыхароў зямлянкі. Папяросы ўзялі нават тыя, хто не курыў. Доўга разглядалі пачастунак, нюхалі, удыхаючы прыемны пах. Прыкурвалі таксама ад запальнічкі ўпаўнаважанага, які, размінаючы папяросу, назіраў за тым, якое ўражанне рабіў «Казбек» на прысутных. Афінагенаў спачатку прыкурыў сам — агонь асвяціў яго раздутыя ноздры, — потым даў прыкурыць Косці і ўсім астатнім.

— Дзе ж гэта такіх дасталі? «Казбек»!

— У Маскве. Толькі што адтуль, таварышы.

Недаверлівы голас спытаў:

— Няўжо?

— Да.

Упаўнаважаны не маніў. Прыйшоў ён, як і тыя разы, з Ружанскай пушчы, але да гэтага паспеў пабываць у Маскве. Выклікалі яго туды, на Вялікую зямлю, у канцы 1942 года, з дакладам. Паслаў антыфашысцкі камітэт, Крыштафорык з Іосіфам Урбановічам. Ляцелі самалётам. Цяпер, вярнуўшыся, ён міжвольна ўспамінаў тыя падзеі і ўражанні, перабіраў у памяці падрабязнасці.

У самалёце было цеснавата. Уздоўж бартоў — вузкія металічныя сядзенні, занятыя людзьмі. Прарэзліва вылі маторы, самалёт кідала то ўверх, то ўніз. Людзі ўчэпіста трымаліся за свае крэслы. Ляцелі над лініяй фронта. Унізе бушаваў вогненны смерч, рваліся снарады і міны, ляцелі, асвятляючы цемру, чэргі трасіруючых куль. Але ў галаве Івана Мітрафанавіча варушылася, не давала спакою іншае. Увесь час не пакідала непрыемная думка пра той злашчасны архіў: «Які ў яго лёс? Дзе ён, халера на яго, падзеўся? Хто ім пакарыстаўся? Паперы, пячаткі, штампы! І ўсё сакрэтнае… А што, калі пра гэта спытаюць?» Незразумелым было таксама і тое, як там, у Маскве, паставяцца да таго, што ён застаўся за лініяй фронту, ды яшчэ і звязаўся з капэзэбоўцамі, з іхнім антыфашысцкім камітэтам. Былы энкавэдзіст змагаўся са страхам, але ўнутраную дрыготку адужаць не мог. «А дзе сям'я? Што з ёю, з жонкай і дзецьмі?..» Спакою не было.

Самалёт прызямліўся ў аэрапорце «Унукава», пад Масквой. З аэрапорта прывезлі ў горад. Дом, у якім ён апынуўся, стаяў у нейкім парку. Праз кароткі час Афінагенава правялі ў асобны пакой, у якім за сталом сядзеў лысаваты, але яшчэ не стары чалавек, паўнацелы і плячысты, з уладным выразам твару. На скуранай куртцы ў яго зіхацеў новенькі ордэн Чырвонага Сцяга. Афінагенаў выпнуў грудзі, назваў сябе, усё яшчэ хвалюючыся. Незнаёмы адарваўся ад папер і ўважліва паглядзеў на яго, нібы хацеў працяць наскрозь.

— Палкоўнік Сцяпан, — прадставіўся незнаёмы. Ён чакаў справаздачнага даклада.

Афінагенаў далажыў пра становішча ў Белавежскім рэгіёне. Чалавек у скуранцы, які назваў сябе палкоўнікам Сцяпанам, пра тое-сёе распытаў, але шмат не гаварыў. Спытаў пра сям'ю.

— А дзе твая сям'я?

Афінагенаў адказаў, што да вайны сям'я жыла ў Ленінградзе, а як склаўся яе лёс, ён не ведае. Палкоўнік зрабіў паўзу, устаў з-за стала і важна прайшоўся па кабінеце, нібы пераймаючы ў кагосьці такую манеру паводзін і размовы, спыніўся і прыступіў, відаць, да галоўнага.

— Ёсць загад, сказаў ён, — цэнтралізаваць партызанскі рух, нельга ўсё пускаць на самацёк і займацца самадзейнасцю. Трэба весці плотны разгавор з партызанскімі групамі, якія да гэтага часу не падпарадкаваны цэнтру. Ну і здраднікаў, паслугачоў нямецкіх убіраць. Улічыце, што таварыш Сталін ведае пра ўсё! Пакуль што ў вас усё па мелачах. Спіце там, панімаеш, у шапкі. Многае нада мяняць. — Ён крыху памаўчаў, а потым працягваў: — Маем намер накіраваць у вашу зону групу палітрукоў. У гэтую групу ўвойдзеце і вы. Далей, — працягваў палкоўнік Сцяпан, — пара прымаць прысягу. Мы распрацавалі прысягу беларускага партызана. Вось, калі ласка, яна надрукаваная. Зацверджаная Прэзідыумам Вярхоўнага Савета і ЦК Кампартыі Беларусі яшчэ ў маі мінулага года.

Палкоўнік узяў са стала аркуш паперы і падаў Афінагенаву.

— Трэба, таварыш Афінагенаў, змагацца са стыхіяй і ўводзіць надзейны армейскі рэжым. Чырвоныя лентачкі да шапак трэба прышываць, адрозненні ўводзіць, званія! Усё як паложана. І яшчэ, гавару вам давярыцельна, каб вы ведалі, Пяты, лютаўскі пленум ЦК КПБ, згодна ўказання таварыша Сталіна, паставіў перад намі задачу ачысціць Белавежскую пушчу ад немцаў.

Афінагенаў палічыў патрэбным сказаць:

— Пушча моцна ахраняецца.

— Задача пастаўлена, — суха паўтарыў палкоўнік.

На гэтым размова была скончана. Пра архіў ніхто не пытаўся, і Афінагенаў быў гэтаму дужа рады: «Пранясло!» Ідучы па вуліцы, спадзяваўся спаткаць каго, можа, са знаёмых, але ніхто не сустрэўся.

Вярталіся з Масквы групай з пятнаццаці чалавек, якую ўзначальваў сам палкоўнік Сцяпан, і таксама на самалёце. Групе былі прыдадзены радысты — хлопец і дзяўчына. Дзяўчына апранутая як і ўсе: дэсантная куртка, ватныя штаны, кірзавыя боты. Ялавыя боты меў толькі палкоўнік Сцяпан. Ён першым падняўся па кароткай лесвіцы ў самалёт і стаў ля ўваходу, астатнія ішлі паўз яго. Апошнімі паднімаліся радысты — дзяўчына, а за ёй хлопец. Дзяўчына прайшла ў самалёт, а калі хлопец, ідучы апошнім, параўняўся з палкоўнікам, той з усяе сілы штурхнуў яго ў грудзі нагой. Хлопец кульнуўся з лесвіцы і паляцеў уніз. Лесвіцу ўцягнулі ў самалёт і задраілі дзверы. У мораку самалётнага нутра ўстанавілася няёмкае маўчанне, ніхто не падаваў голасу. Маўчала і дзяўчына-радыстка. Азваўся нарэшце сам палкоўнік Сцяпан:

— Ну што, паляцелі?

На гэта ніхто нічога не адказаў. Лётчык запусціў матор. Машына пачала разбег, паднялася ў паветра. Пад крылом мільганула Масква і хутка засталася ззаду. На зямлі ўжо вечарэла. Самалёт увайшоў у суцэльную воблачнасць, пахаваліся ў тумане крылы, яго белыя завеі клубіліся ўжо каля ілюмінатараў. Над лініяй фронту праляцелі незаўважанымі, спакойна, што здаралася вельмі

рэдка. Праз некалькі гадзін — яшчэ не пачало світаць — прызямліліся ў размяшчэнні Мінскага партызанскага злучэння.

Праз які тыдзень група рушыла на Брэстчыну. Трэба было адолець адлегласць звыш шасцісот кіламетраў па глыбокім тыле праціўніка. Гэта было цяжка і небяспечна, не раз нарываліся на засады. Групу суправаджалі і ахоўвалі 40 партызанаў-аўтаматчыкаў. Ішлі скрытна, тоячыся. Пастаянна падпільноўваў страх. К канцу красавіка група дасягнула намечанага раёна каля Івацэвіч. Гэта было славутае Глухамлянскае возера. Сустрэлі мясцовыя партызаны.

Афінагенаў марыў пра чыстую бялізну і пра магчымасць хоць з большага паесці і выспацца дзе-небудзь у спакойным месцы, але тут жа атрымаў заданне і рушыў у дарогу далей на захад. Трэба было звязацца з тымі прыпушчанскімі атрадамі, якія яшчэ дзейнічалі самастойна, падключыць іх да агульнай лініі, падпарадкаваць цэнтру. Далей Афінагенаў пайшоў адзін пад аховаю двух аўтаматчыкаў. Да Ружанскай пушчы адсюль не так і далёка. Дайшлі за некалькі начных пераходаў. Крыштафорык з Урбановічам знаходзіліся ў Буленскім лесе, там ён іх і знайшоў. Расказаў пра паездку ў Маскву, пра сустрэчу і вяртанне з палкоўнікам Сцяпанам, пра новую структуру партызанскага руху. Аб усім далажыў Крыштафорыку з Урбановічам. Не сказаў толькі аб тым выпадку пры пасадцы, калі палкоўнік Сцяпан пхнуў нагой хлапчынурадыста, не ўзяўшы з сабой у нямецкі тыл, і пра тое, што палкоўнік, калі ўжо ўсталёўваўся на новым месцы, пажадаў абшыць сваю зямлянку парашутным шоўкам: «Каб утульней было, госці, здараецца, заходзяць…» Сказаў, між іншым, пра асобную кухню для штаба, якой раней не было.

Крыштафорык з Урбановічам доўга кумекалі над тым, як наблізіць да справы ўказанні высокага начальства аб цэнтралізацыі антыфашысцкага руху. Патрэбна была сувязь з партызанскімі групамі на месцах. Падрыхтавалі пісьмовыя загады па іх аб’яднанні ў атрады. Урэшце далі адпаведнае заданне інструктарам. Вызваўся ісці і Афінагенаў, выбраўшы ўжо прывычны для сябе паўночна-заходні напрамак. Склаў маршрут, узяў з сабой тых самых дваіх хлопцаў-аўтаматчыкаў, і рушылі з Ружанскай пушчы на захад. Ішлі непралазнымі мясцінамі, праз замерзлыя балоты. Днявалі ў лесе. Час ад часу спыняліся — упаўнаважаны падносіў да вачэй планшэтку з тапаграфічнай картай, арыентаваўся ў маршруце. Праз колькі начэй былі каля Камянца. Праз сувязных Афінагенаў звязаўся з Мурашкам і з яго дапамогай трапіў у атрад.

Пачало ўжо шарэць, калі яны дабраліся да партызанскага стойбішча…

— Да, быў у Маскве, — паўтарыў упаўнаважаны.

Прысутныя маўчалі. Гэта было нешта неверагоднае, ніхто не хацеў верыць. Няўжо такое можа быць?

— Таварыш Мурашка, падай мой аўтамат!

Мурашка жвава падскочыў, зняў з цвіка зброю, перадаў упаўнаважанаму. Афінагенаў паказаў партызанам аўтамат: на варанёнай сталі выціснуты фірменны знак Тульскага завода і надпіс: «СССР. 1942».

— Ух ты! — заварушыліся насельнікі зямлянкі і ад здзіўлення прыглушана закашлялі. Госць быў яўна задаволены тым эфектам, які зрабіў на іх аўтамат.

— Ну, як справы? — спытаў ён, дыхнуўшы сінім дымам.

— Патроху, — адказалі курцы.

— Патроху — гэта плоха.

— Пакудава ў лясу з рабятамі сядзім, на заданні выходзім, — дадаў Бяражняк.

— Зразумела, — сказаў Афінагенаў і задумаўся.

— На днях група пад камандай таварыша Беражняка на дыверсію выходзіла, на шашу, спалілі аўтамашыну, — далажыў Косця.

Госць кіўнуў галавой, нібы прыняў да ведама, але вялікага значэння не надаў.

— Пра перамогу пад Сталінградам, пра акружэнне, вы, канешна, чулі, у курсе дзела? — спытаў ён.

— У курсе! — дружна азваліся прысутныя.

— Гэта факцічаскі разгром нямецкай арміі! — здзіўлена прамовіў Мачалаў.

— Так, — пагадзіўся ўпаўнаважаны, гэта расцэньваецца як пералом у ходзе ваенных дзеянняў, у ходзе вайны.

Усе насцярожліва слухалі.

— Ёсць, таварышы, думка камітэта. — Усе адчулі, што ўпаўнаважаны перайшоў на іншую тэму. — Нам трэба канчаць з партызаншчынай. Вы дзейнічаеце, так сказаць, у аўтаномным рэжыме, а гэтага цяпер недастаткова. Трэба сабрацца ў адзін кулак. Пара, таварышы, пара! Гэта прадрашано. Нада па-крупнаму, а мы ўсё па мелачах, — успомніў ён словы палкоўніка Сцяпана, сказаныя яшчэ ў Маскве. — Думка цэнтра такая, што слаба мы тут варушымся. Наступіў час аб'яднацца з іншымі групамі і атрадамі. У перспектыве стваераецца, я вам далажу, брыгада, «За Родзіну». Тэрмінова трэба падрыхтавацца да прадстаячых баёў, таварышы!

Афінагенаў дастаў з нагруднай кішэні пакет, разгарнуў яго і перадаў Косці як камандзіру, а сам падняўся з-за стала і прайшоўся па зямлянцы.

Афінагенаў дастаў з нагруднай кішэні пакет, разгарнуў яго і перадаў Косці як камандзіру, а сам падняўся з-за стала і прайшоўся па зямлянцы. Усе аціхлі ў чаканні, што скажа камандзір, але Косця маўчаў. Ён знаёміўся са зместам загаду. Гэта быў загад Брэсцкага антыфашысцкага камітэта аб аб'яднанні ўсіх партызанскіх груп гэтай мясцовасці ў атрад імя Ушакова.

— Нам няма чаго дзяліць, а мэты ў нас агульныя, — азваўся нарэшце Косця, прачытаўшы загад. — Кожны будзе выконваць свой абавязак. Кожны павінен ведаць свой манеўр.

Гэтаму ніхто не пярэчыў, але некаторыя пачалі дапытвацца: «А хто? А што? А як, якім чынам?» Упаўнаважаны тлумачыў.

— А хто такі гэты Ушакоў? — запытаў Калода.

— Пэўна, генерал нейкі або герой, — паспрабаваў адказаць Грышка.

— Ушаковых, таварышы, шмат. У дадзеным выпадку маецца на ўвазе, я думаю, флатаводзец Ушакоў, — патлумачыў Афінагенаў і зноў прысеў да стала. — Нашчот гэта не беспакойцеся.

Нехта зазначыў:

— Патрэбен армейскі вопыт.

— Прыабратайце! — не разгубіўся ўпаўнаважаны. — Размяркуйце атрад на ўзводы, прызначце камандзіраў, наладзьце разведку, як агентурную, так і ўнутраную. Пытанні ёсць?

Пытанняў не было.

— Што ж, давайце галасаваць!.. — выгукнуў з кутка, дзе ён сядзеў, Бокша.

Упаўнаважаны сустрэў яго словы знішчальным позіркам:

— Якое, собственна гавара, можа быць галасаванне, калі гэта загад! І яшчэ! Будзем прынімаць прысягу!

На нейкі момант у зямлянцы ўсталявалася цішыня, але не надоўга.

— Прысягу? Якую прысягу? — загаманілі ўсе разам.

— Таварышы, цішэй!

Афінагенаў з хвіліну пакапаўся ў другой кішэні, дастаў адтуль нейкую паперыну і падняў яе над галавою, бліжэй да газніцы.

— Бачылі?

— А што гэта?

Партызаны з цікаўнасцю паўзіраліся ў паперыну і, хто знаходзіўся бліжэй, змаглі ў цьмяным святле газніцы ўбачыць дзяржаўны герб БССР, пад якім значыўся загаловак і нейкі тэкст.

— Гэта «Прысяга беларускага партызана», — патлумачыў Афінагенаў, — зацверджаная Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР і Цэнтральным камітэтам Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі 12 мая 1942 года, гэта значыць, яшчэ ў мінулым годзе.

Усе ўважліва слухалі.

— Таварыш Хлябіч, ці знаёмы вы і вашы баявыя таварышы-партызаны з тэкстам гэтай прысягі, ці ставілі свае подпісы пад ёю?

Косця адмоўна пакруціў галавой.

— Ага, значыць, не? — нібы ўзрадаваўся Афінагенаў. — А ў Чырвонай Арміі кожны баец прымае прысягу, там цяпер і пагоны ўвялі.

— Пагоны? — здзівіўся Санька Растатуеў. — Гэта ж калісьці пры цары пагоны насілі.

— Цар тут ні пры чым, трэба, каб парадак быў. — Афінагенаў абвёў вачыма прысутных. — Пагоны, яснае дзела, дысцыплінуюць. Пагоны, таварышы, азначаюць, што цяпер Чырвоная Армія абнавілася. Гэта цэлікам новая армія! Не тая, што, між намі гаворачы, уцякала ў сорак першым. Цяпер Чырвоная Армія наступае! Ідзе ўпярод!

— Глядзіш — і ў нас пагоны ўвядуць! — падзівіўся Калеснікаў.

— Не заменяць яны таварыскасці! — пахітаў галавою Барыс Смаляк.

Упаўнаважаны не стаў абмяркоўваць гэтае пытанне, а вярнуўся да прысягі.

— Дык вось, трэба вам ведаць, што савецкі партызан тады становіцца сапраўдным партызанам, калі ўласнаручна падпіша тэкст гэтай вось «Прысягі». Хто з вас гатоў?

— Усе! Усе! — пачуліся нязладжаныя галасы.

— Хто — усе? Падняць руку!

У слаба асветленай зямлянцы цяжка было ўбачыць, ці сапраўды ўсе прысутныя паднялі рукі.

— Калі трэба, дык трэба, — азваўся Свісціян, які сядзеў у самым кутку разам з Маркелам, — мы супраць нічога не маем. А што?

— Канстанцін Трахімавіч! — упаўнаважаны звярнуўся да Косці, які сядзеў побач за сталом. — Ты, як камандзір, правер!

— Есть! — Косця ўстаў, акінуў вокам прысутных, у тым ліку і тых, хто сядзеў на нарах.

— Так точна, таварыш ўпаўнаважаны! — далажыў ён, прыклаўшы руку да казырка. — Усе «за», «супроць» — няма!

— Добра! — адказаў ўпаўнаважаны, таксама ўзяўшы пад казырок. — Для данага ўрачыстага моманту трэба, аднак, падрыхтавацца. Увага!

Пасля гэтага ўпаўнаважаны павярнуўся да грамады:

— Цяпер, таварышы, я вам зачытаю тэкст «Прысягі». Слухаць папрашу ўважліва, каб кожны з вас запомніў, да чаго абавязвае «Прысяга беларускага партызана».

Афінагенаў прысунуўся да газоўкі і пачаў ўрачыста чытаць:

## ПРЫСЯГА БЕЛАРУСКАГА ПАРТЫЗАНА

***Я, грамадзянін Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, верны сын гераічнага беларускага народа, прысягаю, што не пашкадую ні сіл, ні самога жыцця для справы вызвалення майго народа ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і катаў і не складу зброі да таго часу, пакуль родная беларуская зямля не будзе ачышчана ад нямецка-фашысцкай погані.***

***Я клянуся строга і няўхільна выконваць загады сваіх камандзіраў і начальнікаў і берагчы ваенную тайну…»***

Тут Афінагенаў перастаў чытаць, нібы хацеў глыбей удыхнуць паветра, уважліва паглядзеў на партызан, якія яшчэ не адагрэліся, і яшчэ раз паўтарыў фрагмент «Прысягі» пра захаванне дысцыпліны і падпарадкаванне загадам сваіх камандзіраў ды пра ваенную тайну. І тады прадоўжыў:

***«Я клянуся, за спаленыя гарады і вёскі, за кроў і смерць нашых жонак і дзяцей, бацькоў і мацярэй, за гвалты і здзекі над маім народам, жорстка помсціць ворагу…»***

Афінагенаў скончыў чытаць, зірнуў на прысутных:

— Калі ласка, таварышы, стаўце свае подпісы!

Першымі паставіла подпісы камандаванне: Косця Хлябіч, Мачалаў і Беразняк. За імі, па чарзе, астатнія. Упаўнаважаны павіншаваў з прыняццем прысягі.

— І яшчэ, таварышы, — дадаў ён, — прашу крэпка запомніць: лепш загінуць ад уласнай рукі, чым здацца ў плен. Закон адзін, таварышы, — і для франтавікоў, і для нас, партызанаў.

Упаўнаважаны прабыў у атрадзе два дні, але паспеў пагаварыць са Свісціянам і Маркелам. Яны яго цікавілі як мясцовыя людзі, з якімі ён яшчэ не размаўляў і не быў знаёмы. У аднаго і ў другога паадрасталі густыя бароды — рудая ў Свісціяна і чорная ў Маркела.

— Ну, як ваюеце?

— Стараемся, — адказаў Свісціян. Маркел таксама сцвярджальна замахаў галавой.

— Бароды трэба галіць! — зрабіў заўвагу ўпаўнаважаны. — Не паложана. Армія!

Адзін і другі хітнулі галовамі.

— Скажыце, а што вы слышалі пра камянецкія бумагі? Пра архіў?

— Пра які архіў? — акругліў свае нерухома-дрымучыя вочы Свісціян.

«Значыць, не чуў», — падумаў Афінагенаў, а ўголас сказаў:

— Гэта дакументы савецкіх установ. Было б дрэнна, калі б імі пакарысталіся немцы. Нада было б іх атыскаць…

— Будзем гэта мець на ўвазе, таварыш упаўнаважаны! — запэўніў Свісціян. — Калі што пачуем, дык абавязкова даложым.

Назаўтра ўпаўнаважаны пайшоў разам з аховай у адваротны шлях.

— Трэба ўзмацніць казарменны рэжым! — параіў ён напаследак.

Перад гэтым дапамог камандаванню здзейсніць неабходныя арганізацыйныя захады. Атрад раздзялілі на ўзводы. Партызанам загадана было прышыць да шапак чырвоныя лентачкі.

— За вамі, — удакладніў упаўнаважаны, — замацоўваецца тэрыторыя — Камянецкі і Высокаўскі раёны. Хаця, канечна, біць фрыца нада паўсюды. Біць і весці дзённік баявых дзеянняў. Прыйдзе час — спатрэбіцца.

— Гэта зразумела, — адгукнуўся Калеснікаў.

— Дык вось, таварышы, цяпер мы атрад імя Ушакова, — сказаў Косця, зацягнуўшыся цыгаркай.

## VIII

Пацы, Якаў Арыстархавіч і Амброжый, і сапраўды, як сказаў Хрысан, апынуліся ў Высокім, у каталажцы. Сядзелі арыштаваныя ў падвале таго будынка, у якім раней месцілася «энкавэдэ», а яшчэ раней, «пры Польшчы», знаходзіўся «пастарунак» — паліцэйскі ўчастак. Мірык часта спатыкацца з бацькам і дзядзькам не мог, не дазвалялі справы, бо займаўся сваім магазінам у Камянцы, і перадачы вазіў ім Васіль.

Васіль згадзіўся, што куму і Амброжыю сапраўды трэба было дапамагчы. З кожным можа здарыцца. Нядаўна і на Васіля нехта быў накляпаў, быццам бы ён карову зарэзаў і ў Берасць вазіў прадаваць. Паклёпы, але ледзь адкараскаўся. Наехала паліцыі чалавек з пятнаццаць, учынілі допыт, але карова стаяла на месцы ў сваім хлевушку. Святар айцец Клаўдзій, які жыў непадалёк, ля царквы, пацвердзіў, што карова ў Платонавых адна.

Была якраз субота. Васіль уздзеў на плечы свой палаплены кажушок, насунуў на галаву кепку. Развітаўся з Просяй. Запрог каня і праз Дзям'янчыцы падаўся ў Альберцін, каб, узяўшы перадачу, адтуль ехаць у Высокае. Перадачы пакавалі Хвядося са Стэпай — Амброжыевай жонкай. У адзін кошык яны склалі ручнікі, бялізну, кавалак мыла, у другі — брус сала, буханку хлеба, пару клінкоў сыру і слоік мёду. Кошыкі Васіль размясціў на возе, у кельні, прыкрыў сенам. На ўсякі выпадак прыхапіў яшчэ пляшку першаку. Хай будзе. Цмокнуў на каня.

Мінала яшчэ адна зіма, саступаючы месца ранняй у гэтым годзе вясне. Хутка раставаў снег. Часцей стала паказвацца сонца, але ўсё яшчэ было халаднавата. Сапраўднага цяпла яшчэ не было. Днём нібы і цёпла, а к ночы бярэцца мароз.

Праехаў Дзям'янчыцы, дзям'янчыцкі мост. Паабапал дарогі — пералескі. На вяршынях дрэў, на галінах, што звінелі пад вясеннім ветрам, крычалі насатыя гракі, нешта ўзбуджана паміж сабой абмяркоўваючы. Зрэдку апускаліся на дол, на дарогу, шукалі спажывы, прахаджваліся, дзяўблі яшчэ цвёрдую зямлю. Вясна аднак, як заўсёды, рабіла сваю работу. Ад талага снегу ўспухлі ў лагчынах раўчукі, разлілася па ўсёй пойме Лосьна. Заліла верхаводкай паплавы, белым прывідам навіс над наваколлем імжысты туман.

Едучы, Васіль здалёк угледзеў, як нечакана, з лёту, плёхнуліся ў яшчэ халодную ваду качка з селязнем, які яе даганяў. Дагнаў, насеў, утапіў у вадзе, зрабіў сваю справу, і абое радасна закракталі, забілі па вадзе крыллямі.

Густа расквасіла прасёлкі, але паліцыя ўжо перасела на летні від транспарту — веласіпеды. Вось з-за павароту паказаўся ланцужок ратайчыцкіх бобікаў — гэтак называлі паліцаяў — на веласіпедах. Не зачапілі. Васіль ехаў не азіраючыся. У Ратайчыцах дарогу перабег ашалелы ад вясны певень з раскудлачаным хвастом. «Ну, можа якраз і пашанцуе», — падумаў Васіль, праводзячы яго вачыма і маючы на ўвазе мэту сваёй паездкі.

Пакуль даехаў да Высокага, добра-такі змогся. Дабраўся да цэнтра мястэчка, мінуў Крыжаўздзвіжанскую царкву, у якой, як сцвярджала мясцовае паданне, у верасні 1886 года ў багаслужэнні прымаў удзел імператар Аляксандр III з імператрыцай і дзецьмі. Стаяў поплеч з простымі людзьмі. Падарыў царкве сярэбраную чашу.

Нарэшце, спытаўшыся ў людзей, пад’ехаў да таго будынка, дзе ў падвале бавілі час Якаў Арыстархавіч і Амброжый. Стаяла варта — паліцай у чорнай куртцы з шэрым каўняром і нарукаўнікамі, з вінтоўкай. На рукаве — белая павязка. Дзверы зачыненыя на вялікі замок, якія вешаюць звычайна на свірнах. Васіль злез з воза, навязаў каню на галаву торбу і падышоў да вартавога, павітаўся.

— У чым справа? — буркнуў той.

— Для радні перадачу прывёз, жонка папрасіла. Паджылыя людзі, сядзяць…

— Ну і хай сядзяць! Можа, кампанію хочаш саставіць? Гэта можна. У нас гэта не купіць. Бясплатна!

Паліцай не хацеў браць перадачы, але, калі Васіль сунуў яму пляшку першаку, згадзіўся. Агледзеў, абшманаў абодва кошыкі, пакруціў у руках слоік з мёдам і зарагатаў:

— Мёд праслала, балдавешка дурная, а лыжку пакласці забыла! Чым той мёд даставаць — рукой? Хай слоік застаецца ў нас, а ты на наступны раз лыжку вязі!

Васіль кіўнуў галавой.

— А можна пабачыць іх? Дома ж спытаюць…

— Забаронена.

— Я ж у даўгу не застануся.

— Не дазваляецца, — стаяў на сваім паліцай. — Ты што?

— У наступны раз я з добрым падарункам прыеду.

— Ну, так і быць! Ад цябе, я бачу, не адвяжашся, — паліцай пакруціў галавой. — Раз-два — і выходзь! А не тое, дык і цябе там зачыню.

З гэтымі словамі ён, крэкчучы, сагнуўся, пакапаўся ў кішэнях курткі, дастаў ключ і сунуў яго ў замок. Замок заскрыгатаў, як бы незадаволены тым, што яго турбуюць, але паддаўся. Дзверы адчыніліся. Васіль з абодвума кошыкамі ўвайшоў следам за вартавым у памяшканне каталажкі. Паліцай такім жа чынам адамкнуў дзверы у падвал, у сутарэнне, дзе знаходзіліся вязні.

— Маё шанаванне! — здзівіўся кум, пазнаўшы ў падвальным сутонні Васіля.

Пазналі абодва — і Якаў Арыстархавіч, і Амброжый. Апроч іх, як не дзіўна, нікога болей не было.

— Адны мы, хоба на яго, тых у іншы падвал перасадзілі, — патлумачыў Якаў Арыстархавіч. — Народу тут шмат. А як жа гэта ты?

— Прывёз перадачу, — сказаў Васіль, падаючы аднаму і другому руку і абдымаючы вязняў. — Добры дзень!

Паліцай выйшаў.

— Ну, як вы тут?

— Сядзім. — У роце Якава Арыстархавіча сумна паблісквала жалезная фікса.

Васіль паспачуваў і куму, і Амброжыю. Звычайна — і ўлетку, і зімой — чырвонашчокія, цяпер яны выглядалі бледнымі і паніклымі. Страціла былы бляск і нібы схуднела кумава лысіна, скура здавалася сухой і нацягнутай. Непрывычна было бачыць Якава Арыстархавіча без капелюша і без той амбітнасці, якая звычайна была ўласцівая куму. Амброжый маўчаў, чакаючы, можа, што скажа брат, а Якаў Арыстархавіч прамовіў, уздыхнуўшы:

— Надта доўга, хоба на яго, цягнецца дзень.

— І дзень, і ноч, — дадаў Амброжый, які пакутаваў у гэтым сутарэнні, відаць, больш, чым брат. У аднаго і другога вакол вачэй цёмныя кругі.

— Раніцай на фізкультуру выганяюць. Рукамі махаем, раз з пятнаццаць прысесці трэба, устаць, зноў прысесці, — паведаміў кум. — Муштруюць.

— Муштруюць! — пацвердзіў Амброжый.

Васіль спрабаваў суцешыць іх і падтрымаць:

— Не перажывайце дужа, усё будзе добра! — падбадзёрваў ён.

Браты слухалі моўчкі.

Падлога ў падвале цэментавая, але заслана саломай.

— Я Амброжыю кажу, — Якаў Арыстархавіч глянуў на брата, — гэта, хоба на яго, яшчэ не турма. Вось у савецкай ты б пасядзеў!

— Але ж і тут не мёд, — азваўся Амброжый. — Каву даюць, дык не дай бог!

— Э, хоба, тыя немцы былі лепшыя, — прыцмокнуў языком Якаў Арыстархавіч. — А гэтыя, як і Саветы, баландай кормяць. Баландай!

Вязні пачалі корпацца ў кошыках, даставаць адтуль тое, што там было: хлеб, сала, сыр.

— Бачыш, а мэду не здагадалася пакласці! — з дакорам пахітаў галавою Якаў Арыстархавіч.

— Здагадалася, — супакоіў кума Васіль, — толькі той, — ён кіўнуў на дзверы, — таксама мэд упадабаў.

Якаў Арыстархавіч усё зразумеў.

— Ну, а як там дома? — пацікавіўся Амброжый. Ён шырока адкрыў вочы і наморшчыў пукаты лоб. — Як Стэпа?

— За вас перажываюць — і ваша жонка, Стэпа, і Хвядося Палікратаўна. Прасілі распытаць, як і што. Спачуваюць і шкадуюць надта. Пыталіся, што яшчэ перадаць.

— Мы з Амброжыем за гаспадарку перажываем, — захваляваўся Якаў Арыстархавіч, пачухаўшы патыліцу. — Ужо ж вясна, хоба на яго, ужо ж і сеяць трэба будзе, і садзіць. Як там пагода?

— Ну, яшчэ халаднавата, але ўжо на цяпло пайшло.

— Ну, вядома, вясна. Калі на Юр’я пагода, то на грэчку ўрода, — успомніў Якаў Арыстархавіч старую прымаўку. — Чарэшні яшчэ не цвітуць?

— Яшчэ не.

— Рана.

— А можа выпусцяць? — зірнуў на брата Амброжый. — Ужо ж мы той кантынгент сплацілі. На тым тыдні мне бацька сніўся, дык пацярпіце, кажа, хутка выпусцяць.

Амброжый верыў у сны.

— А як там пчолы? — зноў спытаў кум. — Ці пакінулі ўжо калоды?

— Гэтага, на жаль, не ведаю, не было калі пацікавіцца.

— Калі лаза зацвіла, то яны ўжо там! — упэўнена сказаў Амброжый.

Якаў Арыстархавіч паціснуў плячыма і, памаўчаўшы, сказаў:

— Ты, Вася, скажы нашым, Хвядосі маёй і Стэпе, каб сеяць з Шаліч людзей наймалі. Там людзі надзейныя, не тое што бранаўцы. Толькі і думаюць, хоба на іх, каб Пацам што дрэннае ўчыніць. Суседзі называецца! Каб маглі, у лыжцы вады ўтапілі б.

— А ў вас там, у Прусцы, што новага? — спытаў Амброжый. — Як Лявон?

— Прывітанне перадае.

— Дзякуй, што не забыў.

Дзверы адчыніліся, зазірнуў паліцай.

— Ну?

Васіль пачаў развітвацца, забраў пустыя кошыкі.

— Скажы Стэпе, — папрасіў Амброжый, чухаючы бок, — каб у наступны раз кіслага малака гладышку наліла.

— Хай праснакоў напякуць! — пажадаў Якаў Арыстархавіч.

Паліцай, калі Васіль выйшаў, сказаў:

— У наступны раз, калі прыедзеш, дык можа хто іншы будзе стаяць, тады Банэдыка спытай. Мяне паклічуць.

У Альбярціне сустрэлі Стэпа з Хвядосяй. Кармілі на падворку курэй, якія, разам з пеўнем, мітусліва клявалі насыпанае ў карытцы зерне. Побач чакалі спажывы вераб'і, нецярпліва скачучы і фыркаючы крыллямі.

— Ці хоць пагаварылі? — спытала цельпукаватая Стэпа, убачыўшы Васіля і выціраючы хусцінаю вочы.

— Трохі пагаварылі.

— Ну і як ім там?

— Сумуюць, але духам, здаецца, не падаюць. Казалі, каб сеяць з Шаліч наймалі.

— У Шалічах людзі лепшыя, — згадзілася Хвядося.

— А калі ж іх выпусцяць? — турбавалася Стэпа. — Ужо ж колькі часу сядзяць.

— Тут каб Мірык якія захады ўжыў, — падказаў Васіль. — У яго знаёмствы…

— Ну ўжо будзем казаць Мірыку, хай нешта робіць.

— Каб хоць добра ўсё было, — уздыхала Хвядося.

У другі раз Васіль прывёз прадукты і пару лыжак. Сваё атрымаў і Банэдык, якога паклікалі яго калегі.

Чарговую перадачу меўся адвезці на наступны тыдзень, у сераду. Аднак на гэты раз адведаць кума не атрымалася: у ноч з аўторка на сераду заявіўся Свісціян. Прыйшоў апоўначы, разам з Маркелам Божыкам. Абое ў кажушках з паднятымі каўнярамі і ў насунутых на самыя бровы цёплых шапках, нібы вярнулася нядаўняя зіма. У аднаго і другога на нагах хромавыя боты са скрыпам. Пры зброі, у руках вінтоўкі, каля пояса — гранаты з доўгімі жоўтымі тронкамі. На тварах шчацінне — быццам тыдзень не галіліся.

Пасярэдзіне хаты вісела прывязаная да бэлькі лазовая калыска. Прося хуценька апранулася, запаліла лямпу, зірнула ў калыску, у якой спаў малы Лёнік.

— Святла не запальвай! — накінуўся на яе Маркел.

— Ну што, падлец! — яшчэ ў сенях загудзеў Свісціян. — Я ваюю за цябе, а ты тут з бабаю прыгрэўся!

Начныя госці прайшлі ў хату, Свісціян сеў на лаву ля сцяны, паклаў на калені сваю СВТ, агледзеў з-пад ілба хату. Маркел стаў побач, хапатліва зашморгаў сваім мясістым, прыплюснутым носам, нібы абмацваў паветра.

— Ну, што стаіш? — Свісціян зірнуў на Васіля. — Давай што пажраць!

Прося хуценька распаліла ў печы, нарэзала сала і, стоячы ля пліты, стала смажыць яечню. Не марудзячы, госці падступіліся да стала, з грукатам паклалі на яго зброю і самі селі з абодвух бакоў за стол. Доўга чакаць не давялося. Неўзабаве яечня была гатова, і гаспадыня паставіла на стол, побач са зброяй, нагрэтую скавараду. Васіль накроіў хлеба.

— Гарэлку стаў! — зірнуў на яго Свісціян, нібы ўспомніўшы нешта важнае. Мяркуючы па ўсім, ён быў настроены надта рашуча.

— Хлопцы, няма.

— І ты мне, ядрона вош, такое кажаш? Няма?! З-пад зямлі дастань! Калі я прыйшоў, з-пад зямлі дастань!

— Дзе ж ты яе дастанеш? — услых разважыў Васіль і паскроб патыліцу. — Хіба, можа, да айчыма збегаць? Збегаю! Я хутка! — ён падняўся, каб ісці да бацькоў.

— Сядзь! — Свісціян так грукнуў кулаком па стале, што падскочыла скаварада. — Бегчы сабраўся. Сядзь і ні з месца! Бо яшчэ невядома, куды ты пабяжыш…

— Не гарачыся, — стрымаў сябра Маркел.

У калысцы прачнуўся і заплакаў Лёнік, і Прося ўзяла яго на рукі, прытуліла да сябе.

— Пялюшкі падай! — папрасіла Васіля.

Згаладнелы Маркел ужо ўплятаў яечню, Свісціян зірнуў на яго з пагардай і таксама пачаў есці. Відаць было, як сутаргава рухаўся яго кадык, заганяючы хлеб з яечняй у страўнік.

— А за што табе зямлю далі? — спытаў ён, не глянуўшы на Васіля. — Служыш?

— Не.

— За зямлю, што атрымаў ад немцаў, ты мне аддзельна адкажаш. Што?! Страшны я? Часам я сам сабе бываю страшны! У мяне, каб ты ведаў, тры душы: адна ў боце, другая ў жываце, трэцяя па свеце ходзіць і ўсялякіх нягоднікаў са свету зводзіць.

Стала ціха. Чутно было толькі, як госці шкраблі лыжкамі ў скаварадзе.

— Кажух маеш? — раптам спытаў Свісціян, адарваўшыся на імгненне ад скаварады. — Ну? Паглядзі мне ў вочы!

Васіль маўчаў.

— Каб у цябе быў так дух, як у яго ёсць кажух! — няўдала пажартаваў Маркел.

Прося ўсё яшчэ стаяла ля пліты, трымаючы на руках малога.

— Які ў яго кажух! — азвалася яна. — Латка на латцы.

Госці між тым наталілі голад, падсілкаваліся, пабралі са стала зброю, і Свісціян загадаў гаспадару:

— Адчыняй камору і лямпу нясі!

Васіль успомніў Афінагенава і хацеў прыгразіць начным візіцёрам, што пра ўсё даложыць яму, але адумаўся, вырашыў гэтага не рабіць, бо гэта азначала б правал. Афінагенаў такога б не ўхваліў. Ён цяжка ўздыхнуў і праз сені накіраваўся ў камору. Прося паклала ў калыску малога, які збольшага супакоіўся, зняла з дрота лямпу і пайшла следам за ім. Лямпа калацілася ў яе руках, і Свісціян зняважлівым рухам пераняў яе ад Просі і, калі яны пераступілі парог каморы, падняў вышэй. Цемень рассунулася па кутках, і цяпер можна было ўбачыць, што знаходзілася ў гэтым запаветным памяшканні сялянскай хаты. Свісціян агледзеўся па баках, і першым, на чым спыніліся яго вочы, быў касцюм, што вісеў на жэрдцы, акрыты старой газецінай. Гэта быў вясельны касцюм Васіля, той самы, чорны ў палосачку, у якім ён колькі гадоў назад — хутка бяжыць час — вянчаўся.

— Ану пакажы! — Свісціян яшчэ вышэй прыўзняў лямпу.

Гаспадар, нічога не кажучы, зняў касцюм з вешалкі, падняў на выцягнутай руцэ, перадаў Свісціяну. Той аддаў лямпу Маркелу, пакруціў адзежыну ў руках, агледзеў.

— Ну, бяру! — паблажліва, быццам яго прасілі, а ён не надта хацеў, азваўся начны госць. — А раптам спатрэбіцца…

— Спатрэбіцца! — упэўнена пацвердзіў Маркел, які стаяў крыху ззаду.

— Што яшчэ? — працягваў свой пошук Свісціян, азіраючыся навокал.

— А ў сундуку што? — пацікавіўся Маркел, кіўнуўшы на куфар, што стаяў пры сцяне, і крыва пасміхнуўся.

— Адчыняй! — загадаў Свісціян.

— Золата ў нас няма, — запярэчыла гаспадыня.

— Адчыняй!

Прося дастала з-пад куфара ключ, адамкнула замок, падняла вечка. Маркел выцягнуў руку з лямпай, а сябар нагнуўся над куфрам.

— Што гэта? Палатно? — у куфары ляжаў сувой кужэльнага палатна, і Свісціянаў позірк спыніўся на ім. — Маркел, забірай! Не збяднеюць!

Маркел сунуў лямпу Васілю, зграб сувой і кінуў туды, дзе ляжаў касцюм. Забралі бялізну, якая была, — пару сарочак, споднікі. У прыскрынку, збоку, ляжала калода карт — звычайных, якімі гуляюць у «дурня», Свісціян зграбастаў карты і сунуў у кішэнь.

— А карты нашто? — здзівілася Прося.

— А што — вам толькі іграць? — напудзіўся на гаспадыню Маркел. — Без карт у лесе як без рук.

Побач з картамі ляжаў гальштук, куплены Васілём яшчэ да вайны, калі ён праходзіў курсы паштовых работнікаў у Брэсце.

— А гальштук не будзеце браць? — не ўтрымалася, спытала Прося. У яе голасе прагучала прытоеная насмешка.

Свісціян адчуў гэта і палічыў, што тут закрануты яго гонар.

— Што-о? — вызверыўся ён на маладзіцу, якая пасмела яму пярэчыць ды яшчэ і насміхацца. — Гальштук, ліха яго матары, пакідаю вам, насіце! На здароўе, калі падабаецца!

На ўбітым у сцяну цвічку вісеў чорны парасон, які Прося даўно хацела падарыць Амеліі і чакала адпаведнага выпадку. Свісціян і раз, і другі пазіраў на яго і нарэшце зняў, перадаў Маркелу.

— Ой, — уздыхнула Прося, — дзе тваё, Свісціянка, сумленне?

На гэтае пытанне Свісціян, як ні дзіўна, не пакрыўдзіўся, а толькі буркнуў:

— У лесе засталося.

Рэчы, якія адабралі, загарнулі ў вялікую хустку-шаляноўку. Маркел закінуў вузел за спіну, і яны пакінулі камору.

— А пра запалкі забыў? — напомніў ён сябру.

— Ага! — схамянуўся Свісціян, матлянуўшы галавой. — Запалкі трэба! Дзе запалкі?

Прося ўзяла і працягнула яму пачак запалак, які ляжаў у запечку:

— Апошнія.

— Апошняя ў папа жонка, — крыва пасміхнуўся Маркел. — А партсігар?

— А дзе я яго табе вазьму! — у голасе Васіля пачулася абурэнне.

— Але ж ты і казёл упарты — пахітаў галавою Свісціян.

— І не сорамна табе? — напудзіўся на Васіля Маркел, шморгнуўшы прыплюснутым носам. — Эх, людзі…

— Усім заставацца на месцы! Да раніцы! — выразна папярэдзіў Свісціян. — І нікому ні слова! Калі што якое — палічымся! Абяцаю!

Васіль і Прося стаялі, нібы ў чымсьці былі вінаватыя, не гаворачы ні слова.

— Глядзі, а то зраблю халэмус! — дадаў Маркел, звяртаючыся да Васіля. — Мая справа папярэдзіць!

Не зачыніўшы дзверы, яны вываліліся з хаты і, не разбіраючы дарогі, пасунуліся за царкву, у бок Лосьны. Да раніцы было яшчэ далёка.

— Гэты чалавек краю не знае, — прамовіў Васіль, калі начныя госці пайшлі і ў хаце ізноў усталявалася цішыня. «І нікому не паскардзішся, — падумаў ён, — Афінагенаў даўно ўжо не прыходзіць…»

— Абодва жорсткія і няўмольныя, — апамятаўшыся, адгукнулася Прося. — Як з апраметнай выскачылі.

— Такі цяперашні свет.

Везці перадачу Якаву Арыстархавічу і Амброжыю ўжо не давялося. Патрымаўшы яшчэ з тыдзень у тым падвале, іх, на здзіўленне многіх, выпусцілі. Казалі, што тут пастараўся Мірык — выкупіў.

Адносна начнога візіту Свісціяна з Маркелам Васіль з цягам часу даведаўся, што тут «дапамаглі» свае — навялі Хвядзюшка з Пахолкам…

## IX

Агрэсіўнасць акупантаў не спыніць было і не ўтаймаваць, і яна не ведала межаў. Дабраліся нарэшце і да царкоўных званоў. З Прускаўскай царквы звон здымалі ў сярэдзіне траўня. Вусны загад прынёс з Ратайчыцаў Хрысан, якому гэты загад, таксама вусна, давяла гмінная адміністрацыя.

— Як сабе хочаце, — сказаў ён айцу Клаўдзію і ўсяму складу царкоўнага савета, які сабраўся з гэтай нагоды, — мая справа сказаць, давесці да вашага ведама, а вы ўжо як хочаце. Я толькі адно ведаю, што немцы любяць парадак, любяць, каб загады выконваліся. Яны такую прывычку маюць.

Айцу Клаўдзію і яго савету нічога не заставалася, як прыняць загад улад да выканання. З навакольных вёсак прускаўскага прыходу склікалі мужчын. Самых моцных, бо звон цяжкі, пудоў пад пяцьдзясят. Антон Курыца з суседняй Выгнанкі даў таўшчэзную канапляную вяроўку, якая ў яго — усе ведалі — была. Такая нізашто не парвецца. Моцная і цяжкая. Нёс вяроўку Карніла. Неймавернай сілы чалавек — падковы разгінаў, а з жалезнай качаргі абаранак мог звязаць, воз сена цягнуў, узяўшыся за аглоблі. І выгляд меў адпаведны: рост пад два метры, плечы сажнёвыя і кулак як збанок. З ім быў Іван Максімук — Лявонаў швагер. Прыйшлі свае — Оргій Відэрка (ён быў вартаўніком пры царкве), Павал Гальяш з сынам Ляксандрам, Антон Давыдзюк, Міхаль Тупчык, Цімоша Хлябіч, Лявон Кужаль. Прыджгаў на кастылях Фэдар-японец.

З маладзейшых былі Оргій Ламака, Ахрэм Чапёрка, Васіль Платонаў, Сяргей Сталетнік, Апанас Хомка, Барыс Макацёр і іншыя.

З Бабіч з’явіліся дапамагчы Зміцер Зуб з сынам Колем. Зміцер зняў шапку, перахрысціўся, пашкроб пасівелую чупрыну. Да іх далучыўся Хартон з Браналвіч — другі Лявонаў швагер.

З Бучамля прыбег Мікалай Кузюсік, маленькі, метр з шапкай, але з работай упраўны.

Паклікалі Максіма Замагільнага з Зіňкоў — Маркавага сына. Сам стагадовы Марка — былы вядомы на ўсю акругу асілак — ужо колькі гадоў сядзеў на печы і мала цікавіўся тым, што адбывалася ў свеце. Прыйшоў сын Максім. Чалавек не слабы, але бацькавай сілы не меў. І апрануты інакш. Бацька хадзіў у палатнянай адзежы, крамнога не прызнаваў, а абутку ўвогуле не насіў, зімой і летам — босы. Максім — у мультанавай кашулі, на нагах боты.

З неба, па якім беглі белыя баранчыкі хмарак, ні пра што не ведаючы, усміхалася сонца. У паветры імкліва лёталі стрыжы, а сярод мужчын мітусіўся Гамон, махаючы рукамі і даючы нейкія парады. Калісьці Гамон — і ўсе

гэта ведалі — абвясціў сябе бязбожнікам, але цяпер, відаць, перагледзеў асновы свайго светапогляду і стаў наведваць царкву. Гэтак можна было б сказаць не толькі пра аднаго Гамона. У вайну людзі гарнуліся да царквы, узрастала колькасць веруючых. Царква збліжала сваіх наведвальнікаў, рабіла іх як бы родзічамі, сваякамі.

Буяла вясна, і ўжо нават аціхала ў сваім буянні, перадаючы ўладу лету. Адцвілі сады, густа зарунелі і пайшлі ў рост азімыя. Усё наваколле — куды ні глянь — патанала ў зеляніне. За царквой бялела поле з грэчкай, а ў паповым садзе на ўсе лады шчабяталі птушкі. Царква абнесена з усіх чатырох бакоў каменнай агарожай і атулена густой засенню дрэў: высозныя ліпы, клёны, дубы. З захаду, з параднага ўваходу, — бярозы, ясені і рабіны. На вершалінах ліп крычалі, абладжваючы месца жыхарства і нешта абмяркоўваючы, гракі. Пахла прэлай лістотай і нагрэтай карою. У той год надта распладзіліся божыя кароўкі — навокал іх было поўна: і на траве, і на дрэвах, і на каменнях царкоўнай агароджы.

— І нашто ён ім? — ніяк не мог даўмецца Кузюсік.

— Хутчэй за ўсё, у сябе хочуць павесіць, у Ратайчыцах, каб народ склікаць, — дзяліўся сваімі здагадкамі Гамон. — Бом! І ўсе збегліся.

— Гэта яны абазліліся за тое, што царква, кажуць, стала на бок бальшавікоў, — сказаў Зміцер Зуб. — На пераплаўку бяруць.

Мужчыныківалі галовамі — Зміцерава версія была бліжэй да праўды.

Збоку за ўсім назіраў сумны айцец Клаўдзій, апрануты ў чорную святарскую расу, даўгавалосы, з няпышнай, рэдкай барадой. Ён, відаць, нічога патлумачыць не мог і сціпла паціскаў плячыма. Каля святара, трымаючы рукі за спінаю, знаходзіўся дзяк Лаўр Яўсеевіч. Ён таксама маўчаў.

Загрымеў ключамі Оргій Відэрка — царкоўны вартаўнік. Адчыніў царкву, і мужчыны зайшлі ў храм, каб брацца за справу. Тупчык прынёс драбіны. Увішны Кузюсік узабраўся на самы верх, увязаў вяроўку за вуха звана, азірнуўся. Са званіцы праз вузкія вокны адкрываўся від на наваколле. Відаць была рака Лосьна, Лявонава крухмальня ў зеляніне дрэў і алешніку і Пацаў фальварак, вакол якога цвілі чарэшні і вішні. Хата і пабудовы патаналі ў пышнай белай квецені. Кузюсік наверсе, раз ці два разгайдаўшы целяпень, бомкнуў у звон, і гук пакаціўся кудысьці за раку, якраз у напрамку Пацавага фальварка. Звон напамінаў аб вечным, пракаветным. Гучэў думна, працягла, мяккім пявучым басам. Вочы айца Клаўдзія наліліся слязьмі.

Але марудзіць не даводзілася. Следам за Кузюсікам на званіцу паднялося яшчэ некалькі чалавек. Падвесілі блок. Дзейнічалі асцярожна. На той вяроўцы, што пазычыў Антон Курыца, апусцілі звон з высокай званіцы ўніз, на гарышча.

— Пудоў пад сорак будзе! — прыкінуў Павал Гальяш.

— Сорак? Пяцьдзясят! — паправіў яго айцец Клаўдзій, падняўшы ўгору палец.

Потым усе разам сцягвалі з гарышча, па лесвіцы апусцілі ў бабінец, паставілі на падлогу. З бабінца выцягнулі на цвінтар і ў двор.

— Хлопцы, перакур трэба зрабіць, — загадным тонам прапанаваў Максім Замагільны, рукавом выцершы пот з ілба.

Яны закурылі. Частаваў заядлы курэц Оргій Відэрка. Ён жа і выкрасаў агонь, ад якога ўсе прыкурвалі.

Завіхаючыся каля звона, ніхто не заўважыў, як прыйшоў Кузёмка, які з'явіўся невядома адкуль. Ішоў, быццам кудысьці спяшаўся, папіраючыся ядлаўцовай кавенькай. Параўняўшыся з царквою, перахрысціўся. Падышоў

бліжэй і спыніўся паміж таполяў на дарожцы, што вяла да царквы. Стаяў, маўчаў, пра нешта, відаць, думаў, строга падціснуўшы вусны. Потым падышоў да мужчын, павітаўся, з кожным патрымаўся за руку. Боты, якія звычайна дзівілі сваім бляскам і дагледжанасцю, цяпер былі пакрытыя пылам і гразёю, і гаспадар нават не звяртаў на гэта ўвагі.

— Ну, што чуваць? — звярнуўся да Кузёмкі цікаўны Цімоша Хлябіч.

Над ставамі, у алешніку, звонка закувала зязюля.

— Нядаўна я такое бачыў!

— Што бачыў? — загаманілі іншыя, згледзеўшы, як з Кузёмкавых вачэй сачыліся слёзы.

— Ну, раскажы!

— Чулі? Лескі спалілі. Няма ўжо Лескаў. Адны коміны засталіся. Ой, кроў у жылах ледзянее…

Ад нечаканасці ўсе параскрывалі раты. Вочы Кузёмкі свяціліся жахам.

— Няўжо гэта праўда? — не паверыў Гамон. — Мусіць, змысліў.

— Хіба такое можа быць? — скептычна азваўся хтосьці ззаду.

Ніхто не хацеў верыць.

— Хай Бог крые! — спалохана прамовіў Павал Гальяш і перахрысціўся.

— Усё ў руцэ Божай, — сказаў айцец Клаўдзій і таксама перахрысціўся. — Хлябі разверзліся на зямлі…

Зноў, усхліпваючы, загаманіў Кузёмка:

— Дзвесце шаснаццаць чалавек! Старых, малых, усіх! А вёску спалілі. Падпалілі ўсе хаты і будынкі, нават платы і ўсялякія іншыя пабудовы. Сэрца крывёю абліваецца. Цяпер там адны толькі буслы засталіся і кружацца, кружацца над пажарышчам… — Кузёмка ўзяўся абедзвюма рукамі за галаву, нібы баяўся, што яна ў яго адваліцца. — Не вёска цяпер Лескі, а знак бяды. Да гэтага часу пахне дымам. Хадзілі з агнём і падпальвалі. І хаты, і хлявы, і клуні. Ой, ніхто ўжо мяне там не сустрэне…

— А людзей куды? — не зразумеў Міхаль Тупчык.

— Пабілі.

Жудасна было пра гэта чуць.

— Ой, людкове, такога яшчэ не было! — з жахам у голасе, што не пасавала яго мажной постаці асілка, азваўся Карніла.

— Вайна вуголле сваё расчырваніла, — ціха прамовіў Лявон.

— За што ж іх так? — няўцямна запытаў Ахрэм Чапёрка.

— Партызанаў прытулілі, — шморгнуўшы носам, уздыхнуў Кузёмка. — Добрыя былі людзі…

Вестка пра жудасную трагедыю Лескаў разляцелася, з вуснаў у вусны, па ўсім наваколлі. А гісторыя была такая. У вёсцы спыніліся страшэнна стомленыя партызаны. Гэтае месца яны выкарыстоўвалі для адпачынку ўжо не раз, лескаўцы сустракалі іх, як сваіх, і немцы пра ўсё гэта ведалі. Тут яны партызан, можна сказаць, і чакалі. Высачыўшы, пачалі акружаць, але партызанам удалося ўцячы. Папярэдзілі сувязныя з мясцовых людзей. Калі б яны гэтага не зрабілі, то партызанам, як потым казалі, былі б кранты, — пастоў яны не выставілі, хацелася спаць. Уцякаючы, партызаны адстрэльваліся, спрабавалі заняць абарону на ўзлеску каля вёскі, але сілы былі не роўныя, давялося адступіць. Пры гэтым загінулі два карнікі.

Арыфметыка ў захопнікаў была простая: за аднаго забітага немца расстрэльвалі сто чалавек мясцовага насельніцтва. І на гэты раз, не доўга думаючы, раз'юшаныя гітлераўцы пачалі сваю крывавую расправу над безабароннымі Лескамі. У два ланцугі акружылі вёску. Бралася ўжо на дзень. Узыходзіла

іскрыстае сонца, песцячы і лагодзячы зямлю сваімі жыццядайнымі промнямі. У празрыстым ранішнім паветры ўзнімаўся над комінамі дым, жанчыны ішлі да калодзежаў за вадой.

У вёску ўвайшлі карнікі. У цішыні рэзка ўдарыла:

— Gestangen! Hende hoch![1]

Людзей пачалі зганяць у адно месца.

— Бандытэндорф![2] — чулася сярод немцаў.

— Хутчэй! Хутчэй! — падганялі паліцаі. Дзейнічалі прыкладамі і гумовымі палкамі.

Адзін з маладых хлапцоў кінуўся ўцякаць. Моцны, не зломак, ён рвануўся з такой сілай, што трэснула на плячах сарочка. За ім кінуўся карнік. Дагнаўшы, злаўчыўся і з усяе сілы ўдарыў прыкладам па галаве. Хлопец упаў, але тут жа падхапіўся і панёсся яшчэ хутчэй. Гэта яшчэ больш раз'юшыла гітлераўцаў і іх памагатых — паліцаяў. Яны нацкавалі сабак. Вялізная аўчарка гнала перад сабой хлопца, час ад часу кідалася яму на плечы і хапала зубамі за карак. Хлопец падаў і тут жа ўсхопліваўся, бараніўся рукамі, каб хоць як адчапіцца ад аўчаркі, а тая рвала, шкуматала на ім вопратку і зноў кідала на зямлю. Скрываўленага хлопца ізноў штурхнулі ў натоўп.

Людзей сагналі на выгане, дзвесце шаснаццаць чалавек, і расстралялі. Потым пайшлі па хатах — рабаваць пустыя дамы. А калі і гэтую справу скончылі, вёску падпалілі. Падыходзілі да хаты, выбівалі шкло ў вокнах, аблівалі газаю сцены, і хата ўспыхвала і гарэла, як свечка. У Лесках налічвалася пяцьдзясят чатыры двары — згарэлі ўсе.

Здарылася гэта 4 мая 1943 года. Вёска Лескі перастала існаваць, быццам яе ніколі і не было. Адзінока рыпеў пад ветрам калодзежны журавель, што стаяў калісьці пасярэдзіне вёскі. Ён і цяпер стаяў, але абгарэлы і без кубла на вочапе. Ды яшчэ там-сям на вуліцы лавачкі засталіся, тыя, што знаходзіліся воддаль ад платоў. А навокал ні душы.

Але ж, усе ведалі, яна была, існавала — гэтая непакорлівая на Камянеччыне вёска, якая вечна чыніла супраціў усім уладам. Пры цары лескаўцы моцна канфліктавалі з мясцовым панам з-за зямлі. Пры Польшчы яны, вярнуўшыся пасля бежанства з Расіі, цэлай калонай, з чырвонымі сцягамі, хадзілі на першамайскія дэманстрацыі ў Камянец, змагаліся за родную мову, за свае правы. А цяпер вось прыхінулі партызанаў…

— Цяпер усё можа стацца! — сказаў Кузёмка, нібы падводзячы вынік свайму аповеду. — Чалавечае жыццё — нуль без палачкі. Сёння жывеш, а заўтра — хто яго ведае.

— Людзі гінуць як мухі, — згадзіўся з ім Ахрэм Чапёрка.

— Дзіва што! — лыпнуў вачыма Гамон.

— Гэта Гітлер і Сталін рахункі зводзяць, а мы церпім, — адчуўшы агульны настрой, патлумачыў Сяргей Сталетнік.

— Хай Бог крые! — азваўся Зміцер Зуб.

«Хутка, мусіць, усім канец», — падумаў Лявон і машынальна правёў далонню па ілбе, прыгладзіў пасівелую пасмачку, зірнуў на агароджу: па абымшэлых каменнях, чагосьці шукаючы, поўзалі яшчэ рэдкія божыя кароўкі.

— Я, аднака, пайду, — сказаў Кузёмка, нібы просячы прабачэння за тое, што даводзіцца развітвацца, і за тое, што ён распавёў.

---

[1] — Уставайце! Рукі ўверх! *(ням.)*

[2] — Бандыцкая вёска! *(ням.)*

Мужчыны яшчэ колькі часу пастаялі моўчкі, але доўга стаяць не выпадала. Тым часам падагналі воз, запрэжаны параю коней. Трэба было грузіць звон. Яго падважылі і ззаду ўскацілі на воз. Тут паказаў сваю незвычайную сілу Карніла, упёрся і паддаў плячом так, што гара металу паслухмяна пасунулася на сярэдзіну воза.

— Але ж і мацак! — пахваліў Карнілу Лявон.

— Сіла! — падхапілі іншыя.

У Ратайчыцы, а адтуль на станцыю ў Лышчыцы звон павезлі Гамон з Тупчыкам.

На званіцы ў царкве замест звона павесілі кавалак рэйкі. Густы, меладычны царкоўны звон змяніўся сухім, жалезным, бразгатлівым і звяглівым, бомканнем.

А праз колькі дзён на дошцы аб'яў насупраць хаты Мікіты Галёнкі Хрысан прымацаваў паперу:

**АБВЕСТКА**

*У апошнім часе ў Камянецкім павеце павялічваюцца напады бандытаў на немцаў з Рэйху і мясцовае насельніцтва.*

*1) **13.3.1943 г.** на шашы Белавежа—Камянец бандытамі абстраляна паштовая машына. Забіты нямецкія ваеннаслужачыя: унтэр-афіцэр, ефрэйтар, тэлефаністка і шафёр.*

*2) **29.3.1943 г.** забіты невядомымі злачынцамі немец з Рэйху Гуго Бэрг у часе выпаўнення сваёй вартаўнічай службы.*

*3) **17.4.1943 г.** непадалёк ад гміны Мікалаева, на хутары, забіты подступам возьнік амтскамісара.*

*4) **26.4.1943 г.** у часе праследавання бандытаў каля вёскі Лескі Камянецкага павету бандытамі забіты пяць вайсковых.*

*У адплату і для заспакаеньня Камянецкага павету было праведзена наступнае мерапрыемства:*

*Спалена за сувязь з бандытамі вёска Ліпна Камянецкага павету.*

*Спалена западозраная ў бандыцтве вёска Лескі Камянецкага павету, усе жыхары вёскі расстраляны.*

*З усёй строгасцю звяртаецца ўвага насельніцтва на тое, што нямецкія ўлады ў кожным выпадку будуць ахоўваць мірную і гатовую да супрацоўніцтва частку мясцовага насельніцтва, а супраць зачыншчыкаў неспакою і бандытаў будуць безаглядна выступаць. Далейшыя напады на немцаў з Рэйху і мясцовых жыхароў будуць мець у выніку найгастрэйшыя мерапрыемствы, асабліва супраць духовых правадыроў руху супроцьдзейнічаньня. Ува ўласным інтарэсе мясцовага насельніцтва ёсць зрабіць усё магчымае, каб перашкодзіць або абязшкодзіць падобных праступнікаў у выкананні іх злачынстваў.*

*Камянец, 5 чэрвеня 1943 г.*
*Камандор Паліцыі Бясьпечнасці і СД*
*па Камянецкаму павету*

Прускаўцы жылі ў неспакоі і трывогах. Паветра ўсё больш напаўнялася страхам — усеабдымным і атупляючым. Усе баяліся, і ні ў каго не было ўпэўненасці, што іх міне лёс Лескаў. Лёс Лескаў страшыў. Прусцы пакуль што шанцавала: з людзей ніхто не загінуў і вёска заставалася цэлай, некранутай.

— Гэта Бог нас абараніў!.. — гаварылі жанчыны. — Але што будзе далей?

Дадавала страху і варажбітка Амелія:

— Кажуць, Пруску будуць паліць, каб Саветам не пакінуць! — палохала яна. — Мне і карты тое ж паказваюць. Агонь! Навокал агонь бушуе!

— Ой, людкове-е! — заходзілася ад перапуду Пруска.

— Хай Бог крые! — жахаліся жанчыны, хоць у Амеліны прароцтвы і не надта верылі.

Нечакана ўзнікла думка. Хто падаў гэтую думку — паставіць каля прускаўскай царквы крыж, засталося невядомым, але яе падхапілі ўсе людзі-прыхаджане з навакольных вёсак. Савета, жонка Паўла Гальяша, выходзячы ў нядзелю з царквы і параіўшыся з іншымі жанчынамі, у тым ліку і з Фёклай, агучыла яе ўголас, каб пачулі ўсе:

— Людкове! Давайце паставім каля царквы крыж. Можа, ён як ад бяды абароніць…

Прапанову паставіць каля царквы, у межах царкоўнай агароджы, крыж ухваліў айцец Клаўдзій. Гэтак, сведчыць гісторыя, рабілі некалі, даўно, у праваслаўных брацтвах. Братчыкі ведалі, што па крыжы лягчэй і лепш узыходзяць дух і малітвы ў імкненні да Бога і вечнасці. Здараецца, што старыя традыцыі ажываюць, асабліва ў цяжкія часы. А гэта быў якраз такі час.

— І крыж, і ручнік на крыж трэба выткаць! — падхапілі Савеціны сяброўкі.

Але тут была адна ўмова. І драўляны крыж, і ільняны ручнік павінны быць гатовы за адну ноч. Пра гэту ўмову ведалі ўсе. Выбралі ноч з суботы на нядзелю. Размеркавалі абавязкі. Прызначылі брыгаду мужчын, якія павінны былі з вечара, як толькі зойдзе сонца, ехаць у лес.

Мужчыны павінны былі ехаць у лес, жанчыны — знайсці два-тры снапкі льну, прапусціць яго праз церніцу, абтрапаць, вычасаць, спрасці і тады ўжо выткаць на кроснах. І ўсё — за адну ноч.

Мужчыны паклікалі Карнілу — магла спатрэбіцца яго сіла. Разам з усімі паехаў і Лявон. Выбраліся ўжо прыцемкамі, на дзвюх падводах, з піламі і сякерамі.

На небе запаліліся першыя зоркі. Прыкінулі, што ехаць трэба ў Бярэзіну, там можна знайсці патрэбную сасну. Лявон ужо ведаў, якое дрэва можна было спусціць дзеля гэтай незвычайнай патрэбы, — тую прыгажуню-сасну, што на ўзгорку, каля варонкі ад снарада, дзе ён калісьці хаваў зброю і патроны. Потым усё гэта забраў Косця з хлопцамі, а сасна стаіць, яе ў мяшок не забярэш. Гэтую выносную, стройную сасну на ўскраіне Бярэзіны, адразу ж за прускаўскім полем, ведалі ўсе. Згадзіліся, што для дадзенага выпадку яна падыходзіць. Лепшай і не трэба. Праз якую гадзіну былі ўжо на месцы, каля прыгажуні. Спусціць такую не проста: высокая, а ў камлі і двое даросных не абхопяць. Доўга прымяркоўвалі, у які бок яна павінна паваліцца, і з таго боку найперш і падрэзалі. Потым, зрабіўшы сякерамі падруб, пілілі ўжо грунтоўна, каб паваліць. Дрэва доўга маўчала і рухнула нечакана, у адзін міг, з кароткім моцным трэскам, які перайшоў у стогн. Потым усё сцішылася. Адрэзалі вершаліну, паабсякалі галіны. Гамон з Цімошам пачалі ашчыкваць сучкі і сашморгваць з бервяна кару. Гамонава сякера цюкнула аб асколак.

— Эх, струмент вышчарбіў! — пашкадаваў ён, абмацваючы лязо.

— Нічога! Наточыш! — супакоіў яго Цімоша.

На перакладзіны спусцілі другую сасну — меншую, якая расла непадалёку, і ўсё пагрузілі на вазы, рассунуўшы, каб падоўжыць іх, пярэднія і заднія колы. Сырое дрэва — як волава, пагрузіць такі цяжар на калёсы не проста. Тут якраз і спатрэбілася Карнілава сіла. Усе завіхаліся каля танчэйшага канца,

а ён аберуч абхапіў у тарцы камель, узяў яго на пуп і, крэкнуўшы, узваліў на пярэднія колы (коней для зручнасці выпраглі). Праз расчыненую браму прывезлі да самай царквы. Айцец Аляксандр адвёў адпаведнае месца ля агароджы, у кутку, тут і меліся ставіць крыж.

Ноч надарылася цёмная, таму тут жа распалілі касцёр, каб працаваць пры яго святле. Бярвенні абчасалі. Павал дастаў з кастра галавешку і правёў ёю па доўгім шнуры, потым разам з Зубам шнуром адбівалі на абчасаных бярвеннях чорныя пісягі, па якіх рабілі акантоўку. Лявон выкалупаў яшчэ адзін асколак.

Крыж рабілі традыцыйны, шасціканцовы, на пяць метраў у вышыню, як той, на якім распялі Ісуса Хрыста. Ламака з Тупчыкам тым часам узяліся капаць ямку.

Да раніцы, на досвітку, крыж ужо стаяў. Белы, у ранішнім сутонні нагадваў чалавека, які зняў шапку і, расставіўшы рукі, разгублена пазіраў кудысьці перад сабой.

Не хапала ручніка, які меліся выткаць і павязаць на крыж жанчыны. Знайсці патрэбнае дрэва аказалася не цяжка, а дзе ўзяць хаця б снапок мінулагодняга льну ў канцы траўня, калі руплівыя гаспадыні ўправіліся з ім яшчэ зімою. Адшукаўся лён у Дзякрэты. Тлумачыла, што пераймалася іншымі справамі, а да льну не даходзілі рукі, і ён ляжаў у хляве, у кутку, чакаючы на прызначаны яму час. Жанчыны ўзрадавана хвалілі Дзякрэту, якая, выходзіць, нібы нават прадугледзела, што лён не трэба чапаць, бо ён можа яшчэ спатрэбіцца для важнай справы. Церніцу паставілі ў тым жа хляве, дзе ляжаў забыты лён, і хутка прапусцілі праз яе некалькі пакамечаных снапкоў. Адны, пры запаленай лямпе, церлі, другія трапалі, трэція часалі, чацвёртыя ладзілі калаўроты і кросны. Асабліва стараліся Савета і Ганна Бочка, але праца спорылася і ў іншых. Рабілі як ўтрапёныя. За кудзелі, запусціўшы пявучыя калаўроты, селі Прося з Гэлькай Відэрка ды яшчэ Шведава Люба. Астатнія, у тым ліку і Фёкла, рабілі аснову і ўток, намотвалі ніткі на цэўкі. Якасць прадзіва прыдзірліва правярала Амелія, якая таксама ўдзельнічала ў агульнай справе — давала парады. Жыла яна самотна і адасоблена, і ніхто да яе не меў справы, апроч хіба што камісара Люльке, якому была справа бадай што да ўсіх. Заявіўшыся неяк у Пруску, якую ён не пакідаў сваёй высокай начальніцкай увагай, камісар спыніў сваю брычку (не хапала бензіну і давялося перайсці на конскую цягу) каля Амелінай абсады. Тэрыторыя абсады нагадвала афрыканскія джунглі. Усё ажно да ганка зарасло пустазеллем, аграмаднымі — у чалавечы рост — буякамі і дзядоўнікам. Гэта і выклікала бурную рэакцыю камісара — цэлую навалу абурэння. Амелію выпаралі з хаты, і Люльке некалькі разоў з усёй сілы аперазӑў яе гумай, з якой ён не расставаўся і заўсёды меў пры сабе. Амелія пасля гэтага горка плакала, зачыніўшыся ў хаце, і ўспамінӑла бальшавікоў, якіх надта не любіла за тое, што так бесцырымонна ў 1939 годзе скасавалі ў Брэсце «Вілу шчасця», дзе яна служыла, і называла іх варварамі. Але нават бальшавікі не дазвалялі сабе такога! Цяпер яна ўзненавідзела Люльке з яго ўладай. Амелія спытала:

— Ці не занадта вузка?

— Не вузка, — адказала Ганна Бочка.

Аснову заклалі вузкую — як на ручнік. Ткала Фёкла, якая ў гэтай справе была адметнай майстрыхай. Праз гадзіну-другую атрымалася тонкае кужэльнае палатно. Ручнік быў ужо гатовы, заставалася толькі вышыць па канцах арнамент і аздобіць карункамі. Вышывалі Фядора з Хомкавай Волькай, а карункі прынесла жонка Фэдара-японца Паліксена.

Вешалі ручнік якраз калі ўзыходзіла сонца. Калі абвязалі вышытым ручнікам, на сонцы, крыж папрыгажэў, нават нібы павесялеў. Было ў ім нешта ўрачыстае і ўзнёслае, быццам уваскрэслі, аднавіліся даўнія ўніяцкія звычаі, той час.

У нядзелю, скончыўшы службу ў царкве, айцец Аляксандр асвяціў крыж, сказаўшы колькі павучальных слоў і шчодра пырснуўшы з крапідла свянцонай вадой. Шырокімі ўзмахамі абліў і крыж, і людзей, што стаялі навокал.

## X

Тое, што адбылося з Лескамі, моцна ўразіла не толькі мясцовае насельніцтва, але і саміх партызан, пакінуўшы ў душы непазбыўнае пачуццё віны. Немцы сталі націскаць, пайшлі аблава за аблаваю. Часта гарэлі вёскі. Услед за Лескамі згарэла Ліпна. Тая Ліпна, якую ўзімку наведалі Свісціян з Маркелам. Таксама палілі карнікі — пакаралі за сувязь з партызанамі. Як ні прасілі жанчыны не паліць іхняга паселішча — вёску пусцілі з ветрам. Жыхароў, праўда, пакінулі жывымі. За апошнія некалькі тыдняў Косцін атрад, цяпер атрад імя Ушакова, павялічыўся за кошт дзвюх-трох дробных партызанскіх груп, якія ўліліся ў яго. Атрад манеўраваў, заблытваў сляды. Ніколі так не было, каб яны не ведалі, што будзе далей. Яны разумелі, што вораг можа іх высачыць. Каб гэтага не здарылася, часцей мянялі месца стаянкі, аперацыі праводзілі ў розных населеных пунктах і на аддаленых дарогах, падтрымлівалі пастаянны кантакт з сувязнымі. Пра Лескі і пра Ліпну стараліся не ўспамінаць, але гэтае пачуццё гняло, гняло, мусіць, кожнага: «Гэта з-за нас. Не варта было б ублытваць мясцовае насельніцтва. З-за нас яму помсцяць…»

Прыпушчанская зона была і заставалася надта цяжкай для развіцця партызанскага руху, і зноў аднавіліся размовы пра тое, што, можа, усё ж такі варта прабірацца на ўсход. Такую гаворку завёў Віцька-масквіч у размове з Бокшам.

— Добра было б хаця б на нейкі час пакінуць гэты раён, прайсці да таварышаў, якія на ўсходзе, і дзейнічаць сумесна, разам партызаніць, — сказаў Віцька, ссунуўшы на патыліцу шапку і пацёршы далонню лоб. — Мне так здаецца.

— Дак слух пайшоў, — сказаў Бокша, зірнуўшы ўлева і ўправа, — што яны сюды прабіваюцца. Капуста іх вядзе. Я ад Свісціяна гэта чуў. «Вот, — кажа, — Капуста ідзе, ён цябе навучыць фіззарадку рабіць!»

— А хто такі Капуста?

— Генерал. У Белавежскую пушчу кіруецца. Цэлае злучэнне за сабой вядзе. Сіла!

— Дык вось насустрач ім і пайсці! А што?

Пра тое, каб падавацца на ўсход, у атрадзе пагаворвалі ўсё больш, і праз нейкі час гэта стала вядома камандаванню.

— Карнікі шалеюць, — пачаў на нарадзе Бeражняк. — У Высокім, каля базарнай плошчы, зноў дваіх акружэнцаў павесілі.

Косця спачатку маўчаў.

— Гэта так, а другое, што яны ўсё бліжэй круцяцца каля нашай стаянкі, — пасля хвіліннай развагі азваўся Мачалаў. — Давайце думаць, бо сувязныя даўно нас папярэджваюць. Так ці інакш, гэтыя мясціны давядзецца нам пакуль што пакінуць.

— А куды? Дзе нас чакаюць? — умяшаўся нарэшце ў размову камандзір. — Куды ісці і як ісці?

— У сваёй хаце і качарга маці, — нібы між іншым сказаў абачлівы Мурашка, які прысутнічаў на гэтай нарадзе. — Тут, пад пушчай, ёсць такая мясціна, Воўчае Багно называецца, дзе, калі туды зашыцца, ніхто не знойдзе.

— На ўсход трэба падавацца! — пераканаўча даводзіў Храбрых. — Там, на ўсходзе, цэлыя партызанскія зоны, дзе не немцы гаспадарамі, а савецкая ўлада.

— Там маюць сувязь з Вялікай зямлёй, — дадаў Мачалаў, а нас начальства зусім забыла.

— Гэта праўда, — згадзіўся Косця, — даўно ўжо Афінагенава не было. Ну, што ж, давайце з людзьмі пагаворым. Што людзі скажуць…

Сход сабралі на палянцы каля кухні. Косця як камандзір расказаў пра іхняе становішча і настроі, пра тое, што ёсць намеры рушыць на ўсход, за Ружаны, пад Івацэвічы, дзе знаходзіліся, па чутках, буйныя партызанскія сілы. Думкі падзяліліся. Адны былі за тое, каб падавацца на ўсход, другія, асабліва мясцовыя, такія як Барыс Смаляк, Свісціян з Маркелам, не надта жадалі пакідаць знаёмыя, абжытыя мясціны. Да іх далучыўся і Санька Растатуеў, якому не хацелася яшчэ больш аддаляцца ад Маняшы. Тут яшчэ была хоць якая надзея зрэдзь убачыцца. Нядаўна, вяртаючыся з-пад Высокага, ад «жалезкі», ён адвячоркам забег-такі ў Пруску да сваёй «курносенькай». Сустрэў яе ўжо познім вечарам на вуліцы, у дзявочым гурце, ад нечаканасці яна крыху пахіснулася. Ён адвёў убок, потым пайшлі за клуню. Маняша яго кахала. Казала: «Ніводнай хвіліны не было, каб я не марыла пра цябе». — «І я кахаю цябе, як і раней, а можа яшчэ больш!» — зашаптаў ён, абдымаючы і цалуючы пяшчотны вырыс яе вуснаў. — «Што, што ты сказаў? — перапытала яна. — Я не пачула». — У яе паглядзе адлюстравалася столькі пяшчоты і шкадобы, што яму стала не па сабе. — «А ці ўспамінаеш мяне?» — «Успамінаю, яшчэ як успамінаю! Гляну на бярозу і цябе ўспомню. Як мы пад бярозай стаялі!» — «Ну, як там табе, у лесе?» — «Па-ўсякаму. Я ж не адзін. З сябрамі. Разам не прападзём». П’яніў водар квітнеючай грушы, што вырасла за Шведавай клуняй, дзе яны стаялі. Распеліся, смела, без усякай засцярогі, салаўі, нібы падахвочваючы і яго, як здалося Саньку, і ўсё навокал да інтыму і блізкасці. «А ў вас, у лесе, яны спяваюць?» — запытала яна. — «Спяваюць, яшчэ як спяваюць!» — «І калі тая вайна скончыцца?» — «Хутка». — «Але ж усё можа здарыцца», — уздыхнула яна. — «Можа, — згадзіўся ён. — Ад мяне тут нічога не залежыць». — «Як так?» — «А так. Тут ужо як пашанцуе». Яны крыху памаўчалі, і ён спытаў: «А з другімі парнямі не круціш?» — «Ты што!» Ён зноў памкнуўся да яе, абняў, яны пацалаваліся, прыцiснуліся адно да аднаго. Мала заставалася часу, трэба было спяшацца. Маняша прынесла паўбулкі хлеба і кавалак сала. «Маім, папашы і мамашы, прывет перадавай! — папрасіў ён. — Асабіста не маю магчымасці». Яны развіталіся, і вось цяпер гэтыя мясціны трэба было пакідаць.

Пытанне абмяркоўвалі на сходзе.

— Ну, добра, — згадзіўся камандзір, — будзем галасаваць.

Большасць падняла рукі за тое, каб ісці на ўсход.

— Рызыкнём? — энергічна запытаў Косця.

— Рызыкнём, — быў адказ.

Адразу ж узяліся за нарыхтоўку сухароў. Незаменная рэч у партызанскім жыцці — сухары. Ёсць сухары — жыў партызан, няма — справы дрэнь, тады кладзі зубы на паліцу і падцягвай папругу. Голад даймаў неміласэрна. Скончыўся чэрвень, пачынаўся ліпень. У сялянскім жыцці гэта быў, магчыма, самы цяжкі, дажніўны перыяд. Мінулагодні плён — збожжа і бульба — ужо выдаткаваўся, а новы хлеб знаходзіўся яшчэ ў полі. Таму давялося наведацца

ў млыны — там заўсёды меўся пэўны запас мукі. Прыхапілі пару мяшкоў і аддалі ў бліжэйшыя вёскі гаспадыням, каб спяклі хлеб. Спечаны па партызанскім заказу хлеб — дзясяткі два боханаў — рэзалі тонкімі лустамі і сушылі на сонцы. Але лета 1943-га выдалася халаднаватым ды няўстойлівым, не хапіла сонца, каб сухары ўсохлі па-сапраўднаму. Вырашылі дасушыць іх па-дарозе, паклалі ў рэчмяшкі і на змярканні, ускінуўшы іх на плечы, рушылі ў дальні шлях. Перад гэтым на масласырзаводзе ў Макранах канфіскавалі некалькі скрынак галандскага сыру, які таксама ўзялі з сабою.

Ішлі ціха, мяккаю, украдліваю хадою. Перад адыходам пераабуліся, прасушылі анучы, паправілі адзенне і ўвесь рыштунак, адпачылі, пачысцілі зброю. Рухаліся няходжанымі ляснымі сцежкамі, абмінаючы дарогі, баяліся натрапіць на засаду. Мелі загад у агнявы кантакт не ўступаць, але калі што-якое надарыцца, дык хочаш не хочаш — уступіш, агрызнешся. Забалочаныя лугі чаргаваліся з нізіннымі асаковымі балотамі, лазнякі з трысняговымі зараснікамі.

Праз заслону цёмных хмар, што безупынку беглі, пабліскваў маладзік, там-сям мігалі прывідным святлом зоркі. Ужо некалькі дзён стаяла незвычайная гарачыня, прадчувалася навальніца. Калі адышліся ўжо на далёкую адлегласць ад стаянкі, стаў накрапваць дождж, які па часе гусцеў і ўзмацняўся. За хмарамі зніклі зоркі, бліснулі маланкі, загрымела. Пачаўся сапраўдны лівень, неба кроілі зыркія маланкі, дрыжэла, як ад артылерыйскіх выбухаў, зямля, а пад нагамі хлюпала вада. Ад ветру дрэвы трашчалі і ў кронах, і ў карэнні, але партызаны толькі дзякавалі такой непагодзе, бо ведалі, што ў такую ноч немцы не пакінуць сваіх гарнізонаў і ў засаду не палезуць. Можна ісці смела, усім разам, без вартавога авангарда.

Намоклая зямля ліпла да абутку, але на гэта ніхто не звяртаў увагі. Ішлі, спатыкаючыся аб карэнні і пні, што раз-пораз асвятляліся мігатлівымі споланамі бліскавіц, коўзаючыся на мінулагоднім апалым лісці, прымінаючы траву і высозную, у рост чалавека, крапіву, ад якой, калі не ўхіліцца, на руках ўскоквалі пухіры. За ноч прайшлі, мабыць, кіламетраў з дваццаць. Адзін лес канчаўся, другі пачынаўся. Часам дрэвы ляжалі павалам, з вывернутымі карэннямі. Смылелі нацёртыя за ноч ногі. Пачынала світаць, і яны ішлі насустрач світанню. Дабраліся ўрэшце да ўскраіны Ружанскай пушчы, прасунуліся ўглыб. Вымаклі ўсе да ніткі. Трэба было спыніцца. Гэтак яны і зрабілі. Наткнуліся на ўтульны, акружаны маладымі сасонкамі лясны расцяроб і спыніліся, вырашыўшы крыху адпачыць і падумаць, як быць далей. Тут іх і застала раніца.

А лівень усё яшчэ ярыўся, далёкімі пошчакамі лупіў гром, зырка ўспыхвалі маланкі. Ад гневу нябёсаў не ратавала і голле дрэў, пад якімі туліліся партызаны. Вада трапляла за каўнер, студзіла цела і выклікала дрыготку. На раніцу непагадзь крыху сунялася, але рэдкі дождж працягваўся, не пераставаў. Нехта сказаў, што трэба распаліць вогнішча. Дзеля гэтага выкапалі неглыбокую ямку, нашчапалі трэсак. Але не проста раскласці агонь у такое надвор'е. Давялося змарнаваць некалькі вінтовачных куль, дастаць адтуль пораху. Нарэшце вогнішча распалілі, і яно паступова ўбіралася ў сілу, ліжучы смалістыя трэскі.

— Касцёр — гэта іншая справа! — узрадаваўся агню Санька Растатуеў.

Свісціян зняў з плячэй сваю СВТ і павесіў на сук, дагары прыкладам. Сеў на пень, сцягнуў з нагі бот, разматаў анучу і працягнуў да агню вялікую голую ступню, пашавяліў скручанымі пальцамі.

— Раматуз, — паскардзіўся ён, — яшчэ з польскай турмы.

— Нешта расхварэўся ты ў мяне, — ці то падзівіўся, ці то паспачуваў сябру Маркел. — Трымайся!

Быў час падсілкавацца. Партызаны таксама паздымалі з сябе зброю і пачаплялі яе на ніжнія сучкі дрэў, каб не ржавела на сырой зямлі, развязалі рэчмяшкі, пачалі даставаць з іх сухары. Грышка Пішчык абмацаў нутро мяшка, рука дакранулася да чагосьці мяккага, нібы цеста. Здагадўся: гэта сухары так набраклі вадою. Зірнуў на таварышаў, тыя таксама пацешна аблізвалі пальцы з размоклымі сухарамі. На хвіліну гэта выклікала нават смех. Нехта пажартаваў:

— Не сухары, а мёд!

— Ш-шакал! — вылаяўся Кубартаеў.

— Эх! — са шкадаваннем прыцмокнуў Калода.

— Смаку, як у печаным раку! — сказаў, быццам агрызнуўшыся, Свісціян.

Адазваўся Бонк:

— Многа не еш, а то на сон пацягне!

Смех, аднак, хуценька аціх. Было не да смеху. Падмацаваліся сырам, які, на шчасце, хоць таксама падмок, але есці можна было. Запрачаліся за вогнішча: хай гарыць ці пагасіць, каб дым не навёў карнікаў. Але, нібы пачуўшы іхнюю спрэчку, дождж перастаў, і з-за хмар паказаўся край сонца. Потым яно вызвалілася ўсё, поўнасцю, і ласкава заззяла, прыграваючы ўсё мацней і больш адчувальна. Ад зямлі пачала ўздымацца пара. Касцёр дагарэў, жар пакрыўся белай павалокай і згас. Людзі самі, без каманды, сталі распранацца і развешваць на кустах і ніжніх галінах дрэў вымаклую вопратку, анучы. Знялі і выкруцілі закарэлую і злубянелую ад поту і слоты бялізну. Грышка, які добра ведаў мясцовы лес, нарваў некалькі пучкоў чарамшы, пачаставаў таварышаў. Чарамша — лясны часнок. Спажыўная рэч, ранняй вясной ратуе ад авітамінозу. Недзе гучна закукавала зязюля, але ніхто не лічыў яе кукавання.

— Слухай, Віктар, — звярнуўся да Беражняка Косця, — і сухары нашы трэба таксама прасушыць, а то прападзе дабро. Скажы хлопцам!

Партызаны выбралі верасовую выжарыну і акуратна расклалі на траве размоклыя на цеста сухары. Самі таксама падставілі сонцу худыя і бледныя спіны і грудзі, адмахваючыся ад мух і камароў, што плоймамі віліся над кожным, імкнучыся ўпіцца ў чалавечую плоць сваімі бязлітаснымі джаламі. На верасе вакол размоклых сухароў расселіся сініцы, чакалі пачастунку. Мурашка адагнаў птушак, згарнуў самакрутку, закурыў, даў пацягнуць іншым. Самакрутку курылі па чарзе.

Косця паглядзеў на сяброў-таварышаў. Голыя, схуднелыя, жываты, здаецца, прыраслі да хрыбетнікаў: хлопцы здаліся яму зусім ссохлымі — скура ды косці — сухарамі, хоць і, дзякаваць Богу, пакуль што жывымі. Пачуў, як закружыліся над імі сляпні і авадні, дакучна зазвінелі мухі, занылі камары. Адламаў бярозавую галінку, адагнаў гэтых маленькіх драпежнікаў, зірнуў на сонца, якое імкнулася ўсё вышай. Да гэтага навокал пахла прэллю, вільгаццю, раскісшай зямлёй, тытунёвым дымам, а цяпер у нагрэтым паветры адчуўся прыемны водар смалістага настою. «Укра-алі! Укра-алі!» — закаркала, сеўшы на бліжэйшую яліну, варона. Саньку хацелася стрэліць у зласліўку, але нельга было выдаваць сваё месцазнаходжанне, бо ліхое вуха заўсёды побач.

— Нешта калена баліць, — паскардзіўся Віцька-масквіч, які ноччу ўпаў, зачапіўшыся за пень.

— А ты не думай пра яго, пра калена, дык перастане, — параіў яму Мурашка.

Раптам зноў з'явілася аднекуль хмара, і зноў пайшоў краплісты дождж. Людзі папрачыналіся, хто задрамаў, і разгубіліся, бо не ведалі, за што найперш

хапацца: ці за вопратку, ці за сухары. Пакуль хавалі ад дажджу адзенне, ад сухароў мала што і засталося, дождж размачыў іх канчаткова, і яны сплылі на зямлю, змяшаўшыся з пяском. Так што не было чаго і паднімаць.

— Эх, маць тваю! — мацюкнуўся Герасім Непагодзін, у якога, відаць, таксама сапсаваўся настрой.

— А можа вернемся? — быццам сам сабе сказаў Свісціян.

— Ты што?! — накінуўся на яго Мачалаў. — Трэба ісці, раз прынялі рашэнне.

Партызаны, галодныя і злосныя, панацягвалі на хрыбты мокрую вопратку і пабрылі далей. Зноў прыпусціў дождж. Зямля ўжо болей не ў стане была ўбіраць у сябе вільгаць, і на ёй утварылася мноства лужын. Косця, Мачалаў і Бережняк крочылі, заткнуўшы крыссё сваіх світак за паясы, і ўжо не звярталі ўвагі ні на дождж, ні на лужыны. Ноччу ў адной з вёсак зайшлі наўдачу ў крайнюю невялічкую хату. Дзверы на стук адчыніў гаспадар.

— Каго гэта Бог прынёс? — спытаў ён.

— Свае мы, — адказаў Бережняк.

Папрасілі ёсці. Гаспадыня паставіла на стол свае прыпасы: хлеб, сала, бульбу ў мундзірах. Прынесла з агарода зялёнае пер’е цыбулі, пад канец напаіла свежым малаком. Гаспадар пазанавешваў вокны коўдрамі, прыцягнуў снапок саломы, разаслаў на падлозе. Хлопцы, не распранаючыся, ляглі. Спалі, паклаўшы пры баку зброю. Знялі толькі боты, каб крыху адпачылі ногі.

Косця выставіў на вуліцы варту і, вяртаючыся ў хату, сустрэў гаспадара. Гэта быў няголены мужчына немаладога веку і панылы з выгляду. Знаходзіўся, відаць, ва ўпадку духу.

— Усім цяжка, усім! — загаманіў ён, убачыўшы Косцю і адчуўшы, што ён старшы над астатнімі. — Дамовая вайна, дамовая! — Гаварыў ён роўным сіпаватым голасам і з нутраной перакананасцю. — Адкуль на нас такое насланнё? Адкуль?

Косця добра ведаў значэнне гэтага слова — дамовая. Дамовая вайна — гэта, па-польску, вайна грамадзянская, паміж сваімі, як калісьці ў Расіі, адразу пасля рэвалюцыі.

— Не, дзядзьку, — не згадзіўся Косця, — чырвоных і белых цяпер няма, а свой свайго чапаць не будзе. Свой ёсць свой, а вораг — вораг, з ворагам трэба змагацца.

Гаспадар нешта хацеў сказаць, але толькі ўздыхнуў, унурыўшы галаву. Косця прайшоў туды, дзе покатам, адзін пры адным, спалі сябры. Прысеў у кутку, успёршыся на бярвенні спінаю, і задрамаў, але доўга адпачываць не дазволіў — ні сабе, ні іншым. Яшчэ да світання рушылі далей. Праз балоты ішлі доўгім ланцугом, адзін за адным, намацваючы нагамі няпэўную апору. Рэчкі пераходзілі ўброд. Распраналіся, мяшок з вопраткай і рэчамі ставілі на галаву, прытрымліваючы левай рукой, у правую бралі загорнутую ў дзяружку зброю, патроны ды гранаты.

Сялянскія палі чаргаваліся з лясамі і сенажацямі, даліны пераходзілі ва ўзвышшы, рэчкі ўпадалі адна ў другую і часта заканчваліся балотамі ды азёрамі, парослымі чаротам ды сітнягамі. Абміналі гарнізоны, што стаялі па вёсках, ля вялікіх дарог і знаходзіліся ў баявой гатоўнасці. Трывога, аднак, не пакідала. Насцярожваў далёкі брэх сабак, лёскат колаў сялянскага воза, напалоханыя кімсьці звяры і птушкі, што часам з крыкам праляталі над імі. Пагрозу небяспекі адчувалі ўсімі нервамі.

Падышлі да Шчары. Гэта была ўжо Слонімшчына. Пойма Шчары раскінулася даволі шырока па абодва бакі ад асноўнага рэчышча і, зарослая

хмызамі ды чаратамі, выглядала таямніча. У час вясенняй паводкі ды, напэўна, і восенню ў пару зацяжных дажджоў яна затаплялася вадой і станавілася непраходнай і непраезджай. Доўга шукалі брод, каб перайсці раку. Удыхалі пах аеру і рыбнай лускі. Нарэшце знайшлі, але не плыткі, вады было па шыю, а мясцінамі, на ямінах, нават крыху болей. Пагрозліва плюскала пад берагам вада. На тым, нізкім баку знаходзіўся, відаць, звярыны вадапой, пакаты бераг зарос лотаццю і вадзянымі ліліямі. Паміж ракітавых кустоў нетаропка шпацыравала жаўтапёрая чапля-бугай. Адчувала сябе, відаць, у поўнай бяспецы. Ды і сапраўды: хто на яе цяпер паквапіцца — не да яе.

— Ракаў тут, відаць, шмат, — сказаў Маркел.

— Хто пра што, а Маркел пра ракі! — Свісціян, які не ўмеў плаваць, са злосці ажно плюнуў. — А можа ты іх пакарміць збіраешся?

Плаваць, на жаль, умелі не ўсе.

— Каму лёс быць павешаным, той не ўтопіцца, — пажартаваў Мандрыкін, распранаючыся, агаляючы худы, запалы жывот.

Зняў свой у шматкі зношаны шынялёк і Цыбуля. Полы апранахі свяціліся, як радно.

— Ярунда! — азваўся Калеснікаў. — Такую рэчку і курыца пяройдзе. Жабе па калена.

— Гэта як фартуна паспрыяе, — сказаў Бонк.

— Ого, тут і стронга водзіцца! — здзівіўся Грышка, заўважыўшы ў вадзе рыбіну з залатымі крапінамі.

Лета, а вада ў Шчары халодная. Цыбуля боўтнуў рачную плынь босай нагой і скрушна крутнуў галавой:

— Халодная вада для паясніцы бяда…

— Берагчы зброю і гранаты! — напомніў Косця.

Адзенне, абутак і зброю пазвязвалі і трымалі над галовамі. Дно было нятупкім, нанасным, так і глядзі, што засмокча. Двое — яны былі ніжэйшага росту і не ўмелі плаваць — утапіліся. Магчыма, трапілі ў падводную ямку. Крычалі: «Ратуйце! Дапамажыце на прамілуй Бог!» — але ўсё адбылося так хутка, імгненна, што ніхто не здолеў прыйсці на дапамогу.

На другім беразе абтрэсліся ад вады і, апрануўшыся, зрабілі, па загаду камандзіра, кароткую пераклічку. Не далічылі Цыбулі і Мандрыкіна. Высветлілася, што гэта былі яны.

— З лагера ўратаваўся, — сказаў, уздыхнуўшы, Непагодзін, — а тут…

— І Смаляка нешта не відаць, — агледзеўшыся, спахапіўся Грышка.

Аказалася, што недзе прапаў без вестак і Барыс Смаляк.

Над чаратамі лётала адзінокая качка, нібы і яна кагосьці згубіла і цяпер шукала. З шумам, як знішчальнікі, пранесліся ў паветры бакасы-кулікі, а качка ўсё кружыла над адным месцам. Насядалі камары, шукаючы на чалавеку месца, адкуль бы напіцца крыві.

Усім было цяжка, і многія, асабліва мясцовыя, з дакорам пазіралі на Косцю. Камандзір, ён мог бы прыняць іншае рашэнне. Маркел абяссілеў зусім, часам яму здавалася, што ён засынае і перастаўляе ногі ў сне. Так і было: прачынаўся, ткнуўшыся ў спіну таварыша, які ішоў спераду. Потым зноў засынаў, свядомасць кудысьці правальвалася, але ён стараўся цягнуцца разам з усімі. Асабліва незадаволены быў Свісціян, стомлены, як усе. На вачах, вакол зрэнкаў, прыкметна павыпіралі чырвоныя пражылкі. Верхняя губа сумна навісала над ніжняй. Свісціян востра адчуваў небяспеку. «Нашто было ісці? У сваіх мясцінах зацішней было! — бурчэў ён. — Куды мы, чорту на рогі, прэмся?..» «Васточнікі» — ініцыятары гэтага паходу — таксама паглядалі прыдзірліва,

з недаверам, нібы пыталі: «А ці не рыхтуеш ты нам, чалавеча, якую-небудзь пастку?»

Косця адчуваў гэта і дзівіўся: няўжо яны не разумеюць, што ён зычыць ім толькі дабра. Вось трапім у партызанскую зону, тады паваюем па-сапраўднаму, а не так, бегаючы па лесе, як тыя зайцы. Ён так і сказаў, павысіўшы голас, што з ім рэдка калі здаралася:

— Спыніць пустыя размовы! Калі вырашылі з таварышамі сустрэцца, трэба ісці!

І яны пайшлі далей. Наперадзе распасціралася шырокая забалочаная даліна, пазначаная лазняком і невялічкімі азёрцамі, у якіх адлюстроўваўся месячны бляск. Там-сям стаялі нізенькія танклявыя вольхі і сасонкі, якіх душыла гэтая балотная вільгаць, аднімала сілы і не давала расці. Збоку, на ўзгорку, віднелася невядомая вёска, вырысоўваючыся на фоне пасвятлелага неба абрысамі дахаў і комінаў. Вёска вялікая, тут мог стаяць гарнізон. Абмінулі. Зноў пачаўся дождж, які пад раніцу ўзмацніўся, навалакліся хмары.

У адной маленечкай вёсцы ўзялі праваднiка — пажылога барадатага дзядзьку, які ў сваім падраным кажушку нагадваў жабрака з-пад царквы. Гаварыў так, быццам каціў на гару вялізны камень, — з крэктам і цяжка дыхаючы. Ён ведаў мясцовасць, але згадзіўся не адразу, аднекваўся. Свісціян зіркнуў на яго з-пад калматых броваў, павярнуў у яго бок сваю СВТ і бразнуў затворам. Дзядзька адразу здаўся: «Добра-добра-добра!..» З ім пайшлі далей, пераадольваючы бяскрайнюю прастору забалочаных алешнікаў ды бярэзнікаў. Ішлі і ноччу, адмахваючыся ад ненасытных камароў, якія хмарамі віравалі навокал і ад якіх не было паратунку. Ногі грузлі ў балотнай твані, плёскат вады далёка разносіўся ў начной цішыні. Абміналі месцы, пакрытыя густой пазелянелай раскай. Гэта — «вокны», у якія можна праваліцца з галавой. Праваднік вёў па адным яму вядомым шляху далей ад паселішчаў, тыкаў жэрдкай каля ног, абмацваў здрадлівую дарогу. Валіліся ад стомленасці з ног.

Свісціян ад злосці мацюкаўся.

— Цішэй! — спыняў і сунімаў яго Мачалаў.

— Эх, ліха яго матары! — не мог стрымаць сябе Свісціян.

Зноў сустрэлася нейкая вёсачка. Неба пасвятлела. У начным мораку ўжо можна было адрозніць асобныя дрэвы, на пагорках стаялі хаты. Гэта былі, як потым Косця даведаўся, Яжонаўскія хутары. І раптам недзе наперадзе ўзвілася ў неба ракета, і следам за ёй ударыў кулямёт, кулі прасвісталі над партызанскімі галовамі. Немцы securанулі знячэўку. Партызаны без аніякага загаду, і праваднік разам з імі, тут жа плюхнуліся ў балотную твань. Усе зразумелі, што гэта была засада.

«Высачылі!» — падумаў Косця, прыціскаючыся да зямлі, але на роздум ужо не было часу. Нутро пранізала, як электрычным токам: «Канец!» Ён адчуў непрыемны пах і смак балотных водарасцей і прэлі, але з месца не кратаўся, цярпеў. Прыўзняў галаву, выплюнуў мярзотную вадкасць з рота, азірнуўся на таварышаў, аднак новая ракета і новая чарга з кулямёта зноў прыгнулі да травы. Вінтоўку стараўся трымаць так, каб не зачэрпнуць дулам гразі. «Берагчы вінтоўку і гранаты!» — пульсавала думка. Побач, стаіўшыся, ляжалі сябры, у тым ліку камісар і начальнік штаба. Паперадзе шарэла паласа цёмнага лесу.

— Акружаюць! — занепакоіўся БераЖняк. — Што будзем рабіць?

Косця зноў азірнуўся: «Сапраўды, а што далей? Чакаць, калі акружаць ды пастраляюць, як качак? Не, трэба адрывацца ад карнікаў!..» Тым часам інтэнсіўнасць страляніны крыху знізілася.

— Камандзір! — загаварыў Мачалаў. — Паднімацца ды ў лес! Адзіны паратунак!

Цёмная сцяна лесу стаяла, здавалася, не так і далёка. Косця, адвярнуўшыся ў той бок, прыкінуў адлегласць. Трэба было пераскочыць невялікі ручай, што віўся паміж кустоў, прабегчы метраў дзвесце сенажаццю, паплавамі — і ты ў лесе. Не доўга чакаючы, крыкнуў:

— Таварышы, за мной!

Ускочыў адначасова з Беражняком і Мачалавым, за імі падняліся і ўсе астатнія і, нізка, да самай травы прыгінаючыся, кінуліся ў бок лесу. Беглі зігзагамі, кідаючыся з боку ў бок, ратаваліся ад куль. Беглі, а калі карнікі пачыналі страляць асабліва інтэнсіўна, адразу ж, без каманды, кідаліся на дол, зашываліся ў траву, аддыхваліся. Калі агонь аціхаў, беглі зноў. Пакуль не дабраліся да лесу. Тады перайшлі на хаду. Мінулі сухі луг, парослае асакой лясное балота. Прайшоўшы яшчэ нейкую адлегласць і пераканаўшыся, што адарваліся-такі ад карнікаў, спыніліся. Наладзілі кароткую перадышку, каб аддыхацца. «Яшчэ раз пашанцавала!» — думаў кожны. Размясціліся ў невялікім, у рост чалавека, але густым сасонніку. Потым падаліся ўглыб лесу.

— А праваднік дзе? — спытаў камандзір.

— А я яго кокнуў, — сказаў Свісціян. — Здраднік. На засаду навёў.

Косця ўздыхнуў, нічога не сказаўшы. Камандзірскае рэагаванне, відаць, пакінуў на пасля, падумаўшы пра сябе: «Мяккі я і нерашучы, каб камандзірам быць».

Перадусім заняліся чысткай зброі. Потым пачалі ўладкоўвацца на адпачынак, скінуўшы абутак і развесіўшы анучы. Некалькі чалавек на чале з Свісціянам камандзір накіраваў на бліжэйшыя хутары раздабыць якіх-небудзь харчоў. К вечару яны вярнуліся з салам і хлебам. Наталіўшы голад і крыху адпачыўшы, яны адчулі сябе лепш.

За час падарожжа ва ўсіх паадрастала шчаціннe, і хлопцы вырашылі пагаліцца. Косця прапанаваў:

— Давайце, хлопцы, зробім так: спынімся тут, а пару чалавек пашлём упярод, у разведку, у той жа самы Гута-Міхалін. Яны надыбаюць на партызан і вернуцца сюды, за намі.

Упярод вырашылі паслаць трох: Беражняка, Бокшу і Віцьку-масквіча.

— Я ж і пагаліцца не паспеў, — спрабаваў запярэчыць Беражняк, правёўшы далонню па цёмным шчаціннi на твары. — Ужо не шчацінне, а барада.

— Паголішся потым, як вернецеся! — кінуў яму камандзір.

Група адправілася не развітваючыся, спадзеючыся хутка вярнуцца. Ішлі ўвесь дзень і ўсю ноч, па бездарожжы, кустоўем, з кароткімі прываламі. На раніцу выйшлі на шырокі луг. У траве, мяккай, бо пасля пакосу паспела ўжо добра адрасці і чаплялася за ногі, убачылі паміж кустоў даволі шырокую ўтаптаную чыімісьці нагамі сцежку. Яна іх і спакусіла. Пайшлі сцежкай і раптам пачулі:

— Стой! Хто ідзе?

Голас не моцны, але малады і ўладны.

— Брасай аружжа! Рукі ўверх!

Падарожнікі спыніліся, ім нічога не заставалася, як толькі выканаць гэты загад. З кустоў, якія абступалі сцяжыну, з розных канцоў паказалася некалькі дзецюкоў з чырвонымі стужкамі на шапках-кубанках, усе ў вывернутых чамусьці кажушках, падперазаныя папружкамі і ўзброеныя савецкімі аўтаматамі з драўлянымі прыкладамі.

## XI

Гэта быў партызанскі заслон, або «першая застава», як яны самі сябе называлі. Усё адбылося ліхаманкава хутка.

— Шагам арш! — рэзка прагучала каманда.

Кіламетраў з пятнаццаць прайшлі пад канвоем. Ішлі, аблепленыя калючкамі дзядоўніка, з паднятымі над галовамі рукамі. З абодвух бакоў абыякава пазіраў на іх густы лес, згарнуўшы і апусціўшы лісце. Паперадзе ішлі Бокша з Віцькам, крыху ззаду Беражняк. Даймалі камары, ад якіх у такім становішчы, з паднятымі ўгору рукамі, не было магчымасці адагнацца. Беражняк намуляў нагу і цяпер ізноў кульгаў. Ад бяссільнай злосці ён ажно скрыгатаў зубамі і некалькі разоў мацюкнуўся. «Як жа ўсё гэта адбылося? Як гэта мы так дазволілі лёгка сябе злавіць? — дакараў сябе ён. — Папаліся, як дурні якія, аніякай асцярожнасці не праявілі. Пра ўсё забылі. А здаецца, і вопыт ёсць, і галовы ва ўсіх на месцы!..» Беражняк азірнуўся. «І хто канваіруе? На шапках чырвоныя стужкі, а на самай справе хто яны? І куды вядуць? Можа толькі прыкідваюцца партызанамі?»

— Не адставаць! — накінуўся на яго канваір і брудна вылаяўся. — Фрыц пераадзеты!

— Я не фрыц!

— Пашол!

Гразь, пясок. Дарога густа ўтыкана конскімі капытам. Сілы былі ўжо на зыходзе, балела нага, але ў галаву цюкнула думка, каб уцячы, і рукі самі сабой сталі апускацца. Навокал якраз стаялі густыя кусты алешніка.

— Рукі! — узлаваўся канваір, як бы адчуўшы Беражняковы думкі, і злосна штурхнуў пад рабрыну дулам аўтамата.

Між тым пейзаж памяняўся. З’явіліся прасветы паміж дрэвамі. Паабапал дарогі, у ельніку, ужо можна было ўбачыць шмат замаскіраваных зямлянак. І большыя былі, і меншыя. Нібы атабарыліся нейкія пагарэльцы. Дарожкі навокал пасыпаны пяском. Гэта было вялікае чалавечае паселішча ў лесе, як лясны мурашнік. Снаваў народ, жанчыны з дзецьмі, барадатыя дзядзькі, стаялі падводы, пасвілася хатняя жывёла. Віднеліся стажкі назапашанага сена. З крыкам і гоманам бегалі хлапчукі з чырвонымі лентачкамі на шапках і драўлянай зброяй. У нейкім стаўку ці азярыне спакойна крумкалі жабы. Усё адчувала сябе свабодна і раскавана.

«Не можа быць, каб гітлераўцы сабралі тут, у лесе, гэтульki народу! — падумаў Бокша, разглядаючыся ва ўсе бакі. — Не, тут нешта іншае. А можа і сапраўды партызаны?..»

Вялі іх у самы цэнтр гэтага паселішча, дзе, відаць, размяшчалася кіраўніцтва і ўсе службы. Спыніліся каля зямлянкі, абладжанай лепш, чым іншыя. Адзін з канваіраў, пэўна, старшы, сунуўся ў зямлянку і хутка выйшаў адтуль з незнаёмым чалавекам, яшчэ маладым, цёмнавокім, у целагрэйцы, перацягнутай партупеяй, і шапцы-кубанцы з чырвонай лентачкай. Чалавек паглядзеў на іх спадылба.

— На востраў іх! — распарадзіўся ён. — У шостую роту! У шосты куст!

У гэтай камандзе, Беражняк адчуў, была нейкая зашыфраванасць, падвох. «Ці не расстрэльваць вядуць? — цюкнула думка. — У “шостую роту”, “шосты куст”…»

На востраў дабіраліся праз балота па хліпкіх кладках, потым зноў пайшлі па сухому. Падышлі да цеснай загарадзі паміж чатырох соснаў, са знешняга боку абабітых круглымі жардзінамі і гарбылямі. Гэта было нешта накшталт

КПЗ — для папярэдняга ўтрымання падазроных. У гэтую загарадзь іх і загналі, прываліўшы калодай дзверы і прыставіўшы вартавога. Рукі ў кожнага за спінаю звязаны вяроўкай. Віцька-масквіч зусім абвяў і часта ўздыхаў.

Спачатку ўсе маўчалі, прыслухоўваючыся, як пра нешта шапталіся між сабою калматыя вершаліны соснаў. Першым абазваўся Беражняк:

— Куды ж гэта мы папалі? Да каго?

— Маўчаць! Разгаворы забаронены! — прыкрыкнуў вартаўнік — пажылы дзядзька, апрануты ў целагрэйку, з якой тырчэлі касмылі ваты. — А то шлункі выпушчу! — прыгразіў ён.

Беражняк вымушаны быў змоўкнуць.

У патрэбнае месца выводзілі пад канвоем, па аднаму, папярэдне развязаўшы рукі. Наважыліся былі скарыстаць момант і ўцячы, але куды там, не ўцячэш. Пільнасць такая, што сочаць за кожным рухам. Ад стомленасці нылі косці. Усе адчувалі сябе надта пагана, трывожылі думкі пра тых, хто застаўся там, у лесе, не даваў спакою і свой лёс. Жылі ў страху чакання.

— Гаўрыла! — пачулася знадворку, голас гучаў надта зычна і нахабна. — Давай іх, свалачэй, па аднаму да начальства ў асобы аддзел! Там яны затанцуюць!

Дзверы прыадчыніліся, у створы паказаліся двое — вартаўнік і яшчэ адзін, маладзейшы, у світцы, перавязаны крыж-накрыж рамянямі, які нагадаў Беражняку Фядотку — колішняга ардзінарца Несцера Фёдаравіча. У руках трымаў нямецкую вінтоўку.

— Спачатку вось гэтага барадатага хрэна, — паказаў рукой на Беражняка.

Гэты малады перавязаны рамянямі партызан з нямецкай вінтоўкай і прывёў Беражняка са звязанымі ззаду рукамі да зямлянкі з удзірванелым дахам, у якой размяшчаўся гэты самы асобы аддзел. Ля ўваходу тырчэў вартаўнічы грыб, пад якім знаходзіўся вартавы з аўтаматам, хоць стаяла пагодлівае надвор’е і дажджу не было. Канваіруемы кульгаў, смылела навярэджаная ў дарозе нага, з цяжкасцю пераступіў парог зямлянкі.

Памяшканне выглядала змрочным, хоць вокны былі акуратна зашклёныя і прапускалі дастаткова святла. Замест абруса на стале на ўсю шырыню ляжала тоўстае канцылярскае шкло. На ім стаяла керасінавая лямпа, крыху вышэй была прыладжана да сцяны выгнутая з бляхі труба-вентылятар. На пакатай абшаляванай столі — партрэт Сталіна, крыху ніжэй — карта Савецкага Саюза з нанесенай лініяй фронту. У кутку замест сейфа стаяў звычайны размаляваны кветкамі сялянскі куфар, збоку на ім вісеў жалезны замок. За сталом сядзеў нейкі начальнік у савецкай вайсковай форме з адным «кубарам» на каўняры. На галаве фуражка з выцвілым сінім аколышкам. Пад носам тапырыліся тоўстыя вусы, кончыкі якіх звісалі ўніз. Выгляд меў сур’ёзны і сухі. «Асабіст!» — вырашыў Беражняк. Пазногці на пальцах асабіста былі абгрызеныя — значыць, чалавек нервовы. На стале, каля яго рукі, ляжаў наган.

Апяразаны рамянямі канваір прысеў у кутку на зэдліку, паклаўшы вінтоўку на калені. Асабіст прыдзірліва агледзеў увайшоўшага.

— Як вы трапілі ў зону? — незадаволеным, скрыпучым голасам пачаў ён.

— У якую зону? — не зразумеў Беражняк.

— У партызанскую!

У абліччы асабіста праступіла раптам нешта звераватае, вусны нервова перасмыкнуліся:

— Адкуль? Хто паслаў? Каму служыш? Вось перш за ўсё пра гэта я хачу ад цябе пачуць. Тады будзем гаварыць далей.

Такі пачатак быў для Беражняка вялікай нечаканасцю.

— Каму прадаўся?! — гідліва зморшчыўся асабіст. Відаць было, як пабялелі пазногці на яго пальцах.

Словы і тон асабіста, асабліва яго позірк, недаверлівы і жорсткі, надта збянтэжылі Андрэя Амяльянавіча. Яму ў першы раз даводзілася такое чуць. Ён спахмурнеў, але ўпаўне валодаў сабой.

— Я такі ж партызан, як і вы! Ужо трэці год ваюю! Кіламетраў дваццаць адсюль нас чакае наш атрад. Наш атрад. Нас паслалі ўпярод, у разведку. Мы партызаны-антыфашысты.

— Так я табе і паверу…

— Я свой.

— Ты тут мне ярунды не гарадзі! Знайшоўся, панімаеш, «свой»! Што ты перада мной ваньку валяеш?! — Асабіст зрабіў паўзу. — Не цягні, прызнавайся! Хто да нас накіраваў? За непраўдзівую інфармацыю мы расстрэльваем! Хто?

Позіркі іх сустрэліся.

— Што? Не панімаеш, тваю маць?! — закрычаў асабіст і пачаў павольна налівацца чырванню. — Ты што думаеш? Прызнавайся! Органы не памыляюцца!

Беражняк няўцямна паціснуў плячыма. Горш становішча не прыдумаць: дакументаў аніякіх, зброя, як назло, нямецкая, адзенне — выпадковае. Паспрабуй дакажы што-небудзь. Яшчэ раз зірнуў на асабіста: «А гэты падграбе, падграбе і падмяце…» Але вырашыў не здавацца і таксама павысіў тон:

— Вы не маеце права так пра нас казаць! Вы не маеце права над намі здзекавацца! Я партызан, я прысягу прымаў…

— Хопіць расказваць байкі! Ну, паглядзі мне ў вочы! — Асабіст глянуў на арыштаванага з-пад цяжкіх павекаў і ўзяў са стала наган. — Прызнавайся, бо зараз табе хана! Хто за табою стаіць? Канчай тут ваньку перада мною строіць, не на таго напаў!

«Ах ты барабанная шкура!» — падумаў Беражняк, але змаўчаў, хоць вельмі прыкра было слухаць гэтыя беспадстаўныя абвінавачанні. Апроч таго, ён зразумеў, што знаходзіцца ў поўнай уладзе гэтага чалавека.

— Ну?!

Справа набірала дрэнны абарот, але паддопытны стаяў на сваім. Адчуваў, як б'ецца, перанапружваецца сэрца.

— Я не здраднік! З сорак першага ваюю.

— Здраднік! Акружэнец! Ды яшчэ і шпіён! — у доказ сваіх слоў асабіст грукнуў дулам нагана аб стол. — Прызнавайся! Не ты скажаш, дык таварышы твае скажуць! Расколяцца і скажуць праўду. Знайшоўся мне тут, панімаеш, антыфашыст…

— Дык можна праверыць! Пашліце з намі групу, і вы ўбачыце самі! У нас атрад, дваццаць шэсць чалавек!

Асабіст расшпіліў каўнер гімнасцёркі, закурыў. Успышка ярасці ў ім змянілася ледзяным спакоем. Ён перастаў крычаць. Насупіўся і аціх. Потым зноў загаманіў, нібы сам з сабой:

— Не, расстрэльваць я цябе не буду, я цябе на Вялікую зямлю здам! Там разбяруцца, што ты за гусь…

Беражняк маўчаў.

— Увясці! — загадаў асабіст, развейваючы рукою сіні тытунёвы дым, які выдыхнуў з-пад тоўстых вусоў. — Наступнага!

Наступным быў Бокша, але і ён нічога новага ў дадатак да таго, што сказаў Беражняк, не паведаміў. І скончылася б гэта, хутчэй за ўсё, самым дрэнным

чынам, калі б у гэты час не вярнулася з задання група разведкі. Разведчыкі расказалі, што сапраўды на адлегласці якіх-небудзь кіламетраў пятнаццаць-дваццаць адсюль на захад, у лесе, нейкая партызанская група чакае трох сваіх таварышаў. Толькі тады ім з большага паверылі, выпусцілі з загарадзі, з «шостага куста» і пакармілі. Умовы іх існавання памяняліся на лепшыя. Ежу атрымлівалі з кухні, якая была абсталявана ў бліндажы з чорнай жалезнай трубой наверсе. Нарэшце Косціны разведчыкі даведаліся, што знаходзяцца яны ў Пружанскім атрадзе Гута-Міхалінскай брыгады, якая мела за плячыма не малы і не лёгкі баявы шлях і шырокі абсяг дзеянняў.

А пачынаўся гэты шлях брыгады, пра што сведчыць яе назва, вясною 1942-га ў Гута-Міхалінскім лесе з утварэння дробных атрадаў з груп акружэнцаў і мясцовых актывістаў, якія ацалелі ад расправ акупантаў і здраднікаў. Баявы досвед набывалі ў баях, у выхадах на шасейныя і чыгуначныя магістралі, у сутычках з карнікамі. Колькасны склад партызанаў рос. Дыверсійныя групы праводзілі баявыя аперацыі далёка на захадзе, дасягаючы раёнаў Камянца і Высока-Літоўска, а таксама Беласточчыны. Вясною 1943-га брыгада рушыла ў баявы рэйд на захад. Была пастаўлена задача — ачысціць Белавежскую пушчу ад немцаў. Каля Войтавага Моста, на падыходзе да Белавежскай пушчы, немцы заступілі ім дарогу. Бой доўжыўся два дні, аднак сілы былі няроўныя. Немцы мелі нават самалёты, што стаялі на вайсковым аэрадроме ля Войтавага Моста і час ад часу аблётвалі Белавежскую пушчу. Была ў немцаў і іншая ваенная тэхніка і ўзбраенне, а ўжо што датычыць боепрыпасаў, то іх хапала. Праціўнік перайшоў у наступленне, прарваў партызанскія абарончыя парадкі і распалавініў брыгаду на дзве часткі. Адна разам з камандаваннем адступіла назад пад Гута-Міхалін, другая накіравалася на паўночны ўсход у напрамку Пружан. На іх «першую заставу» якраз і натрапілі Косціны разведчыкі. «Пружанцы» да таго часу ўжо стварылі асобны атрад, які налічваў у сваіх шэрагах каля тысячы чалавек. Узводы, роты, батальёны… Усё, як адзначылі Беражняк і Віцька-масквіч, на армейскі лад. Не так, як у іх, белавежскіх самадзейнікаў. Абавязкі строга падзелены. Поўны парадак. Гэта дзівіла, як і тое, як такая вялікая групоўка магла амаль адкрыта дзейнічаць на вачах у ворага і немцы спакойна на гэта глядзелі…

З зайздрасцю і адначасова з палёгкай пазіралі «белавежцы» на «пружанцаў», якія нават не думалі хавацца ад ворага. Хадзілі па лесе, як у горадзе па тратуары, не тоячыся, адкрыта займаліся страявой і ваеннай падрыхтоўкай, у аграмадных катлах варылі ежу, уголас спявалі, заляцаліся да дзяўчат. І пра баявыя справы не забывалі. Група за групай адыходзілі на дыверсіі: адны — на жалезку, другія — на шасейку ці прасёлак, трэція — у засады.

Праз колькі дзён прыйшлі Косця, Мачалаў, Кубартаеў і астатнія — за імі хадзіў Мурашка з групай «пружанцаў». Цяпер яны зноў былі разам і разам з новымі сябрамі. Аднак хутка пераканаліся, што з імі, «белавежцамі», неяк ніхто тут не ўваходзіў у адкрытую, шчырую гутарку. Размовы абрываліся раптоўна, як па камандзе, калі хтосьці з «белавежцаў» набліжаўся да «пружанцаў». Лічылі іх быццам не сваімі, а прыбышамі, якія невядома адкуль і з якой мэтай з’явіліся.

— Нэ панімаю! — паўтараў Кубартаеў. — Чаму так?

Косця, як камандзір, асабліва балюча гэта перажываў, хаця імкнуўся апраўдаць новых сваіх сяброў па зброі. Без абачлівасці і асцярожнасці ў партызанскіх умовах нельга. Канспірацыя — рэч патрэбная…

Сярод «пружанцаў» — звычайная рэч — людзі розных нацыянальнасцей. Быў тут і яўрэйскі сямейны лагер, у якім жылі старыя ды малыя з Брэста, Коб-

рына, Слоніма, навакольных мястэчак. Аднойчы да «белавежцаў» падышоў чалавек у цывільным, з бледным носам і парослым рудою шчэццю тварам. Выглядаў заклапочаным.

— Вы, кажуць, з-пад Брэста? — нясмела запытаў ён.

— Ну і што? — пытаннем на пытанне адказаў Косця.

— А пра камянецкіх што чулі?

— Пра каго?

— Я кажу, пра камянецкіх яўрэяў што чулі?

— Пэўнага нічога не магу сказаць.

— У гета яны былі, — далучыўся да гаворкі Мурашка, — цяпер кудысьці пагналі.

— Там у мяне родзічы, — незнаёмы пашкроб за вухам, — а я вось тут.

— І чым займаешся?

— Жорны кручу.

— Муку мелеш?

— Мялю, бо хлеб трэба, столькі людзей накарміць! А да гэтага печы клаў.

Незнаёмы крыху памаўчаў, паўзіраўся ў твары суразмоўцаў, нібы не рашаючыся сказаць ім нешта важнае.

— А ведаеце, немцы якое глупства прыдумалі? Аб'явілі гарады!

— Што?

— Івацэвічы і Бытэнь быццам бы вольныя гарады! — незнаёмы перайшоў на шэпт. — Для яўрэяў! Ехаць можаш у любую краіну, у якую хочаш. І ніхто цябе не мае права затрымаць.

— Ад каго ты пра гэта чуў? Гэта — правакацыя! — пераканана сказаў Косця. — Ты гэтаму не вер!

— І я гэтак думаю. Правакацыя! Выманіць хочуць…

— Ім верыць нельга, ні ў якім разе! — адмоўна пакруціў галавой Мачалаў. — Фашысты!

— От і я гэтак думаю, — незнаёмы цяжка ўздыхнуў. — Дзе ты, Бог Ізраіля? Забыў ты пра нас! — крыху адвярнуўшыся ўбок, прамовіў ён дрыжачым голасам.

— Нічога! Будзе яшчэ і на вашай вуліцы свята, і працаваць будзеце, і гандляваць! — суцешыў яго Мурашка.

Суцяшэнне прагучала грубавата, хоць Мурашка і не хацеў крыўдзіць незнаёмага, і чалавек, пэўна, пакрыўдзіўся. Ён моўчкі павярнуўся і пайшоў у свой бок.

Косця з Мачалавым і Беражняком вырашылі склікаць сход свайго атрада — хто быў свабодны на той час ад нарадаў і заданняў. Расселіся на палянцы. Грышка Пішчык назбіраў поўную шапку суніц і прынёс пачаставаць таварышаў.

— Маліна яшчэ не паспела, — сказаў ён, — маліна яшчэ смачней. Але і суніцы добрыя.

— Каб не прабрала, — засумняваўся навучаны горкім лясным досведам Кубартаеў.

— Не прабярэ. Спелыя.

Косця думаў.

— Будзем асобна ці сальёмся з «пружанцамі»? — было першым пытаннем, якое задаў ён сваім таварышам, якія, трэба сказаць, пры ўсіх сваіх сумных прыгодах і нягодах, не спяшаліся пад армейскую дысцыпліну, хаця адкрыта ніхто з іх аб гэтым не гаварыў. Адзін толькі Калода прабурчаў са шкадаваннем

у голасе: «Пад вайсковы статут трапім». Прыводзіліся затое шматлікія іншыя, быццам бы важныя прычыны, каб пакінуць кампанію «пружанцаў». Але ў першую чаргу гаварылі пра тое, што неўзабаве наступіць зіма, снег засыпле дарогі, мароз скуе балоты, па якіх рушаць браневікі з гарматамі ды іншай ваеннай тэхнікай, тады не будзе тут ад немцаў аніякага ратунку... І адкуль жа ўзяць ежы на тысячу чалавек, калі карнікі жалезным вобадам акружаць і абложаць, як ваўкоў.

— Цяжка тады давядзецца! — насупіўся Свісціян. — Народ тут небагаты, ужо ўсё пачысцілі.

Яго напарнік Маркел маўчаў, пакладаючыся на думку сябра. Пазіраў на траву, па якой поўзалі, часта абрываючыся са сцяблінак, стомленыя стракозы.

Пра іх атрад, што прыбіўся з-пад пушчы, «пружанцы» далажылі свайму начальству — камандаванню Гута-Міхалінскай брыгады, якая вярнулася ў Гута-Міхалінскія мясціны. Камандаванне павінна было вырашыць лёс «белавежцаў» — што з імі рабіць. Паслалі туды дэлегацыю з трох чалавек: Храбрых, Бонка і Грышку Пішчыка. Вяртання дэлегацыі чакалі больш тыдня. Нарэшце група з’явілася, але са складу дэлегацыі ў ёй быў толькі адзін Грышка, астатнія кудысьці зніклі. Спачатку групу праводзілі ў штабную зямлянку, але доўга яны там не затрымаліся. «Белавежцы» сядзелі на траве пад соснамі, курылі самакруткі, калі Грышка падвёў да іх гэтую групу прыбышоў.

— Ты адзін? А дзе астатнія? — спытаў Косця, здзіўлена пазіраючы на Грышку, а таму, па ўсім відаць, няёмка было адчытвацца перад камандзірам.

— Так вырашыла камандаванне, — патлумачыў партызан, пачасаўшы за вухам. — Мяне накіравалі як праваднікa, каб вас знайсці, астатніх, Храбрых і Бонка, залічылі ў свой атрад. Затое нам у падтрымку паслалі вось гэтых «васточнікаў». — Грышка адвярнуўся і паказаў на сваіх спадарожнікаў, якія стаялі крыху паводдаль. Іх было шасцёра.

Шасцёрка трымалася ўпэўнена, але насцярожліва. Апранутыя ўсе ў дэсантныя курткі, на нагах — кірзачы, за плячыма — аўтаматы ППШ. Адзін з іх, у фуражцы з афіцэрскімі адзнакамі на каўняры і планшэткай пры баку, жвава выступіў наперад і скамандаваў:

— Смірна!

Пяцёра салдат-аўтаматчыкаў адразу ж падцягнулі жываты, выцягнуліся, рукі апусцілі па швах. Косціны партызаны не зрэагавалі на каманду і працягвалі сядзець. Вайсковец з афіцэрскімі адзнакамі на каўняры абвёў іх вачыма:

— Хто тут у вас за старшага?

Падняўся Косця і хацеў нешта сказаць.

— Ты старшы? — спыніў яго афіцэр. — Ды што ты хочаш мне далажыць? — разгневаўся вайсковец. — Я і сам бачу, што падобны вы больш на вясковых пастухоў, чым на баявы атрад народных мсціўцаў. Няма нават каму падаць каманду, каб вы паднялі з зямлі свае смярдзючыя задніцы! Да канца абнаглелі! — Вайсковец колькі разоў брыдка мацюкнуўся і пачырванеў ад злосці.

У думках хлопцы ў чымсьці згаджаліся з ім, але прыкра было слухаць брудную лаянку.

Косця стаяў насупіўшыся, на гаворачы ні слова.

— Не трэба так казаць! — азваўся Свісціян. — Пакуль яшчэ мы цябе ў камандзіры не выбралі, дык не камандуй! Датумкаў?

Вайсковец паглядзеў на мядзведжую постаць Свісціяна, зарослы шчаціннем твар і, хоць не зразумеў сэнсу яго пытання «Датумкаў?», аднак крыху ахалонуў і сцішыўся. Памаўчаў з хвіліну, а затым паведаміў:

— Прозвішча маё Гарланаў Сяргей Сяргеевіч. Маю загад ад камандзіра брыгады, каб я разам з вамі і маімі таварышамі, — ён рукой паказаў на пяцярых аўтаматчыкаў у дэсанцкім рыштунку, што стаялі на тым жа месцы, — каб мы разам вярнуліся ў вашы родныя края, каб узнімаць там усенародную барацьбу з нямецкімі захопнікамі. Трэба ўсім разам кінуцца на акупантаў, каб зямля гарэла ў іх пад нагамі!

Ён дастаў з нагруднай кішэні згорнуты ў чатыры столкі аркуш паперы, патрос ім над галавой:

— Вось, таварышы, пісьмо ЦК КП(б) Беларусі ад дваццаць другога, шостага, гэтага года «О военно-политических задачах работы в западных областях БССР». Фронт, таварышы, прадзвігаецца на захад, мы павінны гэта ўлічваць. Цяпер, што мы маем. Маем трацiл на пяць мін і адну міну гатовую — хоць зараз кладзі пад рэйку. У суме шэсць варожых эшалонаў не павінны дайсці да фронта, і няхай людзі пачуюць, што савецкія партызаны змагаюцца, помсцяць за іх крыўды! Як вы думаеце, таварыш? — звярнуўся ён да Косці.

— Ну што ж, правільна! — адказаў былы капэзэбовец. — Давайце разам! Мэта ў нас адна. Тут шмат гаварыць не трэба.

— Апроч таго, маем некалькі брызентавых палатак, у якіх можна жыць. Паставім палаткі і — парадак! Ёсць рацыя.

— Ага! Дык ты, значыць, з пасагам да нас у сваты! — азваўся Мачалаў, не спускаючы сваіх прыжмураных вачэй з вайскоўца. — Ну, як, хлопцы, — звярнуўся ён астатніх сваіх таварышаў, — возьмем яго ў прымакі з гэтым пасагам?

— Возьмем, — адгукнуўся Косця. — Тады бярыце і камандаванне, вы чалавек ваенны, падрыхтаваны. Камандзір павінен ведаць больш, чым яго падначаленыя, — на тое ён і камандзір. Гэта якраз такі выпадак.

Партызаны пераглянуліся паміж сабой, той-сёй пацiснуў плячыма, але ніхто не пярэчыў, каб каманду над імі ўзяў гэты лейтэнант-«васточнік». На тым і пагадзіліся. Камандаванне «пружанцаў» па просьбе Гарланава выдзеліла тры аўтаматы ППШ, адзін з якіх дастаўся Свісціяну, а сваю СВТ ён перадаў Маркелу.

— Ну вось, таварышы, у нас і атрад, — сказаў новы камандзір малодшы лейтэнант Гарланаў, пастроіўшы сваіх падначаленых у доўгую шарэнгу. — Ідзем у бок захаду. Там людзі не бачылі яшчэ партызанаў. Хай не думаюць, што мы пра іх забылі.

— Чаму ж не бачылі? — запярэчыў Калода. — Мы ж адтуль!

— Я маю на ўвазе нас, ваенных, — патлумачыў Гарланаў.

Назад, у бок Камянца, падаліся тым жа шляхам, якім ішлі сюды. Мурашка ўспомніў пра Воўчае Багно на ўсход ад пушчы, дзе, на яго думку, можна было б спыніцца і стаць на стаянку. Далажыў Гарланаву. «Увідзім», — сказаў той.

Асабліва ўзрадаваўся таму, што яны вяртаюцца, Санька. Надта хацелася пабачыцца з Маняшай. Кожную ноч з месца на месца, пераходзілі амаль без перадышкі па дзесяць і болей кіламетраў, абчапляныя ўласнай і агульнай партызанскай маёмасцю — рыштункам, зброяй, грузам трацілу. У заплечным рэчмяшку неслі рацыю. Часам рухаліся і днём. Быў час Купалля. Красавалі жыта, ярына. Ячменны колас важна тапырыў вусы, аб нечым размаўляючы з лёгкім ветрыкам. Весела кусціўся кучаравы бульбоўнік. Начамі зверху спачувальна пазіралі на іх буйныя, іскрыстыя зоркі, а знізу лашчыла раса, па-летняму цёплая і пяшчотная. Небяспека падсцерагала ўвесь час. За кожным паваротам лясной дарогі магла чакаць варожая засада.

Сухі паёк, што выдалі ім на дарогу на партызанскай кухні, хутка скончыўся, засталося толькі некалькі сухароў. Сухары, якія неслі ў рэчмяшках разам з узрыўчаткай, набраліся трацілу і прагорклі, але з галадухі прыдатныя былі і такія.

Прайшоўшы пэўную адлегласць, павярнулі на поўдзень і, не даходзячы Федзькавіч, выйшлі на чыгунку Брэст—Мінск і залажылі трацілавую міну. Залажылі ўдала: зваліўся эшалон з нейкім грузам. З якім — не было часу ўдакладняць, усё адбылося хутка, праз гадзіну падрыўнікі з атрадам былі ўжо ў іншым месцы.

## XII

Нарэшце вярнуліся нібы дадому — за Камянец, у тое самае Воўчае Багно, пра якое казаў Мурашка. Гэта і сапраўды была ўсходняя частка Белавежскай пушчы, месца, акружанае паросльмі чаратамі і асакой балотамі, зараснікамі алешніку і бярозы. Зашыліся ў лясны гушчар, у самую вольсу, і ляглі адпачыць. Нават не ляглі, а пападалі на мох і пазасыналі.

— Пакуль што адпачывайце! — як камандзір, загадаў Гарланаў. — А там пабачым.

Зрэшты, гэтыя словы, магчыма, ніхто і не пачуў, стомленыя людзі моцна спалі. Камандзір, як і трэба, выставіў варту з тых бакоў, з якіх найбольш можна было чакаць няпрошаных гасцей. Назаўтра раздабылі і зварылі маладой бульбы. Свісціян з Маркелам і Мурашка прынеслі аднекуль крыху саланіны і солі. Збольшага падмацаваліся. Паставілі палаткі, што прынеслі з сабой, пачысцілі зброю.

Атрад раздзялілі на некалькі спецыялізаваных груп для выканання канкрэтных заданняў. Група падрыўнікоў на чале з Ціхаміравым, які прыйшоў з Гарланавым, з прынесенага трацілу падрыхтавала самаробныя міны для дыверсій на чыгунцы і шасейных дарогах, другія займаліся пошукамі зброі і боепрыпасаў, трэція хадзілі за харчамі.

Вырашылі паслаць групу падрыўнікоў на чыгунку. Пайшлі на «жалезку» ўчатырох: Калеснікаў, Непагодзін, Ціхаміраў і Свісціян. Свісціян, дазнаўшыся, што ўключылі і яго, казаў: «Хай маладзёж павучыцца!» — але вымушаны быў ісці, бо загад ёсць загад, не паспрачаешся. Свісціян хацеў, каб узялі і Маркела, але той панічна баяўся чыгункі і ажно ўзмаліўся:

— Хлопцы, я вас тут пачакаю. Усё роўна я не спецыяліст! Што я ў тых цягніках разумею?

Свісціян толькі зняважліва махнуў рукой.

Групу вёў Калеснікаў. Кожны атрымаў па тры кілаграмы сухароў і па два кілаграмы шынкі. Участак выбралі: Седльцы—Брэст. Вырашылі выйсці вечарам, каб праз два-тры начныя пераходы з днёўкамі ў глухіх мясцінах дабрацца да мэты.

— Цягнік з Брэста рушыць у восем раніцы, праз гадзіну будзе ў раёне Седльцаў, — даваў інструкцыі Гарланаў, уважліва абмацваючы вачыма кожнага з падрыўнікоў. — Там вы яго і падкаравуліце. Назад сюды адразу не вяртайцеся, затрымайцеся на дзень-другі дзе-небудзь у лесе ці на хутары. Пытанні ёсць?

— Няма, — адказаў Калеснікаў.

— Жадаю поспеху!

Заданне было, што і казаць, цяжкае, бо ахова чыгункі апошнім часам значна ўзмацнілася, доты стаялі праз кожныя паўкіламетра. Паязды рухаліся

марудна, навобмацак. Паперадзе паравоза звычайна тры вагоны з пяском. Мініраваць станавілася ўсё цяжэй.

Дабіраліся да чыгункі, абмінаючы населеныя пункты, палі спалавелага жыта. Выбіралі бездарожжа. Зрэдку выходзілі на лясныя сцяжыны, якія то цесна звужваліся, так што галіны кранаді галовы, то рассоўваліся, адкрываючы парослыя леташняй травой паляны з купінамі і старымі зялёнымі пнямі. Часам такі пень надта ж нагадваў стоеную ў карчах чалавечую постаць, і душу міжвольна працінаў страх. Свісціян у такіх выпадках хапаўся за зброю і сцішана мацюкаўся. Ішлі адзін за адным. Міны, іх было дзве, неслі за плячыма, па чарзе. Важыла кожная не менш за дваццаць кілаграмаў. Патрэбны былі магнітныя міны, але іх пакуль што не было.

Днявалі ў глухім месцы ў лесе. Быў час падсілкавацца, і яны развязалі рэчмяшкі, дасталі адтуль сухары, адрэзалі шынкі, прыступілі да папаскі. Пад нагамі густа кусціўся чарнічнік, абсыпаны буйнымі спелымі ягадамі. Ціхаміраў сарваў некалькі ягад і кінуў у рот.

— Колькі можна было б варэння наварыць, каб не вайна, — сказаў ён, жуючы шынку з сухаром.

— А ты што, на гражданцы варэнне варыў? — спытаў Непагодзін.

— Не, мама варыла, яна ў мяне вялікая ўмеліца.

Размову пра варэнне ніхто не падтрымаў.

Лес жыў звычайным жыццём. Пра нешта сваё гаманілі птушкі, кружыліся над лесам. Нечаканы подых ветру зносіў іх убок. Бясшумна праляцела, ляніва ўзмахваючы крыламі, чапля. Вакол кветкі ляснога лубіну круцілася, нешта вышукваючы, пчолка. Да паўдня падрыўнікі спалі ў гэтым лясным гушчары, зарыўшыся ў мінулагодняе апалае лісце. Папрачыналіся, калі сонца схілілася ў бок захаду.

Свісціян адкрыў вочы і быў дужа здзіўлены, убачыўшы перад сабою, літаральна перад самым носам, дзіўны, як прывід, грыб на высокай ружовай ножцы з белымі, крыху нібы звялымі кутасікамі замест капялюшыка. Грыб вытыркнуўся з апалага лісця, крыху вышэй кволых травінак, якія яго акружалі, і цяпер тут, у цяньку, быццам адпачываў, убіраўся ў сілу. Свісціян штурхнуў пад бок Непагодзіна:

— Паглядзі!

Непагодзін доўга праціраў вочы і ўглядаўся ў той бок, куды паказваў Свісціян.

— Што?

— Паглядзі, гэта, браце, каб ты ведаў, не просты грыб, ой, не просты. Такія грыбы на сонца не паказваюцца, у цень ціснуцца, у гушчар. Баяцца, каб сонца сілу не высмактала. Не просты грыб!

— Не просты? Дык з чым жа яго ядуць?

Свісціян з пагардай паглядзеў на сябра.

— А яго не ядуць.

— Дык а што з ім робяць?

— Нюхаюць! Калі нанюхацца яго водарам, дык такім станеш, што нікога баяцца не будзеш. На кулямёт пойдзеш, і хоць бы што.

— А нашто мне на кулямёт ісці? Я пакуль што, дзякаваць Богу, не такі дурны, каб на кулямёт перціся. — Непагодзін паціснуў плячыма.

Свісціян чартыхнуўся, вырваў грыб разам з коранем, паднёс да носа, панюхаў — раз, другі, трэці, ажно засоп і закашляўся і з шумам выдыхнуў увабранае ў лёгкія паветра.

— На! — перадаў грыб напарніку.

Той панюхаў і плюнуў:

— Звычайны смярдзень.

— Сам ты смярдзень! — пакрыўдзіўся Свісціян. — Анічога, ліха яго матары, не разумееш.

Пра набліжэнне да чыгункі яны даведаліся па спецыфічным паху шпал, мазуту і дыму, які пакідалі за сабой цягнікі і які асядаў на насып. Спыніліся і стаіліся паблізу, дзе рос купчасты ядловец. Усе яны цяпер добра ведалі, што партызанка — гэта перш за ўсё цяжкія шматдзённыя паходы, якія даводзілі часам чалавека амаль да поўнага атупення і знясілення, і цяпер былі вельмі радыя, што нарэшце дабраліся да мэты. Справа віднеўся бункер з шырокай амбразурай у бок лесу. Адтуль, з бункера, час ад часу выходзіла варта і ішла ўздоўж чыгункі. Сталі вывучаць перыядычнасць праходак вартавых. Навокал панавала цішыня. Чуваць было, як побач у балоце крумкалі жабы. Вечар паступова пераходзіў у ноч, хутка меўся паказацца месяц. Ціхаміраў не стрымаўся, кашлянуў.

— Цішэй! — накінуўся на яго Свісціян, свідруючы вачыма. — У шапку кашляй! Ты што? Сарваць хочаш? Кашляць уздумаў…

— Свісціян, не панікуй! — падбадзёрыў Калеснікаў.

Напружанасць узрастала. Тут усё трэба рабіць хутка. Улучыўшы момант, калі варта вярнулася ў бункер, кінуліся да насыпу, фінскімі нажамі выкапалі гнёзды для мін. Шчабёнку і пясок Ціхаміраў спакаваў у рэчмяшок.

— Замаскіруй, каб не відаць было! — шэптам загадваў Калеснікаў.

Аднак паставіць міны не паспелі. З захаду, з боку Седльцаў, пастукваючы на рэйках, рухаўся цягнік, і вось ён ужо выскачыў з-за павароту і імкліва пачаў набліжацца. Заляглі пад насыпам і пачулі, як над галовамі грукочуць вагоны і пахне дым з паравознай топкі.

Цягнік прагрукатаў і зноў усталявалася цішыня. Калі шум аціх, Калеснікаў сказаў:

— А я мог бы яго з супрацьтанкавага ружжа дастаць! Па паравозе б ударыў!

— Дзе ж тое, ліха яго матары, ружжо! — мацюкнуўся Свісціян, незадаволены тым, як складваюцца справы.

— Цішэй! — цыкнуў на яго Непагодзін.

Свісціян уцягнуў галаву ў плечы, сцяўся. Зноў пачулася крумканне жаб. Якраз у гэты час з-за хмар паказаўся месяц і з бункера загаварыў кулямёт. Над імі, здавалася, каля самых вушэй, дзіка засвісталі буйнакаліберныя чэргі. Падрыўнікі ўціснуліся ў зямлю. «Правал!» — мільганула ў галаве ў кожнага, але кулямёт хутка аціх — раптоўна, як і пачаў. Здрадлівы месяц таксама запоўз за хмары. Трэба было і ім хавацца далей ад насыпу і чакаць. Так яны і зрабілі. Не паспелі, аднак, адпаўзці ў кусты, як здалёк, цяпер ужо з адваротнага боку, з боку Брэста, пачуўся працяглы гудок паравоза. Цягнік рухаўся марудна, далікатна пастукваючы на стыках рэек, нібы вёз нейкі незвычайны груз. Але паступова разганяўся, набіраў хуткасць.

— Давай! Родзіна не забудзе!.. — скамандаваў Калеснікаў сабе і ўсім астатнім.

Зноў рвануліся да насыпу.

— Была ні была.

Калеснікаў падняўся і пабег першым. У любой аперацыі — самае рызыкоўнае месца — яму. Так павялося ўжо і разумелася само сабой. У прыгатаваныя ўжо ямкі паклалі міны, устанавілі бікфордаў шнур з узрывальнікам, і тут жа Калеснікаў чыркнуў запалкай і падпаліў канец шнура. На скронях у яго і на лбе ад натугі выступілі сінія жылы. Партызан аблізаў перасохлыя вусны.

— Адкатвайся! — падаў ён каманду. — Адкатвайся!

Усе разам кінуліся ў лес. Нервы былі напружаныя да апошняй мяжы. Вось на міну наехала платформа з баластам, за ёю калёсы-бегункі, паравоз… няўжо

не спрацуе? Рванула недзе пад першымі вагонамі. Усполах полымя вырваў з цемры абрысы цягніка, рэйкі. Выбух быў такі, што, здавалася, неба абрынулася на зямлю. Зямля прыўзнялася і хадуном захадзіла пад нагамі падрыўнікоў. Паравоз споўз з насыпу і перавярнуўся. За ім, не спяшаючыся, папаўзлі цяжкія пярэднія вагоны, на якія напіралі наступныя. Вагоны загараліся, лезлі адзін на другі і зрываліся ў адкос, падаючы і па той, і па гэты бок палатна. У паветры стаялі чалавечыя крыкі, стогны, праклёны. З шумам і свістам ляцелі высока ў неба кавалкі рэек і шпал. Насып абвалакло чорным дымам, зямля дрыжэла ад выбухаў.

— Адыходзім, адыходзім! — паўтараў Калеснікаў. — Зматваем вудачкі!

І падрыўнікі, спяшаючыся, адзін за другім, падаліся ўглыб лесу. З боку чыгункі неўзабаве пачулася аўтаматная і вінтовачная страляніна. Часта застукалі кулямёты. Гэта быў ураганны агонь. Да аховы, пэўна, прыбыла падмога. Стралялі, як азвярэлыя, трасіруючымі кулямі.

Пярэдні, Калеснікаў, на момант прыпыніўся, прыслухаўся. Яшчэ чутно было, як паасобныя вагоны ўсё яшчэ ўзбіваліся адзін на адзін, куляліся на адхоне і ляцелі далей уніз. Чуліся новыя выбухі — гэта ўзрываўся груз. Зыркія рознакаляровыя стрэлы паласавалі начную цемру.

— Няма чаго марудзіць! — ускіпеў Свісціян. — Уцякайма!

І яны зноў пабеглі. Кулі свісталі і разрываліся недзе зусім побач, а яны беглі не спыняючыся і ні на што не звяртаючы ўвагі. Беглі як ашалелыя, дай бог ногі. Гадзіны праз паўтары, сустрэўшы на шляху густы ельнік, вырашылі перадыхнуць.

— Дзве міны — гэта не тое, што адна, здзіўлена сказаў задыханы Свісціян.

— Бухнула як трэба! — дадаў узрадаваны Непагодзін.

Усе былі задаволеныя.

— Хоць намучыліся, калі неслі, але вынік ёсць, — азваўся Калеснікаў.

— Музыка што нада! — пракаменціраваў Ціхаміраў.

Потым пайшлі далей і спыніліся на лясным хутары ў знаёмага Калеснікаву гаспадара. Месца было надзейнае, Калеснікаў не раз тут знаходзіў схоў. Хутар не багаты, сціпла туліўся на ўскрайку лесу, партызанаў у гэтай мясцовасці не было. Гаспадара, пасля таго як ён іх пакарміў, паслалі ў Лешніцу (гэта была бліжэйшая чыгуначная станцыя) пацікавіцца, што гэта быў за эшалон, што ён вёз і якія канкрэтныя вынікі таго, што адбылося.

— Мы бачылі, — тлумачыў Калеснікаў гаспадару, — што паравоз з’ехаў з насыпу, вагоны гарэлі і таксама куляліся, але просім дакладней даведацца, колькі і чаго знішчана.

Гаспадар згадзіўся.

— Паспрабую даведацца. Схаджу на станцыю. Ёсць у мяне там адзін знаёмы, на станцыі працуе, ён павінен ведаць.

Адпачывалі ў хляве на вышках. Знізу цадзіўся цёплы дух, там стаяла карова. Паціху абменьваліся ўражаннямі і думкамі.

— Дома ўжо наверняка пахаронку атрымалі, — сказаў Непагодзін, — а я вось жывы! А Брунькіна ўжо няма.

Калеснікаў маўчаў.

— А мы ж, ліха яго матары, і сапраўды жыццём рызыкуем! — ціха прамовіў Свісціян.

— А я так думаю, — азваўся нарэшце Калеснікаў, — трэба прывыкнуць да думкі, што можаш быць забіты. Прывыкнеш — усё будзе ў парадку. Забіты дык забіты, ну і што? Тады менш баяцца будзеш і лягчэй стане жыць. Па сабе ведаю.

— А можа гэта і праўда? — паціснуў плячыма Ціхаміраў, які, па ўсім відаць, яшчэ не прывык да ўмоў і асаблівасцей партызанскага існавання.

— Я пустога гаварыць не буду, — зірнуў на яго Калеснікаў.

Усё яшчэ звінела ў вушах, але стома і сон бралі сваё, і хутка яны паснулі.

Вярнуўшыся, недзе праз суткі, гаспадар расказаў, што на станцыі гвалт, хтосьці пусціў пад адхон эшалон з немцамі, з-пад ламачча выцягнулі шмат забітых і параненых, назваў нават лічбы: дзесяць палкоўнікаў і сто афіцэраў ніжэйшых званняў.

— Да паўдня выцягвалі трупы і пакалечаных, — сказаў ён. — На станцыі паніка, але пачалі ўжо дашуквацца, хто гэта зрабіў.

— Хай дашукваюцца! — хмыкнуў у вусы Непагодзін. — Не дашукаюцца!

— Немцы навучыліся рамантаваць, — дадаў гаспадар, — і робяць гэта вельмі хутка і спраўна. Цэлыя брыгады рамонтнікаў маюць.

— Ты што, ліха яго матары, немцаў хваліш! — напудзіўся на яго Свісціян.

— Я не хвалю, я вам кажу, — апраўдваўся гаспадар.

Умяшаўся Калеснікаў:

— Дарэмна на чалавека не нападай! — абсек ён Свісціяна. — Ён праўду кажа.

— Можа і праўду, але самагонкі не паставіў.

— На самагонку выбачайце, няма ў мяне самагонкі, няма з чаго гнаць.

Свісціян недаверліва на яго паглядзеў, але прамаўчаў.

На хутары яны доўга не заставаліся. Развіталіся з гаспадаром, падзякавалі і пайшлі. Па дарозе яшчэ раз спыніліся на днёўку, дабраўшыся да ляснога закутка. Вялі ціхую гамонку.

Свісціяна нешта турбавала, і ён спытаў:

— А ці дадуць нам за гэта медалі якія-небудзь?

Калеснікаў паціснуў плячыма, Ціхаміраў таксама. Адказу на гэтае пытанне ні ў кога з іх не было.

У атрадзе падрыўнікоў чакалі. Шэсць сутак ад іх не было ніякіх вестак. Нарэшце з’явіліся, далажылі аб выніках аперацыі, склалі, як таго патрабаваў Гарланаў, акт.

**АКТ**

*Мы, ніжэйпадпісаныя камандзір атрада імя Ушакова Гарланаў Сяргей Сяргеевіч, камісар Мачалаў Пётр Нікадзімавіч, начальнік штаба Беражняк Андрэй Амяльянавіч, камандзір групы Калеснікаў Якаў Ксенафонтавіч, склалі гэты акт у тым, што 19 ліпеня 1943 года ў 1.00 гадзін групай байцоў атрада*

*Непагодзін Герасім,*
*Ціхаміраў Мікалай,*
*Гунько Севасцьян,*

*на чале з камандзірам групы Калеснікавым на чыгунцы Седльцы—Брэст у раёне Лешніцы спушчаны в/эшалон праціўніка з жывой сілай, што ішоў з Усходу на Захад. Знішчана 12 вагонаў. Забіта 12 палкоўнікаў і маёраў, больш 100 сярэдніх афіцэраў і вялікая колькасць раненых. Рух спынены на 48 гадзін.*

Унізе стаялі подпісы асоб, якія склалі акт.

Па часе Афінагенаў, якому далажылі пра гэтую дыверсію, наладзіў праверку праз сувязных, і тыя пацвердзілі. У Гарланава была рацыя, і ён перадаў звесткі на Вялікую зямлю.

***Працяг будзе.***



**Віктар ШНІП**

## БАЛАДА ПАЎЛА ПРУДНІКАВА

***(14.07.1911—16.03.2000)***

***Двойчы мне давялося на свет нараджацца,***
***Захапляцца, любіць і спяваць…***
Павел Пруднікаў

Да цябе да акна прылятае сініца,
І глядзіць у акно, і цябе не баіцца,
Бо яна з тых гадоў, з Ленінградскіх «Крыжоў»,
Дзе твой шлях крыжавы пачынаўся і кроў
Пралілася твая на снягі, і драты,
І на час той пякельны, і час залаты,
Бо ты быў малады, бо ты быў малады,
Як трава на грудах расстраляных сяброў,
Што пісалі, як ты, пра вясну і любоў
Да зямлі, без якой нас няма і не будзе...

За акном зноўку снег і далёкі той студзень,
Што бясконца табе, занямогламу, сніцца,

---

***Шніп Віктар Анатольевіч*** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), кніг паэзіі і прозы «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

Дзе ты корміш з рукі, як сяброўку, сініцу,
Што да родных тваіх паляціць, каб сказаць,
Каб чакалі цябе, хоць нялёгка чакаць…

І ты прыйдзеш дамоў, і пачнецца жыццё,
І на дрэвах тваіх затрапеча лісцё,
І ты будзеш пісаць ізноў вершы, і жыць,
І любіць Беларусь, што была на крыжы,
За якую і ты з Ленінградскіх «Крыжоў»
Да крыжа на магіле ідзеш, як ішоў…

## БАЛАДА СЯРГЕЯ ГРАХОЎСКАГА

*(25.09.1913—11.12.2002)*

Ты не плыў на плыце па сібірскай рацэ,
Як саломіну, шост не сціскаў у руцэ,
Бо ішоў праз зіму, як праз белы пажар,
Сонца ў небе, як вугаль, свяцілася з хмар,
І яно ў Беларусь адзінока плыло,
Для кагосьці журбу, для кагосьці святло
Несучы, і глядзеў ты на сонца, і жыў
Толькі думкай пра волю, і вершы ў душы
Закіпалі, сціхалі, каб потым ізноў
Ажываць, бо жылі ў іх надзея, любоў
І цяплілася вера, што сыдзе зіма
І рассыплецца гэта, як з лёду, турма,
У якой ты жывеш, па якой ты ідзеш
І не бачыш яе ні пачатку, ні меж,
Бо паўсюль дрот калючы, крывіна слязы
І паўсюль маразы, маразы, маразы…
Але ты ўсё ж прыйшоў, пасівелы, дамоў
І прынёс з сабой веру, надзею, любоў
Да Айчыны, якая любіла цябе,
Да Айчыны, якая ў бязмернай журбе
Для цябе не магла анічога зрабіць,
Акрамя як чакаць, акрамя як любіць…

## БАЛАДА УЛАДЗІМІРА КОНАНА

*(23.04.1934—6.06.2011)*

Дон Кіхот з навагрудскай зямлі,
Беларускай душы абаронца,
Дзе ты сёння? Зноў прыйдзеш калі
Ты да нас, бо самотна ў старонцы
Нашай роднай? І трэба, каб ты
Сваё слова сказаў і ўсе зналі,
Што наш край не куток нematы,

А краіна, якую стваралі
Нашы продкі для нас…

«Я нікуды ад вас не сышоў,
Я на хвілю адну аддаліўся
Ад сівых навагрудскіх муроў…» —
Ты сказаў, і, як меч, засвяціўся
Крыж драўляны і вечны твой крыж,
Які лёгкім не быў аніколі,
Пад якім ты маўчаў, і маўчыш,
І маўчаў, і маўчыш не аб долі
Нашай любай зямлі, аб сабе,
Адзінокім, як бэз ля дарогі,
Што ламаюць усе і ў журбе
Потым кідаюць часу пад ногі,
І маўчаць, і гавораць: «Маўчы…»
А маўчаць немагчыма бясконца.
Аднаму цяжка выйсці з начы,
Дзе над намі адно вечна сонца
І адзін Дон Кіхот сярод нас,
Без якога самотна ў краіне,
Без якога спыняецца час
І ўсё светлае, роднае гіне…

* * *

Дажджлівая халодная вясна
Табе прысніцца, і прачнешся ты,
І паглядзіш на белы свет з акна,
Нібыта з-пад аціхлае вады,
Што ўчора бушавала і цякла
І праз тваю савецкую душу,
Якая тут адвыкла ад цяпла,
Прывыкшы да бясконцага дажджу.
Ды дождж прайшоў, і наступіла лета,
І, дзе была вада, цяпер трава
Буяе і па жоўтых хвалях кветак
Плыве да вёскі белая царква…
І ты прачнуўся, і глядзіш з усмешкай
Удалячынь, дзе сонца, як акно,
Дзе лесу шнур, як у нябёсы сцежка,
І лён, нібы блакітнае віно,
Разлітае анёламі даўно…

* * *

Не кажы пра самоту нічога,
Бо самоту цяпер не люблю,
Як і пыл над вясковай дарогай,
Што ўзляцеў, каб ізноў на зямлю
Апусціцца, і з пылам змяшацца,

І абсыпаць кусты і траву.
Калі можна ад пылу схавацца,
Ад самоты сваю галаву
Не схаваць, бо самота заўсёды,
Як паветра, ля нас і ў душы,
Праз якую і пыл, і лістота
Пралятаюць, праходзяць дажджы,
Пакідаючы сумныя вершы,
У якіх ёсць і лёд, і цяпло.
Што прайшло, больш таго ўжо не вернеш,
І ці трэба вяртаць, што прайшло,
І таму не кажы пра самоту,
Бо самота, як пыл, як вуглі,
Як стаптаная ў парку лістота,
Як у небе начным жураўлі…

* * *

Блукаеш па полі, як вецер,
Якому не хочацца жыць
У гэтым задымленым свеце,
Дзе ў травах вякуюць глыжы,
Нібы чарапы нашых вояў,
Што нас баранілі ад зла,
Каб наша Айчына ў спакоі
Не толькі ў музеях жыла,
А ў кожнай хаціне і ў сэрцы
Людзей, што для роднай зямлі
Жывуць не ў далёкай Амерыцы,
А тут, дзе іх продкі жылі…
Блукаеш па полі, як вецер,
Ды ветрам не хочаш ты жыць
У гэтым задымленым свеце,
Дзе быў наш Хрыстос на крыжы…

* * *

Зямля засыпана, як попелам, лістотай,
І жыць самотна тут, і нашае жыццё,
Нібы халодная вада пад тоўстым лёдам,
Цячэ, і час цячэ і зоркі, як лісцё,
Зрывае з неба, у якім няма анёлаў,
Што любяць нас і берагуць, як мы — дзяцей.
Зямля, як попел, па якой прайшлі манголы,
Што ў Залатой Ардзе не сталі залацей
Апалага лісця, што стане тлом і пылам,
Разветрыцца і зробіцца сырой зямлёй,
Дзе будзе кожнаму, хто тут жыве, магіла,
Самотная, як лісце пад маёй нагой…

* * *

Па забытых дарогах Айчыны
Ты няспешна, як прывід, ідзеш
Да цяпла, куды клін жураўліны
Паляцеў, нібы восеньскі верш,
Што напісаны Богам самотным
У дажджлівы і ветраны дзень,
Дзе было для цябе неба родным
І лісцё, што плыло па вадзе,
Як аскепкі разбітага шчасця,
Што было, як лісцё, залатым.
Шчасця не накупіць, не накрасці,
Шчасце ёсць, але шчасце не ў тым,
Што ты шчасцем сваім называеш,
Па забытых дарогах ідзеш
Да цяпла, і ў самоце знікаеш,
Бы ў душы ненапісаны верш…

* * *

Не патоне ў снягах стары лес,
Нібы востраў, дзе сонца жыло,
Што пакінула ў чорнай смале
У задумлівых соснах святло,
Да якога ідзеш па снягах,
Як па белай марознай вадзе,
І, як крыж, ты нясеш на плячах
Белы снег, што з цябе не спадзе,
Бо ён вечны, як Бога святло,
Як пражытыя дні і гады,
І, як тое, што ўчора было,
Знікла ў снезе, як лес малады…

* * *

…Снегам усё замяцецца,
Нібы азораным тлом.
Мама ад ветру прачнецца,
Выйдзе на двор з ліхтаром
І не пабачыць нічога,
Толькі бязмежнасць снягоў
Белай дарогай да Бога
Будзе прад мамай ізноў
Так, як і ўчора, заўчора,
Цэлую вечнасць назад…

Траваў зялёнае мора
З рыфамі дрэваў і хат
Бачыцца мне — гэта сніцца, —
І я спяшаю дамоў,
І мне ніяк не пазбыцца

Гэтага сну, дзе ізноў
Снегам усё замяцецца,
Нібы азораным тлом.
Мама ад ветру прачнецца,
Выйдзе ў бязмеж з ліхтаром…

* * *

У словах прыгожых не толькі святло,
У словах прыгожых хаваецца зло,
Нібы ў кабуры скураной пісталет.

І ты мне гаворыш, што любіш мяне,
Як сонца ў чырвоным і танным віне
Любіў адзінокі памерлы паэт.

Забудуцца словы, растануць снягі,
І, пэўна, зноў будзе ўжо нехта другі
З табою ісці і казаць пра любоў.

І ў словах прыгожых зноў будзе святло,
І ў словах прыгожых схаваецца зло,
І ўсё, што забыта, паўторыцца зноў,

І будзе праліта віно, нібы кроў…

* * *

Гэты дзень у снягах дагарае,
Нібы ў квецені белай той сад,
Дзе лятала пчала залатая,
Залатая, нібы лістапад.

Ты па гурбах ідзеш, маладая,
І ў цябе ёсць у сэрцы святло,
Што дарогу табе асвятляе
У што будзе з таго, што было.

І ты прыйдзеш і скажаш мне светла,
Што ў снягах сумны дзень дагарэў,
Залатою саломаю лета
Да суседа схавалася ў хлеў.

І табе я ў адказ усміхнуся,
Бо я добра ўжо знаю цябе.
Ты прыйшла, я таксама вярнуўся
У наш вечар, дзе зоры ў журбе

У нябёсах, як рой, залатыя,
Дзе жаўцюткая поўня, як мёд
У тым садзе, дзе мы маладыя,
Хоць з табою нам тысячы год…



**Георгій МАРЧУК**

# ПІСЬМЫ САЛДАТУ

*Меладрама*

***Прысвячаецца Шолахаву Міхаілу Аляксандравічу, Бандарчуку Сяргею Фёдаравічу — аўтарам фільма-шэдэўра «Яны змагаліся за Радзіму».***

**Шмат хто з нас праўдамі і няпраўдамі**
**імкнецца пазбегнуць службы ў арміі,**
**але пазней усе дзякуюць лёсу за гэту школу жыцця.**

*З запісак невядомага сяржанта*

*Аўтар выказвае падзяку за кансультацыю лейтэнанту Клімовічу С. В.*

**Дзеючыя асобы:**

**Міхаіл Кулік** — радавы.
**Тадэвуш Сідорчык** — радавы.
**Адам Серада** — радавы.
**Павел Буян** — радавы, пазней сяржант.
**Старшына Фёдар Даўгазвяга** — 35 гадоў.
**Вольга Панцялееўна** — маці Куліка, 40 гадоў.
**Крысціна Францаўна** — маці Сідорчыка, 45 гадоў.

---

***Марчук Георгій Васільевіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку. Пасля заканчэння школы № 2 у Давыд-Гарадку працаваў ва ўстановах культуры. З 1969 года ў Мінску — адміністратар кінастудыі «Беларусьфільм», асістэнт рэжысёра аб'яднання тэлефільмаў той жа кінастудыі. Скончыў аддзяленне тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1973), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве (1975). Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра, працаваў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар кніг прозы «Крык на хутары» (1983), «Кветкі правінцыі» (1986), «Вочы і сон» (1990), «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (1990) і іншых, шэрага п'ес, кіна- і тэлефільмаў.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

**Іван Паўлавіч** — бацька Паўла Буяна, 48 гадоў.
**Капітан Ратнікаў** — камандзір 1-й роты, 35 гадоў.
**Ірына Пятроўна Уварава** — доктар-псіхолаг, 28 гадоў.
**Ангеліна** — студэнтка гандлёвага каледжа, 19 гадоў.
**Руслана** — яе сяброўка, 18 гадоў.
**«Татачка» Ангеліны** — уладальнік рыбных крам, 48 гадоў.
**Мехмон Муртазо** — радавы другога аддзялення.

*Час дзеяння — нашы дні.*
*Месца дзеяння — вайсковая часць паблізу сталіцы.*

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

*Перад тым як расхінецца заслона, гучаць пазыўныя — знаёмая мелодыя «Радзіма мая дарагая». Расхінаецца заслона. Пасярэдзіне ля сцяга вайсковай часці стаяць сцяганосец і два асістэнты. Бліжэй да авансцэны бацькі і знаёмыя салдат, якія неўзабаве прымуць прысягу. Гэта — Іван Паўлавіч, Вольга Панцялееўна, Крысціна Францаўна, знаёмая Сідорчыка Руслана. Побач з імі капітан Ратнікаў.*

**Ратнікаў** *(глядзіць на гадзіннік)*. Старшына Даўгазвяга?

*Уваходзіць старшына. З выгляду яму гадоў 30—35. Шырокія плечы. Каржакаваты. Носіць вусы.*

**Старшына.** Тут, таварыш капітан.
**Ратнікаў.** Да прыняцця прысягі ваеннаслужачымі ёсць яшчэ час. Хай родныя і знаёмыя салдат вашага аддзялення азнаёмяцца з месцам навучання, адпачынку, сну, з узорамі баявой тэхнікі. З Домам культуры, сталовай, медпунктам яны ўжо азнаёміліся.
**Старшына.** Ёсць азнаёміць родных і знаёмых, таварыш капітан.

*Ратнікаў ідзе.*
*Прамень святла асвятляе чатыры ложкі ў казарме.*

**Старшына.** Вось наша казарма. Ложкі ў адзін ярус.

*Вольга Панцялееўна памацала матрац і коўдру.*

**Крысціна Францаўна.** Не мулкі?
**Вольга Панцялееўна.** Ды нічога, нармальны.
**Крысціна Францаўна.** А калі ўзімку холадна, яшчэ адну коўдру можна?
**Старшына.** У казарме пастаянная тэмпература і ўзімку, і ўлетку.
**Руслана.** Цётка Крысціна, у тумбачцы ж ніякага харчу.
**Крысціна Францаўна.** А як жа пасылку даслаць? Халадзільніка ж няма.
**Старшына.** У тумбачцы толькі ўсё неабходнае для асабістага карыстання. А пасылку хоць штомесяц. Да паслуг сталовая. Меню ведаеце?
**Вольга Панцялееўна.** Так. Дай божа кожнаму, не тое што ў нас у калоніі. Я за кухара там.
**Іван Паўлавіч.** Дык не зэкі ж, абаронцы Айчыны.
**Старшына.** У царскай арміі на сняданак давалі лусту чорнага хлеба з соллю. Усё неабходнае для падтрымкі здароўя ў сэнсе вітамінаў і калорый у рацыёне ёсць. У пакоі для адпачынку і інфармацыі — тэлевізар, прэса, ДВД.
**Іван Паўлавіч.** Спартыўная зала? Мой штангай захапляецца.

**Старшына.** У вольны ад службовых абавязкаў час. Слабае здароўе ў сённяшніх нававбранцаў. Але на тое і армія, каб з грамадзян з чалавечым аблічам зрабіць патрыётаў, абаронцаў Айчыны, моцных духам і целам, якія валодаюць адпаведнай прафесіяй, што прыдасца ў цывільным жыцці.

**Крысціна Францаўна.** Я ўсім задаволена. Майму асабіста не стае дысцыпліны і стараннасці.

**Іван Паўлавіч.** Таварыш старшына, можна пытанне?

**Старшына.** Калі ласка.

**Іван Паўлавіч.** Я, ведаеце, рабочы чалавек, маю справу з металам. Калі гэта не ваенная тайна. Дзеці нашы воіны… і рознае можа здарыцца нават у мірны час…

**Вольга Панцялееўна.** Не дай божа.

**Іван Паўлавіч.** Як наконт брані БТРаў і БМП?

**Старшына.** Пытанне слушнае. Гэта не ваенная тайна. Браню нашых БТР і БМП, а таксама САУ могуць прабіваць снарады дробнакаліберных аўтаматычнай гарматы, касетныя элементы, бранябойныя кулі калібра 12,7 мм, ну і гранаты, натуральна, РПГ. Бяду экіпажу нясуць рэшткі «ўдарнага ядра», і такіх асколкаў, як падлічана, 110 штук.

**Іван Паўлавіч.** А поле разлёту?

**Старшына.** Лагічна. Поле разлёту, шчыра скажу, да ста градусаў.

**Крысціна Францаўна.** Свенты Езус, схавацца немагчыма!

**Старшына.** Толькі з дапамогай індывідуальнай абароны. Бронежылетамі.

**Руслана.** А галава?

**Старшына.** Лагічна. Процiасколачны шлем у кожнага.

**Крысціна Францаўна.** Божа мой, божа мой!

**Руслана.** Але ўсё ж, цётка, на зямлі, не на падводнай лодцы.

**Іван Паўлавіч.** А ў выпадку пажару?

**Вольга Панцялееўна.** Божа, ды не палохайце вы ў такі ўрачысты дзень, сапраўды.

**Старшына.** Прыемна мець справу з абазнаным чалавекам. Служба — гэта не праходка па набярэжнай, цяжкая праца, самадысцыпліна, здольнасць пралічыць сітуацыю імгненна. На выпадак пажару прадугледжаны вогнетэрмастойкі камбінезон са спецыяльнай тканіны, якая вытрымлівае тэмпературу да тысячы ста градусаў. Але гэта ў перспектыве.

**Руслана.** Можна не хвалявацца, Крысціна Францаўна, усё прадугледжана.

**Вольга Панцялееўна.** Можна ўратавацца? Калі, барані божа…

**Старшына.** Так. Але толькі ў першыя дзесяць-пятнаццаць секунд. Не варта сумаваць і думаць пра благое. За час маёй службы ў нашай часці не было ніводнага падобнага ЧП.

**Іван Паўлавіч.** Цяжка вучыцца — лёгка біцца.

**Старшына.** Сувораў. У 1795 годзе. Запрашаю ў наш музей славы. Мы з вашых дзяцей пад чулым кіраўніцтвам камандзіраў узгадуем годных салдат, якімі вы будзеце ганарыцца.

**Вольга Панцялееўна.** Майму будзе цяжка. Ён у мяне з маленства слабае здароўе мае. Музыкант, свабоду любіць.

**Крысціна Францаўна.** Мой не лепшы за твайго. Камп'ютар, камп'ютар, удзень і ўначы ў кантакце нейкім, чаты нейкія. Цікавяць толькі бабы, можа хоць тут сціхне.

**Старшына.** Прашу ісці за мной.

*Усе ідуць следам за старшынoй.*
*Зацямненне.*
*Прамень святла выхоплівае сцяганосца і двух яго асістэнтаў. Чуецца каманда: «Батальён! Для прыняцця прысягі станавіся! Смір-р-на-а!»*
*Над сцягам часці свеціцца вялізны экран. На экране з аўтаматам на грудзях і з тэкстам прысягі ў руках нашы героі.*

**Павел Буян** *(гучыць яго голас)*. Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь Буян Павел Іванавіч, урачыста клянуся: быць адданым свайму народу.

*Да авансцэны падыходзяць бацькі нашых герояў.*

**Іван Паўлавіч.** Гэта мой сын.

*На экране ўжо з аўтаматам і тэкстам Міхаіл Кулік.*

**Кулік.** Я, Кулік Міхаіл Міхайлавіч, урачыста клянуся свята выконваць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, выконваць патрабаванні воінскіх статутаў і загады камандзіраў і начальнікаў.
**Вольга Панцялееўна** *(выціраючы слёзы)*. Гэта мой Мішачка, сынок.

*На экране Тадэвуш Сідорчык.*

**Сідорчык.** Я, Тадэвуш Янавіч Сідорчык, урачыста клянуся годна выконваць свой воінскі абавязак…
**Крысціна Францаўна.** Мой, мой. Гэта мой Тадзік. Бесталковы, шалапутны.

*На экране Адам Серада.*

**Серада.** Я, грамадзянін Рэспублікі Беларусь Адам Мікалаевіч Серада, урачыста клянуся мужна і самаадданa абараняць незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць і канстытуцыйны лад Рэспублікі Беларусь.

*Голас камандзіра: «Батальён! Паротна! Раўненне на сярэдзіну. Шагам марш!»*
*Гучыць марш «Грэнадзёр». Салдаты строем праходзяць перад трыбунай, на якой стаяць камандзір часці і яго намеснікі.*
*Экран гасне.*
*Праз хвіліну нашы героі трапляюць у абдымкі да родных.*

**Руслана** *(працягвае кветкі Тадэвушу)*. Тадзік, родны, віншую!

*Усе сядаюць па сваіх ложках.*
*Адам Серада адзін. Да яго ніхто не прыйшоў.*

**Руслана.** А чаму гэты хлопец адзін?
**Тадэвуш.** Ён сірата.

*Руслана бярэ адну кветку, падносіць яе Адаму.*

**Руслана.** Віншую.
**Адам Серада.** Дзякуй.
**Руслана** *(падае руку)*. Руслана.
**Серада.** Адам.
**Руслана.** Вы нашага Тадэвуша не крыўдзіце. Я сяброўка яго дзяўчыны.
**Серада.** Яго пакрыўдзіш. Ды і навошта крыўдзіць.
**Руслана.** Будзем сябраваць. Я разам з яго дзяўчынай вучуся ў гандлёвым каледжы.
**Серада.** Можна і сябраваць.

**Буян** *(бацьку).* А чаму мама не прыехала?

**Іван Паўлавіч.** Зноў праблемы з сэрцам. Арытмія… Будзем класці ў бальніцу. Во перадала табе тваіх любімых піражкоў з капустай.

*Павел вынімае адзін і пачынае есці.*

**Буян.** Як ты?

**Іван Паўлавіч.** Больш-менш. Сяк-так завод пакуль працуе. Хоць розныя чуткі ходзяць. Інвестара шукаюць... Цётка Соня прасіла перадаць табе прывітанне.

**Буян.** Дзякуй.

**Іван Паўлавіч.** А як наконт дзедаўшчыны?

**Буян.** Не даводзілася сутыкацца. Кажуць, тут з гэтым пакончана. А што да дробязей… кожны хоча паказаць, што ён разумны, не звяртаю ўвагі.

**Іван Паўлавіч.** І правільна. Вазьмі вось гэты партсігар сабе на памяць як талісман. Твой прадзед распісаўся ім на рэйхстагу.

*Павел бярэ партсігар.*

**Сідорчык** *(Руслане).* Руслана, а чаму Ангеліна не прыйшла?

**Руслана.** Карпаратыўчык прыдумалі на прыродзе.

**Сідорчык.** Магла б дзеля такога выпадку і адпрасіцца.

**Руслана.** Не рызыкнула. Яна ўладкавалася на цёплае мястэчка, да гаспадара рыбнай крамы. Ён і павёз супрацоўнікаў з нагоды свайго дня нараджэння.

**Сідорчык.** Перадай, што я вельмі пакрыўдзіўся.

**Крысціна Францаўна.** Не перажывай, сынок. Дзяўчат на тваю долю яшчэ хопіць. А дзе сотавы?

**Сідорчык.** У старшыны ў сейфе. Дае, калі папросім, і ў звальненне.

**Крысціна Францаўна.** Я буду плаціць, не эканом на званках. Якое жалаванне?

**Сідорчык.** Сем-восем долараў.

**Крысціна Францаўна.** На тыдзень?

**Сідорчык.** У месяц.

**Руслана.** Не надта багата.

**Крысціна Францаўна.** І за гэта дзякуй. На ўсім гатовым. Вазьмі, сынок, крыжык залаты. Яго асвяцілі ў Ватыкане, Сам Папа. З Богам усё-такі і цяплей, і надзейней.

*Тадэвуш бярэ ў маці крыжык.*

Я табе, сынок, буду пісаць штодзень. Толькі беражы сябе, не спрачайся з камандзірам. Ты гэткі шалёны, гарачы. Калі твой бацька, алкаголік праклятып, пухам яму зямля, біў мяне часта, дык ты маленькі крычаў і кідаўся мяне бараніць.

**Сідорчык.** Не рвіце вы сабе душу, мама… памёр дык і памёр... Сённяшнім днём жыць трэба. Усё ад яго браць.

**Крысціна Францаўна.** Толькі не пі, сынок, ад яе, гарэлкі, усё зло.

**Сідорчык.** У нас сухі закон.

**Крысціна Францаўна.** І дзякуй Богу.

**Кулік** *(маці).* Суд адбыўся?

**Вольга Панцялееўна.** Так, сынок.

**Кулік.** Колькі ёй далі?

**Вольга Панцялееўна.** Два гады. Адбывае ў нашай калоніі.

**Кулік.** Мне што перадавала?

**Вольга Панцялееўна.** Так. Сім-картку з тэлефона. Тут, кажа, фота вашага падарожжа.

**Кулік.** Здурнеў па п’яні. Падставіў толькі дзяўчыну.

**Вольга Панцялееўна.** Што ж ужо рабіць. Пра сябе думай. Напалохаў старшына пажарам на машыне вашай… Ты сядай бліжэй да выхаду… каб ты першым. О Божа, як падумаю пра ўсё, дык сэрца тахкае.

**Кулік.** Нам кожнаму сваё месца вызначана, згодна з адзінкай разліку.

**Вольга Панцялееўна.** Скажы, што здароўе слабае… хай пасадзяць бліжэй да выхаду. Разумныя людзі падказвалі, трэба было не ўцякаць ад арміі з дзяўчынай ва Уладзівасток, а запісацца ў секту баптыстаў, каб узялі на службу не ў страявую, а на кухню. У цябе мама повар, ты повар. Баптыстам нібыта нельга пры зброі.

**Кулік.** Шкада Светкі. З-за мяне сядзіць.

**Вольга Панцялееўна.** Можа, Бог дасць, па амністыі адпусцяць ці тэрмін зрэжуць... Я грошай з сабой узяла. Хадзем на звальненне ў рэстаран.

**Кулік.** Салдату нельга.

**Вольга Панцялееўна.** Дык у «Макдональдс»… Там можна.

**Кулік.** Здаецца, можна.

*Уваходзіць старшына. Салдаты ўсталі. Усталі і іх бацькі.*

**Старшына.** Чаму не на свежым паветры? Звальненне ж атрымалі… шагам марш… і каб я вас да дзевятнаццаці сарака пяці ў казарме не бачыў.

**Вольга Панцялееўна.** Дзякуй вам, таварыщ старшына, беражыце нашых дзяцей, яны ж у нас адзіныя.

**Старшына.** Ніхто іх не пакрыўдзіць. Радавы Сідорчык!

*Сідорчык вяртаецца. Старшына пальцам паказвае на ложак. Сідорчык папраўляе коўдру і падушку.*

**Сідорчык.** Дазвольце ісці?

**Старшына.** Ідзіце.

*Сідорчык ідзе. Праз некалькі імгненняў уваходзіць Кулік.*

**Кулік.** Радавы Кулік па вашым загадзе з’явіўся.

**Старшына.** Я не выклікаў.

**Кулік.** Сідорчык кажа, там коўдра, падушка…

**Старшына** *(пасміхаецца ў вусы).* Ну Сідорчык, ну фрукт. Ідзіце, адпачывайце.

*Кулік выходзіць. Уваходзіць капітан Ратнікаў.*

**Ратнікаў.** Ну як, таварыш старшына, незадаволеных пасля азнаямлення няма?

**Старшына.** Не, таварыш капітан.

**Ратнікаў.** Па-мойму, сярод іх адзін сірата.

**Старшына.** Так точна. Падкінулі ў пад’езд. У сераду знайшлі, дык і прозвішча далі Серада, а паколькі першы такі выпадак у пад’ездзе здарыўся, назвалі Адамам. Слесар-рамонтнік. Мае правы.

**Ратнікаў.** Рыхтуйце яго з часам у сяржанты. А пакуль прызначце паштальёнам.

**Старшына.** Непажадана.

**Ратнікаў.** Чаму?

**Старшына.** Можа траўміраваць псіхіку… усім ён будзе прыносіць лісты ды пасылкі, а самому, як кажуць, палкоўніку ніхто не піша.

**Ратнікаў.** Тады гэтага ўвішнага з бегаючымі вочкамі.

**Старшына.** Паляк. Ці апалячаны беларус, ці абеларушаны паляк, заходнік. Паштальёнам прызначым Паўла Буяна.

**Ратнікаў.** Моцарта твайго ў аркестр уладкавалі.

**Старшына.** Несапраўдны дэзерцір.

**Ратнікаў.** У сэнсе?

**Старшына.** Кулік адкасіць ад службы хацеў. Дзяўчына яго працавала ў банку, хапанула грошай, і яны ўцяклі ў дні прызыву. З Уладзівастока вярнулі.

**Ратнікаў.** Слабенькі.

**Старшына.** Ветрам з борта БТР скіне.

**Ратнікаў.** Жадаю поспехаў.

**Старшына.** Рады старацца…

**Ратнікаў.** А чаму не проста «дзякуй»?

**Старшына.** Мне бліжэй суворaўскае.

**Ратнікаў.** Толькі пакідай першую палову, а то закрычыш у прысутнасці зампаліта: «Рады старацца, ваша благароддзе!» — неэтычна атрымаецца.

**Старшына.** Зразумеў, ваша благароддзе… цьфу, таварыш капітан.

**Ратнікаў.** Але, вось яшчэ што. Не ў службу, а ў дружбу. Нешта ў маёй старэнькай «Волзе» матор стукае. Твой Буян слесар, матарыст…

**Старшына.** Задачу зразумеў.

**Ратнікаў.** І яшчэ. Моцарта твайго заўтра ў дзевяць пятнаццаць накіруй да намесніка камандзіра часці.

**Старшына.** А…

**Ратнікаў.** Загад ёсць загад. Можа, хоча правесці прафілактычную гутарку з патэнцыяльным дэзерцірам.

**Старшына.** Будзе зроблена, таварыш капітан.

**Ратнікаў.** Віншую з папаўненнем.

**Старшына.** Рады старацца… *(прыкрывае рот рукой).*

*Ратнікаў, усміхаючыся, ідзе.*

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

*Раніца. Казарма. Пасля кроса.*

**Сідорчык** *(уваходзіць першы).* Сюды, сюды нясіце. Асцярожна…

*Серада і Буян уносяць амаль непрытомнага Куліка.*

Сюды, на ложак.

*Здымаюць з Куліка шынель, боты.*

**Серада.** Можа, у здраўпункт злётаць, па доктара?

**Сідорчык.** З палавіны кроса цягнулі на ўласных спінах… Пасля зарадкі ў туалет пад рукі водзім.

**Буян.** Залік па апошнім…

**Сідорчык.** Сорам. Хутка ў звальненне адпускаць не будуць… Аддзяленне па ўсіх параметрах апошняе.

**Серада.** Ён страчвае прытомнасць. Я бягу па доктара.

*Выходзіць.*

**Буян.** Хоць бы з забеспячэння плацілі па долары за тое, што цягаем яго.
**Сідорчык.** Яны ўсе слабыя, гэтыя музыканты, артысты.
**Кулік** *(апрытомнеў, слабым голасам).* Дзе я?
**Сідорчык.** На Маямі.
**Кулік.** Што са мной?
**Сідорчык.** Толькі што пайшла прастытутка, перапрацаваўся.
**Буян.** Міша, ты б папрасіў камандзіраў, каб цябе вызвалілі ад зарадкі і кросаў, як адхілілі цябе ад БТР.
**Кулік.** Чытай Статут унутранай службы.

*Уваходзяць Серада і доктар Уварава.*

**Уварава.** Што з вамі, радавы Кулік?
**Кулік.** Упадак сіл.

*Уварава мерае ціск.*

**Сідорчык.** Штосьці трэба рабіць. Радзіма не беражэ, надта доўгі маршрут кроса, не пашкодзіла б трохі зрэзаць.
**Уварава.** Гэта не да мяне. Ціск вышэй за нармальны. Вось вам таблетка папазола. Адпачывайце. Стаміліся, перахваляваліся, тыповы выпадак.

*Уварава выходзіць.*

**Сідорчык.** Ты бачыў?
**Буян.** Што?
**Сідорчык.** Якая ў яе пад халатам фігура. Галівудская зорка.
**Серада.** Але гэта зорка шукае сабе пару з зорачкамі на пагонах.
**Сідорчык.** Старшына наш халасты. І што ён гэту багіню абмінае.
**Серада.** Гані, Кулік, па долары на брата. Пішы маме, яна повар, хай пасылкі шле. Мяне прызвалі, каб вучыцца перамагаць, а не грузы цягаць.
**Кулік.** Сутнасць усяго — матэрыя, энергія, прастора. Адмоўная энергія — гэта прастора, мы — станоўчая энергія, а вакол усё адмоўнае.
**Буян.** Мішка, не дуры галавы. Ідзі ў спартыўную залу, развівай мышцы.
**Сідорчык.** Гэта табе не на кларнеце «Бесаме мучо».
**Кулік.** Дзякуй, хлопцы. Я аддзячу. Учора звaніла мама. Выслала пасылку.
**Серада.** Гэта зусім мяняе справу.

*Сідорчык, Буян і Серада выходзяць.*
*Кулік бярэ з тумбачкі канверт, дастае ліст ад маці.*
*Зацямненне.*
*У промні святла Вольга Панцялееўна.*

**Вольга Панцялееўна.** Дзень добры, мой любы сынок. Раніцай атрымала твой ліст. Тры разы перачытала і тры разы плакала. Не толькі ад таго, што сумна без цябе, а ад таго, што сталееш ты ў мяне. Разумна разважаеш аб людзях і аб жыцці сваім салдацкім. Толькі не пярэч камандзіру і не сварыся з таварышамі. У мяне ўсё добра, ты не перажывай, гані благія думкі прэч. Другая жонка твайго бацькі, калі сустрэла мяне на аўтобусным прыпынку, пацікавілася: «Як там Міша ў арміі? Дзе служыць? Ці здаровы?» Добрая жанчына, а сам твой бацька за гэтыя месяцы так ніводнага разу і не пазваніў. Ты

таксама не перажывай. Вырас без бацькі, чалавекам стаў. Светка штодзень цікавіцца, пра цябе пытае. Спадзяецца на амністыю. Дрэва, якое ты пасадзіў, ну, ліпу, трохі засохла, але жывое. Больш ніякіх навін няма. Я табе адправіла пасылку. Там слоік з чырвонай ікрой. Дык ты пачастуй хлопцаў пячэннем, каўбасой нарачанскай, а ікру прыхавай для сябе. Я яе схавала ў скрыначку з-пад чаю. На гэтым заканчваю. Памятай, сынок мой дарагі, што табе заўсёды казала бабуля: беражонага Бог беражэ. Асцярожна са зброяй. Я зараз прыладзілася ваенную тэлевізійную перадачу глядзець. А раптам, думаю, і цябе ўбачу. Калі сум грызе душу, ратуюся, сынок, песнямі Людмілы Зыкінай. Ты яе не ведаеш. Бабуля твая любіла слухаць яе пласцінкі, асабліва песню пра Волгу (*гучыць урывак з песні «Издалека долго течет река Волга»*). Цалую цябе моцна, моцна. Твая мама.

*Зацямненне.*
*У промні святла Кулік. Ён кладзе ліст назад у канверт. Устае, апранае гімнасцёрку і выходзіць.*
*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

*Пакой адпачынку і інфармацыі. Ля тэлевізара з сумнымі тварамі сядзяць Сідорчык, Буян, Кулік.*
*Уваходзіць старшына.*
*Усе ўстаюць.*

**Старшына.** Чаму сумныя? Упадніцкія настроі? Прычына? Учора баявая падрыхтоўка парадавала мяне, да вучэнняў падцягнемся. Засвоім СССР — а там служба пойдзе як трэба.

**Сідорчык.** Зноў СССР?

**Старшына.** Так. А менавіта: стральба, сіла, спецыяльнасць, Радзіма — СССР.

**Сідорчык.** А я думаў, спачатку засвоім САВ.

**Старшына.** Не зразумеў? Можа, ЗРК — зянітна-ракетны комплекс?

**Сідорчык.** Ды не. САВ — сняданак, абед, вячэра.

**Старшына.** Хе, хахмач. Армія не прызнае двух слоў: абы як і абы ціха. Закон адзін: ваенная спецыяльнасць, стральба, фізічная сіла, а пасля ўжо САВ і звальненне.

**Буян.** А чаго радавацца. Зноў наша зборная не прабілася на Еўропу.

**Сідорчык.** Няма ў нашай краіне футбола.

**Старшына.** Ёсць хакей, тэніс, біятлон, баскетбол. На ўсё ў Радзімы сродкаў не стае.

**Сідорчык.** Цяпер паняцце «радзіма» няпэўнае. У багатых свая радзіма, у бедных свая, у чыноўнікаў свая, у студэнтаў свае меркаванні.

**Буян.** Толькі ў салдата агульная.

**Старшына.** Радзіму любіць лёгка, калі ведаеш, што яна ў цябе ёсць.

**Сідорчык.** Канкрэтна не ўлоўліваю.

**Старшына.** Радавы Буян, што для вас значыць паняцце «радзіма»?

**Буян.** Як у школе вучылі. Палі, лясы, рэкі і азёры, шахты, фабрыкі і заводы.

**Старшына.** І гэта таксама, але хацелася б глыбей. А для цябе, радавы Кулік.

**Кулік.** Ну, гэта… тэатры, чыгунка, наша войска, бібліятэка.

**Старшына.** І гэта таксама. А для цябе, радавы Серада?

**Серада.** Для мяне радзіма — мой дзіцячы дом і ўсё…

**Старшына.** І гэта таксама. Сукупнасць паняццяў матэрыяльнага і духоўнага. Радзіма — гэта дух, паветра, неба, людзі, культура, традыцыі, туман, вада, радзільня. З паняццем радзімы суадносіцца сэнс жыцця.

**Кулік.** Па-мойму, дык сэнсу жыцця ўвогуле няма.

**Старшына.** Не зразумеў?

**Кулік.** Па-першае, заўсёдны страх перад смерцю не дазваляе заставацца абсалютна свабодным і шчаслівым. Па-другое, розныя інтарэсы з'яўляюцца крыніцай адзіноты. Пустата ідэй прыгнятае сумненнямі пра розум чалавека, абцяжаранага заўсёднымі войнамі, голадам і прыніжэннем.

**Старшына.** Стоп. Як гэта, радавы Кулік, для цябе ў дзевятнаццаць гадоў няма сэнсу жыцця? Ты ж толькі па-сапраўднаму жыць пачынаеш. Наперадзе — каханне, кар'ера, неба, дзеці, сяброўства.

**Кулік.** Дык і сяброўства ж няма. Калі няма выгоды — непатрэбнае і сяброўства.

**Старшына.** Гэта навіна. Я вас хвалю, што вы добра засвоілі прызначэнне і баявыя якасці гранат РГД-5 і Ф-1, тактыка-тэхнічныя характарыстыкі стралковай зброі, прыёмы стральбы з АК-74 і заўважыў поспехі ў стральбе, засваенні ваеннай прафесіі, а ў галовах асэнсавання сваёй неабходнасці для грамадства няма. Значыць, дрэнны я пасрэднік паміж Радзімай і вамі. Служба як пакаранне, без гонару за Радзіму, за армію — не ўяўляю. Ваша свядомасць яшчэ вата. Ідэйны вораг можа ляпіць з вас чорт ведае што, ёлкі-палкі. Так, паўтараем асновы Статута.

**Сідорчык.** З першага параграфа?

**Старшына.** А табе хочацца з апошняга — «Аб прапановах, заўвагах, скаргах»?

**Сідорчык.** Мужна пераносіць цяжкасці ваеннай службы.

**Старшына.** Менавіта так.

**Сідорчык.** Быць шчырым, дысцыплінаваным, адважным пры выкананні воінскага абавязку.

**Серада.** Захоўваць вайсковае братэрства, дапамагаць словам і справай, паважаць гонар і годнасць кожнага.

**Кулік.** Выконваць загады камандзіраў, заставацца заўсёды ўважлівым, берагчы дзяржаўную тайну.

**Старшына.** Строга…

**Кулік.** Строга берагчы дзяржаўную тайну.

**Старшына.** Даволі. Хай гэта не застаецца словамі на паперы, а трапляе ў душы.

**Сідорчык.** Таварыш старшына, можна пытанне?

**Старшына.** Пытай.

**Сідорчык.** Прабачце, вядома, але вы праходзілі праз дзедаўшчыну падчас сваёй службы?

*Паўза.*

**Старшына.** Адкажу. Было аднойчы.

**Серада.** І вас білі?

**Старшына.** Ну, не лашчылі ж па галоўцы. Валёнкам, у якім прас…

**Сідорчык.** Мама… па галаве? Крута!

**Старшына.** Ды па чым паспявалі.

**Серада.** І вы камандзіру не паскардзіліся?

**Старшына.** Паспрабуй паскардзіцца. Два прасы ў валёнак засунуць.

**Сідорчык.** Добра яшчэ, што не з акумулятарам.

**Старшына.** Але гэта ўсё ў мінулым. Мы зліквідавалі дзедаўшчыну. Бачыце гэты кулак (*паказаў*). Гэта адбойны малаток. Я на гаўптвахту адпраўляць не буду. Сам разбяруся з крыўдзіцелем, толькі скажы мне, за што, хто, калі і чым. Я гэты жывёльны пачатак важака, пахана калёным жалезом выбіваць буду.

**Сідорчык** *(шчыра).* Я што… я ніколі… гэта… я да слова.

**Старшына.** І я да слова. Я ж таксама зялёным прыйшоў адбываць абавязак. Разумны старшына мне трапіўся. Прымусіў двойчы паглядзець фільм пра парад Перамогі ў 1945 годзе і ўважліва ўслухацца ў прамову маршала Жукава. Дарэчы, Кулік, у цябе з маршалам адзін дзень нараджэння — 1 снежня. Дык вось, паглядзеў я тады на гэтых герояў і зразумеў, што я сваю Радзіму нікому не аддам, не дазволю і прыніжаць. Дыск фільма ў мяне ў сейфе. Заўтра прызначым прагляд.

*Уваходзіць Буян.*

**Буян.** Пошта прыйшла, таварыш старшына.

**Старшына.** Раздавайце.

**Буян.** Сідорчык, табе ліст… А пасылка Куліку.

**Серада.** Тварыш старшына, дазвольце салдатам аддзялення накіравацца ў сталовую, каб абясшкодзіць харчовую «міну».

**Старшына.** Дазваляю. Толькі не аб'ядайце гаспадара пасылкі. Хлеба скарынку і тую напалам.

**Сідорчык.** Гэта таксама Сувораў сказаў?

**Старшына.** Не. Гэта словы з песні майго маленства. Радавы Серада, затрымайцеся на хвілінку.

*Усе выходзяць. Застаюцца Серада і старшына Даўгазвяга.*

**Старшына.** Я вось пра што падумаў. Кепска жыць без бацькоў. Ёсць на тэлебачанні перадача «Жди меня». Расшуквае родных і блізкіх. На радыё ёсць. Звярніся туды да іх. Раскажы, як і што было. Можа, маці сама цябе шукае, ды не ведае, дзе ты. Га?

**Серада.** Я думаў пра гэта. Але не стану гэтага рабіць.

**Старшына.** Чаму?

**Серада.** Не хачу, калі адшукаецца маці, яе ганьбу выстаўляць на мільённую аўдыторыю. Хацела б — адшукала б. Ды я з гэтай прычыны не камплексую. Мне сказалі, што яна, маўляў, загінула, з гэтым і жыў.

**Старшына.** Загадваць не буду. Гэта тваё грамадзянскае права. Вольны.

*Серада выходзіць. Старшына бярэ са стала чыйсьці забыты сотавы тэлефон. Уваходзіць Мехмон.*

**Мехмон.** Дазвольце звярнуцца, таварыш старшына?

**Старшына.** Звяртайся.

**Мехмон.** Тата ў мяне таджык, а мама мясцовая.

**Старшына.** А ў мяне мама на бульдозеры, а тата вадалаз — гэта раз. Бліжэй да сутнасці!

**Мехмон.** Мой бабуля Фіруза ў Таджыкістане ў кішлаку ля Паміра. Вы былі на Паміры, таварыш старшына?

**Старшына.** Білеты ў абодва канцы ахвоту адбілі. Тыдзень можна за такую цану ў Грэцыі жыць. Далей.

**Мехмон.** Бабуля ведае, што я ў арміі, і надта ж перажывае: можа, я на вайне, ці жывы?

**Старшына.** Патэлефануй бабулі, пра што гаворка.

**Мехмон.** Нэт сувязі. Кішлак у гарах.

**Старшына.** Карацей, радавы Муртазо.

**Мехмон.** Здыміце мяне, калі ласка. Я дашлю фотку бабулі, каб яна спакойна спала.

**Старшына.** Я табе што — асабісты фатограф?

**Мехмон.** Я бачыў у вас фотаапарат. Хачу ў форме. Калі ласка.

**Старшына.** Ну, добра, здыму.

**Мехмон.** Дзякуй. Дазвольце ісці?

**Старшына.** Ідзі.

*Мехмон выходзіць.*
*Старшына выходзіць. Зацямненне.*
*У промні святла маці Сідорчыка Крысціна Францаўна.*

**Крысціна Францаўна.** Дзень добры, маё любае, адзінае золатца. Пішу табе адразу пасля споведзі, толькі вярнулася з касцёла. Усё пробашчу расказала: і які ў цябе камандзір уважлівы, добры, і якія харчы, і тэхніка сучасная, а які паўсюдна парадак, чысціня, кветкі, як ты з падзякай крыжык узяў. Усё расказала. Ухваліў цябе. У нашым аграгарадку яшчэ палова дамоў пустых. Чужых старшыня комплексу неахвотна прымае: чорт ведае хто едзе, а п'яніц і сваіх стае. Твой дзядзька Казік, сусед ягоны Шумейка і яго жонка, сваячка галоўнага заатэхніка, стары кавалер Ігнацік, а таксама вартаўнік фермы Кузьміч і яго сябрукі Патапенка з Сафронавым кінулі піць. Даплочваем ім за гэта з касы комплексу надбаўку да заробку, а яшчэ дзесяць мужыкоў і я кінулі курыць, і за гэта ўсім таксама ідзе даплата. Чэслаў Печка, эканаміст у мяне ў бухгалтэрыі, касы на правае вока, памятаеш? Дык просіць пазычыць яму грошай. Вырашыў за чатыры тысячы долараў уставіць сабе верхнюю сківіцу, скардзіцца, мяне жанчыны не любяць, паколькі зубы крывыя. Паехаў у вобласць да стаматолага. Я сама, сынок, не чула, суседка казала, данесла, маўляў, маці Ангеліны яшчэ ёй казала, што яе дачка ў сталіцы знайшла сабе багатага жаніха, што, маўляў, ты ёй больш не патрэбен. Можа, чуткі. Першае каханне — назаўжды. Гэта перажыткі мінулага, кажа, галоўнае знайсці багатага, цяперака так дзяўчаты мараць. Я, праўда, сама не чула. Магла суседка гэтымі чуткамі мне наўмысна насаліць. Яна язва. Ты не бяры да сэрца. Нават калі вы з Ангелінай не будзеце разам і ўсё, што суседка казала, — праўда, не сумуй. Яна шылахвостка і мне ніколі асабліва не падабалася. Напішы, ці магу я пакласці табе ў канверт 20 долараў, ці не скрадуць на пошце? Ці пазвані. Калі апошнім разам званіў, нібыта зусім побач. Вой, дзякуй таму, хто гэты сотавы тэлефон прыдумаў. Я свечачку за тваё здароўе паставіла. Але і ты глядзі сябе. Цалую моцна-моцна. Твая мама.

*Зацямненне.*
*Прамень святла выхоплівае з цемры Сідорчыка. Ён дастае сотавы тэлефон, набірае нумар.*

**Сідорчык.** Алё, Руслана? Прывітанне. Гэта я, Тадэвуш. Пазнала? Адкуль званю? З часці. Ты перадавала Ангеліне маю просьбу прыйсці на КПП у пакой для спатканняў? І што яна? Не згадзілася. Вельмі занятая. Ну, добра. А дзе яны звычайна палуднуюць з гэтым яе гаспадаром? У летнім рэстаране ля тэатра… Зразумеў. Не хвалюйся, перадам ад цябе прывітанне Адаму, пера-

дам. Ён табе тэлефанаваць не будзе. Яго нявеста — сталоўка. Ад’ядаецца, на гражданцы згаладнеў. Што з ім рабіць, табе лепш ведаць. Ага, перадай два кавалкі дарагога мыла. Усё. Канец сувязі. Пакуль, пакуль.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

*На авансцэне старшына і Буян.*

**Старшына.** Як ты мог, радавы Буян, заўсёды такі разважлівы, адказны салдат, у нарадзе па сталоўцы замкнуцца знутры і легчы спаць. Раніцай кухары мусілі, каб не пакінуць полк без снядання, разбіваць шыбу і трапіць такім чынам у сталоўку.

**Буян.** Вінаваты, таварыш старшына.

**Старшына.** І пасля, толькі ў цябе аднаго, дык яшчэ ў гэтага балбатуна Сідорчыка камандзір роты на страявым аглядзе не раглядзеў на абмундзіраванні кляйма.

**Буян.** Масціка расплываецца.

**Старшына.** Дзе ваша вынаходлівасць? Выцісніце з шарыкавых ручак масціку і кляйміце ёю. Добра яшчэ, што я загадзя заўважыў, што зброя не зусім чыстая. Ты сяржант. Гэта шмат да чаго абавязвае. Калі ўвесь асабовы склад на зарадцы, ты на дзяжурстве кладзешся ў ложак і спіш. І за што толькі я цябе вылучаю сярод іншых.

**Буян.** Можа, за харызму.

**Старшына.** Харызма тут ні пры чым. Ты чалавек арміі. У цябе ёсць унутраная годнасць і гонар. Значыць, так, бяры сабе ў памочнікі Сераду і Куліка. Вось табе замок, будзеш за начальніка пункта боезабеспячэння. У бляшанках патроны, іх у скрыню, скрыню на замок, у машыну і на стрэльбішча. Мы паедзем першай машынай. Ехаць да месца прызначэння хвілін пятнаццаць. Задача зразумелая?

**Буян.** Так точна.

**Старшына.** Выконвайце!

**Буян.** Ёсць!

*Старшына выходзіць.*

**Буян.** Дастаў гэты прапаршчык! Кулік, Серада.

*Уваходзяць Кулік і Серада.*

**Кулік.** Тут.

**Буян.** За мной. Прыцягнем да машыны скрыню з патронамі. Давай, варушыся.

*Выходзяць.*
*Шум машын, што ад’язджаюць.*
*Праз некалькі секунд Кулік, Буян і Серада цягнуць скрыню.*

**Кулік.** Дай адпачыць, сяржант. Эх, і люблю я пастраляць.

**Буян.** Стой, братва! *(Успомніў.)* А дзе ключ ад замка?

*Серада корпаецца ў сваіх кішэнях.*

**Серада.** У мяне няма.

**Кулік** *(правярае і свае кішэні)*. І ў мяне няма.

*Буян вяртаецца да таго месца, адкуль цягнулі скрыню, тады ўсхваляваны вяртаецца да хлопцаў.*

**Буян.** Чорт, нідзе няма. Я іх пакінуў унутры скрыні.

**Серада.** Блін… уляпаліся.

**Кулік.** Гэта горш, чым засмечаны туалет.

**Серада.** Два нарады без чаргі забяспечаны. Але не мне…

**Кулік.** Знайшлі прыгоды на сваю задніцу.

**Буян.** Час бяжыць, а што рабіць, слесар-рамонтнік?

**Серада.** Нясі кувалду.

*Кулік выбягае і праз некаторы час нясе кувалду.*

**Серада.** Зараз патэлефануе са стрэльбішча камбат і пацікавіцца, у чым справа.

*Серада бярэ кувалду і пачынае стукаць ёю па замку.*
*Уваходзіць Ратнікаў.*

**Кулік.** Стой!

**Серада.** Што?

**Кулік.** Там жа патроны! А калі дэтанацыя?

**Буян.** Кладзіся!

**Ратнікаў.** У чым справа, сяржант?

**Буян.** Кладзіся, таварыш капітан, кладзіся!

*Ратнікаў, не разумеючы, у чым справа, усё ж падае на зямлю.*

**Буян.** Скрыню з патронамі спрабуем адамкнуць.

**Ратнікаў** *(устае з зямлі)*. Кувалдай? Гэта штосьці новае. У вас замок ЦРУ?

**Буян.** Ключы там. Я іх выпадкова там пакінуў.

**Ратнікаў.** Пакінуў без нагляду вас старшына, і ўжо праблемы. Шукайце выйсця, і каб праз пяць хвілін вырушылі да стрэльбішча.

**Кулік.** Ды мы рады хоць зараз.

**Ратнікаў.** Размовы. Праз пяць хвілін.

*Ратнікаў выходзіць.*

**Буян.** Адам, думай. Я будаўнік, цэмент, пясок, жалезабетон — гэта маё.

**Серада.** Цягні адвёртку і малаток. З-пад зямлі прынясі.

**Кулік.** Дзе?

**Буян.** Бяжы на КПП. Там у «Волзе» багажнік адкрыты. Цягні.

*Кулік бяжыць.*

**Буян.** І што ты зробіш адной адвёрткай?

**Серада.** Глядзі сюды. Бачыш, века да скрыні прымацавана завесамі, завесы трымаюцца на штырах. Мы іх адвёрткай ды малатком пазбіваем, і ўсё о’кэй!

*Уваходзіць з адвёрткай ды малатком Кулік. Серада хуценька адмыкае века. Буян вынімае ключы.*

**Кулік.** Не спяшайся, Адам. Акуратна пастаў штыры на месца.

**Серада.** А то.
**Буян.** Адам, я гэтага век не забуду. Крута.
**Серада.** Калі век зможам пражыць.
**Буян.** Узялі. Пацягнулі. *(Зірнуў на гадзіннік.)* Павінны паспець.

*Ідуць. Шум ад'язджаючай машыны.*
*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

*Пакой адпачынку і інфармацыі. У пакоі Серада, Сідорчык і Кулік. Кулік падбірае мелодыю на гітары, запісвае ў блакнот.*

**Сідорчык.** Адам, у мяне надзея толькі на цябе. Ты мне, як сябру, павінен дапамагчы ў адной праблеме.

**Серада** *(чытае газету)*. Зноў скрыня якая-небудзь.

**Сідорчык.** Горш. Разумееш, мая дзяўчына, якая са мной са школы, блефуе. Паступіла яна з сяброўкамі ў гандлёвы каледж. Клялася мне перад арміяй у вечным каханні і гэтак далей. Тут яна знюхалася з гаспадаром рыбнай крамы. Ён яе ўзяў да сябе на практыку. Мне б у вочы яе нахабныя паглядзець.

**Серада.** А што ад гэтага зменіцца?

**Сідорчык.** Можа, ён шантажыруе яе чым. Ведаеш, гандаль — справа рызыкоўная.

**Серада.** А я тут пры чым? Вядзі ў пакой на КПП і праводзь прафілактыку.

**Сідорчык.** Не прыйдзе. План такі. У звальненні на кватэры ў майго сваяка пераапранаемся ў цывільнае, кіруемся ў летні рэстаран. Яна там з «татачкам» сваім палудну е па суботах. Я ўсё на сябе бяру, ты для страхоўкі.

**Серада.** А патруль? Ты не думаў пра гэта?

**Сідорчык.** Я без цябе гэта аднойчы ўжо пракручваў. Туды і патруль не дойдзе.

**Серада.** Гэта колькі нарадаў без чаргі, калі заўважаць.

**Сідорчык.** Я табе за два месяцы свой заробак аддам.

**Серада.** А сам?

**Сідорчык.** Маці грошай прыслала.

**Серада.** Добра. Я падумаю. Ды плюнь ты на гэту школьную сяброўку.

**Сідорчык.** Не магу. Нейкая крыўда смыліць у душы.

*Уваходзіць Буян.*

**Буян.** Сустрэў старшыну, зараз прыйдзе правяраць гатоўнасць да агляду армейскай мастацкай самадзейнасці.

**Сідорчык.** Не да спеваў мне. Дастаў ужо сваімі праверкамі. Трэба рабіць штосьці адно: ці выдатна страляць, ці добра спяваць. Ён плануе пафаснымі словамі зрабіць з мяне патрыёта. Смешна.

**Серада.** А як гэта?

**Сідорчык.** Аналізам сэнсу жыцця, аналізам сэнсу дзяржавы, этнаса.

**Серада.** Ну, ты, блін, разумны, ажно страшна.

**Буян.** Мне дык увогуле мядзведзь на вуха стаў.

**Серада.** Гэта нічога. Вось калі б ён табе на што іншае стаў…

*Уваходзіць старшына.*
*Усе ўстаюць.*

**Старшына.** Як бавім час? Што чытае радавы Серада?

**Сідорчык.** Можа, «Камасутру».

**Серада.** Чытаю брашуру «Сінтэз аптымальнага радыёлакацыйнага вымярэння хуткасці збліжэння ў класе дыскрэтных канагмерных працэсаў».

*Паўза.*

**Старшына** *(сумеўся)*. Геніяльна. Хто зможа паўтарыць — пяць сутак пазачарговага водпуску.

**Сідорчык.** Лепш адразу два нарады без чаргі.

**Старшына.** І то праўда. Малайчына. З цябе сапраўдны сувязіст атрымаецца. Камандзіруем на курсы ў Аб’яднаны вучэбны цэнтр 72.

**Кулік.** Дык у яго ж не галава, а рамачная антэна.

**Сідорчык.** Усё роўна, мы саступаем. Наш род войск не элітны. Элітныя едуць на вучэнні ў Ашулук. Гэта ракетныя войскі, авіяцыя, дэсантныя войскі.

**Старшына.** Не зразумеў?

**Сідорчык.** Мы апошнія ў іерархіі. Вайна ў сучасных умовах — гэта тэхнічныя мадыфікацыі, інавацыі, нанатэхналогіі. А мы на падхваце. У Францыі вунь ужо БТР на 12 членаў экіпажа, 25-міліметровая гармата, шлем з двума дысплеямі і мікрафонам, партатыўныя ПК, сродкі навігацыі. У іх зарадка акумулятараў інтэграваная ў экіпіроўку LFELIN.

*Буян ажно прысвіснуў.*

**Старшына.** Малайчына. Трэба ведаць, хто і чым дыхае. Цяпер адкажы, ці ёсць у іх у экіпажы сяржант Буян, радавыя Кулік, Серада, Сідорчык?

**Сідорчык.** Адкуль?

**Старшына.** І я пра тое. Усё вырашае не толькі тэхніка, але і чалавечы фактар, сіла духу. Наш род войскаў — мабільная, добра ўзброеная аператыўная адзінка баявых дзеянняў. Не колькасцю, а ўмельствам.

**Сідорчык.** Кутузаў?

**Старшына.** Сувораў. Зрэшты, часам карысна рабіць параўнальны аналіз. Гэта падганяе нашых канструктараў. Як наконт удзелу ў аглядзе, радавы Кулік?

**Кулік.** Я тут сачыніў адну песеньку.

**Сідорчык.** Наш Моцарт.

**Старшына.** Пакажыце, што атрымліваецца.

*Усе сабраліся побач з Кулікам.*

**Сідорчык, Кулік, Серада, Буян** *(спяваюць разам)*.

Скоро дембель, мужики,
Скоро дембель.
Соловьи для нас в саду запоют,
Скоро дембель, мужики,
Скоро дембель.
Нас любимые невесты дома ждут.

**Старшына.** Стоп! Стоп! Не ў той стэп. Вы толькі пачалі служыць, а ўжо пра дэмбель заспявалі. Не трэба бянтэжыць слухачоў, якія толькі-толькі прынеслі прысягу. Не пойдзе. Прыгнечанне духу. Досыць і таго, што тэлебачанне разбэшчвае і адурманьвае. Гэта не песня майго аддзялення. Што ёсць яшчэ?

**Кулік** *(нясмела)*. Рэп.
**Старшына.** Давай рэп.
**Кулік** *(спявае адзін)*.

Враг, на слово мне поверь,
Не продам свой БТР,
ЦРУ, как ни проси,
Не продам и БМПи.

Мы в коллайдере с женой
Кое-что искали.
Расстегнула свой блузон,
Там нашел я свой бозон.

Не стало горя и печали,
А потом нас обвенчали.

Станем рядом,
Станем в рост —
Завтра каторга,
Солдатский кросс.

**Старшына.** І ўсё?
**Кулік.** Пакуль усё.
**Старшына.** А чаму крос — катарга?
**Сідорчык.** Калі худ — не лезь на кут. Замяніце яму, таварыш старшына, крос на абсталёўванне адзіночнага акопа малой сапёрнай рыдлёўкай для стральбы з калаша лежачы.
**Старшына.** Не здатны твой рэп нічога класічнага нарадзіць. Першая частушка яшчэ больш-менш, але просталінейна. Вазьміце ў рэпертуар класічную салдацкую песню.
**Кулік.** Не модна.
**Старшына.** А вы заспявайце так, каб дух перахапіла. Геній заўсёды ў модзе. Хто з вас быў у оперы?
**Серада.** Нас вадзілі, як на расстрэл. Марынавалі чатыры гадзіны — прымушалі слухаць оперу «Юлій Цэзар», пасля яшчэ дзве гадзіны моташна было, калі ўспамінаў.
**Старшына.** І мне сорамна — я гадоў пятнаццаць не быў у оперы. У суботу ўсёй ротай — у оперу. Пашырайце дыяпазон, арыентуйце душу на адвечныя каштоўнасці. Трэба знайсці вашу песню, якая закране ўсіх.
**Кулік.** Цяжкавата.
**Старшына.** Я сказаў — трэба знайсці!

*Уваходзіць Мехмон.*

**Мехмон.** Таварыш старшына, дазвольце звярнуцца.
**Старшына.** Давай. Што ў цябе, Мехмон?
**Мехмон.** Мой бабуля…
**Старшына.** Ведаю, на Паміры, у кішлаку…
**Мехмон.** Калі атрымала маё фота — адразу ў слёзы. Піша, што на фота толькі тулава і галава. Няма ні рук, ні ног. Ты, піша, паранены, ты ў шпіталі. Вось… Спаць не магу, яна перажывае.

**Старшына.** І пра што ты папросіш гэтым разам, Насрэддзін ты наш?

**Мехмон.** Насрэддзін узбек, а я таджык. Зрабіце фотаздымак з рукамі, каб яна супакоілася. Калі ласка.

**Старшына.** Та-а-ак… Сапраўды, Усход — справа тонкая. Добра, сфоткаем.

**Мехмон.** Дазвольце ісці?

**Старшына.** Ідзі.

*Мехмон выходзіць.*
*Старшына ідзе следам.*
*Зацямненне.*
*Прамень святла выхоплівае Івана Паўлавіча Буяна. Ён трымае ў руках ліст да сына, чытае ў залу, не гледзячы на паперу.*
*Шум дажджу.*

**Іван Паўлавіч.** Дзень добры, сынок. З прывітаннем да цябе твае бацькі. Здароўе мамы паляпшаецца, але сказалі, што таблеткі трэба вельмі доўга піць, ледзь не ўсё жыццё. Французскія таблеткі добра нармалізуюць рытм сэрца, але дарагія, зараза. Пазычыў я сто долараў, і прывезлі іх з Масквы на адзін курс лячэння. Дзякуй табе за фотаздымкі. Планавалі прыехаць да цябе пад зіму, ды баюся, што не атрымаецца. Я табе не казаў па тэлефоне… Заводзік наш прадалі нейкаму алігарху ці то з Амерыкі, ці то з Ізраіля. Ніхто як след не ведае. Тысячу працоўных скарацілі і выкінулі на вуліцу. Я пакуль што атрымліваю дапамогу, але з першага яе ўжо не будзе. Абяцаюць уладкаваць вартаўніком у дзіцячы садок. Ты ж ведаеш, як у нашым горадзе цяжка з працай. Шкада заводзіка. Абяцалі мадэрнізаваць, але нічога не робіцца. Разбураецца паціху. Распілілі Радзіму і падзялілі. Звані маме часцей, яна вельмі сумуе, даўно цябе не бачыла. Цётка Соня піша, што нашых людзей у Польшчы яшчэ больш пачалі ненавідзець. Лекі ў іх таксама дарагія. Амаль усё ў краіне належыць амерыканцам. Карацей кажучы, імперыялізм квітнее паўсюдна. Калі можна, заставайся на звыштэрміновую, хоць з заробкам рэгулярным будзеш. І мама з гэтым згодная. Табе форма пасуе. Цалуем цябе і жадаем моцнага здароўя і поспехаў на службе. Твае бацькі.

*Паўза.*
*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

*Летні рэстаран. У рэстаране нешматлюдна. За столікам сядзіць Руслана, а Ангеліна танчыць з «татачкам» пад песню Стоцкай «Бьют волны, а мне не больно, а я прикольная». За другім столікам сядзяць Сідорчык і Середа. На Серадзе кароткія штаны і кашуля з кароткімі рукавамі, відаць, не ягоны памер. Ангеліна і «татачка» вяртаюцца да свайго століка.*

**«Татачка»** *(з келіхам шампанскага ў руцэ).* Я ўзнімаю гэты бакал з натуральным шампанскім не толькі за вашу маладосць і натуральную прыгажосць, але і за незалежнасць вашага духу, за адмаўленне каштоўнасцей, навязаных вам былой ідэалогіяй, за прагу свабоды і жаданне ісці насуперак натоўпу, сцвярджаючы сябе і ажыццяўляючы самыя неверагодныя мары. Вы хутка навучыліся браць ад жыцця ўсё і адразу. Які сэнс, як юнаму будысту, сядзець пад дрэвам, сілай утаймоўваючы свае жаданні, калі жыццё — сама жарсць? Бярыце ад жыцця ўсё. Цяпер мы ўжо па-іншаму глядзім і на Мефістофеля, і на Воланда, і нават на Сатану. У іх віруе касмічная прага пака-

штаваць усяго. Толькі яны сапраўды вольныя, бо робяць усё для выканання сваіх жаданняў.

**Руслана** *(ад захаплення пачала пляскаць у ладкі).* Я згодна. Гэта так, але свабода патрабуе забеспячэння яе грашыма, рэальна.

**Ангеліна.** Ды яшчэ як.

**Руслана.** Я магу выйсці на балкон і дзесяць разоў крыкнуць: «Я свабодная!» Нават плюнуць уніз на натоўп, пасляць на тры літары, але ад гэтага ў роце соладка не зробіцца.

**«Татачка».** Мае размовы не праходзяць дарэмна. Ухваляю! Акучвай таго, хто ўжо мае капітал. Шукай слабыя месцы яго характару. Вось у мяне на руках залатыя пярсцёнкі, на грудзях залатыя ланцужкі, гадзіннік залаты. І гэта не стандарт алігарха. Гэта мая перамога над жоўтым металам. Калі ён быў недасяжным для мяне, ён уладарыў нада мною, а цяпер я яго скарыў. Так, цацка. Дарэчы, і бранзалет залаты. Я і першыя залатыя злікі ў банку купіў… унцыя, шмунцыя… ну, ляжыць у сейфіку гэта залатая міні-труна… і яна мая ўласнасць. Асалоду дае цела каханай жанчыны і адчуванне свабоды. Выпьем за вашу жажду полноценной независимости от любых предрассудков общества. Яно ніколі не бывае дасканалым. Раней спажыванне лічылася ледзь не грахом, а цяпер — стымул сэнсу жыцця.

**Руслана.** За вас.

**Ангеліна.** Нам яшчэ спасцігаць і спасцігаць.

*Выпіваюць.*

**Серада.** І ці доўга мы так будзем сядзець?

**Сідорчык.** Не гані коней.

**Серада.** Спознімся на вячэрнюю паверку.

**Сідорчык.** Падыдзі да гэтай малпы, дай долар *(дае яму грошы)* і папрасі паставіць «Бесаме мучо».

**Серада.** Да каго падысці?

**Сідорчык.** Да малпы, да дзі-джэя.

*Серада ідзе за кулісы і вяртаецца. Гучыць песня «Бесаме мучо».*

**Сідорчык.** Запрашай Ангеліну, а я вазьму Руслану. Ідзі.

*Серада падыходзіць да століка «татачкі».*

**Серада.** Дазвольце запрасіць вашу даму?

**«Татачка».** Яна не танцуе. Знікні, хлапец.

**Ангеліна.** Серж…

**Серада.** Але мне надта хочацца.

**«Татачка».** Калі надта хочацца, бяжы ў туалет, хлопчык, вярніся да свайго століка, пакуль мае ахоўнікі, бачыш ля акна, не выкінулі цябе адсюль…

**Ангеліна.** Серж…

*Серада вяртаецца да Сідорчыка.*

**Серада.** Аблом. Ледзь стрымаўся. Хацеў яму з левай хук. Ты сам усё бачыў. Ён забараняе ёй танцаваць. Гэты хмыр яшчэ прыстрашыў.

**Сідорчык** *(бачыць, што «татачка» зноў танцуе з Ангелінай).* Вырашана. Хадзем танцаваць разам з табой.

**Серада.** Ты што з мяне галубога робіш?

**Сідорчык.** Тут бязлюдна. Маўляў, выпілі блазнюкі, жартуюць.

*Амаль сілком выцягвае Сераду на сярэдзіну залы. Танцуюць. Сідорчык няўхільна набліжаецца да Ангеліны. Неадрыўна глядзіць ёй у вочы.*

**«Татачка».** Ты чаго, казёл, утаропіўся?

**Сідорчык.** Вы не жадаеце памяняцца партнёршамі?

**Ангеліна.** Кінь блазнаваць, Сідорчык.

**«Татачка».** Ты яго ведаеш?

**Ангеліна.** П'яны. Аднакласнік наш з Русланай. Хадзем адсюль, ён не дазволіць спакойна дапіць віно.

**«Татачка».** Дык яго зараз жа ў асфальт закатаюць.

**Ангеліна.** Не трэба. Прашу. Ён такі бездапаможны. Хадзем.

**«Татачка».** Ну, добра.

*Ангеліна забірае сваю сумачку, і яны з «татачкам» выходзяць.*
*Руслана падыходзіць да хлопцаў.*

**Руслана.** Яна мяне зусім не слухае. Яшчэ пападзе за тое, што састыкавала вас.

**Серада.** Мне здаецца, гэта ў іх ужо далёка зайшло.

**Сідорчык** *(нічога вакол не заўважае).* Так, так… ты даруй.

**Серада** *(зірнуўшы на гадзіннік).* Хадзем, Дон Жуан, часу зусім няма, блін.

**Руслана.** А можа пагуляем у парку?

**Серада** *(жартуючы).* Там кляшчы, я баюся. Дай божа паспець на КПП. Гарым сінім полымем.

**Руслана.** Шкада. Адной сумна.

**Серада.** Як-небудзь іншым разам… Узімку, калі кляшчоў не будзе. На таксі павязеш, Дон Жуан.

**Сідорчык.** Павязу.

*Руслана вяртаецца да свайго століка, вылівае рэшткі шампанскага ў свой келіх і п'е. Выцягвае з цэлафанавага пакета, які вісеў на спінцы крэсла, трохлітровы слоік і звяртаецца за кулісы да афіцыянта, якога не бачна.*

**Руслана.** Афіцыянт, на наш столік заказаны тры салянкі, тры піцы, тры марожаных і тры кавы. Усё ўключана, за ўсё заплочана. Нясіце сюды. Перад тым як акучваць алігарха, якога невядома, ці знойдзеш, трэба добра есці кожны дзень. Нясіце! Я вам не лузер які.

*Гучыць мелодыя з фільма «Джентльмены удачи».*
*Зацямненне.*

## КАРЦІНА СЁМАЯ

*Медпункт. Пры стале сядзіць Уварава і штосьці піша ў журнале. Перад ёю стаіць Серада.*

**Уварава.** Працягвайце, радавы Серада, я слухаю.

**Серада.** Пасля ўсяго, што я вам, доктар, расказаў, трэба ратаваць салдата. Ён можа быць па жаночай галіне заклапочаны, але найлепшы стралок. 98 разоў трапляе ў яблычак з сотні. У яго страшэнная душэўная дэпрэсія. Каханая дзяўчына нанесла яму смяротны ўдар.

**Уварава.** Так ужо і смяротны.

**Серада.** Па начах не спіць, як пішуць у вашых разумных кнігах — адсутнасць пазітыўнай цікавасці і варожасць да ўсіх астатніх. Ведаеце, чалавек са зброяй… усякае можа здарыцца. Плача горкімі слязьмі.

**Уварава.** Праз слёзы шлакі таксама выходзяць.

**Серада.** Я чытаў, што шлакі выходзяць праз іншае месца.

**Уварава.** Чаму ён сам не прыйшоў?

**Серада.** Сорамна. Трэба яго з вышыні вашага аўтарытэту вярнуць да жыцця, правесці прафілактычную гутарку. Суткі галадае. У рэлігію пусціўся. Евангелле пад падушкай.

**Уварава.** Так пакутуе ад здрады?

**Серада.** Сустрэла сталага веку «татачку», уладальніка рыбных магазінаў, і закруцілася галава, падумала, што яна ўжо прынцэса Манака і пачне купляць футбольныя каманды.

**Уварава.** Стандартная і распаўсюджаная сітуацыя. Усе яны ганяюцца за футбалістамі і хакеістамі.

**Серада.** Як кажа наш старшына, кожны шукае шчасця там, дзе, як яму здаецца, яно лёгка даецца.

**Уварава.** Запрасіце да мяне радавога Сідорчыка.

**Серада.** Дзякуй. Вы не толькі прыгожая, але і добрая.

**Уварава.** Так, памятайце пра прыстойнасць без кампліментаў.

*Серада выходзіць.*
*Паўза.*
*Уварава тэлефануе па сотавым.*

**Уварава.** Надзейка, дачушка, ты дома? А гурток? Добра. Без мяне не ўключай газавую пліту. Я неўзабаве буду. Усё, мая разумніца. І не захапляйся камп'ютарам.

*Уваходзяць Сідорчык і Серада.*

**Серада.** Радавы Сідорчык з'явіўся па вашым загадзе. Ну, я пайшоў.

*Серада выходзіць.*

**Уварава.** Хтосьці з вашага аддзялення, радавы Сідорчык, скардзіўся на клаўстрафобію.

**Сідорчык.** А што гэта такое?

**Уварава.** Страх перад замкнёнай прасторай.

**Сідорчык.** Гэта радавы Кулік. Ён баяўся нырнуць у люк БТРа. Але і жанчына — гэта замкнёная прастора. Яна не падлягае тлумачэнню.

**Уварава.** Усю праўду пра жанчыну ведае толькі люстра. Як апетыт?

**Сідорчык.** Больш-менш.

**Уварава.** Сон?

**Сідорчык.** Неспакойны.

**Уварава.** Якія яшчэ фобіі катуюць, якія страхі праследуюць?

**Сідорчык.** Спустошанасць, нібыта плюнулі ў твар і я не магу гэты плявок выцерці.

**Уварава.** Табе здрадзіла дзяўчына?

**Сідорчык.** Падобна на тое. Яшчэ зусім нядаўна былі клятвы ў вечным каханні.

**Уварава.** Жыццё ўвесь час рухаецца. І пачуцці таксама… нараджаюцца і паміраюць.

**Сідорчык.** Я страціў сэнс існавання… веру… надзею…

**Уварава.** Але гэта часова. Заўтра з'явяцца новыя ўражанні, новыя пачуцці, каханне.

**Сідорчык.** Больш нікога не хачу кахаць. Я пачаў ненавідзець жанчын.

**Уварава.** Дарэмна.

**Сідорчык.** Хачу толькі спажываць, не выдаткоўваючы пачуццяў. Зорак больш няма. Зоркі — долар і карысць.

**Уварава.** Не варта так абагульняць. Адзін раскопвае магілу дзеда-ветэрана, каб выцягнуць яго ордэны і медалі і прадаць на прапой, а другі шукае магілы невядомых салдат часоў Першай сусветнай вайны. Вас чакае каханне. Вы малады, прыгожы… Жыццё толькі пачынаецца. Шмат для каго вы прыклад: эрудзіраваны, дасціпны, адмысловы стралок, разумны — столькі крыніц станоўчай энергіі. Не сумняваюся, што злосць і нянавісць заўтра зменяцца светлымі пачуццямі. Першае каханне — як першы снег: ён нечаканы, прыгожы, прыемны — але неўзабаве растае. Шчасце шматаблічнае. Калі ты патрэбен хоць аднаму чалавеку, можаш лічыць сябе шчаслівым. Вы патрэбны маці, сябрам, Радзіме… Чалавек увогуле не мае права пазбаўляць сябе жыцця ні з якой прычыны. Занадта многа энергіі сусветнага космасу выдаткавана на яго з'яўленне на зямлі. Значыць, асноўная каштоўнасць не Бог, не прырода, не дзяўчына, не грошы, а непасрэдна жыццё… Усё належыць табе, і ты належыш усяму.

**Сідорчык.** Гэта таксама Суворaў?

**Уварава.** Чаму Суворaў?

**Сідорчык.** Старшына любіць цытаваць Суворава.

**Уварава.** Гэта не Суворaў. Сумна чалавеку на зямлі ў прынцыпе не можа быць. Духоўны чалавек заўсёды захапляецца жыццём, незалежна ад таго, бедны ён ці багаты. Спярша прачытайце гэтыя дзве кнігі: гэта мае любімыя паэты — кітайскі Ду Фу і індыйскі Тагор.

**Сідорчык.** Дзякуй. Прачытаю.

**Уварава.** Будзе цяжка на душы, хадзіце сюды, працягнем гаворку.

*Сідорчык выходзіць. Уварава зноў набірае нумар тэлефона.*

**Уварава.** Надзейка, зачыні балконную раму. Навальніца збіраецца. Ужо зачыніла? Разумніца. Я хутка буду.

*Уваходзіць Ратнікаў.*

**Ратнікаў.** Ірына Пятроўна, магу адвезці вас дамоў. Жонка прасіла забраць з хімчысткі дублёнку. Да зімы цэны павырастаюць.

**Уварава.** Дзякуй, не адмоўлюся. З гэтымі цэнамі абы-што, але я стаўлюся спакойна.

**Ратнікаў.** Не ўсе жанчыны маюць такую вытрымку. Вы здольны чытаць жаданні чалавека. Мне здаецца, у вас і зайздрасці ў душы няма. Звычайна ў жанчын гэта галоўны інстынкт.

*Уварава тым часам здымае халат.*

**Уварава.** А вось цікава, у мужчын, на вашу думку, якая галоўная загана?

**Ратнікаў.** Празмернае пачуццё лідэра і ўласніка.

**Уварава.** Прабачце, Генадзь Вавілавіч, а вы раўнівы чалавек?

**Ратнікаў.** Без прычыны — не, а з прычынай — так.

**Уварава.** А жонка?

**Ратнікаў.** І з прычынай, і без прычыны.

**Уварава.** Урэшце, усе мы такія. Так можа мне лепш не сядаць у машыну? Ці мала хто ўбачыць?

**Ратнікаў.** Я ўсё пралічваю загадзя. Паехалі кружнымі шляхамі.

**Уварава.** Нармальныя героі заўсёды ідуць у абход.

**Ратнікаў.** Вось, вось.

**Уварава.** Шчыра кажучы, я не веру ў сяброўства мужчыны і жанчыны. Але мы так добра ведаем адно аднаго, што далей за поціск рукі не пойдзе.

**Ратнікаў.** Згодзен. З вамі мужчынам няпроста. Адразу відавочна высвятляецца мана.

**Уварава.** Магчыма. Але вось парадокс. Кожны мужчына мае нейкі прыхаваны інтарэс.

**Ратнікаў.** Мы ўвесь час будзем гаманіць на дачныя тэмы. Кабачкі, памідоры, карлікавыя вішні, лазня.

**Уварава.** Добра. Толькі без лазні.

**Ратнікаў.** Чаму?

**Уварава.** Адразу ўзнікае асацыяцыя аголенага цела.

**Ратнікаў.** Зразумеў. Тады трэба гаварыць пра закінутыя вясковыя могілкі.

**Уварава.** Таксама непажадана. Асацыяцыі песімізму. Лепш расказвайце прыстойныя анекдоты, гэта ў вас артыстычна атрымліваецца.

**Ратнікаў.** Будзе зроблена.

*Ідуць да выхаду.*

**Ратнікаў.** Вяртаецца муж дамоў з камандзіроўкі… Не, прабачце, гэта эратычны… Злавіў аднойчы дзед залатую рыбку…

**Уварава.** О, і хітры вы, Генадзь Вавілавіч. Пачынаеце са «злавіў дзед рыбку», а закончыце: «І ператварылася рыбка ў прыгажуню, і нарадзіла яна дзеду двайнят ад суседа-ракетчыка».

**Ратнікаў.** Наш салдацкі гумар грубаваты. Што ёсць, тое ёсць. Як трапіла Беласнежка да сямі гномаў на БТР…

*Ратнікаў і Уварава ў добрым настроі выходзяць.*
*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

*Казарма. Зноў Серада і Сідорчык уцягваюць знясіленага Куліка.*

**Сідорчык.** Можа, вады?
**Кулік.** Не трэба.
**Сідорчык.** Цукерачку?
**Кулік.** Не. Божа, мазоль на пятцы. Балюча…

*Уваходзіць Буян.*

**Буян.** Ну, як ён?
**Серада.** Лепш.
**Сідорчык.** Ёсць прагрэс, калі раней кіламетр цягнулі, дык зараз метраў сто.
**Буян.** Хапае сіл да сталоўкі дайсці?
**Серада.** А то.
**Кулік.** Дай аддыхацца. Паветра халоднае.

**Буян.** Служаць у арміі толькі адзін раз.
**Кулік.** А два разы я б і не вытрымаў.
**Буян.** Сідорчык, там да цябе на КПП прыйшлі.
**Сідорчык.** І хто?
**Буян.** Дзяжурны сказаў, дзве дзяўчыны. Ты глядзі, на сняданак не спазніся.

*Сідорчык выходзіць.*

**Кулік.** Ну, чаму, чаму аркестранты павінны бегаць разам з усімі?
**Буян.** Чытай Статут унутранай службы. Ды ты не бядуй, як будзе канчацца служба, першым прыбяжыш.
**Кулік.** Калі дажыву.

*Уваходзіць старшына.*

**Старшына.** Што з ім?
**Буян.** Ужо ўсё ў парадку.
**Старшына.** Цярпі, салдат, генералам будзеш. Там да Сідорчыка сваякі прыйшлі.
**Буян.** Я ўжо праінфармаваў. Тэлефанавалі на пост.
**Старшына.** Малайчына.

*Кулік выходзіць.*

Ты мне падабаешся, і камандзірам таксама. Будзем павышаць у званні.
**Буян** *(не адразу)*. Таварыш старшына, я хачу з вамі падзяліцца набалелым.
**Старшына.** Слухаю.
**Буян.** Не трэба мне павышаць званне. Я нядобранадзейны.
**Старшына.** Вось гэта навіна.
**Буян.** Акрамя таго, я не хачу абараняць Радзіму, Радзіма кінула майго бацьку. Ён беспрацоўны. У сорак восем гадоў яго выкінулі на вуліцу, а завод прадалі алігарху. Я не хачу прыносіць у ахвяру сваё жыццё, абараняючы алігарха і яго інтарэсы. Не ха-чу…
**Старшына.** О-го…
**Буян.** Разумею, кашчунныя думкі, але на душы моташна. Завод сяк-так, але зарабляў валюту, навошта яго прадаваць, каму гэта выгадна?
**Старшына.** Але я спадзяюся, што, нягледзячы ні на што, ты не пабег бы да апазіцыянераў, на мітынгі кшталту Балотнай у Маскве. Там жа ў іх у лідэрах ніводнага нашага твару.
**Буян.** Не ведаю. Усё ў грудзях кіпіць. Няўжо ніхто не бачыць, што цішком раскрадаюцца ўсе багацці Радзімы?
**Старшына.** Ну, не зусім раскрадаюцца. Я таксама разважаю над гэтым. Стаўлю адпаведныя пытанні і ў сябе на днях інфармавання кіраўнічага складу. Страта аднаго завода яшчэ не страта эканомікі ўвогуле.
**Буян.** Але несправядлівасць доўжыцца. За ім пойдуць і астатнія. Адзін з кіраўнікоў Расіі прыспешвае з прыватызацыяй зямлі і яе выкапняў.
**Старшына.** Ёсць патрэба аддаць штосьці ў карыстанне капіталісту. Цяжка радзіме на датацыях усё цягнуць. Атрымалі капейчыну ад аднаго, уключылі ў мадэрнізацыю другога. Нас у свеце не любяць за гэту вось прагу справядлівасці. Прыйдзе час — нацыяналізуем, калі спатрэбіцца. У Лондане нацыяналізавалі водаправод і маўчаць усе. Ты ведаеш, колькі трэба прадуктаў толькі нашай часці?

**Буян.** Прыкінуць збольшага магу.

**Старшына.** Скажу. Радзіме трэба выдаткоўваць толькі адной нашай часці на тыдзень тры каровы, шэсць мяшкоў бульбы, 200 кілаграмаў рыбы, 10 тысяч яек, два мяшкі мукі, драбязу розную не ўлічваем. А ёсць жа яшчэ дзіцячыя садкі, бальніцы, студэнцкія сталоўкі, школы, прытулкі для сірот. А раптам усё гэта разам лясне? Як пасля рэвалюцыі. Хаос. Мяне непакоіць і твая заклапочанасць. Салдат павінен зрабіцца асобай, ён павінен разважаць аб'ёміста, касмічна. Завод бацькі… значыць, эканамісты ў нас слабыя. Кар'ерысты ўсе. Увесь свет кіпіць. Ідзе ўжо непрыкрыты пошук некаторымі раба для сябе шляхам хітрасці, грошай, сілы. Вось табе прыклад. Зрабіў я добры тавар, а вывезці на рынак не даюць. Усё падзялілі. Толькі праз пасрэднікаў. Падзяліся з утрыманцамі… падман суцэльны. Скажаш праўду — узненавідзяць, абвесцяць ворагам, саўком і пачнуць круціць у СМІ. Не перажывай страту заводзіка. Бацьку ўладкуюць. Павінны. Асноўныя фонды і актывы пакуль што пад кантролем Радзімы. Заставайся напагатове маральна. Разбурыцца армія — дзяржаве пагібель.

**Буян.** Разумею, але хто гарантуе справядлівасць у грамадстве?

**Старшына.** Народ. Кожны павінен зрабіцца асобай. Ты зрабіўся. Справамі і талентам упрыгожвай Радзіму, і яна будзе табой ганарыцца. І ўсё роўна, пры тваёй душэўнай неабыякавасці хачу цябе бачыць старшым сяржантам.

*Буян толькі паціснуў плячыма.*

**Старшына.** Да Сідорчыка родныя прыехалі?

**Буян.** Дзве дзяўчыны.

**Старшына.** Ён спецыяліст у гэтай галіне.

*Уваходзіць Мехмон.*

**Мехмон.** Дазвольце звярнуцца, таварыш старшына?

**Старшына.** Ведаю, ведаю. Ты таджык, бабуля на Паміры, Насрэддзін — узбек. Фота атрымала?

**Мехмон.** Атрымала. Лепш бы не атрымлівала.

*Паказвае ліст.*

Вось што піша.

**Старшына.** Што ты мне соваеш? Я не вывучаў таджыкскую.

**Мехмон.** Яна ўсё роўна не дае веры. Чаму я без ног на фота? І ўсё тут.

**Старшына.** Ну-у-у, ты дастанеш каго заўгодна! Даставала ты.

**Мехмон.** Што такое даставала?

**Старшына.** Гэта калі ты, напрыклад, стаіш, адпачываеш, курыш.

**Мехмон.** Я не куру.

**Старшына.** Ну, ясі цукерку.

**Мехмон.** Лепей халву.

**Старшына.** Ну добра, спажываеш халву. А ззаду кожную гадзіну да цябе падыходзіць сяржант і б'е па галаве валёнкам, у якім жалязяка.

**Мехмон** *(не адразу, думае)*. Чаму валёнкам? Цяжка… Можна ў цэлафанавым мяшэчку.

**Старшына.** Вось гэта і ёсць даставала. І бабуля твая даставала.

**Мехмон.** Не-е, не-е, яна ганарыцца, што я ваенны, але не хоча паказваць фота суседзям. Кажа, без ног.

**Старшына.** Та-а-а-к. Бярэш калаш, фоткаем на поўны рост на фоне БТРа, і ўсё. І кропка. Усё. Ці я звар’яцею. Добра, што на Паміры адсутнічае дзядуля.

**Мехмон.** Дзякуй. Дзядуля па матчынай лініі на хутары ў палескіх балотах.

**Старшына.** Ідзі следам за мной.

*Старшына і Мехмон выходзяць.*
*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ДЗЯВЯТАЯ

*Пакой для спатканняў на КПП. Ля акна, за якім ідзе густы снег, у футры стаіць Ангеліна. Побач з ёю Руслана. Апранута небагата.*

**Руслана.** Мне застацца з табой ці выйсці?

**Ангеліна.** Пакінеш нас сам-насам. Мяне раздзіраюць супярэчнасці. Хачу застацца з «татачкам» і не хачу губляць Тадзіка. А раптам зробіцца генералам? Пасля толькі застанецца локці сабе кусаць.

*Уваходзіць Сідорчык.*

**Сідорчык.** Фізкультпрывітанне.

*Ангеліна паварочваецца да яго тварам.*

**Ангеліна.** Дзень добры, Тадэвуш.

**Сідорчык.** Салют, Руслана. Ніяк не чакаў.

**Руслана.** Ангеліна, пачастуй цыгарэтай. Я пакуру пакуль што.

*Бярэ цыгарэту і выходзіць.*
*Паўза.*
*Ангеліна таксама закурыла.*

**Сідорчык.** Даўно курыш?

**Ангеліна.** Ат, навошта пра гэта зараз. Ты не вінаваты ў тым, што так адбылося, і я не вінаватая. Час і абставіны.

**Сідорчык.** Я не школьнік, разумею і не абвінавачваю цябе.

**Ангеліна.** Раней я сапраўды баялася прыходзіць.

**Сідорчык.** А чаго баялася?

**Ангеліна.** Ты шалёны… халерык ты… Думала, кінешся біцца. Я цяпер усім веру: хірамантам, экстрасэнсам, чараўнікам, астролагам… Думала, яшчэ сурочыш ты ці твая мама.

**Сідорчык.** Ну, гэта ўсё фантазіі. За што біць? Мы з табою не заручаны. А словы клятвы — гульня, што сплыла разам з апошнім званком.

**Ангеліна.** Неяк усё адразу пачалося, калі я апынулася ў вялікім горадзе. Ён монстр, ён падначальвае цябе сабе. Тое, пра што я марыла: начныя клубы, бары, гламур, дарагая касметыка і вопратка, мерсэдэсы, гжэчныя багатыя кавалеры… Гэта наш наркотык. Уцягвае гэты вір і ўжо не адпускае.

**Сідорчык.** На маю думку, твой «татачка» гадоў на трыццаць старэйшы за цябе.

**Ангеліна.** На дваццаць сем. Гэта не мае значэння. Забабоны сацыялізму. Чалавек увесь — энергія, каханне. Сетка магазінаў, два ў Мурманску. Рыбу там здабывае ў злодзеяў-рыбакоў!

**Сідорчык.** Ого… Не закаталі ў асфальт, удала выкруціўся.

**Ангеліна.** У яго бізнес без падману.

**Сідорчык.** Ды ён мне па барабану ці накшталт таго.

**Ангеліна.** Але не пра тое. Я зразумела, што да гэтага імкнулася яшчэ са школы. Абавязкова ўцячы ад галечы ў кола багатых і знакамітых.

**Сідорчык.** І чым ён знакаміты? Рыбных магнатаў у Расіі многа і больш багатых.

**Ангеліна.** Ён даў мне ўсё, пра што я марыла. Ты ведаеш, лcraталі на чатыры дні ў Рыміні — горад у Італіі, радзіма вялікага Феліні.

**Сідорчык.** А хто гэта такі?

**Ангеліна** *(здзіўлена).* Ты не ведаеш?

*Гучыць музыка з фільма Феліні «8 ½».*

Гэта славуты на ўвесь свет рэжысёр. Не так даўно па тэліку паўтарылі яго «Казанову».

*Ангеліна ўяўляе, што яна ў Рыміні. Лёгка так круціцца.*

Ах, тыя чароўныя чатыры дні. Узбярэжжа, пляж… піца.. сапраўдная італьянская, а не нашы сухары. Чайкі проста на руку сядаюць. Шыкоўны гатэль. Рай на зямлі… гэта ўсведамляеш у Італіі.

**Сідорчык.** Ён што, распісаўся з табой?

**Ангеліна.** Пакуль не. У яго сям'я. Там свае праблемы. Але не пра тое. Я прымхлівая. Не хачу, каб мяне праклiналі і пасылалі мне наўздагон адмоўную энергію. Ты пра Шамбалу чуў? У Тыбеце. Мы ўсе ў аўры паралельнага свету. Але не пра тое. Ты павінен даравaць мне, што ўсё так здарылася. Так прыемна, калі цябе кахаюць. Ты ж кахаеш мяне?

**Сідорчык.** Кахаў — але не пра тое.

**Ангеліна.** Так. Для цябе гэта ўдар. Я такое перажыла, калі дазналася, што мой школьны кумір Эдзі Мёрфі — гомасексуаліст… Але не пра тое. Ад'язджаю ў Мурманск. Там таксама свой дэс, паўэр, трэш, мая любімая «Metallica».

**Сідорчык.** Як так? «Татачка» адпраўляе ўжо?

**Ангеліна.** Груба. Буду гаспадыняй аднаго з рыбных магазінаў. Трэба з маленства вучыцца капіталізму. Мой Серж кажа: «Поспех у таго, чый лад жыцця адпавядае норавам грамадства».

**Сідорчык.** А ён? Серж?

**Ангеліна.** Ён тут. Процьма спраў. Там мне і кватэра адразу, мэбля, мерсэдэс.

**Сідорчык.** Я думаў, лексус ці вольва.

**Ангеліна.** Не іранізуй. Я цаніла тваю дасціпнасць. Пацалуй мяне… на знак даравання… Можа, больш не ўбачымся. Ты… яшчэ сустрэнеш сваё каханне.

**Сідорчык** *(пасля паўзы).* Цалаваць не буду.

**Ангеліна.** Нават так. Я не змагу, так нельга. А калі не складзецца ў мяне… і я вярнуся… Эстрадныя зоркі вунь па тэлевізары з ложка ў ложак адно да аднаго бегаюць. Але не пра тое… Калі вярнуся, адновіш са мной адносіны?

**Сідорчык.** Не.

**Ангеліна.** А калі вярнуся цяжарнай, няўжо не пашкадуеш маё дзіця?

**Сідорчык.** А што, ужо цяжарная?

**Ангеліна.** Не. Не пашкадуеш?

*Паўза.*

**Сідорчык.** Можа, дзіцяці і дапамагу чым змагу.

**Ангеліна.** Ты жорсткі… жорсткі… ты не цяміш у сучасных рэаліях адносін паміж мужчынам і жанчынай. Адстаеш ад цывілізацыі.

**Сідорчык.** Ад цывілізацыі ці ад бардэля?

**Ангеліна.** Груба. Я не пайду, пакуль не пацалуеш.

**Сідорчык.** Цішэй, не топай ножкай. Ну, добра. Пацалую.

*Цалуе яе ў шчаку.*

**Ангеліна.** Ты на самай справе дараваў?

**Сідорчык.** На самай справе.

**Ангеліна.** Не будзеш пасылаць мне адмоўную энергію і срокі?

**Сідорчык.** Не.

**Ангеліна.** Дзякуй. Да пабачэння. Я веру табе.

**Сідорчык.** Бывай.

**Ангеліна.** Не люблю гэтага слова. Не трэба.

**Сідорчык.** Да пабачэння і бывай.

**Ангеліна** *(тэатральна)*. Бывай, маё каханне.

**Сідорчык.** Проста індыйскае кіно.

**Ангеліна.** Урэшце, не пра гэта.

*Сідорчык выходзіць.*
*Ангеліна прыкурвае другую цыгарэту.*
*Уваходзіць Руслана.*

**Руслана.** Ну як?

**Ангеліна.** Як бачыш, не забіў. Але не пра тое. Я табе пазваню з Мурманска. Трымайся за мяне, са мной не прападзеш. Я ім усім дакажу. Усім. Я буду мець славу. Буду тырчаць на тэлебачанні.

**Руслана.** Ага. А мамка што мне скажа?

**Ангеліна.** Рабі свой лёс сваімі рукамі. Шчасце чакае ініцыятыўных і адважных.

**Руслана.** Ну і навучылася ты ў свайго «татачкі». Проста філосаф. Ажно страшна.

**Ангеліна.** Шмат чаму і жыццё вучыць.

*Зацямненне.*
*У промні святла з'яўляецца маці Сідорчыка. Чытае ліст да сына.*

**Крысціна Францаўна.** Дарагі мой сынок, золатка маё. Хачу паведаміць табе навіну, пра якую ўсе ў нашым аграгарадку толькі гавораць. Нібыта Ангеліна знайшла сабе ў горадзе вельмі багатага жаніха, такога багатага, што яхты купляе і шахты. Катае яе на мерсэдэсе, ходзіць яна ўся ў золаце, як тэнісістка, і не вылазіць з дарагіх курортаў, дзе адна ноч каштуе 120 тысяч долараў. І што ўжо нарадзіла яму двайнят, і тых адразу аддалі ў школу ў Лондане, і што яна зрабіла аперацыю і адразу павялічыла грудзі аж да 6-га памеру. Дурніца, думаю, яна яшчэ тая, калі так, з яе маленькім ростам як насіць гэткія гарбузы. Маці яе нос задрала — не падыходзь. Кажа, што яе дачка неўзабаве паскупляе ўсе нашы крамы і птушкафабрыку. Думаю, брэша баба. Ёй так хочацца, каб усе зайздросцілі яе Ангеліне. Але не бывае дыма без агню. Нейкая частка праўды, сынок, заўсёды ёсць ва ўсім. Ты плюнь на яе. Нясі службу. Кушай, нічога пасля сябе не пакідай. Я табе паслала цукерак ды пячэння. Ты любіш. Такі хлопец, як ты, павінен мець сто дзяўчат, а сто першую жонку. Вось і яшчэ навіна. Усе тыя, што кінулі піць і якім даплочвалі з касы, зноў за сваё ўзяліся — па

пяць долараў мала. Затое астатнія пяцёра, якія пілі, кінулі піць і не паляць. Печка, які хацеў верхнюю сківіцу ўставіць, я табе пісала, пакуль грошай у пазыку не просіць. Яму ў бойцы ў гродзенскай піўной павыбівалі і ніжнюю сківіцу. Дык ён зараз судзіцца, каб пад гэту марку крыўдзіцелі праплацілі і за верхнюю сківіцу. Я, дзякуй Богу, жывая-здаровая. Радыкуліт мой пракляты пасля зімы менш непакоіць. Не памятаю, склероз, я табе пісала, каб ты еў усё, не перабіраў. Калі ты галодны, ідзі ў горад, купі адбіўную з костачкай, як дома. Толькі не бяры з кітайскіх латкоў, кажуць, яны там з сабачыны ўсё робяць. У вас грэцкая каша смачная. Салдату есці трэба, сілы трэба. Чакаю, калі адпусцяць на пабыўку. Папрасі ў камандзіра, падарунак які зрабі, скажы, бульбу дома пасадзіць трэба, маці адна. Усё. Моцна цалую і чакаю адказу, як салоўка лета.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ДЗЯСЯТАЯ

*Цішыню раптам парушае выццё сірэны «хуткай дапамогі». У казарму ўваходзяць засмучаныя Сідорчык і Серада.*
*Паўза. Яна цягнецца даволі доўга.*

**Серада.** Як ты праварoніў, блін, не разумею.

**Сідорчык.** Не наязджай. І без цябе моташна.

**Серада.** 13 чысло, пятніца, нейкі сатанінскі дзень. Увесь час тваё: тэмпо, тэмпо. Паспелі б паглядзець гэты паўфінал у запісы.

**Сідорчык.** Ды дай ты спакою… Пасля бойкі кулакамі не размахваюць.

**Серада.** Цяпер на вучэнні «Шчыт Саюза» можам і не патрапіць. У цябе ж крыж. Бяры Евангелле, маліся, прасі ў Бога заступніцтва і дапамогі.

**Сідорчык.** Я ўжо ў думках папрасіў.

*Уваходзіць Буян і ледзь не з кулакамі кідаецца да Сідорчыка. Серада іх разнімае.*

**Буян.** Ты што з маім лепшым сябрам зрабіў?

**Серада.** Не бузі… пасля бойкі кулакамі не размахваюць. Што там з ім, гавары.

**Буян.** Мне справаздачу не давалі. «Хуткая» павезла ў шпіталь. Ці адрэжуць тры пальцы на левай руцэ, ці прыш’юць.

**Серада.** Надзея ёсць?

**Буян.** Надзея памірае апошняй. Так і хочацца табе стукнуць.

**Серада.** У нас розная вага. Супакойся.

**Буян** *(са стогнам).* Лёшка, мой лепшы сябра. Ён геній. Ён мог быць другім Мулявіным. А цяпер без пальцаў…

**Серада.** Рана хаваеш. Не накаркай.

**Буян.** Уф-ф…

*Уваходзіць старшына. Усе ўстаюць.*
*Усе кажуць: «Добрага здароўя, таварыш старшына».*

**Старшына.** Старшы сяржант Буян, адрапартуйце пра здарэнне.

**Буян.** Ведаючы пра вучэбную трывогу, якая можа быць нават заўтра…

**Старшына.** Адкуль вы ведаеце, што заўтра вучэбная трывога?

*Паўза.*

**Буян.** Мне цішком сказаў сяржант з другога аддзялення, а яму перадаў старшына з другога ўзвода, які даведаўся ад камандзіра роты, якога папярэдзіў камбат, са слоў зампаліта па ідэалогіі.

**Старшына.** Рэдка ёсць магчымасць захаваць гэту маленькую ваенную тайну.

**Серада.** Дык усім жа хочацца мець выдатныя паказчыкі.

**Старшына.** Размовы. Працягвайце.

**Серада.** Мы пайшлі падрыхтаваць, праверыць. Ну, гэта… гатоўнасць БТР. Уплішчыўся за намі і Кулік..

**Старшына.** Музыкант жа вызвалены ад тэхнікі.

**Серада.** Яго цягне да хлопцаў. Стралок адмысловы. Ён менш з музыкантамі, больш з намі.

**Сідорчык.** Надзейны сябра.

**Старшына.** Ты памаўчы.

**Серада.** Залез на браню — хацеў нырнуць у люк, а радавы Сідорчык з усяе сілы гэты люк якраз і закрыў, не заўважыў далонь Куліка. Ну і бац па ўсіх пальцах.

*Паўза.*

**Буян.** Завезлі ў шпіталь. Крыві многа павыцякала.

**Старшына.** Будзем праводзіць расследаванне. Наўмысна гэта ці выпадкова.

**Серада.** Выпадкова, таварыш старшына. Ніякіх у іх канфліктаў не было. І Сідорчык… калі пляц падмятаем, ён знойдзе павучка і аднясе на траву пад плот, каб не раздушылі... Выдатныя хлопцы. Гэта выпадковасць.

**Старшына.** Не расслабляйцеся. Пакаранне за наўмысную ці выпадковую шкоду здароўю чакае і таго, Буян, хто павінен адказваць за астатніх.

**Буян.** Зразумеў, таварыш старшына.

**Старшына.** Пакуль я вас пазбаўляю звальнення на гэтыя выхадныя.

**Буян.** Таварыш старшына, мы якраз хацелі ў суботу наведаць Куліка ў шпіталі.

**Старшына.** Я сам наведаю. Перажыві з годнасцю і гонарам пакаранне.

**Буян.** Кутузаў?

**Старшына.** Сенека. Старажытны Рым.

**Буян.** Вінаваты, не чытаў.

**Старшына.** Яшчэ ўсё наперадзе. Прачытаеш. А калі спатрэбіцца палец для перасадкі, хто аддасць?

*Паўза.*

**Серада.** А хіба ў нас ужо навучыліся і пальцы перасаджваць? Я пакуль чуў толькі пра пячонку, сэрца.

**Старшына.** Навучыліся. Не ахвяруеце сябру?

**Сідорчык.** Чаму ж… калі спатрэбіцца.

**Старшына.** Музыканта рукі кормяць. Вось так. Задумаліся? Не гатовы…

*Старшына выходзіць.*

**Серада.** Якія ў цябе прадчуванні, хірамант?

**Сідорчык.** Ніякіх. Баюся, што палове аддзялення давядзецца кожнаму палец ахвяраваць. Я мезенец, цур.

**Серада.** Табе ўсё хаханькі.

**Буян.** Скажы дзякуй, што іншае не трэба перасаджваць.

**Сідорчык.** Ціпун табе на язык.

**Серада.** Цяпер камісуюць абавязкова. Не адкруціўся па плоскаступнёвасці, не схаваўся ад прызыву ва Уладзівастоку, дык лёс паспрыяў у пяхоце.

**Сідорчык.** Яшчэ вілкамі па вадзе. Можа, змогуць вылечыць.

**Серада.** А можа і не.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

*Пакой адпачынку і інфармацыі. Каля сейфа старшына Даўгазвяга. Хавае паперы ў сейф і замыкае яго.*

*Уваходзіць Мехмон.*

**Мехмон.** Таварыш старшына, дазвольце звярнуцца.

**Старшына.** А-а-а, Мехмон! Ну як, атрымаў ліст ад бабулі?

**Мехмон.** Атрымаў!

**Старшына.** Чаму няма настрою?

**Мехмон.** Няма радасці.

**Старшына.** Як так?! Ты ж выдатны механік-вадзіцель, а ў апошняй вучэбна-баявой трывозе проста малайчына! Усе камандзіры пахвалілі.

**Мехмон.** Мой бабуля… яна не можа спакойна памерці.

**Старшына.** Што зноў?

**Мехмон.** Не верыць, што гэта я на фотцы. Ёй 88 гадоў. Дык яна ў павелічальнае шкло разглядала фотку маю на поўны рост і не пазнае мяне. Трагедыя.

**Старшына.** Тебе, Мехмон, надо переквалифицироваться в разведчики. Ну и хитер ты, мать родная!

**Мехмон.** Правду говорю, чистую правду. Две соседки бабушки, они моложе ее на две недели, тоже не узнают.

**Старшына.** В общем так. Ты заслужил десять суток отпуска, включая дорогу. Попрошу у комбата. И привет бабушке от всех нас.

**Мехмон.** Гэта праўда?

**Старшына.** Ці было такое, каб я калі каго падманваў?

**Мехмон.** Такога не было.

**Старшына.** Збірайся ў адпачынак.

**Мехмон.** Ёсць збірацца ў адпачынак! Дазвольце ісці?

**Старшына.** Ідзі.

*Мехмон выходзіць. На некаторы час старшына застаецца адзін.*

*Уваходзіць капітан Ратнікаў.*

**Ратнікаў.** Старшына Даўгазвяга.

**Старшына.** Я, таварыш капітан.

**Ратнікаў.** Долары ў сейфе хаваеце? Еўра?

**Старшына.** Так точна. Толькі не я. Старшы сержант Буян аддаў для захоўвання свой кашалёк: ён у кожным звальненні купляе валюту і назапашвае.

Ратнікаў. У банкіры рыхтуецца?

**Старшына.** Няма ў мяне такой інфармацыі. Бацька ў яго часова беспрацоўны, маці сардэчніца, назапашвае сродкі маці на лекі.

**Ратнікаў.** Добра, вельмі добра. Як след выхаваўчую работу робіце.

**Старшына.** Не зусім. І я, здараецца, памыляюся. Разумныя хлопцы. Буян марыць зарабіць на цяжкіх пытаннях, удзельнічаючы ў гульні «Што? Дзе? Калі?» Пытанні ж, скажу вам. На мне правяраюць. Напрыклад, колькі дзён праляжаў Лазар у труне, пакуль яго ажывіў Хрыстос?

**Ратнікаў.** Ну? І колькі?

**Старшына.** Я не адказаў. Чатыры дні. І па армейскай тэме. Колькі фашысцкіх сцягоў было кінута да Маўзалея ў дзень парада Перамогі ў 1945 годзе?

**Ратнікаў.** Не памятаю.

**Старшына.** Я адказаў — сотня.

**Ратнікаў.** І…

**Старшына.** Дзве сотні. Могуць зарабіць. Хоць і нам не пашкодзіла б часцей наведваць банкамат.

**Ратнікаў.** Буду хадайнічаць перад камандаваннем. Праўда, і я ніколі не атрымліваў з прэміяльнага фонду. Я вырашыў перад строем уручыць значок і пасведчанне кандыдата ў майстры па штанзе ў паўцяжкой вазе старшаму сяржанту Буяну.

**Старшына.** Пацвердзілі.

**Ратнікаў.** Во ў мяне ў руках. Схавай у сейфе. І каб не гэта ЧП з Кулікам, было б ваша падраздзяленне на першым месцы па ўсіх параметрах. А так могуць і ад парада ў Дзень Незалежнасці адхіліць.

**Старшына.** Тады сядзем на палівачныя машыны і праедзем ззаду хвастом.

**Ратнікаў.** Ну, штосьці прыдумаем. Дарэчы, чаго радавы Кулік двойчы на тыдзень ходзіць у звальненне?

**Старшына.** Гэта з дазволу намесніка камандзіра.

**Ратнікаў.** Я гэта ведаю. А што ён для яго робіць?

**Старшына.** Калі мяне памяць не падводзіць…

**Ратнікаў.** Ды не падводзіць, не падводзіць… гавары, мы ж давяраем адзін аднаму. Да Уваравай не раўнуй, не на мой густ. Разумная. А трэба фліртаваць з самкамі дурнымі.

*Паўза.*

**Старшына.** Ён рыхтуе сына намесніка камандзіра да паступлення ў музычнае вучылішча па класе акардэона.

**Ратнікаў.** Што, Моцарт і на акардэоне грае?

**Старшына.** Значыць, так.

**Ратнікаў.** Усе вакол сябе ўсё круцяць. А мяне камбат носам тыцнуў, калі дазнаўся, што твой радавы з маёй «Волгай» валтузіўся. А калі хто ціхенька падкажа намесніку міністра наконт гэтых акардэонаў… Га?

**Старшына.** Я даносаў не пішу. І пасля, гэта своеасаблівая рэабілітацыя. Хлопец трапіў у аўтамабільную аварыю, з цяжкасцю вяртаецца да нармальнага жыцця.

**Ратнікаў.** Я не супраць. Я да таго, што ў наш няпросты час, кажуць, не пашкодзіць мець хоць які невялічкі кампрамат на кожнага: а раптам прыдасца. Ён мяне не надта любіць. Вызвалілася пасада камбата, мяне і не заўважылі. Ну ды нічога, на ўсякае хаценне ёсць цярпенне.

**Старшына.** Сувораў.

**Ратнікаў.** Не зразумеў.

**Старшына.** Я кажу, словы Аляксандра Васільевіча?

**Ратнікаў.** Камандзіра 3-й роты?

**Старшына.** Суворава Аляксандра Васільевіча.

**Ратнікаў.** Не дуры галавы, старшына. Я і забыў, што ты не давучыўся на гістарычным факультэце ва ўніверсітэце.

**Старшына.** І не шкадую. Я знайшоў сябе ў арміі і сваёй прафесіяй вельмі задаволены.

**Ратнікаў.** Можна толькі пахваліць. Як там радавы Кулік?

**Старшына.** Сёння медыцынская камісія.

**Ратнікаў.** Камісуюць. Навошта нам бязрукія. Пашанцавала.

**Старшына.** Ды ў яго, па звестках, два пальцы сур'ёзна пакалечаныя.

**Ратнікаў.** І якія прагнозы?

**Старшына.** Пяцьдзясят працэнтаў на пяцьдзясят.

**Ратнікаў.** Значыць, камісуюць. Вазьмі значок і пасведчанне і схавай у сейф. Прынясеш на пастраенне.

**Старшына.** Слухаю.

*Бярэ значок і пасведчанне і хавае ў сейф.*
*Ратнікаў выходзіць.*

**Старшына** *(у прыўзнятым настроі. Нават спявае песню на свой лад з кінафільма Л. Гайдая).*

Маруся из крана воду пьет,
Маруся меня к себе зовет.
Дай, дай воды напиться,
Милая девица ты моя.
Ай, яй, ай, ёй,
Милая девица ты моя.

*Зацямненне.*

## КАРЦІНА ДВАНАЦЦАТАЯ

*Прамень святла асвятляе Івана Паўлавіча Буяна.*

**Іван Паўлавіч.** Дзень добры, сынок. Не пісаў табе — не было чым парадаваць. Я, дзякуй Богу, уладкаваўся на працу вартаўнікам у дзіцячы садок, і за дворніка даплочваюць. Завод усё яшчэ стаіць. Усе ўжо кажуць, прыбралі канкурэнта на сусветным рынку. Цётка Соня піша, што такім метадам пазакрывалі надта многа прадпрыемстваў у Польшчы. Нават верф «Салідарнасць» у Гданьску. Запрашалі мяне прыехаць да іх на працу — на збор суніц. Ды не мужчынская гэта справа. Як маці пакінуць? З Боскай дапамогай ёй зрабілася лепей. Сардэчны рытм аднавіўся. Ціск, праўда, скача, але нічога. Збіраемся наведаць цябе ў выхадныя. Дзядзька Мікола прывязе нас на машыне, у яго справы бізнесу, гандлюе дзіцячымі цацкамі, пра заробкі маўчыць. Ці не пашлюць вас у Паўночную Афрыку? Імперыялізм там добрую кашу заварыў. Усё ім мала. Беражы сябе. Твае бацькі.

*Яркае святло. Пакой адпачынку і інфармацыі. Буян і Сідорчык гуляюць у шахматы.*

**Буян.** Думай, чым твая галава занята? Вярні ход назад, аддаеш ладдзю.

**Сідорчык.** Паскудны настрой.

*Серада тэлефануе па сотавым тэлефоне.*

**Серада.** Алё, Руслана? Прывітанне. Гэта я. Пазнала? Гэта ўжо прыемна. Як наконт бульбы дроў падсмажыць? Не зразумела? Ну, у сэнсе стрэлку… у суботу ў Батанічным садзе, апоўдні. Доўга думаць будзеш? Ну добра. Праз гадзіну патэлефаную.

**Буян.** Аблом?

**Серада.** Ды не зразумець іх.

**Буян.** Калі не хапае цярплівасці… там, каля КПП заўсёды дзве-тры чувіхі дзяжураць.

**Серада.** Адкуль бабкі на іх? Знайшоў каго раіць.

**Буян.** А хіба на тваю не трэба бабла?

**Серада.** Не ведаю. У першы раз сустракаемся. Я ёй скажу, маўляў, я вырашыў, застаюся ў арміі. Хачу паступіць у вучылішча. Калі не палохае цябе армейскае жыццё — тады працягваем.

**Сідорчык.** О, браце, бяры свой заробак за паўгода. Адзін кубак кавы на праспекце 4 долары.

**Серада.** Я кавы не п'ю.

**Буян.** Дык яна два кубкі асушыць і за цябе.

**Сідорчык.** Кавы недастаткова. Яны ўжо разбэсціліся ў атмасферы рвацтва.

**Серада.** Пішуць, што ў ЗША дазволілі і педзікам у арміі служыць.

**Буян.** Ды хай хоць казе дазваляюць, нам што. У нас свая галава на плячах.

**Серада.** Ты ідэалагічна падкаваны…

**Сідорчык.** У ідэолага служба — ляжачага не б'юць. Акопы рыць не трэба вернай сяброўкай салдата — сапёрнай рыдлёўкай.

*Паўза.*

**Буян.** Абдумвай хоць бы два хады наперад. Забяру ферзю.

**Сідорчык.** Ферзя.

*Серада бярэ гітару і грае некалькі акордаў.*

**Серада** *(спявае, калі гэта можна назваць спевамі).*

Враг, на слово мне поверь,
Не продам свой БТР.
ЦРУ, как ни проси,
Не продам БМПиси.

*(Затым пяе «Александрыну».)*

**Сідорчык.** Не турбуй цень вялікага Мулявіна, не прымушай пакутаваць струны. Прашу!

*Серада адклаў гітару. Бярэ дыск і ўключае плэер. Гучыць песня М. Скорыкава «Ты мяне пакахай».*

**Сідорчык.** Ай… *(змахнуў усе фігуры з дошкі)*. Надакучыла.

**Буян.** Здаўся?

**Сідорчык.** Выключы.

**Серада.** А чаму табе Скорыкаў не падабаецца? Клёвая песня.

**Сідорчык.** Ды не да спеваў.

*Уваходзіць старшына.*
*Усе кажуць: «Добрага здароўя, таварыш старшына».*

**Старшына.** Адпачывайце, адпачывайце. Прыўзняты ў мяне сёння з раніцы настрой. Радавы Мехмон Муртазо з другога аддзялення з адпачынку прыбыў.

**Серада.** У яго там на Паміры праблемы нейкія з бабуляй.

**Старшына.** Вось-вось. Пытаю, як бабуля, жывая? Жывая, адказвае. Пазнала? Пазнала. Ну, кажу, слава Алаху. Тры кіло ўруку перадала. Так што будзе ў вас сёння ў сталоўцы памірскі кампот. А дзе апошні нумар ваеннай газеты?

**Буян.** Не выйшаў, таварыш старшына.

**Старшына.** Як так? Непарадак.

**Буян.** Па тэхнічных прычынах.

**Старшына.** Якія ў іх могуць быць прычыны?

**Серада.** Можа, зусім кепска з фінансаваннем.

**Сідорчык.** Спіць упраўленне матэрыяльнага забеспячэння. Прадаюць старызну. Толькі рыззя вагонаў пяць пайшло.

**Буян.** Не лічы чужыя грошы.

**Сідорчык.** Чаму ж чужыя. Усё бюджэт.

**Старшына.** Табе на бялізну выдаткоўваецца. Зноў пасля пральні двух ручнікоў недалічыліся.

**Серада.** А што ў газеце? Суседні полк ужо новыя танкі атрымаў.

**Старшына.** Думаў, з’явіцца інфармацыя, калі ў нас будзе АК-12.

**Сідорчык.** А чым ён адрозніваецца ад 74-га?

**Серада.** Будзе мець тры рэжымы стральбы: цалкам аўтаматычны агонь, адсечка па тры стрэлы і адзіночны агонь. Ёсць выбар прыцэльных прыстасаванняў. Эрганоміка палепшана за кошт складнога тэлескапічнага прыклада, прыстасаванага пад антрапаметрычныя асаблівасці байца.

**Сідорчык.** Адкуль ты ўсё гэта ведаеш?

**Серада.** Прэсу трэба ўдумліва чытаць. А ты толькі старонкі знаёмстваў і праграму ТБ.

**Буян.** Табе не падыдзе.

**Старшына.** Гэта чаму ж яму не падыдзе?

**Буян.** У яго не тыя антрапалагічныя асаблівасці твару. Сківіца ніжняя наперад высунутая.

**Сідорчык.** Якраз для бакала піва падыходзіць.

**Серада.** Ды ну вас, чэрці. Усё на анекдот перакруціце.

**Старшына.** І пажартаваць трэба: з заўсёдна кіслай мінай таксама не салдат. Смех падаўжае жыццё.

**Сідорчык.** Гэта таксама Сувораў?

**Старшына.** Не. Гэта табе старшына Даўгазвяга кажа. Фіксуй.

*Уваходзіць Кулік.*
*Нямая паўза.*

**Кулік.** Таварыш старшына, радавы Кулік прыбыў для далейшага праходжання службы.

**Старшына** *(яшчэ не ўсведамляючы).* Паўтары.

**Кулік.** Для далейшага праходжання службы.

**Старшына** *(паказвае на яго забінтаваную далонь).* У сэнсе?

**Кулік.** Рашэнне камісіі: аднагалосна годны.

**Старшына.** Да кларнета?

**Кулік.** Ніяк не. На кларнеце працуюць па чатыры пальцы абедзвюх рук. А ў мяне два трохі не згінаюцца. Я папрасіў вярнуць мяне ў аддзяленне ў разлік байцом-стралком. Я ж страляю з правай, а затарможаны пальцы на левай…

**Старшына.** Дай я цябе, братка, абдыму і пацалую.

*Старшына цалуе Куліка. Усе па чарзе віншуюць Куліка. Сідорчык не рызыкуе. Кулік сам падыходзіць да Тадэвуша.*

**Кулік.** Тадэвуш, усё нармальна. І я вінаваты. Пашанцавала.

*Абдымаюцца.*

**Буян.** Міша, атрымай тэлеграму.

*Кулік чытае тэлеграму і жэстам паказвае «йесс!».*

**Старшына.** Вучыцеся, пакуль я жывы. Вось узор армейскага братэрства. А на чым жа ты акампаніраваць будзеш на конкурсе?

**Кулік.** На баяне. На левай басовай руцэ дзейнічаюць толькі два пальцы.

**Старшына.** Дык ты і на баяне граеш? Малайчына, хлопец! Ну, а песню знайшоў, каб душа спявала?

**Кулік.** Успомніў са старога каласічнага рэпертуару.

**Старшына.** Раз класічны — ужо выдатна. Галоўнае, каб за душу… разумееш… усім: і радавым, і камандзірам, і бацькам. Пачынайце, я паслухаю.

**Кулік.** Спявайма, хлопцы. З аганьком.

**Серада.** Пачынайма. Так хочацца заспяваць!

**Старшына.** І Радзіма не супраць.

**Салдаты** *(пачынаюць спяваць вядомую песню В. Салаўёва-Сядога «В путь»).*

Путь далек у нас с тобою,
Веселей, солдат, гляди.
Вьется, вьется знамя полковое,
Командиры — впереди.
Солдаты, в путь, в путь, в путь.

*На экране ў гэты час дэманструюцца кадры з фільма «Парад Перамогі». Эпізод, калі савецкія воіны кідаюць да Маўзалея фашысцкія знамёны і штандарты. На другім куплеце да спевакоў аднекуль з вышыні далучаецца хор ансамбля песні і пляскі Узброеных Сіл. Магутна гучыць бравая мелодыя. На экране БТР. На ім сядзяць нашы героі і радасна ўсміхаюцца.*

*Сцяганосец выносіць сцяг. Побач два асістэнты. Гучаць пазыўныя «Радзіма мая дарагая».*

*Яркае святло.*

*Духавы аркестр.*

***Заслона.***

***9 мая — 3 ліпеня 2012 года***



**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# УЧОРА І ВЕЧНА

*Знаёмцеся: сучасная азербайджанская паэзія*

Чынгіз Аліаглы ўяўляецца мне ці не самым яскравым выказнікам усіх тых працэсаў, што адбываюцца ў азербайджанскай паэзіі апошніх дзесяцігоддзяў. Аўтар многіх кніг вершаў і паэм, перакладчык паэзіі і прозы, ён здольны разгледзець з вышыні дня сённяшняга даўнюю мінуўшчыну. Здольны і зазірнуць за далягляды, здольны паспрабаваць сумясціць у сваіх мастацкіх пошуках светапогляды людзей розных пакаленняў:

След, як зерне, упаў на палоску,
След прарос, як і зерне ўзышло.
І спяшаюцца сцежкі за вёску,
І да сцежак хінецца сцябло.

Колькі ўсходаў і сцежак тых колькі!
Чалавек ім пяшчоту дарыў.
Маладыя згінаюцца голькі.
Чалавек тут ішоў пад абрыў.

Першы след — гэта след ля парога,
След яшчэ — гэта ж пэўна адно:
Зерне бучыцца — хай жа яно
Стане вечнай дарогай.

*(Пераклад В. Гардзея)*

Нарадзіўся Чынгіз Аліаглы ў 1944 годзе. З'яўляецца аўтарам больш як 50 кніг, выдадзеных не толькі ў Баку, але і ў іншых гарадах свету, у тым ліку і ў Маскве. Вершы азербайджанскага паэта перакладаліся на рускую, англійскую, французскую, нямецкую, іспанскую, фінскую, венгерскую, арабскую і іншыя мовы. А як руплівы майстар мастацкага перакладу Чынгіз Аліаглы прадставіў на суд сваіх суайчыннікаў творы М. Някрасава, У. Караленкі, А. Купрына, С. Маршака, С. Міхалкова, Я. Еўтушэнкі, І. Шклярэўскага, В. Купрыянава, І. Ліснянскай і інш. У 2001 годзе асобнымі кнігамі выйшлі Чынгізавы пераклады вершаў Г. Ахматавай і М. Цвятаевай.

Раўшан Кафараў вось што пісаў пра Чынгіза Аліаглы: «Стыль усякага мастака можа быць вызначаны адным адзіным-словам. Калі гаварыць пра Чынгіза Аліаглы, то слова гэтае — мужнасць, і з гэтым, мяркую, пагодзіцца як бальшыня прыхільнікаў паэта, так і яго апанентаў і нават крытыкаў. У вершах яго не сустрэнеш пашыранай у нашай літаратуры "мармеладнасці", слязлівасці і эпатажнага пустазвонства. Яны эмацыйна цэласныя — як бацькоўская любоў, і лаканічна-канкрэтныя — як выстрал. І моцныя — як моцны поціск рукі паэта. Я назваў бы іх вершамі з пачуццём уласнай годнасці…»

У пацвярджэнне слоў крытыка можна прывесці і наступныя радкі паэта:

Жыццё я зведаў добрым і каварным.
І дабрынёй я цешыўся любой.
Для некага жыццё — вячорак хмарны,
А для мяне яно — смяротны бой.

Цану я знаю — лесу, полю, лугу,
І сілу слоў, забраных у радок.
Шчаслівы я, калі патрэбны другу, —
Тады мацней бурліць жыцця выток.

Па ім прайду, хоць маю асцярогу,
Што лёс кідае камянямі бед.
З тых камянёў я вымашчу дарогу —
Для ўсіх, хто крочыць з дабрынёй услед.

*(Пераклад В. Гардзея)*

Тут хацелася б зрабіць некаторае адступленне і ўвогуле крышачку зазірнуць у гісторыю азербайджанскай паэзіі. У VII—XI стагоддзях азербайджанская літаратура стваралася на арабскай і персідскай мовах. Прычына ў тым, што Азербайджан захапілі арабы і гвалтам насаджалі іслам і арабскую мову. Але развівалася, пашыралася ў літаратуры і народная азербайджанская мова. Помнік таго часу — эпас «Кітабі Дэдэ-Каркуд». З'яўленне прафесійнай паэзіі звязваюць з азербайджанскім паэтам XIII стагоддзя Іззадзінам Гасанам аглы. Але тады ў паэзіі пераважаў песімізм. Новая бяда прыйшла ў азербайджанскую старонку — нашэсце манголаў. У паэзіі развіваецца суфізм, яго пантэістычны кірунак, які выяўляў у містычнай форме незадаволенасць існуючай рэальнасцю. Выдатным паэтам і філосафам-пантэістам становіцца Махмуд Шабустары (1252—1320), аўтар кнігі «Таямніцы кветак». Да канца XIII стагоддзя вылучаецца паэт Арыф Ардэбілі — аўтар паэмы «Фархаднамэ». Распаўсюджваецца рэлігійна-палітычны рух — хуруфізм, скіраваны ў асноўным супраць догм у ісламе. У гэтым кірунку выявіўся пратэст супраць крывавага нашэсця Цімура. Яркі прадстаўнік хуруфітаў — вядомы паэт і мысляр Імададдзін Насімі, які загінуў у 1417 годзе ад рук ворагаў хуруфіцкага вучэння. Насімі — першы з буйных лірыкаў, які стварыў вялікі дыван на азербайджанскай мове. У сваіх лірычных вершах і філасофскіх газелях Насімі ўзвышаў чалавека, яго розум, апяваў зямны свет.

XV стагоддзе ў азербайджанскай паэзіі характарызуецца пашырэннем інтымнай лірыкі. Хаця і ў ёй, няхай сабе і між радкоў, часта — у падтэкставай прасторы, было шмат крытыкі пануючых класаў. І ўсё ж галоўнае — любоў да чалавека, дружба, вернасць, наданне гэтым паняццям істотна новага, філасофскага сэнсу. Усе таямніцы Сусвету (і адпаведна — таямніцы жыцця, прыроды) паэты XV стагоддзя тлумачылі каханнем, сцвярджаючы, што ў каханні ўсе людзі маюць роўныя правы. Да любові заклікалі і паэты — прыхільнікі феадальна-рэлігійных ідэй. Але яны сцвярджалі любоў да Бога, выступалі ў абарону шарыята, рэлігійнага права, ухвалялі ў сваіх касыдах святых. У XVI стагоддзі пачаўся пад'ём у палітычным, эканамічным, культурным жыцці азербайджанскага народа. Адзін з цароў Сефевідскай дынастыі шах Ісмаіл пад псеўданімам Хатаі стварыў выдатныя творы на азербайджанскай мове — «Дыван», «Дэх-намэ», «Насіхатнамэ». Ён выкарыстоўваў матывы народнай паэзіі, што надало яго лірыцы асаблівую задушэўнасць. З'яўляецца ў гэты

час і выключна рамантычная паэма Мухамеда Фізулі «Лейлі і Меджнун». З імем Фізулі звязана канчатковае фарміраванне літаратурнай азербайджанскай мовы…

Узгадваючы даўніну азербайджанскага мастацкага свету, вытокі нацыянальнай азербайджанскай лірыкі, хацелася б падкрэсліць, якога грунту, якой трываласці фундамент закладзены пад творчымі памкненнямі Чынгіза Аліаглы і яго паплечнікаў. А яшчэ ж паэзія XX стагоддзя… Ці не галоўны прамы настаўнік Чынгіза Аліаглы — вялікі азербайджанскі паэт Расул Рза. Так склалася, што ў прафесійную літаратуру Чынгіз Аліаглы прыйшоў як «фізік», маючы за плячыма тэхнічную ВНУ. А значыць, шмат у чым не маючы досведу гуманітарнага, філалагічнага. Затое ў маладога паэта быў націск, была ўпартасць — і ў характары, і ў паэзіі. І ўсё ж патрэбен быў дарадца… «Такім дарадцам, шчырым старэйшым таварышам стаў для мяне Расул Рза, — расказаў мне на леташняй кніжнай выстаўцы ў Мінску Чынгіз. — Яшчэ ў перадваенныя гады, не маючы і трыццаці гадоў, ён узначальваў Саюз пісьменнікаў Азербайджана. У канцы 1940-х быў міністрам культуры рэспублікі. І ўсё ж я адважыўся аднесці свае першыя вершы менавіта Расулу Рза… Мяне вабіла яго асоба, яго здольнасць да філасофскіх разваг. Паэтычная традыцыя ў яго паэзіі спалучалася з пошукам нечаканага, з наватарствам. Стасункі з Расулам Рза былі сапраўднай школай…»

У пацвярджэнне сказанаму — радкі верша:

Душа — як люстра!
Бо яна
Незамутнёная да дна.
Душа нас радуе сваёй
Працятай сонцам глыбінёй.
Кашуля. Шапка набакір.
І туфлі зношаны да дзір.
Душа спявае.
Ёй адной
Прайсці па нерушы зямной.

*(Пераклад В. Гардзея)*

Прадстаўляючы чытачу пераклады вершаў Чынгіза Аліаглы на беларускую мову, зробленыя Міколам Мятліцкім, хацелася б і вось пра што сказаць. Азербайджанскі паэт — часты госць у Беларусі. Удзельнічае ў міжнародных выстаўках-кірмашах, якія штогод ладзяцца ў лютым у Мінску. А таксама прымаў удзел у мінулагоднім Дні беларускага пісьменства, у традыцыйным вераснёўскім міжнародным «круглым стале» беларускіх і замежных пісьменнікаў. Уважлівы Чынгіз і да нашай сучаснай паэзіі. Цяпер, у прыватнасці, працуе над укладаннем анталогіі беларускай паэзіі канца XX — пачатку XXI стагоддзя.

## Чынгіз АЛІАГЛЫ



### ІДЗЕ ПАЛЯВАННЕ

Час палявання… Ранішні туман…
Пагоні гік — адчайна-акрылёны.
Ашчэр жалезны — пасткі хіжы зман.
У патранташ набітыя патроны.

Стаіць на ўлонні вольным шум і гам,
Рог паляўнічы кліча ў вір атакі.
На ўзводзе ружжы; стрэлы тут і там,
Абклалі звера ярасна сабакі.

Скрозь голле дрэў — злавесных воч прыжмур,
Дрыжыць вавёрка, моўчкі сее слёзы.
Застыў на выспе крутарогі тур, —
Яшчэ зусім не чуючы пагрозы.

Спытаць бы нам залётнага лаўца:
А што, калі ў цябе жаканам гахнуць
Або аркан саб’е твайго хлапца?
Крывёй мядзведжай бураломы пахнуць.

Загнаны ў клетку слынны цар звяроў,
Засада — моўкне грозны гік аблавы.
Ў трысці шукаюць качар з качкай схоў…
Трафей — прадмет саманадзейнай славы.

Не кожнаму шанцуе трапным быць,
Страляюць спешна, цешацца разбоем.
Двухногія, занятыя сабою,
Дзічыну прагнуць дробную здабыць.

І сват і брат — ўзяліся за ружжо,
Бяжы, кабан, хавайся ў хмыз, іклаты,
Пакуль яшчэ на мушку ты не ўзяты
І тушу не раскроілі нажом.

Паваляць і аглушаць — змрок начы,
Ідзе драпежны наступ нечаканы.
Як ні пятляй, казуля, — не ўцячы!
Кустоўе, травы акрывавяць раны.

Ў натоўпе гэтым блізкіх пазнаю —
Ў нашчадках гены прарастаюць сквапна.
Яны, нікчэмнасць тоячы сваю,
Па вераб'ях бабахаюць звыштрапна.

Як цешыцца здабычай кожны хват,
Ці думае, што церпіць паражэнне,
Што ён — жыццёя жывога хіжы кат —
Жыве бяздушна ў чучал акружэнні?

І прашчураў дрымучых даўні грэх
Дагэтуль цешыць гонар чалавечы,
Адну з крывавых дорачы пацех
Ў прапахлай горкім порахам цямрэчы.

* * *

Белым кіпенем сад адзічэлы цвіце.
Чорным чадам спавіты скрозь востраў бязлюдны,
Дзе зямля стала шэрай ад попелу з прахам,
І лунаюць над ёю забітыя сны.

Каля лужын астылых шумяць вераб'і,
Беспрытульныя дзеці прыроды.
І заспетыя штормам ліхім караблі
Зноў чакаюць суцішнай пагоднай лагоды.

Горад чуе сябе — парасчынены вокны,
Па асфальце машыны імчаць — блікі шклінаў,
Ды не ўчуеш на востраве іхніх музычных рулад, —
Толькі плач беспрытульных галодных сабак.

Белы кіпень садоў гасіць выстылы дым,
На шматкі разлятаецца полаг туману,
Крэматорыя печы дымяць, і далеча нібы ў малацэ.
…І кусаецца сумка,
што цётка трымае ў руцэ.

## ЗА СІНЯЙ ПТУШКАЙ

…Плёс Хазара заход разузорыў агнём,
І даліны спачылі ў туманнай утоме,
Ты прыснілася мне адзінокаю сіняю птушкай,
З апярэннем, што ў промнях заходу гарыць.

Неба прастрань чарнела чадрой неагляднай,
Дзе мірготны свой водсвет пакінуў палёт,
У маркоту цямрэчы не спынены рух,
Дзе, на шчасце, ні путаў, ні дзён мітусні.

Пад нябеснай чадрой гнёзды выстудзіў стэп,
Ты ляцела ад іх у прачорны сусвет,
Да паветраных замкаў дабра і любві
Ты ляцела, і шлях твой ляжаў у бясконцасць.

Ружавеў тамарыскавым колерам след,
Доўга чуліся гучнага смеху рулады,
Што ўпадалі ў нябёсаў глыбіні без рэха,
І шаптаў я малітвы Тварцу пра цябе.

А з палаткі у стэпе, апаленай спёкай,
Непаседа-хлапчук, у трапёткім здзіўленні,
Шыю выцяг — і пільна ўзіраецца ўвыш
Узмакрэлымі ад запалення вачамі.

Затаёна глядзіць ён на гэты палёт
У бясконцым, загадкавым небе,
Вось дзяўчынка ў начнушцы мільгнула-ўзвілася…
Сэрцы два за табою услед паляцелі…

Толькі што гэта, што? Гаманлівы натоўп,
Што з палатак павыйшлі, тутэйшых людзей,
Прыцягнення не чуючы ўтрыму,
У палёт скіраваў…

Гаманлівы натоўп у таўчэчы — ураз
Стаў чародамі вольнымі птушак,
У вар’яцкім патоку сыходу растаў…
Натварыла чаго ты, о сіняя птушка!..

* * *

Што карэнне, што голле!
Камлі —
горла дрэваў, іх голас натхнёны.
Удых — выдых!

Зямля,
кропелькі соку вашага
салаўінымі камячкамі
падкочваюцца, — перакочваюцца
у горле.
І вось
пад лісця языкамі
выспелі плады першародныя,
плод кожны — гучнае слова
ваша, зямля.
Камлі —
сасуды вузкагорлыя
з металу жывільнага,
і ў іх неба зорак
празрыстае, — прасочваецца
у сэрца ваша, зямля.
Камлі —
створаныя чалавецтвам,
іх мускулістае голле
ускідваецца, — захоплівае
неабсяжнае неба.
Голле — не болей, і не меней —
карэнне ў нашым небе.
А карані нашы
распускаюцца ў сэрцы,
разгаліноўваюцца па целе, —
ты чуеш?
Прыслухайся —
у венах скрып марозу,
сонечны гуд зямлі!
І кроў —
жыцця кругаварот
ад скроняў пульсуючых
да падушачак пальцаў.
Гэта страсць венаў —
вечная смага, спадзеў чалавека —
замацаваць свае карані
у зорках зямлі.

* * *

О голас, аддадзены ветру!
Ён узносіцца над намі ў небе,
як шар блакітны над галавой
дзіцяці.
А мы — шкловыдзімальшчыкі

прароцтваў і прасторы —
надалі голасу форму
нашага неба.
Голас, аддадзены ветру!
Неба голасу нашага.
Неба над небам.
І калі мы змаўкаем,
гучаць сады ягоныя,
і спушчаныя ствалы
лісцвяных маланак
кладуцца — уніз галавой!
І гром — іх пераспелы плод —
кулак нашага голасу —
грукае ў нашы сэрцы.
Мы спалохана ўскрыкнем, — балюча!
Голас, аддадзены ветру!
Неба нашага голасу!
І тады мы, як быццам
ні з таго ні з сяго,
самі па сабе
засяваем ледзь чутна…
І гэта, магчыма,
сумныя галасы
старажытнага дзяцінства,
а нашы душы — толькі ягоны водгук?
Голас, аддадзены ветру!
І калі голас гэты —
як узвей успамінаў,
мы ў мітусні вуліц,
мы ў паўсядзённым побыце, —
раптоўна пачуем
плач спаленых вёсак,
гром ваеннае кананады,
голас наш — сіла гора,
голас наш — чырвоны голас,
трапяткі сцяг на ветры! —
неба нашага голасу!

## У КОЖНУЮ НАВАГОДНЮЮ НОЧ Я ЧАМУСЬЦІ ПРЫГАДВАЮ АПОВЕД БАЦЬКІ…

Ноччу
сорак трэцяга года
спляценне акопаў
нагадвала ёлку,
распасцёртую на зямлі.

Як ліхтарыкі ў касках,
пагойдваліся на галінах
вартавыя-салдаты.
Пражэктары паварочваліся
па цыферблаце неба,
і чорны дыск небасхілу
цікаў ледзь-ледзь.
Фантаны канфеці
не ўзрываліся, — а выбухалі
чырвоныя, зялёныя кружочкі ракет.
І не было Дзеда Мароза
з кулёчкамі цукерак для дзятвы,
ды і дзятвы
не было. Была — самота.
Бледна-ліловая ноч.
А ці было свята? Якое ж
свята без дзяцей?
І было — нехта сказаў:
«Кіньце, браткі,
і гэтак сыдзе!
Давайце “Яллы”!»
Наш Мірataш
узмахнуў салдацкай хусцінкай
і павёў карагод, —
гром абцасаў па крузе!
І танцавалі «Яллы»
Я, і Васіль, і Гіві,
і Абдула,
накульгваючы, кружыўся.
Салдаты, наш танец — «Яллы»!
А ноч асатанела,
кулі яе завывалі…
Не краніце салдат, кулі,
міма ляціце, кулі.
І кулі ляцелі наўзбоч
і замярзалі ў палёце…
Не ведаю, гэтак, магчыма, было,
ці не было, магчыма.
Не ведаю. Ды толькі раніцай
акопы, асветленыя
слабым сонцам,
былі падобныя на ёлку,
ёлку, якую ссеклі,
і яна да зямлі прыпала.
А на гольцы зялёнай
пагойдвалася, як свечачка,
параненая, памірала
медсястрычка Чычэк…

## УСЁ ГЭТАК ЖА...

Гэтыя паляны горныя,
гэтыя горныя лугавіны —
усё дзядоў маіх спадчына,
усё зямля маіх бацькоў.
Усё гэткая ж яна спагадлівая і добрая,
усё гэткая ж поўная кветак
для тваіх валасоў.

Усё гэтак жа…
Нам па́даць у іх і знікаць усё гэтак жа.
Заўсёды было так, і заўсёды так будзе.
Казыча вусны мае рамонак
і хаваецца ў твае валасы.
Ты напэўна бачыш цяпер:
высока-высока нада мной
вясна зорная —
гэта прабіваецца праз аблокі
блакітка Палярнае зоркі.

Усё гэтак жа…
З табою і з зямлёю ўсё гэтак жа нам злівацца,
і мне ўсё гэтак жа забываць
стэпавыя дарогі,
што неўзабаве ўздрыгнуць
пад майго каня капытамі.

Усё гэтак жа…
На падушках аблок багі спяць і анёлы.
Усё гэтак жа
саломінка ўздрыгвае ў вуснах тваіх,
а пад табой — зямля цяплом дыхае.

Світае.
Усё гэтак жа.
«Світае ад тваіх валасоў,
світае…»
Ад ног тваіх, плячэй і рук
світае…
І ўсё гэтак жа
на горных схілах
унізе пад намі
з нашых сплеценых пальцаў
пачатак бяруць
плыткія
горныя рэчкі.

## ВЕЧНАЯ РАНІЦА

Блакітнае дрэва ветру калышацца і спявае,
на голлі яго шапаціць
лістота аблок.
Пах спелага сонца растворраны у паветры.
За караванам вярблюдаў
рушыць гор караван.
Рачулка горная — дзяўчынка свавольная,
з каменьчыка на каменьчык —
звон, смех, усплёск.
Як смала, цягнецца
буйвалаў чорных мычанне.
Абганяе вецер табун маладняку.
А над кішлаком — белая стужка дыму.
Гэта маці мая хлеб пячэ.
Гэты хлеб для сябра майго за мёд саладзей,
гэты хлеб засядае ў ворага ў горле!
Блакітнае дрэва ветру калышацца і спявае.
Я ведаю, аб чым гора маўчыць.
Гэта зямля, на якой я нарадзіўся.
Гэта зямля, за якую я памерці змагу!

## ДАРУЙ…

У памяці толькі табе векаваць, бабуля.
О ростань! Мёртвая гэта вада, бабуля.
Гэта нямой вады,
гэта глухой вады
ты напілася, бабуля.
Голас жывы твой слых кране.
Ты пазіраеш скрухі поўным паглядам
з-за сцяны год,
з-за той быстрыні мёртвай,
дзе кожны аднойчы спачне…
Даруй жа, даруй жа мне…

Нялёгкі болю майго дакор.
Ні разу сюды дарогамі гор
не завітаў, не меў лішняй хвіліны
табе адкрыцца душой.
Я на цябе пазіраў здалёк,
ні разу цябе я не абняў,
цябе ні разу не пацалаваў,
я думаў — жыццё нетаропкі крок,
я думаў — жыццё поўнае

радасці вечнай,
і вечная ты сама, як жыццё.
І што застаецца рабіць? Прыпазніўся я.
Цяпер мне балюча
ад ціхага смеху, позірку воч
з вечнасці млечнай,
што болем у сэрцы кальне…
Даруй жа, даруй жа мне.

Дзень прамільгне,
месяц міне
або імклівы год —
завершыцца ўсё.
Наступіць чарод
для ўнука падзякі,
для стрэчы.
Стрэчай ухутай празяблыя плечы.
Час тае стрэчы — горкі мёд.
З-за сцяны год,
з гэтай мёртвай ракі
не пазірай — сум ахіне.
За ўсё, за ўсё, — і за гэтага верша радкі —
даруй жа, даруй жа мне.

*Пераклад з азербайджанскай*
*Міколы МЯТЛІЦКАГА.*



**Крысціна ПАПКО**

# «ДОЎГ ПАМЯЦІ» УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА Ў КАНТЭКСЦЕ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ФАКТА

XX — пачатак XXI стагоддзя ў сусветным літаратурным працэсе — перыяд росквіту літаратуры «non-fiction». У пачатку XX стагоддзя існавалі меркаванні аб заняпадзе мастацкай літаратуры, у другой палове яго — нават аб яе смерці. Але адначасова ў гэты перыяд стаў відавочным росквіт «літаратуры факта»: мастацка-дакументальнай, мемуарна-аўтабіяграфічнай, дзённікавай — той літаратуры, якую сёння прынята называць *«non-fiction» (англ.* нявыдуманы, сапраўдны). У сучасным літаратуразнаўстве таксама ўжываюцца блізкія па змесце паняцці: *мастацка-дакументальная проза, гісторыка-дакументальная проза, эга-дакумент, аўтадакументальны тэкст*.

У другой палове XX стагоддзя і ў беларускі літаратурны працэс актыўна ўвайшлі творы дакументальна-мастацкай прозы: кнігі С. Алексіевіч «У вайны не жаночае аблічча», «Чарнобыльская малітва», «Цынкавыя хлопчыкі», Л. Геніюш «Споведзь», А. Адамовіча, Д. Граніна «Блакадная кніга», А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі…» і інш.

Кніга У. Калесніка «Доўг памяці» — адзін з самых яркіх твораў «non-ficton» у айчыннай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў. Яе аўтар — вядомая постаць беларускага літаратуразнаўства другой паловы XX стагоддзя: таленавіты крытык, даследчык літаратуры, пісьменнік-мысляр, фальклярыст, асветнік, педагог. У гады Вялікай Айчыннай вайны У. Калеснік — удзельнік антыфашысцкага супраціўлення, чалавек складанага і драматычнага лёсу. Зведаў як шчаслівыя і незабыўныя дні дзяцінства і юнацтва, так і глыбокую ўнутрысямейную драму, якая пакінула цяжкі след у ягонай душы на ўсё жыццё. Спазнаў радасць сяброўскай еднасці і боль здрады, шчасце першага кахання і трагічную смерць блізкіх і дарагіх людзей. У яго асобе фенаменальна паяднаны дасведчанасць і сталасць чалавека, які шматразова выпрабоўваўся жыццём на стойкасць і вернасць асабістым ідэалам, энцыклапедычная адукаванасць гарманічнага інтэлектуала, шчодра адоранага ад прыроды, які нястомна працаваў над сабой, самаўдасканальваўся.

Аўтабіяграфічны герой твора У. Калесніка — асоба яркая, таленавітая і неардынарная. З дзіцячых гадоў будучы пісьменнік вылучаўся дапытлівым розумам, багатай фантазіяй і здольнасцю аналізаваць. Бацька думаў, што хлопчык пойдзе па ягоных слядах і стане патомным плытагонам. Аднак У. Калеснік марыў аб іншым, і яго падтрымала маці: ён паступіў у Навагрудскую гімназію. Нават у сталым узросце з удзячнасцю ўспамінаў сваіх выкладчыкаў, якія адкрылі перад ім неспазнаны свет, у якім ён шукаў адказы на свае шматлікія пытанні. Вучоба ў гімназіі, а пасля ў педвучылішчы аказала вялікі ўплыў на фарміраванне асобы У. Калесніка. Там ён набыў не толькі глыбокія веды па літаратуры, матэматыцы, гісторыі мастацтва і іншых прадметах, але найперш бясцэнны вопыт вернага сяброўства, а хутка і першага кахання. На трэцім курсе педвучылішча яго застала вайна. Апісанне гэтых падзей склала большую частку «Доўга памяці», паколькі менавіта падчас удзелу ў партызанскім руху аўтар спазнаў «межы пачуццяў» і канчаткова вызначыўся як асоба.

Кніга «Доўг памяці» з самага пачатку задумвалася не толькі як спроба перадаць самыя значныя факты з асабістай біяграфіі, але найперш для таго, каб, вяр-

нуўшыся ў думках да выпрабаванняў ваеннага часу, нагадаць пра «былы гераічны стан грамадства, народа» [1; 528]. Аўтар быў перакананы, што бязлітасна-аб’ектыўнае асэнсаванне падзей мінулай вайны ў аўтабіяграфічна-дакументальным жанры «ацвержае і лечыць», што «<…> творы мастацтва ці публіцыстыкі, у якіх жыве здаровая народная праўда, засцерагаюць ад звіхаў, зрываў і спатырчакоў» [1; 528] людзей і ўсё грамадства. У. Калеснік быў упэўнены, што «ўсё залежыць ад таго, якую *ідэю* прапаведуе аўтар. Калі *здаровую мараль чалавечага сужыцця і ўдасканалення*, дык пропаведзь такая не перашкодзіць <…>. Эстэтычна хвалююць толькі выдатныя і выключныя па сваёй напоўненасці маральныя ўчынкі» [1; 528]. Такім чынам, *звышлітаратурную задачу* сваёй прозы У. Калеснік бачыў у тым, каб кожны, задумаўшыся над маральнай асновай уласнага жыцця, прыйшоў да ідэі самаўдасканалення. І кніга «Доўг памяці» выконвае гэту звышзадачу — дапамагае чытачу *«хвалявацца эстэтычна, перажываць, выяўляць хараство жыцця, сцвярджаць яго каштоўнасць»* [1;528].

Як і многія пісьменнікі ў 60-я гады, У. Калеснік звярнуўся да тэмы вайны, якая ўвайшла ў яго жыццё, асабісты лёс і ў яго творчасць. Разам з А. Адамовічам, Я. Брылём У. Калеснік стаў сааўтарам сусветна вядомай кнігі «Я з вогненнай вёскі…», праз якую са сваімі сябрамі ўвёў у грамадскую свядомасць паняццe — народная праўда аб вайне і якая, па-сутнасці, стаіць ля вытокаў беларускай навейшай літаратуры факта. Ён разумеў, што многае з ваенных часоў не вытрымала выпрабаванняў часу, але быў упэўнены і ў тым, што многае застанецца непарушным навечна. «Непарушнае» для У. Калесніка — гэта абарона Айчыны, вернасць каханню, сяброўству, ідэі самаўдасканалення асобы, шанавання чалавека, любові да прыроды, яе вечнай красы, да Бацькаўшчыны, ідэі стваральнага жыцця, хараства…

Адкрытая аўтарская пазіцыя на старонках «Доўга памяці» дае магчымасць не толькі пазнаёміцца з цікавымі фактамі яго біяграфіі, людзьмі, з якімі звязаў лёс, але і дазваляе дастаткова выразна ўсвядоміць ягонае жыццёвае крэда, яго маральна-этычныя прынцыпы. Аўтабіяграфічны герой не проста знаёміць чытача з асобнымі людзьмі, якія пакінулі след у яго жыцці, а імкнецца дэталёва распрацаваць вобразы, выкарыстоўваючы такія сродкі выразнасці, як партрэт, аўтарская характарыстыка, маўленне, аналіз учынкаў і г. д., як галоўных, так і эпізадычных герояў. У. Калеснік дае ім шчодрую і непасрэдную асабістую ацэнку, выказвае свой пункт гледжання, выяўляючы пры гэтым уласную жыццёвую пазіцыю.

Значная частка ўспамінаў прысвечана гадам Вялікай Айчыннай вайны. Кніга стала сапраўдным мастацкім дакументам і ўспрымаецца як жывое апавяданне аб суровым часе.

Больш за тое, *тэма вайны, трагічна апаленага вайной юнацтва, лёсу чалавека на вайне* — цэнтральная ў творы і з’яўляецца адной з самых яркіх аксіялагічных дамінантаў у прозе У. Калесніка. Вобраз вайны ў яго філасофска-абагульнены. Вайна для аўтабіяграфічнага героя — разбуральная стыхія, пачвара, якая знішчае на сваім шляху ўсё. Аўтар не імкнецца перадаць вырашальныя моманты падпольнага і партызанскага руху, уласнага і народнага супраціўлення фашызму. Яго вабяць асобныя, выключныя эпізоды, у якіх раскрываліся характары людзей, іх патрыятычныя і маральна-этычныя каштоўнасці. Героі прозы У. Калесніка — рэальныя, звычайныя людзі, якія неаднаразова стаяць перад складаным выбарам. Вайна вымушае пераглядаць і нанава асэнсоўваць нанова свае маральныя прынцыпы і жыццёвае крэда. Гэта цэлае пакаленне заходнебеларускай моладзі, перад якім паўстаў выбар: ці затаіцца, перачакаць навалу, ці аказаць акупантам супраціўленне, зброяй змагацца супраць ворага. У большасці сваёй сябры і таварышы У. Калесніка — людзі сумленныя, моцныя духам і шчодрыя сэрцам патрыёты, пераважна юнацкага ўзросту, якія ўражваюць сваёй верай у чалавека і перамогу (Васіль Пазняк, Коля Парэцкі, Сцяпан і Косця Балабановічы, Іван Клаўсуць, Лёва і інш.): «Мы верылі ў перамогу свабоды над няволяй, чалавечнасці над людаедскай апантанасцю паталагічнага азвярэння пачвар <…>. …у нас расла партызанская вера ў сваю ўдачлівасць, дружба з цёмнаю ночкай, прафесійныя звычкі начных сутычак, адчуванне непераможнасці» [1, 526].

Уладзімір Калеснік успамінаў: «Мы, сапраўды, з першага дня вайны, адчувалі сябе прызванымі і мабілізаванымі. Толькі рабілася ўсё гэта не ў сумяціцы першых дзён вайны, а ўвесь час змагання за свабоду Радзімы. Кожны свядомы грамадзянін адчуваў сябе ў дзень вайны мабілізаваным і прызваным бараніць Радзіму, змагацца супраць захопнікаў. А для нас, студэнтаў, будучых настаўнікаў, гэта была праблема асаблівай важнасці — гамлетаўская праблема "быць або не быць", справа жыцця і смерці» [1, 531].

Такая адданасць Радзіме, жаданне бараніць яе нават цаной уласнага жыцця, вера ў вышэйшыя ідэалы і перамогу дабра над злом выклікае захапленне героем і яго пакаленнем. Аднак ён сам лічыць такую ахвярную праяву патрыятызму з'явай натуральнай. Удзел у вызваленчай справе расцэньваў як адзіны мажлівы шлях у дадзенай сітуацыі. «Мы не мелі такіх рэестраў і гэтым можам сёння ганарыцца», — піша У. Калеснік. І гэты факт выклікае гонар у героя за ўдзел юнакоў і дзяўчат яго пакалення ў ваенных падзеях. Ён шчыра радуецца за тое, што людзі браліся за зброю свядома і добраахвотна, а калі прымалі такое рашэнне, то, часта цаной уласнага жыцця, самаахвярна аддавалі сябе гэтай справе.

Для вызначэння антыгуманнай сутнасці вайны У. Калеснік выкарыстоўвае ёмісты і экспрэсіўны выраз — *«людаедская апантанасць паталагічнага азвярэння пачвар»*. Неаднойчы, апісваючы ваенныя падзеі ці асабістыя пачуцці, У. Калеснік параўноўвае чалавека на вайне з жывёлай (у дачыненні да ворага ўжывае слова «пачвара»), бо і сам аўтабіяграфічны герой адчуваў «жывёльны страх», статкавы інстынкт («паніку, якая ахоплівае масы, а ты не можаш устаяць»), «навучыўся пазвярынаму адрозніваць начныя шолахі, стаў востра бачыць у цемнаце» [1, 535]. Аўтар праўдзіва расказваў чытачу аб тым, што боязь, пачуццё страху за жыццё было знаёмае і яму. Ён шчыра расказаў таксама пра пачуццё ганьбы, якое спасцігала героя кожны раз пасля таго, як міне страх. Аб тым, што герой-апавядальнік быў чалавекам высокіх маральна-этычных якасцей, які неаднаразова прапаведаваў ідэю хрысціянскага гуманізму, і сам глыбока спасцігнуў і адчуў на сабе ўсе жахі вайны, сведчыць і той факт, што асабістай нянавісці да ворага аўтабіяграфічны герой не адчуваў. Забойства захопніка ён успрымаў як жахлівую неабходнасць, «як падзею, якая павінна вярнуць нейкую страчаную раўнавагу жыццю, аднавіць яго гармонію, парушаную справядлівасць» [1, 528]. У аповедзе У. Калесніка аб чарговай паспяховай партызанскай аперацыі мы не знойдзем пахвальбы асабістаму геройству, а толькі агідна-жудасныя ўспаміны аб забітых, целы якія былі для аўтара «жахлівай і нязноснай праявай». Іх выгляд не прыносіў ніякага маральнага задавальнення, а той немец, якога «забіваў ва ўяўленні, <…> не меў трупа. <…> ён ператварыўся ў нешта бязважкае, нематэрыяльнае <…>, у дым, пару ці празрыстую субстанцыю, ён пераставаў проста жыць на маёй зямлі» [1, 528].

Аўтар-апавядальнік пераканаўча сцвярджае антыгуманную сутнасць вайны. Ён верыць, што ў самых складаных жыццёвых абставінах, нават калі побач смерць, здрада, роспач, можна і неабходна заставацца *Чалавекам*. Аднак у жыцці, і асабліва падчас ваенных падзей, чалавек часта становіцца перад складаным маральным выбарам і задае сабе пытанне: «Ці варта рызыкаваць сваім жыццём дзеля бліжняга?» На жаль, інстынкт самазахавання ў гады вайны часта станавіўся больш пераканаўчым аргументам, чым захаванне няпісанага «кодэкса братэрства».

Аўтабіяграфічны герой таксама сутыкнуўся з гэтай дылемай падчас удзелу ў падпольнай барацьбе. Так, ён з абурэннем згадвае гісторыю пра тое, як разам са сваім суседам Мішам Бандарыкам знайшоў цяжка параненага афіцэра, які расказаў аб тым, што ў яго выпадкова стрэліў аднапалчанін. Сябры Васіля Васільевіча, так звалі параненага, гэтак напалохаліся, што сказалі: «"Пойдзем у разведку за Нёман, паляжы, вернемся, забяром". І не вярнуліся» [1, 161]. Аўтабіяграфічны герой многа гадоў пазней пасля гэтых падзей не можа спакойна ўспамінаць тыя скупыя мужчынскія слёзы, якія паліліся з вачэй параненага капітана, бо разумеў, што цяклі яны па яго твары не з-за нясцерпнага фізічнага болю, а ад стократ мацнейшага болю душэўнага: «<…> ад таго болю, што ўдарыў яго па душы, болю мацнейшага ў тысячу разоў за той, што тузаў яго пара-

ненай нагою, ад болю святога, ад подла і груба разбітай жывёльным эгаізмам веры ў святасць ідэалаў» [1, 161].

Уладзімір Калеснік разумеў, што «святасць ідэалаў» для многіх людзей — гэта не непарушная ісціна, якой яны кіруюцца, сутыкаючыся з маральным выбарам у жыцці, а нейкая хісткая субстанцыя, парушэнне якой апраўдвае чалавечы эгаізм, які неверагодна абвастраецца ў крытычныя моманты жыцця: «Што там адзін паранены баец, падумаеш, толькі клопат для Радзімы. Не сходзіць жа з машыны здароваму дзеля параненага. Здаровыя грамадзяне патрэбны больш, яны карысныя, а машына загружана да адвалу. Бюракраты вырашаюць такія праблемы лёгка — “за Радзіму” і не пытаюцца ў яе думкі <…>. Апраўданне ардынарнай подласці пры дапамозе патрыятычнай святасці — звычайны цынічна-папулярызатарскі прыём звыраднелых у шчылінах апарату ўлады бюракратаў» [1, 161].

Такія думкі аб цынічных праявах чалавечага эгаізму і «гаручыя слёзы» Васіля Васільевіча выклікалі глыбокія душэўныя перажыванні ў аўтабіяграфічнага героя. Ён дакараў сябе за маладушнасць і эгаізм, няўменне спачуваць людской бядзе, бо аповед капітана выклікаў у яго толькі абурэнне, а ў параненага — слёзы. Заўсёды чуйны да найменшай праявы эгаізму, жорсткі і патрабавальны да сябе, аўтабіяграфічны герой зрабіў адназначныя і крытычныя высновы: паколькі «<…> гатовы быў больш спакойна перажываць гэтыя праявы чалавечага эгаізму, значыць ён [капітан] пераўзыходзіў мяне чуйнасцю да парушэння кодэкса братэрства людзей, грамадзян перад тварам пагрозы для нашай агульнай найвышэйшай каштоўнасці — Радзімы» [1, 161].

Аўтабіяграфічны герой У. Калесніка здзіўляе сваім максімалісцкім, крытычным стаўленнем да неадназначных жыццёвых сітуацый. Ён патрабавальны да людзей, якія ўваходзілі ў яго асяроддзе, але, найперш і найбольш, да самога сябе. Ён аналізуе кожны выпадак, з якога можна зрабіць хоць найменшыя маральныя высновы, яшчэ і яшчэ вяртаецца да сітуацыі выбару і бясспрэчна і адназначна вырашае яе для сябе, намагаючыся быць аб’ектыўным у ацэнцы сябе і падзей.

Вайна для У. Калесніка — разбуральная стыхія, якая пазбавіла мільёны людзей даху над галавой, спакойнай мірнай працы, назаўсёды забрала каханых і родных. Герой-апавядальнік — чалавек, які не толькі ўмее аналізаваць факты і даваць ім аб’ектыўную ацэнку, але яшчэ і чалавек, які спасціг антыгуманную сутнасць вайны і намагаўся, каб кожны задумаўся аб сваіх асабістых патрыятычных пачуццях, маральных якасцях, «кодэксе братэрства людзей» і «праявах чалавечага эгаізму». Калеснікаўская тэма вайны ўражвае сваёй спавядальнасцю, праўдзівасцю і этычнасцю, яна паглыбляецца праз аксіялагічны роздум аўтабіяграфічнага героя аб бязмернай і ахвярнай любові да Радзімы, уласцівай яму самому і большасці яго сяброўпадпольшчыкаў. Герой У. Калесніка ўпэўнены, што перамога над фашызмам была магчыма толькі дзякуючы вернасці грамадзянска-патрыятычным ідэалам — гэта ў кнізе ён называе «гераічным станам грамадства», а пачуццё патрыятызму, любоў да Радзімы — найважнейшы маральна-этычны крытэрый, які глыбока характарызуе асобу, яе ўнутраны свет і аксіялагічныя каштоўнасці.

Мастацкая праўда не разыходзіцца з праўдай жыццёвай. Прычым паняцце «жыццёвая праўда» для аўтара надзвычай ёмістае і шматграннае, і ў ім важнае месца адводзіцца маральна-этычным складнікам чалавечага існавання. Аўтар прызнаецца ў эпілогу, што ягонай асноўнай задачай было не проста расказаць пра сваё жыццё, людзей, з якімі яго звёў лёс, пра антыфашысцкае падполле, першыя дні акупацыі і два гады партызанскай барацьбы, а найперш «пра вопыт душы» і «межы пачуццяў», «пра выключныя па сваёй напоўненасці маральныя ўчынкі» і «сапраўднае хараство».

Аўтабіяграфічны герой — таленавіты, сумленны, патрабавальны да сябе чалавек, які жыццёвыя рэаліі аналізуе паводле высокіх маральна-этычных патрабаванняў. Ён выбудаваў і кіраваўся ў сваім жыцці ўласнай сістэмай (іерархіяй) духоўных каштоўнасцей, сярод якіх патрыятызм, каханне, хрысціянскія маральна-этычныя нормы, сацыяльная роўнасць, сумленнасць, працавітасць і інш.

Варта адзначыць, што У. Калеснік на старонках твора неадназова гаворыць пра пачуццё віны перад сябрамі, якія загінулі падчас ваенных падзей. Ён упэў-

нены ў тым, што тыя, хто выжыў, «павінны жыць інакш, <…> не так вольна, не так бяспечна і самаўпэўнена». Усё жыццё аўтабіяграфічны герой адчувае на сабе «двайны позірк уласнага і іхняга сумлення». У. Калеснік перакананы, што кожны, хто застаўся жывы — у неаплачаным даўгу перад загінуўшымі і павінен жыць не толькі за сябе, але і за іх. Больш за тое, каб сплаціць доўг, жыццё гэта павінна быць узорным. Таму адзінымі і бясспрэчнымі эталонамі маралі і этыкі для У. Калесніка былі вера ў дабрыню, справядлівасць і праўду. «Доўг памяці» — гэта *«вопыт душы»,* пашаноты перад памяццю, паклон і доўг сябрам, «якога не ў сілах, не ў стане да смерці сплаціць, бо доўг гэты — іх жыццё» [1, 547].

## Высновы

1. Эмацыянальная аснова «Доўгу памяці» — успаміны аб перажытым, пераважна аб вайне, і аксіялагічны роздум аб страчаных магчымасцях і незваротных стратах. Псіха-эмацыйны вопыт аўтабіяграфічнага героя дазваляе яму стварыць ёмістую, сэнсава насычаную па эмацыянальна-эстэтычнай напоўненасці мастацкую тканіну твора, асновай для якой паслужылі рэальныя жыццёвыя падзеі, пачынаючы з заходнебеларускай рэчаіснасці 20-х гадоў XX стагоддзя.

2. Уласна-біяграфічныя параметры кнігі выклікаюць у чытача павагу і давер, ствараюць уражанне асабіста-пранізлівай праўдзівасці, асабліва ў адлюстраванні ваенных падзей 1941—1945 гг., у якіх давялося ўдзельнічаць апавядальніку.

3. «Доўг памяці» народжаны аб'ектыўнымі прычынамі: неабходнасцю падзяліцца з чытачом тым, што было некалі асабіста перажыта і назаўсёды засталося ў памяці і сэрцы, а разам з тым, ужо з вышыні пражытых гадоў, крытычна асэнсаваць маральна-этычны досвед — як асабісты, так і агульначалавечы, вынесены з драматычна-складанай плыні жыцця.

## Спіс літаратуры:

1. Калеснік, У. Доўг памяці / У. Калеснік. — Брэст : ААТ «Брэсцкая друкарня», 2005. — 547 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 9 лістапада 2012 года.

**Крысціна Папко**

**«Доўг памяці» Уладзіміра Калесніка ў кантэксце беларускай літаратуры факта**

## Рэзюме

Артыкул прысвечаны даследаванню кнігі вядомага беларускага літаратуразнаўцы У. Калесніка «Доўг памяці», найвялікшая каштоўнасць якой — у самараскрыцці чалавека драматычнай эпохі, яго жыццёвага вопыту самаідэнтыфікацыі, духоўнага і маральна-этычнага росту асобы насуперак трагічным абставінам ваенных падзей 1941—1945 гг.

**Krystsina Papko**

**«The Onus of Memory» by Uladzimir Kaliesnik in the Context of the Belarusian Non-Fiction Literature**

## Summary

The article is dedicated to the analysis of *The Onus of Memory* book written by the famous Belarusian literature expert Uladzimir Kaliesnik. The great value of the book lies in the self-revelation of a person of the dramatic times, person's life experience of self-identification, it's moral and ethical development in spite of the tragic war circumstances of the 1941—1945.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# БРАМА, АДЧЫНЕНАЯ Ў ВЕЧНАСЦЬ*

## Жабін на бурных хвалях

Тэматычна блізка апавяданню «Незадача» і яшчэ адно — «Апостал». Герой яго «гарачы камуніст, а даўнейшы прыхільнік беларускага руху таварыш Курапа» — таксама з шэрагу тых, каго, як і «часовага камісара N-скай франтавой надзвычайнай камісіі» Батрачонкава, вынеслі на паверхню хвалі новага жыцця. Праўда, сапраўднае прозвішча яму чамусьці не падабаецца. Часцей карыстаецца партыйнай клічкай Жабін.

За душой у гэтага «гарачага камуніста», па сутнасці, нічога няма. Адзінае, на што ён здатны, дык трымаць нос па ветры. Паколькі добра гаварыў па-беларуску, хутка зарыентаваўся: «Як толькі Чырвоная Армія дала магчымасць ізноў раз абвесціць незалежную Савецкую Беларусь, ён зараз апынуўся інструктарам аддзела так званага “ўпраўленія” і дастаў камандзіроўку на правінцыю».

Сабраўся ў камандзіроўку з найлепшым намерам — «усведамляць вёску». Канечне, пры дапамозе палымяных прамоў і рэвалюцыйных заклікаў. Аднак не толькі... Паспеў упэўніцца ў сіле друкаванага слова, таму ўзяў з сабой «чырвонае літаратуры на ўсіх краёвых мовах». Такой бяды, што няма на беларускай мове. Гэтаму няцяжка знайсці апраўданне: «літаратура ў гэтай мове яшчэ лічылася да той пары контррэвалюцыйнай выдумкай беларускіх нацыяналістаў». Заставалася самае малое — знайсці агульную мову з тымі, каго ён сабраўся «ўсведмляць».

Не адкладваючы ўсё на пасля, «гарачы камуніст» вырашыў спачатку знайсці агульную мову з фурманам, які «маўкліва кіраваў коньмі і часам неяк дзіўна чмыхаў, як бы незадаволены, але не аглядаўся на свайго простага пана». Гэтаму «чмыханню» Курапа-Жабін знайшоў сваё вытлумачэнне. «Якая, аднак, чыста буржуазная чырта ў спосабе рассаджвання фурмана і падарожнага, — падумаў з знаёмым асадкам ёлкасці таварыш Жабін. — Ён, як быццам якое ніжэйшае стварэнне, сядзіць спераду, а я, камуніст, быццам які пан, сяджу адзаду...».

«— Давайце, таварыш, сядзем побач! — крыкнуў ён фурману, але той сярод грукату калёс не пачуў і толькі лішні раз, як здалося камуністу, дзіўна, па-свойму чмыхнуў».

Камічнасць сітуацыі відавочная. І гэта не адзінкавы выпадак, калі як быццам самыя добрыя намеры героя апавядання «Апостал» выглядаюць недарэчнымі. Прычына адна і тая ж: Курапа-Жабін і раней добра не ведаў жыцця. Тым больш, ён адарваны ад яго цяпер. Адзінае, на што здатны, гэта, як той жа Батрачонкаў, да месца і не да месца выкрыкваць рэвалюцыйныя лозунгі. Праўда, апошняе пераважае.

Для прыкладу, у дарозе «гарачы камуніст» вырашыў усё ж бліжэй пазнаёміцца са сваім фурманам. Той назваўся Янучонкам. Удакладніў, аднак, што ў вёсцы ўсе называюць яго Шашок. Зразумела, што Янучонку таксама цікава ведаць, каго ён вязе. Таму і спытаўся:

* Заканчэнне. Пачатак у № 1, 2013 г.

«— А як пана назвіска?

Крыху падумаўшы таксама, камуніст каротка й без асаблівае прыемнасці назваўся:

— Жабін... інструктар.

Хурман добра пачуў і весялейшы адгукнуўся:

— С т р у к а р — то, пэўне, імя рускае, бо ў нас гэткіх няма. А пан Жабінскі быў у нас...»

Хіба мог ведаць гэты просты чалавек, што для Курапы-Жабіна слова «пан» — самае нелюбімае на свеце. Таму адпаведна і паставіўся да пачутага:

«Курапа счырванеў.

— Далоў паноў! Іх трэба біць, як сабак. Правільна, таварыш? — крыкнуў ён над самым вухам хурману і з палёгкаю падумаў: “Ланцуг пррыкррасці тррэба рра-здзі-рраць адррразу”.

— Правільна, — пакорна згодзіўся хурман».

А што яму яшчэ заставалася? Хто яго ведае, што ў гэтага «струкара» наўме. Бач, як абурыўся невядома чаму. Праўда, калі Курапа-Жабін патлумачыў, што і да чаго: «Хоць дарма вы зневажаеце мяне панам. Я такі ж самы пралетарый, як і вы. І наагул слова “пан” цяпер зусім непатрэбнае», — паспакайнеў. «Выбачайце: вядома, як мы цёмныя...» — прагучала з ягоных вуснаў.

У гэтага «цёмнага чалавека» свая турбота. Што яму да тых паноў? Іх і так Чырвоная Армія прагнала. Ды бяда ў тым, што з панамі разбегліся і ксяндзы. А паколькі Янучонак пра сябе сказаў «мы польскія», то гэта яго надта турбуе. Таму і папрасіў: «Нам бы, таварыш, ксяндза скуль прараілі. [...] Людзі родзяцца, уміраюць, а мы не ведаем, што з імі рабіць...»

Безумоўна, Курапа-Жабін упэўнены, што цяпер можна і без ксяндзоў. Аднак упэўнены ён і ў тым, што многае, што робіцца новымі ўладамі, робіцца не так, як павінна рабіцца: «Места арганізуюцца. Людзі таўпесяцца па розных новаспечаных установах. Робяць “работу” — пустую, непрадуктыўную... Пагнаў бы ўсіх іх, чарцей, на вёску, усведамляць яе, рэвалюцыянізіраваць...»

Толькі якой карысці з гэтай упэўненасці. На словах, у думках усё правільна, а на справе... Курапа-Жабін і сам не ведае, як «усведамляць» вёску. Як яе «рэвалюцыянізіраваць». Ён вельмі далёкі ад народа. Ад народных запатрабаванняў. У не меншай, а можа і ў большай ступені. Як і ягоныя паплечнікі.

Курапа-Жабін гуляе ў дэмакратыю да пары да часу:

«Толькі яны завярнулі за гумно, нейкі верхавы на злом карку кінуўся з-за стога саломы к лесу. Камуніст інстынктыўна схапіўся за похву рэвальвера». Калі ж з’явіцца ў тым неабходнасць, Курапа-Жабін, не задумваючыся, гатовы прымяніць зброю.

«— Вязі на дарогу, я ім пакажу! — крыкнуў раззлаваны Жабін, і фурманка завярнулася назад».

Падобныя батрачонкавы, курапы-жабіны былі вельмі амбіцыйнымі. Адчуванне ўлады п’яніла іх. Спрацоўвала імкненне да ўсёдазволенасці. Яны, як той жа Курапа-Жабін, калі штосьці выводзіла іх з сябе, крычалі: «Я ім пакажу!» І «паказвалі»! А чым большую ўладу мелі, тым больш страшныя былі вынікі.

Слова, вынесенае ў загаловак гэтага апавядання, М. Гарэцкі не ўзяў у двукоссе. Як на першы погляд, гэта трэба было б зрабіць. Бо які апостал Курапа-Жабін? У той жа час, калі лепей разважыць, то сапраўды ў двукоссі няма ніякай неабходнасці. Гэта былі апосталы, народжаныя віхурным часам. Дакладней — псеўда-апосталы. М. Гарэцкі, у цэлым вітаючы новае жыццё, не прымаў усіх тых, хто добрыя ідэі даводзіў да абсурду. Пільна ўзіраючыся ў дзень заўтрашні, ён хацеў, каб вырашэнне сацыяльных пытанняў не ішло на шкоду пытанням нацыянальным. Пакуль жа бачыў шмат таго, што навейвала далёка не радасныя думкі.

## Даўняе шмат гаворыць

Максім Гарэцкі даволі шмат друкаваўся ў перыёдыцы. Вядома, гэта яму прыносіла творчую радасць. Аднак кожнаму пісьменніку асабліва прыемна трымаць у руках сваю новую кнігу. У гэтым сэнсе вельмі плённым для яго аказаўся 1926 год. Адначасова ў Вільні і Мінску была перавыдадзена «Гісторыя беларускае літаратуры». Асобна выдадзена апавяданне «У чым яго крыўда?». Апроч таго, пабачылі свет кнігі «На імперыялістычай вайне», «Ціхія песні» і «Досвіткі». Змест першай з іх складалі ягоныя аповесці, а ў другую ўвайшлі апавяданні.

Адметнасць твораў «малога жанру», прадстаўленых у зборніку «Досвіткі», у тым, што ў той ці іншай ступені яны звязаны з даўнімі падзеямі. У кнігу ўвайшло дзесяць апавяданняў. Пісаліся яны ў 1916—1921 гадах. Чытаеш іх і пераносішся ў тыя даўнія часы, калі сяляне былі прыгоннымі. Пан, пры жаданні, мог селяніна прадаць. Мог і пакараць сурова. А мог і купіць у іншага пана.

Хоць сяляне і ведалі, што ўсё адно шчасця ім не відаць, многія адважваліся на ўцёкі. Такіх смельчакоў на Магілёўшчыне называлі цімакамі. Пра іх расказваецца ў апавяданні «Прысяга».

«Узімку прыбылі ў Пнеўшчыну тры цімакі і прысталі ў парабкі к Тарасу, бо ён самы заможны гаспадар. Адзін цімак быў дзед, другі — сярэдняга веку мужчына, хворы, апухлы, а трэці — малады хлапец». Яны не першымі былі, хто хаваўся тут у глухамані. Людзі звычайна спагадна ставіліся да іх. Так паставіўся і Тарас, хоць «гэтую тройцу [...] надта неахвотна прымаў, быццам чуў бяду. Але дужа прасіліся гаротнікі, дык ён і згадзіўся ўзяць іх да сябе за здольнікаў».

Бяда ж звалілася тады, калі прыехаў «на дрожках пан афіцэр з казакамі» лавіць цімакоў. Тарас паспеў іх папярэдзіць, каб уцякалі, а сам мусіў трымаць адказ перад начальствам. Мужна трымаўся. Нават пасля таго як прама сказалі: «У Сібіры згніеш! Здохнеш, як пёс ля тачкі!» — стаяў на сваім: «Нічога не ведаю...» Ды афіцэр быў з тых, каго не так і проста абвесці вакол пальца. Загадаў прывесці святара. Каб Тарас прысягнуў, што і сапраўды пра цімакоў нічога не ведае. Цяжка было гэта зрабіць Тарасу. Чалавек жа ён веруючы. Ды шкода было яму цімакоў. Ведаў, што не здабраваць ім, калі зловяць іх. Таму ўсё ж прысягнуў. Тым самым і выратаваў цімакоў.

«Ніякага адказу не далі на тое цімакі, — ні дзед, ні хлопец, ні сярэдні. Маўкліва пазбіралі сваё ўбогае рыззё, насунулі на плечы хатылі і пацімачылі скрозь цёмну ноч па глухой пушчы, у дальшы свет. Было ім часам жудка. Здавалася, што ззаду стаяць вочы... А ў тых вачах — боская кара за прысягу. І ўцякалі нешчаслівыя ад яшчэ болей нешчаслівага....»

На гэтым, праўда, у апавяданні апошняя кропка не пастаўлена. Ёсць і дапаўненне: «Уцякалі, спавітыя спрадвечнаю цямнотаю, спрадвечнымі забабонамі, вызваліцца ад якіх яшчэ не мелі сілы...» Хоць, думаецца, яно лішняе. Сказанае ўсё ж завельмі ўвязана з тым часам, калі апавяданне пісалася. Тады ж усё, што звязана з рэлігіяй, успрымалася як забабоны. Хоць у сапраўднасці значна складаней.

Вера ў Бога — гэта тое, што нельга зводзіць да нейкіх забабонаў. Усявышні ўсё бачыць і ўсё разумее. Чалавек жа, які прытрымліваецца сваіх перакананняў, заслугоўвае павагі. Аднак у жыцці бываюць выпадкі, што дзеля жыцця іншага чалавека можна ў нечым і адысці ад іх. Іначай будзе недаравальна позна, як гэта адбылося ў апавяданні «Стары прафесар».

Герой твора ў жыцці дасягнуў многага, у яго маладая жонка. Абодва добра дапаўняюць адзін аднаго: «Ён высокі, маўклівы, а яна ўчэпіцца за яго локаць, шчабеча яму, як тая птушачка, заглядае знізу ў вочы, як дачушка да старога бацькі». Ды нечакана гэтая «птушачка» захварэла «на якуюсь цяжкую і цягучую хваробу». Ніякія лекары рады не маглі даць. Нічым не змог абнадзеіць і «найлепшы доктар», запрошаны з Пецярбурга. Бабуль жа шаптух стары прафесар і слухаць не хацеў: «Няўцям гэта было людзям: казкі ж простыя слухаць любіў, чаму ж, думалі, не хоча спрабаваць простыя рады? Бывае ж — памагае».

Нават калі той самы пастух Якім, які яму «казкі плёў і так складаў розныя небыліцы», параіў «абвязаць хворую сырою ніткаю і кінуць тую нітку на раздарожжы», працягваў настойваць на сваім: «Навука сказала сваё слова, і я веру ёй, а не вашым забабонам». Толькі ў апошні момант, калі зразумеў, што «смерць у пакой увайшла», дзе ляжала хворая, адважыўся зрабіць так, як раіў яму Якім. Ды было позна ўжо.

Максім Гарэцкі ў згаданых апавяданнях паўстае чалавеказнаўцам, які зазірае ў саму душу сваіх персанажаў. Мінулае ж — фон, што дазваляе глыбей раскрыць, спасцігнуць самі характары. Тым больш, што ў аснову апавяданняў пакладзены далёка не ардынарныя выпадкі, а гэта дазваляе развіваць арыгінальныя сюжэты. Адно з пацвярджэнняў таму — апавяданне «Страшная музыкавая песня».

«За прыгонам» у нейкага пана Дастаеўскага быў малады музыка. «Звалі яго — Арцём Скамарох. За тое — Скамарох, што ўвесь род іх — скамарохі. Бацька, дзед і прадзед умелі іграць на скрыпцы і былі скамарохамі для ўсяе акругі. Ніводнае вяселле без іх не абышлося». Але Арцём праславіўся не толькі тым, што з'яўляўся непераўзыдзеным музыкам. «Такі ганарлівы быў хлапец, што нават пан асцярогся рабіць яму якую крыўду. Такі ганарлівы: як не захоча іграць, то ці ўпрашай яго, ці пагражай яму, — не стане іграць, дый годзе!»

А тут якраз «прывёз пан Дастаеўскі з Варшавы новую палюбоўніцу-палячку». Усё б нічога, аднак яна ўзяла дый улюбілася ў Скамароха. А ён, «як не любіў, то і прыкідвацца не хацеў». Не спадабалася гэтай дзяўчыне такое стаўленне да яе. Таму ўзяла дый паскардзілася пану. Маўляў, прыстае музы́ка да яе. Але пан быў не лыкам шыты. Западозрыў, што ўсё зусім не так. Паклікаў да сябе Арцёма. Загадаў, каб ён жаніўся на гэтай паненцы. А той ні ў якую... Падумаў пан і заявіў:

«— То выбірай, галгане: або жаніся з ёю і сядай на хлопскую там гаспадарку, або маеш іграць ёй што хоцькі... адну ноч?

— Жаніцца — ніколі не жанюся, а іграць — на тое мне і пальцы служаць».

А праз некалькі дзён гэтая палячка захварэла і памерла. «Мабыць, паднёс атруты пан». Пасля гэтага і напомніў пан свайму музыку аб умове, да якой яны нядаўна прыйшлі: «Ну, то ідзі іграй цэлую ночку нябожчыцы, каб яе душа не вельмі сумавала на гэтым марным свеце...»

Нічога не заставалася Арцёму, як пачынаць іграць. «...Адчыніў н*а*пята акно і даў першы гук на струнах...» Тое, што адбылося далей, чымсьці нагадвае сітуацыю ў знакамітай аповесці Мікалая Гогаля «Вій». Рэальнае і містычнае зліваюцца між сабой.

Чым больш іграў на скрыпцы Скамарох, тым «дужэлі гукі, раслі, і вось здавалася, што цэлы хор папоў адпявае чалавека. Яшчэ дужэйшымі рабіліся гукі, і дзіўна было ведаць, што там усяго толькі адна скрыпка так пяе...». Калі ж поўнач наступіла, «дайшоў музыка да тае нешчаслівае часіны, як іграў палячцы наскія песні.

Трубіць паляўнічы рог, гаўкаюць ганчакі, — гэта, значыць, выязджае пан на ловы.

Смяецца палячка, як бы званочак сярэбраны, — гэта цешыцца, што Арцём да яе ідзе. Пакацілася ад скрыпачкі смутная жніўная песня, гэта ён пачаў іграць ёй наскія песні».

Калі ж «зайграў Арцём аб сваёй гордай, адзінокай душы, зайграў аб сваёй музыцы», было такое адчуванне, што «грыміць няземны гімн, аж увесь свет ад тых гукаў» задрыжаў, а потым... Потым...

«Раптам зарагатала з кабінета панскага нешта нялюдскае, дзікое... Пан рагоча, вые, смяецца! А музыкаў гімн, не зважаючы, плыве шырокай хваляю ў паветры цёмнае начы, як тая магутная бурлівая рака ў п*а*вадкі.

Сціхла рагатанне, і сярод музыкі раптоўна: бух!...

Сціхла і музыка. Бягуць людцы да пана ў кабінет, глядзяць: аж ён ляжыць з разбітымі мазгамі, пісталет турэцкі пры ім уронены ляжыць.

Здужала яго нячыстую сілу Арцёмава іgranне, — застрэліўся наш пан!»

Арыгінальныя сюжэты і ў іншых апавяданнях, што ўвайшлі ў кнігу «Досвіткі». Гэтыя сюжэты таксама ўзяты з прыгоннага жыцця. Аповед пра тое, як тая ж цётка Таццяна мусіла карміць шчанят, якія засталіся без маці («Панская сучка»). Камічнае і трагічнае суседнічаюць у апавяданні «Смачны заяц». Кухар, у якога сабакі сцягнулі забітага зайца, дадумаўся падаць на стол засмажанага ката. Праўда, гэта смех праз слёзы. Перажывае бедалага, што такая падмена яму можа дорага абысціся. На шчасце, усё абышлося. «Сасна» — яшчэ адна гісторыя пра няшчаснае каханне. Дый пра чалавечую сквапнасць, прагу грошай.

## З любасцю да «забытага краю»

Ёсць у М. Гарэцкага тры аповесці, што ўспрымаюцца свайго роду трылогіяй. Праўда, яны не аб’яднаны агульным зместам, але, застаючыся самастойнымі творамі, ідэйна і тэматычна звязаны між сабой: «У чым яго крыўда?», «Меланхолія» і «Ціхая плынь».

Першы з гэтых твораў, праўда, цалкам арыгінальным назваць нельга. У яго аснову пакладзены апавяданні «У лазні» і «У чым яго крыўда?». Аднак іхнія сюжэты М. Гарэцкі цалкам у аповесць не ўключыў. Выкарыстана толькі самае галоўнае, што дазваляла лепш спасцігнуць характар яе галоўнага героя Лявона Задумы. У гэты вобраз «зліліся» Клім Шамоўскі («У лазні») і Канстанцін Зарэмба (апавяданне «У чым яго крыўда?»). Гэтаксама як «аб’ядналіся» між сабой Саўка і Паўлік, таксама персанажы гэтых апавяданняў. Так у аповесці з’явіўся Лаўрынька, прататыпам якога стаў брат М. Гарэцкага — Гаўрыла.

Ганначку з апавядання «У чым яго крыўда» М. Гарэцкі перайменаваў у Лёксачку. Прататыпам яе стала Лёксачка, якая ў маладыя гады жыла ў Багацькаўцы. Як сведчыла дачка пісьменніка Галіна Максімаўна, у маладыя гады гэтая дзяўчына вельмі падабалася яе бацьку.

З’явіліся ў аповесці і новыя эпізоды. Асобныя ж з ранейшых ўдакладнены. А яшчэ М. Гарэцкі падрабязней раскрыў умовы, у якіх жылі ягоныя персанажы. Выразней акрэсліліся іхнія характары, больш індывідуальнай стала гаворка. І ўвогуле, мове новага твора ён надаў куды больш увагі, чым у апавяданнях.

Найбольш жа адметна тое, што ў развіцці паказаны галоўны герой Лявон Задума. Яго М. Гарэцкі шмат у чым спісаў з самога сябе. Ёсць і герой, які названы Максім Г. Гэта таксама М. Гарэцкі. Атрымліваецца, што ў адным творы як бы два аднолькавыя героі. Але яны не падобныя між сабой.

Максім Г. у нечым прытрымліваецца іншых поглядаў, чым Лявон Задума. У аднайменным апавяданні такую ролю на сябе браў сябра галоўнага героя Андрэй — юнак «насмешлівы і праўдзіва-разумны». У аповесці ж Андрэй заменены Максімам Г.

Сутыкненне шмат у чым блізкіх, але разам з тым і розных поглядаў двух персанажаў — удалы мастацкі прыём. Гэта дазволіла М. Гарэцкаму глыбей раскрыць вобраз Лявона Задумы. Ён як бы зірнуў на яго збоку, вачыма Максіма Г. Падобны ж позірк куды больш аб’ектыўны, чым тады, калі чалавек сам сябе ацэньвае: уласныя паводзіны, учынкі. Таму і атрымаўся вобраз Лявона Задумы не ідэалізаваны, не прыхарошаны, а жывы, паўнакроўны.

Далейшае развіццё характар Лявона Задумы атрымаў у аповесці «Меланхолія». Ён ужо скончыў сельскагаспадарчую школу, «шукаў і знайшоў сабе пасаду» памочніка каморніка на Вілейшчыне. Па сутнасці, павінен радавацца. Толькі зусім не радасна на сэрцы ў Лявона. Аднак не толькі таму, што вымушаны развітвацца з тымі, з кім за гады вучобы паспеў пасябраваць.

Чаму агарнулі яго «нейкая бязуважнасць, панурасць і нават сум», відаць з «Сумных лістоў» «любаму таварышу», якімі і адкрываецца твор:

«Што рабіць далей? — яшчэ раз, мімаволі, паўстае перада мною балючае пытанне. Паступаць у Межавы інстытут у Маскве ці на палітэхніку ў Кіеве, як мы

некалі з табою змаўляліся, я цяпер канчаткова раздумаўся. Не ведаю, ці ўдасца, але яшчэ і дагэтуль я ўсё ж у надзеі вывучыць чужаземныя мовы, набыць атэстат спеласці і паступіць на гісторыка-філалагічны факультэт. Я думаю, што ў нашым вызваленчым руху настаўнікі і літаратары яшчэ доўга будуць больш патрэбны, чым каморнікі і аграномы».

Дзеля таго каб здзейснілася ягоная мара, Лявон «пастанавіў папрацаваць гадок на каморніцкай службе, падрыхтавацца да гэтае самае “спеласці” і зарабіць троху грошай, каб і самому было з чым далей ісці ў навуку і бацьку троху дапамагчы, каб канечне вучыў Лаўрыньку».

Толькі намеры «зарабіць троху грошай» застаюцца ўсяго добрымі намерамі. Не змог Задума вытрымаць год на працы, бо не знайшоў сябе ў асяродку, у які трапіў. Не ўпісаўся ў яго. Асабліва прыкра ў яго на душы пры сутыкненні з тымі, хто жыве за кошт народа.

Трывожныя думкі ў Лявона. І ніяк яму ад іх не вызваліцца. Не адпускаюць яны ад сябе: «Чаму без прычыны робіцца мне так цяжка, так сумна, што калі-небудзь у ліхую гадзіну я, сапраўды, магу на сябе і рукі налажыць». І ўсё ж гэты песімізм ён адпрэчвае ад сябе. «Неўрастэнік я няшчасны...» — прашаптаў сам сабе, і слёзы пырснулі з вачэй. […] «Краіна мая родная! Мы, твае верныя сыны, яшчэ перабудуем цябе! Не будзеш ты такая сумная і ўбогая!»

Тут думкі Лявона Задумы шмат у чым супадаюць з тым, што не давала спакою і самому М. Гарэцкаму. Яго таксама не абыходзіў меланхалічны стан. Толькі гэта з’ява часовая. Гэта відаць і з сюжэта аповесці «Меланхолія».

Аповесць «Ціхая плынь» — яшчэ адзін зрэз вясковага жыцця. У галоўнага героя твора Хомкі меўся прататып Панаська Нажынскі. Як і сам М. Гарэцкі, ён быў родам з Багацькаўкі. Гадаваўся ў нястачы і нішчымніцы. А тут яшчэ ў воласці памыліліся з ягоным узростам. Таму і адправілі ў войска, хоць да ягонага прызыву заставалася яшчэ два гады. На фронце Панаська хутка склаў сваю галаву.

Такіх Панаськаў у часы, калі жыццё простага чалавека не ставілася ні ў грош, было вельмі і вельмі шмат. Хомка з «Ціхай плыні» — па сутнасці, абагульнены мастацкі вобраз іх. Вобраз, узгадаваны на літаратурных палетках забытага краю. Менавіта так — «Забыты край» — называецца і першы раздзел аповесці. Да месца і іншае азначэнне спакутаванай роднай старонкі. Тое, што з’явілася ў Янкі Купалы — «забраны край».

Хомка і на фронце, па сутнасці, застаўся тым жа хлапчуком. Нават не столькі па ўзросце. Яшчэ больш — па ўспрыманні таго, што наўкола. Адчуванне такое, што да Хомкі поўнасцю не даходзіць, наколькі сур’ёзна ўсё тое, што адбываецца. Адбываецца ж тое, што нясе з сабой смерць. А смерці ўсё адно, хто перад ёй: бывалы салдат ці неабстраляны яшчэ падлетак. У яе чорнай справе свая, адной ёй вядомая паслядоўнасць. Гэтым разам смерць спыніла свой выбар на Хомку:

«Яшчэ некалькі снарадаў, адзін за адным, вухнуліся блізка за акопамі. Хомка адхіснуўся ў куточак (акопа. — *А. М.*) і зрабіў крыж дрыжачаю рукою, трасучыся ў гнятучым чаканні.

З глухім гулам ляціць яшчэ. І на момант раптам усё змоўкла. “Міма, міма!” — здавалася ў вушшу. А грымотны крэх захістаў бярозы і зямлю, задрыжэлі і пасыпаліся зямлёю акопы, калаціліся і тыхалі рукі і ногі, а тады знямелі. Хомка прыціснуўся, прытуліўся, а нешта балюча таўханула яго ў жывот. “Што гэта такое?” — падумаў ён, спалоханы. Яго ўкінула ў пот, замлявіла, бажалася вады. Прамільгнуў воблік маткі, Ганўткі, завіляла хвастом Курта. Ён трапіў у глыбокі сумёт, праваліўся ў снег, — і ўсё глыбей... А ўзлаваны гарадчанін шпурляе і шпурляе ў яго больнымі крамянымі снежкамі. “За што? — са слязьмі і так ціха, што не чуваць было і самому сабе, пытаецца Хомка, — за што?!”»

Голас Хомкі паступова цішэе, «і глыбокая расчачлівая крыўда кроіць яму сэрца». Следам за гэтым прыходзіць усведамленне таго, што адбываецца нешта вельмі-вельмі страшнае: «Жах абняў хлопчыка, і ён ціха валіцца наскрозьдоння, глыбей і глыбей. Высока, хто ведае дзе, крычаць на краі фельдфебель: “Насілкі!”»

Не было б запісак «На імперыялістычнай вайне», дакладней, не прайшоў бы М. Гарэцкі сам праз гэтую вайну, ён не здолеў бы так праўдзіва расказаць пра апошнія імгненні жыцця свайго героя. Каб так напісаць, трэба было б усё жудаснае ўбачыць самому. Больш за тое, самому апынуцца на мяжы жыцця і смерці.

Праўда, М. Гарэцкі быў толькі паранены. Хомку ж напаткаў іншы лёс. Такі, пасля якога жыцця ўжо няма. Ты застаешся сам-насам з вечнасцю. Раствараешся ў ёй, каб стаць там малюпасенькай часцінкай. Што ж, некаму ж неабходна было і загінуць. Якая ж гэта вайна без смерці! Таму прыйшла і чарга Хомкі. Адно несправядліва: рана, вельмі рана яна прыйшла.

«І змоўкла ўсё, няма нідзе ні гуку.

— Навошта тут насілкі? — кажа ротны. — Ён забіт. Падбірайце толькі раненых!

У чорнай імгле блішчаць, іскрацца гострыя іголкі, тупеюць, знікаюць і зліваюцца ў нішто».

Так заканчваецца аповесць.

Жыццё Хомкі праляцела як адно імгненне. Можна адкласці кнігу ўбок. Каб застацца з тымі думкамі, што з’явіліся пры чытанні аповесці. Хоць спачатку нават не да таго, каб пераасэнсоўваць усё жыццё Хомкі.

Яшчэ адзін цудоўны твор атрымаўся ў М. Гарэцкага.

Яшчэ адно сведчанне ягонага высокага пісьменніцкага майстэрства.

## Куды не трапяць беларусы

Са слоў дачкі пісьменніка Галіны Максімаўны, «у 1926 г. у час свайго летняга адпачынку паехаў бацька ў Сібір і аж на Далёкі Усход пазнаёміцца з жыццём беларусаў-перасяленцаў». Аднак Г. Гарэцкі матывы гэтай паездкі тлумачыў інача: «Максім настолькі захапляўся збіраннем матэрыялаў да “Камароўскай хронікі”, што зрабіў у 1926 годзе адмысловае падарожжа ў Сібір, бо туды вялі жыццёвыя шляхі некаторых асноўных яго герояў».

То на чыім баку праўда — дачкі пісьменніка ці ягонага брата? Ісціна, як гэта нярэдка бывае, пасярэдзіне. Несумненна, М. Гарэцкага «штурхала» ў няблізкую дарогу і «Камароўская хроніка». Менавіта на сібірскіх і далёкаўсходніх прасторах Расіі апынуліся і многія землякі пісьменніка. Сярод іх былі і тыя, пра каго ён збіраўся расказваць у гэтым творы. Аднак не будзем забываць, што гэта была не першая ягоная паездка ў няблізкія краі.

Першая адбылася яшчэ ў 1916 годзе, калі мусіў ехаць у Іркуцк. Дарэчы, ёсць падобная згадка і ў Гаўрылы Іванавіча: «Скончыўшы Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Петраградзе, Максім, ужо як прапаршчык, паехаў у Іркуцк на фармаванне часці. Сібір, якая зрабілася другою радзімаю для соцень тысяч беларусаў, уразіла брата неабсяжнымі прасторамі, суровасцю і прыгажосцю, асабліва Прыбайкалля».

То нельга адмаўляць і таго, што ў сваю чарговую паездку туды ён накіраваўся і дзеля таго, каб сустрэцца з тымі, з кім пазнаёміўся ў 1916 годзе. Хацеў прасачыць іхнія лёсы за дзесяць гадоў, што мінуліся пасля першага ягонага наведвання Сібіры. Пад гэтымі ўражаннямі збіраўся напісаць новыя творы. Пачатак жа сібірскаму цыклу ўжо быў пакладзены апавяданнямі «Хоцімка» і «Моцнае каханне». Хоць, калі лепш разабрацца, нават не імі, а апавяданнем «Хадзяка».

Гэта гісторыя пра нейкага Янку Непамятушчага. Ва ўсякім разе так «у паперах ён пішацца». А хто быў у сапраўднасці, паспрабуй разбярыся. Гэта і хочуць высветліць салдаты, якія яго затрымалі. Балазе, хадзяка сказаў, што ён родам з вёскі, якая знаходзілася непадалёку ад горада, дзе ён апынуўся. Чаму хадзяка?

Таму што беспрытульны, без пэўнага месца жыхарства. Цяпер такіх бамжамі называюць. На Магілёўшчыне ж іх успрымалі хадзякамі. Што ж, так нават больш дакладна. Дый па-мясцоваму. Ходзіць чалавек ад сяла да сяла. Нейкага пэўнага прытулку шукае. Хадзяка... Толькі каму ён патрэбен. Асабліва ў тыя часы, калі дзясяткі, сотні людзей сталі беспрытульнымі. Сарвала іх з месца Першая сусветная вайна.

Беларусы-перасяленцы М. Гарэцкага таму і цікавілі, што іхняе жыццё з'яўлялася цудоўным матэрыялам, які на той час быў амаль не вывучаны, не даследаваны. Найперш беларускай літаратурай. Узнімаючы ягоныя пласты, М. Гарэцкі выступаў першапраходцам. Першапраходзец на тое і першапраходзец, каб адкрываць такое, ад судакранання з чым часта надзіва хораша і светла становіцца на душы. Ці ад судакрання з кім-небудзь... Як у апавяданні «Хоцімка».

Напаткаў гэтую жанчыну апавядальнік «у летні дзень, перад самым вечаровым змрокам, на станцыі Талбаг*а*, за Пятроўскім заводам, у дзікім і яшчэ шмат каму страшным Забайкаллі». Убачыў, як яна «прадае нейкіх смажаных лінькоў, ці што, і дзве ці тры бедныя ляпёшкі». Аднак не толькі на ёй позірк затрымаў: «А ля спадніцы два дробныя хлопчыкі, як звераняткі каля маці. Худыя дзеткі, і вочы ў іх не па ўзросту: шмат ужо бачылі». Што ж, кажучы словамі Якуба Коласа, «куды не трапяць беларусы»!

Так, жанчына аказалася беларускай: «Я чую ў яе акцэнце нешта роднае, хоць гаворыць яна добра па-расійску, і я пытаюся:

— А вы не з Магілёўшчыны перасяленка?

— З Хоцімску я... калі, можа, ведаеце, — адказала яна па-беларуску.

— Ведаю, ведаю! Сам адтуль недалёка...

— Ну як там цяпер жывуць людзі?»

Душа душы голас падала. На нейкае імгненне толькі сустрэліся. Гэтая перасяленка і апавядальнік. Яму пагаварыць з ёю болей не ўдалося: «Цягнік крыкнуў, і я пабег, шкадуючы, чаму не купіў хоць аднаго лінька ў зямлячкі».

Максім Гарэцкі, знаходзячыся ў Сібіры, надзіва ўважлівы быў да самога жыццёвага матэрыялу. Ён не збіраўся даваць разгорнутыя характарыстыкі як персанажаў, так і іхніх узаемаадносін. Ён паставіў перад сабой іншую задачу. Хацеў паказаць, што само жыццё — у многім нават багацейшае за літаратуру. І дамогся гэтага.

Згаданыя творы — частка «Сібірскіх абразкоў», але, паўтаруся, яны пісаліся пад уражаннем першай паездкі М. Гарэцкага. Апавяданне ж «Хадзяка» і ўвогуле нарадзілася незалежна ад яе.

Другое ж наведванне Сібіры было больш плённае. Праўда, і здароўя яно каштавала шмат. Ва ўспамінах Г. Гарэцкай ёсць і такое сведчанне: «Вярнуўся бацька з Сібіры ў 1926 г. цяжка хворы з моцнымі болямі ў жываце. Доктар параіў піць кожны дзень бульён з толькі што зарэзанага пісклёнка».

Але паправіўся хутка. Зноў далучыўся да актыўнага жыцця. Апроч таго, старанна даводзіў да ладу запісы, зробленыя падчас паездкі. Атрымалася сорак два творы. Яны розныя па жанры: «падарожны рэпартаж», нізка замалёвак, запісы, некаторыя ўяўляюць сабой закончаныя апавяданні. «Сібірскія» творы, несумненна, цікавыя і ў такім выглядзе, як напісаны. Тым больш, гэтая частка творчай спадчыны М. Гарэцкага арганічна ўпісваецца ў гісторыю беларускай літаратуры 20-х гадоў мінулага стагоддзя.

Аднак, паўтару следам за Г. Гарэцкай, «невядома, як скампанаваў бы ўсё, калі б сам паспеў падрыхтаваць асобны твор пад назвай "Сібірскія абразкі". Толькі час, як вядома, зваротнага кірунку не мае. Трэба гаварыць не пра тое, што магло б быць. Неабходна гаварыць пра тое, што ёсць.

Ёсць жа цікавыя дакументальна-мастацкія творы. Тыя, што паклалі пачатак далейшаму развіццю гэтага жанра.

## Ад задумы да здзяйснення

Сярод найбольш значных твораў М. Гарэцкага — раман-хроніка «Віленскія камунары». Падзеі адбываюцца ў 1915—1918 гадах. Раман заканчваецца тым, як у пачатку 1919 года ў Вільню ўступае Чырвоная Армія. «Віленскія камунары» не маглі б з’явіцца, калі б М. Гарэцкі на момант напісання яго ўжо не меў значнага мастакоўскага вопыту як празаік. Ён ужо навучыўся выпісваць яркія, неардынарныя, запамінальныя характары. Гэтым разам галоўным героем стаў Мацей Мышка. Больш за тое, у рамане аповед вядзецца ад ягонага імя. Гэта найперш яго споведзь. Аднак і праўдзівы аповед самога аўтара аб тым, як і чым жыла Вільня ў няпросты для яе перыяд.

Па словах Г. Гарэцкага, Максім Іванавіч збіраўся «напісаць хроніку адной сям’і, некалькіх яе пакаленняў, пачынаючы ад прыгону і да нашых дзён». «У гісторыі гэтай сям’і сродкамі мастацкага слова павінны былі адлюстравацца асноўныя змены ўсяго ладу жыцця Беларусі, гаспадарчага, палітычнага, ідэалагічнага, культурнага, бытавога. Жанр сямейнай хронікі дазваляў ахапіць прасторы і многія з’явы на працягу доўгага часу, спалучыць гэтыя з’явы праз асабістае ўспрыманне аўтара хранікальных запісаў, падаць іх лірыка-псіхалагічную афарбоўку, асаблівую шчырасць».

Праўда, у «Віленскіх камунарах» гэтая значная задума цалкам не ажыццявілася. На тое розныя прычыны. У М. Гарэцкага не заўсёды былі спрыяльныя ўмовы для працы. Сказвалася і адсутнасць вольнага часу. Адначасова працаваў і над іншымі сваімі творамі. Тым не менш, подступы да ажыццяўлення гэтай задумы былі зроблены. «Віленскія камунары» — сапраўды «сямейная хроніка». У творы раскрываецца лёс некалькіх пакаленняў Мышкаў.

Дык хто ж яны, Мышкі? «Продкі мае з бацькавага боку, — пачынае свой аповед Мацей (так пачынаецца і сам раман), — былі сяляне-крапакі польскіх паноў Хвастуноўскіх і жылі ў вёсцы Жабракоўцы, Брудзяніскай воласці. Свянцянскага павета, Віленскай губерні». Пра самых даўніх сваіх продкаў ён нічога не ведае, а пра больш блізкіх, калі ласка: «Прадзеда майго пан Хвастуноўскі часта сек за грубіянства. Прадзед быў чалавек упарты, грубіяніць не кідаў. Нарэшце, на злосць пану, задавіўся ў лесе, на гшоркай асіне, калі быў яшчэ маладым».

Дзіўная помста пану. Аднак, паколькі прадзед «быў чалавек упарты», то і выбраў такую дзіўную, нават дзікую помсту. Адна бяда прывяла за сабой наступную, а потым прыйшла і трэцяя:

«Прабабка мая, таксама ў маладых гадах, аслепла, ці то ад слёз, ці то ад трахомы. І жабравала. Вадзіў яе на матузку маленькі сын, адзінае дзіця — гэта мой дзядуля Антось Мышка.

Аднойчы трапілі яны ў дарозе пад вельмі страшную навальніцу. І схаваліся пад хваінку. А ў тую хваінку пярун і ўдарыў. Прабабку спаліў, а дзядулю толькі аглушыў».

На гэтым няшчасці таксама не скончыліся, хоць, як быццам, спачатку ўсё ішло добра. Хай сабе і з маленства Антось сіратой застаўся, ды свет — не без добрых людзей: «Вырас дзядуля ў дзядзькавай сям’і. Калі прыгон скончыўся і сялянам давалі зямлю, ён таксама атрымаў надзел. Дзядзька ажаніў яго — і аддзяліў, не вельмі пакрыўдзіўшы. Тут бы дзядулю толькі і жыць!»

Толькі, бадай, усё ж нельга далёка наперад загадваць. Невядома, як у далейшым лёс яшчэ павернецца. Да Антося Мышкі ён, на жаль, павярнуўся чорным бокам: «Але праз год — памёрла жонка, першы раз радзёмшы, і дзіця прыйшло на свет нежывое... Тады дзядуля, таксама некаму на злосць, пачаў трохі выпіваць».

Ох ужо гэтая злосць! Нічым невытлумачальная, яна столькі бяды нясе Мышкам. Хоць пачакайце... Гэта ж прадзед Мацея зрабіў непрадказальны крок — узяў і павесіўся. Ягоны ж дзед запіць запіў, прытым страшна: «Прапіў жончыны спадніцы, прапіў ступу, прапіў жорны, прапіў каня і калёсы. Засталася толькі хата.

Падаткі і нядоімкі цеперлі яго самога з хаты — у мястэчка Брудзянішкі батраком». Аднак здолеў своечасова спыніцца. Другі раз ажаніўся.

Злосць ягоная праявілася і ў іншым. Узяў ды за кароткі час навучыўся чытаць-пісаць. На злосць тым, хто яго чалавекам не ўспрымаў. Пасміхаўся з яго. Як, у рэшце рэшт, і з іншых сялян. Атрымліваецца, што злосць Мышкаў — гэта прага самасцвярджэння. Толькі не кожнаму з іх удавалася гэта зрабіць. У прадзеда Мацея нічога такі не атрымалася. Антось жа, наадварот, даказаў, што, калі вельмі захоча, на многае здатны.

Бяда, праўда, у тым, што ў апошні момант ён гатоў на такое пайсці, што застаецца адно дзівіцца. Усё настолькі непрадказальна, звычайнай логіцы не паддаецца. Таму Мацей і канстатуе іранічна:

«Выскачыў дзядуля з сваёй пісьменнасцю, як Піліп той з канапель...

І думаў ён, думаў, — нічога лепшага не прыдумаў, як пачаць цяпер судзіцца. І завёў ён суд з сельскім вобчаствам вёскі Жабракоўкі за свой надзел, каб вярнуць яго сабе назад».

Восем гадоў затраціў, каб сваё даказаць. Да самога сената дайшоў. А карысці — ніякай. Усё кату пад хвост. Здавалася б, спыніцца можна. Спыніцца? Але ж гэта прызнаць сваё паражэнне! Гэта, безумоўна, было не ў ягоным характары. Доўга думаў-разважаў, як быць далей. Нарэшце выйсце знайшоў у тым, каб сваю злосць выліць на сыне таго ж пана Хвастуноўскага, з-за якога ягоны бацька пайшоў на той свет.

Усё, што думаў пра яго, выказаў. Хвастуноўскі-малодшы, безумоўна, абразы дараваць не змог. У выніку трапіў Мацееў дзядуля ў Сібір, апынуўся ў Томску. Вось і ўся праўда. Але і ў гэтым горадзе Антось Мышка не супакоіўся. Звязаўся са студэнтамі-народавольцамі, таксама ссыльнымі. Разам з імі прыняў удзел у мітынгу. Ды такую актыўнасць праявіў, патрабуючы зямлі і волі, што быў арыштаваны. Пасля чаго адправілі яго яшчэ далей, у «слаўны горад Краснаярск». Там і пражыў амаль усё сваё жыццё.

Ды менавіта людзі з такой простай, калі мець на ўвазе іх сацыяльнае паходжанне, радаслоўнай не маглі не апынуцца ў шэрагу барацьбітоў за савецкую ўладу. На ўласнай скуры адчуўшы, што такое несправядлівасць, яны змагаліся за праўду, за сваю свабоду.

Гэткім шляхам пайшоў і бацька галоўнага героя. Міхась Мышка, як і яго бацька Антось, зведаў цяжар катаржных дарог. У Сібір ён трапіў пасля таго, як яго выдаў правакатар. Толькі ўсё адно на свой лёс не наракаў. Загадзя ж ведаў, на што ішоў, калі пачаў займацца рэвалюцыйнай дзейнасцю. Як і не мог не здагадвацца пра тое, чым усё можа скончыцца. Аднак усвядомлена зрабіў крок да тых, хто, як і сам ён, хацеў адчуваць сябе чалавекам. У яго чыстая душа і светлыя думкі. Усё, што ні робіць, робіць усвядомлена. Калі ўпершыню пачуў слова «таварышы», дык «аж мурашкі пабеглі па спіне, сэрца замлела».

Мацею не сорамна ні перад бацькам сваім, ні перад дзедам. Ён таксама не з тых, хто прывык паводзіць сябе спакойна, па прынцыпе: каб жа нічога такога не здарылася. Таму хапіла і яму нягод. Выгналі з вучылішча, аб’явіўшы бунтаўшчыком. Хоць тады на вуліцу яго вывела яшчэ звычайная цікаўнасць. Неяк паслізнуўся, трапіў у бальніцу. Адтуль выйшаў «з рукою, сагнутаю ў локці на ўсё жыццё!».

Мацей Мышка, праўда, разумее, што часам паводзіць сябе неадэкватна: «Характар у мяне раздвоены: з аднаго боку, я маю спакойны розум і без адуму на ражон ніколі не папру; з другога боку — у мяне заходлівае сэрца, і ўпопыху, з гарачкі, магу я нарабіць такога гвалту, што потым сам не рад...»

У той жа час — ён і летуценнік. Аднак такі летуценнік, які, хоць і сягае сваімі думкамі ў завоблачныя вышыні, уласныя мары і памкненні звязвае з тым, што адбываецца на зямлі. Тым не менш, Мацея вабіць і сама касмічая прастора. Наступае момант, калі ён задумваецца: а, магчыма, мы не адны ў Сусвеце.

У рамане апроч Мацея Мышкі нямала і іншых каларытных вобразаў. У ліку іх і тыя, хто з'яўляецца натхняльнікам барацьбітоў на святую справу, — віленскія камунары. Гэта Кунігас-Ляўданскі, Вяржбіцкі, Шымілевіч, Аз... Пачуццё адданасці рэвалюцыі, савецкай уладзе — для іх не пустыя словы. Таму яны, калі на Рабочы клуб напалі палякі, апошнія патроны пакінулі для сябе...

Гэты момант перададзены настолькі праўдзіва, што адчуваеш сваю прысутнасць там, дзе гэта адбываецца. Больш за тое, атрымліваеш магчымасць зазірнуць у душу абаронцаў, якія свядома ідуць на смерць. Не могуць і не хочуць здацца ворагу.

Героі «Віленскіх камунараў» адначасова праходзяць дарогамі пакут і мужнасці. Аднак, як бы цяжка гэта ім ні давалася, заўсёды і ва ўсім імкнуцца заставацца людзьмі. У гэтым відавочны жыццясцвярджальны пафас твора.

Галоўны ж твор М. Гарэцкага — «Камароўская хроніка», ці, як яе называў ён сам, «Камароўская кроніка». Што ж уяўляе яна сабой?

## Камароўка — тая ж Багацькаўка

У артыкуле «Думкі і развагі» ёсць такое сведчанне М. Гарэцкага:

«Бываюць творы: усе лініі ў іх строгай правільнасці, яны прыгожы, а нас не цягнуць.

І другія творы: нейкі недахват у іх невялікі, але гэты недахват такі любы і прыгожы, што магнэсам цягне».

Быццам далёка наперад зазіраў ён, сцвярджаючы гэта. Нібыта прадбачыў з'яўленне сваёй «Камароўскай хронікі» — аповесці, у якой, калі мець на ўвазе строгія каноны гэтага жанру, сапраўды можна заўважыць «невялікі недахват».

Сёе-тое ў ёй ніяк не ўпісваецца ў жанр. Дый увогуле, аповесці ў яе класічным, традыцыйным разуменні як бы няма. У адно цэлае зліліся элементы самой аповесці і дзённікавыя запісы, згадкі-ўспаміны і вытрымкі з лістоў. Па сваёй сюжэтнай будове гэта сапраўды і ёсць хроніка. Год за годам М. Гарэцкі прасочвае падзеі, высвечвае людскія лёсы.

Да напісання гэтага твора старанна рыхтаваўся.

Як успамінала Г. Гарэцкая, «з ваенных часоў была ў яго прадаўгаватая скрынка, трохі больш за паўметра даўжыні, сантыметраў трыццаць пяць шырыні і з паўметра вышыні, абітая шэрага колеру матэрыяй, з тоўстым дном і сценкамі, з тоўстым плоскім вечкам. У ёй трымаў свае рукапісы, перапіску, некаторыя каштоўныя кніжкі, дзённік і падручнікі трагічна загінуўшай сястры Ганны, прыгожа вышыты з абодвух канцоў чырваначорнымі кветкамі ручнік яе і іншыя дарагія яму рэчы. З цягам часу жыццёвыя абставіны прымушалі зберагаць толькі самыя патрэбныя яму запісы». Такое захоўванне было зручнае і тым, што пры пераездах нішто не гублялася.

Пазней, недзе ў 1923 годзе, М. Гарэцкі пачаў пераносіць гэтыя занатоўкі ў асобныя сшыткі. Апроч таго занатоўваў успаміны тых, хто прыязджаў да яго з Багацькаўкі. Такой магчымасцю карыстаўся і тады, калі сам наведваўся ў родную вёску.

Канчаткова задума «Камароўскай хронікі» акрэслілася толькі ў 1935 годзе. Гэта відаць з ягоных дзённікавых запісаў:

«Памінальніцу пішы. Вось табе і афармленне. Годзе шукаць, перарабляць, хавацца...»

Тут жа назваў і тых, каго трэба спамянуць. Жывучы ж ужо ў Пясочні, таксама пра гэта — пра тое, як нараджаецца будучы твор. Праўда, з назвай пакуль не вызначыўся:

«“Памінальніца (Тужыкі?)”, (Повесць-хроніка).

Пішу, што чуў ад старэйшых людзей, што бачыў сам, што пісалі мне ў лістох, што апавядалі, калі прыязджаў. І ад “я”. Вось і ўся сістэма. Як можна карацей, але паўней».

Цікава, адкуль назва «Тужыкі» ўзялася? Аказваецца, гэта клічка. Адказ даў сам М. Гарэцкі: «Саўка быў чалавек справядлівы, сумленны, але замкнуты і надта крыўдлівы. Ён змалку цярпеў многа паніжэнняў, потым доўга служыў батраком, дык, можа, таму блізка прымаў да сэрца ўсякую няпраўду і ў кожнай драбніцы бачыў сабе крыўду». За гэта і празвалі яго Тужлівым.

Саўка — гэта дзядзька М. Гарэцкага Якаў Кузьміч. Не пад уласнымі імёнамі і прозвішчамі праходзяць у «Камароўскай хроніцы» і многія іншыя персанажы. Усяго ж у творы, па падліках Галіны Максімаўны, не менш 400 герояў.

Гарэцкія называюцца то Батурамі, то Задумамі. Дзед М. Гарэцкага падаецца і як Кузьма, і як Юрка. Стахван — гэта ягоны бацька, маці — Ганна з сям'і Ваяводаў, хоць Ефрасіння Міхайлаўна была з роду Паповых. Брат М. Гарэцкага Іван «ператварыўся» ў Рамана, Парфір «стаў» Пракопам. Гаўрыла праходзіць як Лаўрын, Гурык, а то і Гаўрыла. Сам М. Гарэцкі згадваецца як Кузьма ці Лявон.

Галіна Іванаўна падлічыла таксама, што ў «Камароўскай хроніцы» сустракаецца каля 400 розных геаграфічных назваў — гарадоў, вёсак, станцый, хутароў, панскіх дамоў. Назвы некаторых з іх у творы зменены. Часам падаецца нават па некалькі варыянтаў.

Меншая Багацькаўка ў выніку такой змены стала Камароўкай, таму твор і атрымаў назву «Камароўская хроніка». Хоць упаўне мог бы называцца і «Багацькаўскай хронікай», бо М. Гарэцкі прытрымліваецца дакументальнай асновы.

Родная ж вёска маці Максіма Іванавіча — сяло Слаўнае праходзіць у аповесці як Харошае. Палянка — гэта Большая Багацькаўка, П'янава — мястэчка Курманава. З гарадамі адбыліся такія змены: Горкі — Нізінкі (у фрагментах Пячуркі); Орша — Ворша, Варна; Смаленск — Смала; Магілёў — Яма; Вільня — Воўчая Гара; Масква — Кучка; Мінск — Ксень, Камунацэнтр, Балота...

Разблытваецца і разблытваецца клубок лёсаў. З 1863 года адлік бярэцца. Калі ўсё тое, што было да гэтага, да адмены прыгоннага права, згадваецца толькі мімаходзь, то цяпер прысутнічае канкрэтыка. Хто і калі нарадзіўся, хто і калі памёр, хто з кім і ў якім сваяцтве знаходзіцца. Якою сям'ёю людзі жылі. Быў у ёй дастатак ці панавала няшчымніца. Апошняе, на жаль, у Камароўцы пераважала. Як і ў вёсках, што знаходзіліся вакол яе.

Аднак, канечне ж, Камароўка — эпіцэнтр, сілавое поле якога нязменна прыцягвае да сябе пісьменніка. Менавіта праз Камароўку паказвае М. Гарэцкі лёс беларускага сялянства. Год за годам робіць гэта. Гады складваюцца ў перыяды: 1863—1905, 1905—1917, 1917—1921, 1922—1923, 1924—1937. Адпаведна ў творы і пяць раздзелаў.

## Слава жыццю і слава... смерці

На жаль, і М. Гарэцкага — сумленнага чалавека, цудоўнага пісьменніка — не абмінулі рэпрэсіі. 10 ліпеня 1930 года яго па лжывым даносе арыштавалі, і ён апынуўся ў мінскай турме, у якой знаходзіўся да канца красавіка ці да пачатку мая наступнага года.

Затым адбываў ссылку ў горадзе Вятцы (Расія). Рознымі работамі даводзілася займацца, але і літаратурнай працы не кідаў. Па-ранейшаму нямала пісаў. Больш за ўсё часу займала праца над раманам «Віленскія камунары» і над «Камароўскай хронікай».

З літаратурнай працай стала лягчэй, калі ў жніўні 1935 года дазволілі пераехаць у гарадскі пасёлак Пясочня тагачаснай Смаленскай вобласці. Выкладаў рускую мову і літаратуру ў мясцовай сярэдняй школе. Змог нават двойчы наведацца ў Багацькаўку. У Пясочню да яго прыязджаў брат Гаўрыла з жонкай, таксама не па сваёй волі адарваныя ад Бацькаўшчыны. Дый сям'я знаходзілася поруч.

Толькі ўсё ніякай пэўнасці адносна ўласнага будучага не было. Калі што і было, то іншае разуменне: «Усё жыццё праляцела, як адзін дзень. Усё яно —

як на далоні». У ноч на 5 лістапада 1937 года арыштавалі паўторна. 10 лютага 1938 года быў расстраляны ў Вязьме.

З небыцця, але адначасова з самой вечнасці як бы гучыць ягоны голас, калі пачынаеш чытаць яго апошні твор «Скарбы жыцця». Да нас, да сваіх наступнікаў звяртаецца пісьменнік:

«Браму скарбаў сваіх адчыняю: падходжу і так, падходжу і гэтак, пасяджу, адсапнуся — і зноў адчыняю, псую сабе гумар.

Цяжкаватая брама, панурая вельмі, завесы на ёй паржавелі, замок папсаваўся, ключ у замку не хоча круціцца, — замардавала мяне.

Падазрона гляджу па бакох, асцярожна рыхтую запас тлумачэнняў: можа, госці залучаць, а хто яны будуць?

Чакаю спагаднага, блізкага сэрца, але ж брама адчынена ўсім... Хай заходзяць! Прыняць іх гатоў. Цярпліва, пакорна прымаю: добрым манерам я добра навучыўся...

Госці будуць ці не — сам пацешу сябе, зраблю парад дасягненняў. Набыткі злічу. Новай сістэмы замкі на ўсе тайнікі панавешу.

Дабра прыхавана нямала: залатога смутку багатыя скрыні, самацветнай бяссільнасці доўгія нізкі, бясцэннае роспачы буйныя зерні...

Адчыніся ж ты, брама, нарэшце! Іржа цябе ела — не з'ела, і замок можна паладзіць, і ключ падабраць...»

Задумваўся і над тым, а што ж там, наперадзе, за мройным і такім неакрэсленым даляглядам: «Стапталіся мае лапці, урэзаліся аборы ў ногі, даваць матузы ад хатыля. Ідуць — іду. Узіраюся ў вечнасць».

Паняцце вечнасці ў ягонай споведзі прысутнічае часта. Ды гэта быў не проста позірк. Гэта было і жаданне як бы маральна ачысціцца ад усяго таго бруду, які навальвалі на яго хціўцы, здраднікі, даносчыкі. Ачысціцца і застацца чалавекам:

«Цану рэчам пазнаў. Людзей да самых глыбінь уведаў. Жыццём даражыць навучыўся. І да смерці сябе рыхтаваць я ўмею. Каб прыняць яе меч хоць калі, і без пары, і без усякай патрэбы.

Дык слава жыццю!

Слава і смерці!»

Смерць успрымалася ім як збавенне ад усіх пакут, прыніжэнняў. Аднак не толькі. Смерць — гэта і шлях у тую вечнасць, на парозе якой М. Гарэцкі ўжо знаходзіўся. Яна, вечнасць, была для яго зыходным пунктам, ад якога дарога вяла ў бяссмерце.

Працягваў аздабляць свой літаратурны палетак разумным, добрым, вечным. Дый як было не рупіцца, калі за плячыма было ўсяго сорак пяць. Хоць і напісаў нямала. Апроч прозы — гэта драматургічныя творы, «Гісторыя беларускае літаратуры». Разам з братам Г. Гарэцкім склаў «Руска-беларускі слоўнік». Пісаў для дзяцей. Займаўся перакладамі...

* * *

Максім Гарэцкі — той, хто азараў шляхі нашага адраджэння ў пакутныя дні, тады, калі беларусы толькі імкнуліся яшчэ «людзьмі звацца». Аднак М. Гарэцкі, безумоўна, і той, хто сёння дапамагае нам не заблукаць на ветравейных паўстанках сучаснасці.

За М. Гарэцкім нам лягчэй ісці, як і за іншымі беларускімі класікамі. Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі — гэта тыя волаты нацыянальнага духу, якія з'яўляюцца гонарам нашага народа. Гонарам беларускай літаратуры. Брама мастакоўскіх скарбаў М. Гарэцкага адчынена ў вечнасць. Новым і новым пакаленням спасцігаць іх багацце і хараство, не перастаючы здзіўляцца таму, як шмат можа зрабіць талент, які прысвяціў сябе самаадданаму служэнню Бацькаўшчыне. М. Гарэцкаму вечна быць зоркай першай велічыні ў сузор'і нацыянальнага прыгожага пісьменства.

**Аляксей РАГУЛЯ**

# ПЛЫНЬ

*(карціна нацыянальнага быцця ў раманах Леаніда Левановіча)*

## На грунце сацыяльнай эстэтыкі

Леанід Левановіч — пісьменнік пакалення, маленства якога было, як гаварылі ў 60—70-х гадах, абпалена вайной. На працягу апошніх трох дзесяцігоддзяў ён засяроджана працаваў у сілавым полі праблемы, якая ў беларускім мастацтве ХХ ст. азначана фрэймамі «*на ростанях*» і «*вялікае скрыжаванне*», а таксама канцэптамі «*выбар*», «*прайсці праз вернасць*». Пра сітуацыю выбару ў крытыцы ў свой час было сказана шмат слушнага, але размова ўсё ж не выйшла за межы індывідуалістычнай інтэрпрэтацыі сюжэтных рашэнняў. Праблема *суровага стылю* застаецца адкрытай. Пытанне гэтае заслугоўвае больш пільнай увагі. Тут жа мы звярнуліся да тэарэтычнага аспекту толькі для таго, каб адзначыць, што жыццесцвярджальная ідэя прозы Л. Левановіча трымаецца на грунце таго мастацка-кагнітыўнага вопыту, які ў адчаканенай форме ўжо ў 1951 г. быў азначаны А. Куляшовым: «*У суровы век жыву сурова*». Л. Левановіч, аднак, не засяроджваецца, толькі на трагізме эпохі, ён імкнецца ахапіць «*чалавечы век*» ва ўсёй паўнаце яго сэнсаў і абавязкова ўключае ў актуальнае быццё касмічны покліч жыццесцвярджэння ў годных чалавечых формах. Адгэтуль ідзе патрэба сумясціць ў паэтыцы дыскрэтнасць і кантынуумнасць, плынь свядомасці і плынь жыцця. Яго проза як бы выцякае генетычна з плыняў ліраэпасу Я. Коласа, К. Чорнага, М. Гарэцкага, І. Мележа. Але найперш — са спрадвечных плыней мысляндзеяння патомных радзімічаў у беларускім Падняпроўі.

У 1983 г. выйшлі з друку ягоныя «Шчыглы», у 1989-м — «Паводка сярод зімы». Своеасаблівым падсумаваннем зробленага на вялікай дарозе сталі «Дзікая ружа» (1993) і «Сіняе лета» (2005). Наступныя два раманы — «Бесядзь цячэ ў акіян» (2007) і «Палыновы вецер» (2009) — гэта карціна выйсця на сацыяльную паверхню новага *трэцяга пакалення*, якое ў пераважнай большасці гадавалася без латэнтнай формы наследавання экзістэнцыяльнага і духоўна-сацыяльнага вопыту агулу — беларускай сялянскай грамады (абшчыны). Інстытуцыяльныя формы трансляцыі культуры ў Беларусі на працягу апошніх стагоддзяў працавалі на карпарацыйны інтарэс чужой і квазісваёй бюракратыі. У двух апошніх раманах на першы план вынесена праблема агульнай культуры і патрыятычнай арыентацыі палітычнай інтэлігенцыі.

Шасцікніжжа Л. Левановіча нагадвае хранікальную структуру, але ў стылі аўтарскага выказвання назіраецца ўхіл і да паэтыкі плыні. Працуючы над раманамі, Л. Левановіч адначасова напісаў тры аповесці, некалькі нарысаў і эсэ. Адначасова публікуюцца і яго апавяданні. У апошні час — гэта часцей за ўсё навелы, якія аўтар таксама яднае ў цыклы на аснове экзістэнцыяльнай ацэнкі актуальнага сацыяльнага быцця («Чалавечы век», 2010, і інш.). У 1999 годзе Л. Левановічу прысуджана Літаратурная прэмія імя І. Мележа. За аповесць «Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста» ён атрымаў прэмію Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі.

Разуменне магчымасцей сучаснага рамана ў фарміраванні каштоўнасных арыентацый грамады і асобы ў многім залежыць ад разумення сутнасці татальн-

нага крызісу сучаснага чалавецтва наогул. Крызісныя з'явы ў літаратурным працэсе не абумоўлены гісторыяй той ці іншай жанравай формы. Культ «элегантных пакут» і «элегантных перамог» у тэорыі і практыцы «*новага*» рамана, смакаванне тэхналогіі катавання і сэксапаталогіі ў паэтыцы «*яшчэ больш новага рамана*» маюць свае вытокі ў тупіковай сітуацыі сучаснай сацыяльнай дынамікі. Сучаснае чалавецтва вычарпала крэатыўны патэнцыял арыентацыі, заснаванай на індывідуалізме, узнятым на вышыню каштоўнаснага абсалюту. М. Бахцін у сваіх працах па эстэтыцы мастацкага слова невыпадкова пачынаў размову не з крызісу жанру, а з вызначэння контураў анталагічнай праблематыкі, з акрэсленай у рускім рамане XIX ст. сітуацыі крызісу — з *абрыву* «*ўнутранай бясконцасці быцця*»: «*Крызіс жыцця насуперак крызісу аўтарства, але часта яму спадарожны, ёсць насяленне жыцця літаратурнымі героямі, адпаданне жыцця ад абсалютнай будучыні,ператварэнне яго ў трагедыю без хору і без аўтара*». М. Бахцін зрабіў вельмі істотны крок на шляху да інтэграцыі кагнітыўнага дзеяння ў мастацтве, мастацтвазнаўстве і філасофіі. Логіка пошукаў на гэтым напрамку заканамерна выводзіла даследчыка на праблему суб'екта-аўтара, здольнага па-купалаўску сказаць «я не для вас» аматарам гульні з абясцэненымі вобразамі. Канцэпты *абрыў, абломаўшчына, карамазаўшчына, цёмнае царства* з'яўляюцца пераканаўчым сведчаннем інтэлектуальнага ўзлёту рускай літаратуры ў XIX ст. — духоўнага прасвятлення і прадбачання ўсеагульнага *Нішто*, пра пагрозу якога папярэджвала ў пачатку XIX ст. ідэалістычная філасофія Гегеля. А. Шапэнгаўэр у другой палове стагоддзя ўжо выступіў з ідэяй пераналстройкі бяздумнага аптымізму на больш адказную, абачлівую мадэль паводзін. У. Самойла, В. Ластоўскі, І. Канчэўскі ў пачатку XX ст. прапанавалі ўвогуле новую, дзейсную мадэль рэлігійна-філасофскай арыентацыі — «*крытычны аптымізм*». Гэта была своеасаблівая карэкцыя песімізму А. Шапэнгаўэра. Абагульняючы вопыт неаязычніцтва, дзеячы беларускага адраджэння не сталі спрачацца з Ф. Ніцшэ па пытаннях жыцця і смерці Бога і магчымасці яго замены ідэяй неіснуючага звышчалавека. Увага грамады была скіравана на адказнасць перад усеагульнай Маці-Багіняй-Прыродай за падараванае жыццё.

Тэарэтыкі і практыкі «новага рамана» ўзяліся вырашыць невырашальную задачу — стварыць у сферы слоўнай творчасці эстэтыку, пазбаўленую энтэлехіі, нешта падобнае на неструктураваную структуру. Эстэтыка Л. Левановіча вырастае з фальклорнай традыцыі Падняпроўя. Магія эпіграфа да рамана «Шчыглы» з'яўляецца камертонам да ўсёй шасцітомнай хронікі:

Каб нашаму роду —
Не было пераводу,
А гэтыя рэкі
Каб цяклі навекі.

Гэтак жа актыўна празаік выкарыстоўвае і вопыт спасціжэння роднасці ў філасофскай паэзіі. Сучасная антрапалогія таксама бачыць вытокі філасофскага мыслення ў пачуццях родавай блізкасці і дружбе. Эстэтыка роднасці вызначыла характар сугестыі і контрсугестыі ў беларускай філасофскай лірыцы другой паловы XX ст. У паэзіі А. Пысіна самавызначэнне суб'екта ажыццяўляецца на ўзроўні перажывання і рэфлексіі пачуцця роднасці па крыві і па духу:

Не ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў,

Да кладак гладкіх,
Валуноў,
Да траў, жытоў на ўзлесках,
Да партызанскіх курганоў,
Да помнікаў гвардзейскіх...

Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел той рассеч,
Не закрануўшы сэрца.
*(«Вузел», 1958)*

У культуры Падняпроўскага рэгіёну чалавечае «Я» падкрэслена сцвярджае іманентнасць самому сабе праз перажыванне іманентнага адзінства з жыццём прыроды і з вопытам продкаў — вялікім агулам радзімічаў. Усе «гэтыя рэкі», бярозы ды сосны, яблыні, грушы, вязы, валуны і курганы ў мастацтве слова існуюць як састаўныя кампаненты «нашага роду», носьбіты сэнсаў гістарычнага існавання чалавечай супольнасці і фарміруюць сістэму нацыянальнага канцэптуалізму.

Канцэптуальнымі сэнсамі ў рамане «Шчыглы» насычаны вобраз лодкі — як карабель ці «самаробная пірога» ў паэзіі А. Куляшова. Паўлік, Данік і Андрэйка ў час паводкі нарэшце ўсё ж «*выпрасілі*» лодку ў старога Гылігора. Добра ўсведамляючы ступень рызыкі ў задуманай экспедыцыі, дзед, аднак, не палічыў патрэбным адгаварыць юных рамантыкаў ад іх намеру, але папярэдзіў, засцерагаючы дзяцей ад безадказных паводзін на вадзе: «*Глядзіце ж асцярожненька сядзіце, не гайдайце лодку, а то перакуліцеся. Ды і патапіцца можаце. З вадою ды з агнём жарты кепскія*».

Л. Лcreateвановіч паказвае дзеянне народнай педагогікі і эстэтыкі ў агульнай плыні жыцця. Самасцвярджэнне асобы ў сялянскім жыцці адбываецца не ў штучна прыдуманых сітуацыях, а ў рэальных умовах быцця. Народная аксіялогія зыходзіць з аднаразавай каштоўнасці існавання. Менавіта такая ўстаноўка фарміруе адказнае стаўленне да жыцця, да выбару рашэння. Так фарміруецца тып свядомасці з выразна акрэсленымі контурамі і адначасова адкрытай да ўзаемадзеяння:

«*Ён азірнуўся вакол — радасць запоўніла яго сэрца: пад вясновым сонцам зціхацела паводка, на курганах квола зелянелі шыльцы маладзенькай травы, а ў чысцюткім высокім блакіце неба заліваўся жаўрук. І раптам Андрэйка аж здрыгануўся: згадаў, як імчаў на каньках па лёдзе і ледзве не ўскочыў у паніўку. “Ета ж мяне ўжо магло не быць. І сёння лодка магла перакуліцца, — з жахам падумаў ён. — У нас і так ужо Колі няма. Пятрок загінуў. Матка і цяпер плача, як успомніць пра яго. Добра, што я застаўся жыць!” — ад гэтых думак дзень падаўся яшчэ прыгажэйшым, а ягоныя дружбакі — Данька і Паўлік — найлепшымі хлопцамі ў свеце*».

Прыведзены ўрывак прасякнуты імкненнем аўтара да канцэнтрацыі энергіі перажывання ў формах унутранага мікраманалога. Пачаткам самаруху асобы ў прозе Л. Левановіча, як і ў творах К. Чорнага, з’яўляецца стан радасці існавання. Гэтая ўласцівасць «шчыглоў», якія сваю «казку жыцця» пачынаюць на папялішчы, з’яўляецца выдатнай характарыстыкай духоўнага рэсурса беларускай нацыі. «Вобразы мілыя роднага краю» для тубыльцаў спадчынна застаюцца мілымі. Сялянскія дзеці ў прозе Л. Левановіча не толькі перажываюць стан радасці існавання, але і асэнсоўваюць яго. Пісьменнік ідзе ў рэчышчы традыцыі, якая смела выводзіць пошукавую думку за межы нагляднай прычынна-выніковай матывацыі. Ціхім, як у вершах М. Багдановіча, гімнам жыцця гучаць адразу дзве песні: песня жаўрука ў «*чысцюткім высокім блакіце*» і ціхая песня ў чысцюткіх душах *шчыглоў* — падлеткаў, захопленых прагай паўнацэннага чалавечага самасцвярджэння ў свеце, у якім свой сатанінскі баль праўляе смерць. К. Г. Юнг падобную сінхранію лічыў архетыпнай асновай нацыянальнага менталітэту. Л. Левановіч, ідучы ў рэчышчы традыцый Я. Коласа і М. Гарэцкага, па-новаму раскрывае духоўны змест беларускага архетыпнага падсвядомага — здольнасць і патрэбу жыць у сугалоссі з музыкай коласаўскіх «струнаў прастору». На генетычным узроўні гэтая «ціхая плынь» праяўляецца ў «светлых абліках закінутых дзяцей». Са старым Гылігорам падлеткаў яднае прасветленая музыка жыцця ў глыбінях творчай інтуіцыі.

Раманы Л. Левановіча арганічна далучаюцца да той плыні ў культуры Падняпроўя, якая ў творах В. Бялыніцкага-Бірулі, Г. Вашчанкі, А. Бархаткова, В. Карама-

зава, А. Пісьмянкова адлюстравала непарыўную повязь чалавека духу з роднай прасторай, з рэчавым светам. «Ціхая плынь» у мастацкай культуры Падняпроўя валодае нерастрачанай сілай тварэння і ўпарадкавання культурнай прасторы. Пасля Другой сусветнай вайны ўвесь гарызонт беларускага быцця застаўся ўсеяны знакамі бяды. Нацыянальная эстэтычная думка па даўняй традыцыі катэгарычна адмежавалася ад гульні ў бяссэнсіцу ў мастацтве, названую канцэптуалізмам.

Аркадзь Куляшоў у праграмных паэтычных дэкларацыях настойліва папярэджваў аб пагрозе размывання і дэфармацыі нацыянальнага духоўнага скарбу падчас адліг і вясновых паводак:

Усім барознам, раўчукам, кюветам
Вясна свае патокі аддае
Рукою шчодрай. Ды не след у гэтым
Паэзіі браць прыклад ад яе.

Не тысячамі рэчышч свет шырокі
Здзіўляць ёй трэба часам веснавым,
А ўсе свае шумлівыя патокі
Збіраць ашчадна ў рэчышчы адным.

Ён звяртаў увагу на адказнасць мастака за формаўтваральную дзейнасць мастацкага вобраза:

І ёсць адказнасць перад строгім вершам,
Перад яго пачаткам і канцом —
Каб баразну, радком пачаўшы першым,
У сноп звязаць шаснаццатым радком!

*(«Ёсць у паэта свой аблог цалінны»)*

У эстэтычнай праграме А. Куляшова сноп з’яўляецца сінтэтычным вобразам энтэлехіі — завершанасці і выніковасці працэсу жыццядзеяння. У еўрапейскай традыцыі гэтую функцыю часта выконваюць вобразы воза сена і стога. У фенаменалагічнай форме эстэтычнага выказвання Л. Левановіча суадносяцца копы і стог сена, якія з’яўляюцца сімвалам выніку супольнай працы, абагульненага сэнсу. Сам працэс стагавання ўвасабляе таксама ідэю духоўнага *ўзвышэння* — катэгорыі не менш важнай за *гераічнае*. Менавіта *ўзвышанае* ў эстэтыцы Л. Левановіча — крытэрый ацэнкі асобы. Узнёслы ўнутраны маналог Андрэйкі, у якім аб’яднаны дзіцячыя парыванні і недзіцячая сталасць думкі і пачуццё адказнасці, — скарбы духу, атрыманыя ў спадчыну.

Семантыка стагоў сена ў мастацтве складвалася на працягу стагоддзяў. На пачатку татальнага крызісу і рэвалюцыйных зрухаў у мастацкай дынаміцы ў эпоху мадэрнізму ішоў пошук іманентнай устойлівасці. Заснавальнік імпрэсіяніпсцкай плыні ў жывапісе Клод Монэ (1840—1926) спачатку быў цалкам засяроджаны на паказе бесперапыннай змены каляровай карціны свету. У хуткім часе, аднак, у мастака з’явілася патрэба выказаць імкненне да сцвярджэння ўстойлівага манументалізму быцця. З 1874 г. К. Монэ перыядычна звяртаецца да паказу стагоў сена на фоне ўстойлівага сялянскага дому. У філасофскім пейзажы А. Куінджы (1842—1910) снежныя вяршыні Каўказа таксама нагадваюць вялікія аснежаныя стагі ў цёмна-сіняй прасторы касмічнай непарушнасці. Патрэбай пераадолення ўлады знямелай снежнай прасторы над чалавекам прасякнуты зімовы пейзаж са стогам у творах Г. Вейсенгофа. Язэп Драздовіч сродкамі графікі імкнуўся дакладна перадаць у заўтрашні дзень тэхналогію стагавання і семантыку стажкоў палескіх вёсак — архітэктуру беларускай культурнай прасторы, і гэтым ён падобны да Н. Орды.

Леанід Левановіч вельмі ашчадна ставіцца да рэсурсаў назапашанай семантыкі. У рамане «Сіняе лета» стагаванне на лузе нагадвае своеасаблівую імшу, як і сцэны касьбы, сяўбы і малацьбы ў «Новай зямлі» Я. Коласа, у паэмах Я. Купалы,

у прозе К. Чорнага. У рамане Л. Левановіча ўвесь працэс укладання сена ў стог прасякнуты настроем далучанасці да сакральнага дзеяння — узвядзення ў зялёнай прасторы храма ў раманскім стылі з пахучых кветак і траў. Стог і сноп — гэта сутнаснае ўвасабленне сэнсаў чалавечага жыццядзеяння, выток чалавечых лёсаў і будучыні. У рамане «Сіняе лета» нефармальны рытуал стагавання заканчваецца хваласпевам гуртавой сіле тварэння. Вылучаецца кожны з удзельнікаў дзейства, а асобны гімн прысвячаецца, як некалі Дажджбогу, галоўнаму архітэктару зялёнага храма, вялікаму майстру надзейнага ўкладвання і завяршэння-энтэлехіі — Мацвею Сахуту. І выказвае яго некаранаваны старэйшы жрэц, які ведае дзённыя і начныя таямніцы стагоў і копаў, — жартаўлівы дзед Гылігор:

«*— Ну, махіну ты ўзняў, Дзянісавіч! Хатыніцкі хмарачос. У космас глядзіць, — падпіхнуў на лоб вышэй палінялую кепку — адно ў спёку ён здымаў аблавушку і валёнкі. — Няўжо ўсё сянцо з балота ўтапталі, га!*»

Актуальны сэнс створанай Л. Левановічам сімволікі раскрываецца тады, калі мы пераходзім да фарміравання семантычных радоў у мастацкім тэксце — да азначэння шляху духоўнага самавызначэння і сацыяльнай самарэалізацыі індывідуальнага і супольнага суб’ектаў, асобы і нацыі. І тут ужо на першыя ролі выходзяць не канцэптуальныя сітуацыі і персанажы, а канцэптуальныя сэнсы, прыдатныя для выкарыстання іх у сацыяльнай практыцы. У беларускай полілінгвістычнай сітуацыі манаполія на плённую канцэптуальную творчасць належыць беларускай мове. Працэс канцэпталагічнай словатворчасці і канцэптуалізацыі нацыянальнага мыслення быў вельмі плённым у XII ст., у эпоху сярэдневяковага Рэнесансу ў XVI ст. і на працягу ўсяго XX стагоддзя. Сучаснасць ставіць нацыю перад неабходнасцю сфарміраваць свой, звернуты перш за ўсё да еўрапейскага чалавецтва, маналог — вербальнае парадыгмальнае выказванне. Створаныя ў XX ст. беларускія мастацкія фрэймы і канцэпты сёння ўжо дзейнічаюць на ўзроўні філасафем і нават у якасці каштоўнасна арыентаваных сацыялагічных катэгорый: *лад, удзірванелы курган векавечны, сон на кургане, раскіданае гняздо, спадчына, скарб, дрыгва, родны кут, вобразы мілыя роднага краю, казка жыцця, вязьмо, голы звер, зверыяда, ажандараная радзіма, радасць існавання, агні і буры, абвостраная цвёрдасць, здольнасць да непераможнай дзейнасці, людзі на балоце, жураўліны крык, аблава, сцяна, пастка, ваўчыная яма, пакутны век, нячывель, покліч.* Такой жа вялікай канцэнтрацыяй інтэлектуальнай і духоўнай энергіі вызначаюцца і створаныя ў XX стагоддзі формы маральных імператываў і сентэнцый: «Па Бацькаўшчыну!», «На шырокі прастор!» і інш. Канцэпт, пісаў Ж. Дэлёз (1925—1995), адзін з найбольш глыбокіх філосафаў эпохі постмадэрнізму, заключае ў сабе «*гарызонты падзей, рэзервуар ці рэзерв чыста канцэптуальных падзей*». Мастацкія канцэпты ў беларускай літаратуры — гэта дыяграматычныя фігуры, якія адлюстроўваюць не толькі логіку чыстага духу, але і логіку *пераадолення* зла сацыяльнага. Экзістэнцыяльныя ёмкасці канцэптаў складваюцца ў вектар, скіраваны на пошук выйсця на паверхню сацыяльнага быцця з ваўчынай ямы, каб вярнуць грамадзе веру «*ў гэты свет і ў гэтае жыццё*». А гэта «*стала сёння нашай самай цяжкай задачай — задачай адкрыць у нашым цяперашнім плане іманенцыі новы спосаб існавання*» [6, 98], пабудаваць соцыум «на новы лад, каб жыць нанова» (Я. Колас).

Арганізаваная ў сістэму канцэптаў свядомасць імкнецца, адзначыў Ж. Дэлёз, да паверхні, да лініі гарызонта. У эстэтыцы Я. Коласа гэтую дынаміку адлюстроўваюць варыянты канцэпту «*даль*» і невычэрпная ў сваёй разнастайнасці тапалогія шырокіх прастораў і непаўторных вузкіх сцежак. Ландшафтны пейзаж у жывапісе выхадцаў з Падняпроўскага культурнага рэгіёну П. Масленікава, В. Грамыкі, Г. Вашчанкі і інш. — фарміруе не толькі эстэтыку жыццесцвярджэння на шырокіх прасторах Бацькаўшчыны. Хвалі залацістага жыта і сіняга льну на ўзгорках і ў далінах, перавалы дарог з’яўляюцца ўвасабленнем вузлоў гістарычнай памяці нацыі, у якіх, як і ў канцэптуальных вобразах філасофскай лірыкі «*даспявае пад смугой /*

*Зліццё надзей, жаданняў сумесь*». Стужка дарогі ці ракі ў ландшафтным пейзажы фарміруе ідэю працягненасці, думку пра новыя магчымасці чалавека. В. Грамыка адкрывае новыя семантычныя рэсурсы ў камбінаванай кампазіцыі, спалучаючы перспектыву з кругавым цыклічным рухам. У выніку складваецца карціна чалавечага самасцвярджэння на паверхні роднай зямлі — на паверхні культурнай сферычнай прасторы. Беларуская наасфера ў XX ст. дасталася нашчадкам напаўразваленай. Найбольш пацярпелі сховы культурнай памяці:

Забыта многае ў жыцці,
З дарогі змецена і змыта.
Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта.

Вазьму шурпаты каласок
На чуйным провадзе саломы —
І адзавецца мне здалёк
Мой продак — сейбіт незнаёмы.

Жней невядомых галасы
Ўсплываюць над постаццю сухою.
Раскалыханы каласы
Густой паўдзённаю смугою.

Тут даспявае пад смугой
Зліццё надзей, жаданняў сумесь.
Гудзе жытнёвы провад мой —
Часоў былых і новых сувязь.

*(А. Пысін. «Забыта многае ў жыцці», 1958)*

У адным з нядаўніх інтэрв'ю Л. Левановіч заўважыў: «На голым месцы фантазія не ўзнікае». К. Чорны пісьменніцкую фантазію кваліфікаваў як *рэальную*. Творчая фантазія Л. Левановіча ўгрунтавана ў рэальную духоўную глебу — у працэс рэканструкцыі беларускай сацыяльнай прасторы і пераадолення ўсялякай дэструкцыі, у тым ліку і паталагічнай схільнасці да дэканструктывісцкага прастарэквання ў філасофіі культуры. Культура беларускага Прыдняпроўя другой паловы XX ст. прасякнута надзвычайнай сілы пафасам вяртання да першапачатковага радзіміцкага адчування чалавечай повязі, «*душы адзінай*». У прозе Л. Левановіча рэмінісцэнцыі з паэзіі А. Пысіна складаюць істотны момант аўтарскага стылю. Створаны А. Пысіным іманентны план канцэпту *вузел* з'яўляецца парадыгмальным і для празаіка Л. Левановіча:

Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел той рассеч,
Не закрануўшы сэрца.

*(«Вузел», 1958)*

Сёння даволі часта аналітыкі вядуць размову пра стужку Мёбіуса і «мембранную» паэтыку. Л. Левановіч у прозе рэалізуе патэнцыял нацыянальнай сферычнай паэтыкі, у рэстаўрацыі якой у другой палове XX ст. культуры Падняпроўя належыць прыярытэтная роля. У беларускай культурнай прасторы жыццятворны імпульс мае першапачатковую адцэнтрабежную дынаміку з глыбінь зямлі, вады і зорных прастораў, няхай сабе ўсяго толькі па «провадзе саломы»:

Я — трэці свет, я кропелька малая
Тых светаў двух — звычайны чалавек,
Што неба і зямлю ў сабе змяшчае
І ў свет адзін злучае іх навек.

*(А. Куляшоў. «Нябёсы — акіян, я знаў даўно», 1962)*

Адцэнтрабежная дынаміка тут падразумяваецца як зваротны рух ужо ачалавечанай, адухоўленай энергіі Сусвету, скіраванай на тварэнне і захаванне «свету аднаго» — сусветнай цэласнасці і раўнавагі.

Менавіта такая перспектыва як мэта і сэнс жыццядзеяння вырысоўваецца з першых старонак шасцікніжжа Л. Левановіча. Сімвалічную прыўзнятасць мае ўжо сцэна абуджэння і вяртання з цяжкага сну да рэчаіснасці Андрэйкі, *хлопчыка з вогненнай вёскі*, у самым пачатку рамана «Шчыглы». Праз акно сялянскай хаты пісьменніку бачыцца панарамная карціна беларускага быцця ў ХХ стагоддзі, намаляваная сродкамі вярбальнага жывапісу:

«*Андрэйка зірнуў у акно і здзівіўся: неба за Бесяддзю дрыгатліва ўспыхвала, было яно густа-барвовае, як набрынялае крывёю, над зубчатым грэбнем лесу поўз, быццам туман, сівы дым. Андрэйку зрабілася вусцішна, слёзы самі навярнуліся на вочы*».

Фавісцкая экспрэсія дрыгатлівых успышак густа-барвовага, «як набрынялага крывёю», неба ўражвае ўсё ж не інтэнсіўнасцю каларыстыкі, а важкасцю сэнсавай ацэнкі гістарычнага быцця нацыі — ахвяры крывавых геапалітычных гульняў у ХХ ст. Тропы Л. Левановіча ўзнікаюць як бы самі сабою, адразу і ў закончаным выглядзе. Скрываўлены візаж актуальнай рэчаіснасці і ператвораная злою воляй у сівы дым будучыня — такой была рэальнасць у першай палове саракавых гадоў, у якую павінна было ўвайсці *трэцяе пакаленне* нацыі. Л. Левановіч у прозе пераймае эстафету філасофскай лірыкі А. Пысіна, у якой філасофскі сэнс актуальнага часу азначаецца, падкрэсліваў у свой час яшчэ Р. Бярозкін, метафарамі *сцякае, адцвітае, нямее, сплывае,* па сэнсу сугучнымі з ключавым канцэптам І. Мележа «*не ўсё яшчэ скончана*».

Сэнсавыя ёмкасці канцэпцыі сцякання і сплывання ў прозе Л. Левановіча ствараюць галаграфічна аб’ёмную карціну нацыянальнага «быцця ў смерць» і заадно адлюстроўваюць вытокі энергіі супрацьстаяння — зваротнага, адцэнтрабежнага руху ў сучаснай мастацкай антрапалогіі:

«— *Адкуль у нас сямёра дзяцей? Я дайжа не ведаю, як іх звалі ўсіх?*»

Ахвяры роду Сахутаў жывуць у мацярынскай памяці Кацярыны: Шурка памерла яшчэ да калгасаў. Пятрок на фронце «*паклаў недзе галовачку*». Зінка «*згарэла як свечка ад болю ў жываце*», Маруська «*напалохалася ад немцаў*», «*пачала хварэць і памерла*». Коля, лепшы вучань Хатыніцкай пачатковай школы, згас ад менінгіту. Выводзячы на сферычную паверхню вынікі «жыцця ў смерць» у родзе Сахутаў, Л. Левановіч выходзіць на ўзровень праблематыкі, акрэсленай Я. Купалам:

Як мы жывём, чаго чакаем —
Не знаем мы, не знае свет;
Не то ўжо мром, не то ўскрасаем,
Змагчы не ў сілах мук і бед.

*(«Як цені», 1918)*

Л. Левановіч паказвае карціну пераадолення нацыяй крывацёку і знямення. Мастацкі эфект дасягаецца сінхраніяй, так бы мовіць, трайнога бачання рэчаіснасці — вачыма трох пакаленняў. Прыярытэт аддаецца трэцяму: мэты жыцця першых двух звяліся да змагання за фізічнае выжыванне ў эпоху знішчэння вякамі створаных ідэалаў. У філасофіі ХХ стагоддзя гэтая з’ява адлюстравана ў змесце канцэптаў *страчанае пакаленне* і *пусты час.*

У рамане «Шчыглы» пісьменнік паказвае, як у адказ на выклікі «пустога часу» фарміруюцца запыты пакалення, сталенне якога адбывалася пасля сутычкі гітлерызму са сталінізмам. У памяці Андрэйкі бабуля Васіліса засталася такой, якой ён убачыў яе ў дзень смерці: «*Бабуля нагадвала нейкую нябачную лугавую краску, падрэзаную касою і таму ўсохлую, зжаўцелую*». Гэтая фраза можа быць успрынята як мастацкая аўтаномная мініяцюра — квантэмная каштоўнасная ацэнка жыцця аднаго са страчаных пакаленняў. Забіваючы ржавымі цвікамі труну, стары Гы-

лігор успомніў часіну, калі ў ранняй маладосці Васіліна цвіла «*што макаў цвет*». Тады да яе і пасватаўся Патап, у будучыні — Андрэйкаў дзед, пра якога ўнук ведае толькі тое, што чуў некалі ад старэйшага брата Колькі. Перад вачыма паўстае толькі сілуэт вобраза: «*З бародкай сівенькай быў. З кійком хадзіў*». Л. Левановіч фарміруе асацыятыўна-сэнсавы рад мэтанакіравана, захоўваючы належны рытм мастацкай рэцэпцыі. Ціхае жыццё і ціхая смерць бабулі Васілісы сталі для Андрэйкі вялікім урокам чалавечай самаахвярнасці і годнасці. Верная самой сабе і таму няпісанаму кодэксу грамадоўскай, абшчыннай маралі заставалася бабуля і тады, калі, знясіленая, не магла ўжо выйсці з палаючай хаты, калі нетыповы немец вынес яе і пакінуў паміраць у агародзе, далей ад агню. Андрэйкава пакаленне не чула ў маленстве «легендаў і казак былых пакаленняў» з вуснаў мудрых дзядоў. Чалавечую годнасць продкаў яно ўспрымала на іх смяротных рубяжах.

Бацькі, заціснутыя падчас калектывізацыі ў кулаку чырвонай бюракратыі, таксама не змаглі раскрыць свой праект сялянскай ідыліі. Не было нават магчымасці вынесці на паказ сваю крыўду ўсю. Бацькі вымушаны былі забыць свае ідэалы і замкнуць свае вусны пры жыцці: «*І малатаркі шкода. І коней шкода, — ледзь не са слязьмі ў голасе гаварыў Мацвей. — А галава, братка, даражэй... Сям'я, дзеці...*»

Так падводзяць вынікі асэнсавання сітуацыі занесеныя ў спісы на раскулачванне і высяленне Мацвей Сахута і Макар Казакевіч («Паводка сярод зімы»). Аб пагрозе заўтрашняга дня іх папярэдзіў Антон Пракапенка — сябра ў часы юнацтва і старшыня сельсавета ў час «вялікага пералому», на пачатку доўгага падзення ў яму нонсэнсу. Чарка за «новую жызнь», «за калгас» была ў хаце Казакевіча чаркай на хаўтурах па сялянскай гаспадарцы, па малатарні з конным прывадам, па сялянскай мары, па ідэі культурнага гаспадара, якую актыўна ўвасабляў у жыццё на пачатку 30-х гадоў наркам земляробства Зміцер Прышчэпаў, абвешчаны ў хуткім часе ворагам народа. Камісар земляробства З. Прышчэпаў і камісар асветы А. Баліцкі вярталі ў жыццё ідэю культурнага гаспадара, якая ў Беларусі ўжо стала сацыяльнай рэальнасцю ў эпоху Рэнесансу ў XVI ст. і была ўзаконена Уставай на валокі 1557 года. Парцэльнае землекарыстанне ў Беларусі ўмацавала гаспадарскую годнасць селяніна.

Рэнесансную ідэю з народнай свядомасці не змаглі выкараніць ні «неистовые ревнители» рафінаванай пралетарскай ідэалогіі, ні фашысцкія вылюдкі. Беларускія нацыянал-камуністы спрабавалі вярнуць да жыцця ідэалы сярэдняга класа ва ўмовах сталінскай дыктатуры. Антон Пракапенка («Шчыглы», «Паводка сярод зімы») у першыя пасляваенныя гады, займаючы пасаду старшыні Лабанаўскага райвыканкама, бярэ ў свае рукі вырашэнне пытанняў кадравай і гаспадарчай палітыкі. У выніку ў раёне калгаснікамі кіруюць не прыблудныя авантурысты і люмпены, а ўдумлівыя і адказныя перад сваімі людзьмі гаспадары, здольныя ператварыць калгас у кааперацыю. У Хатынічах старшынёй калгаса стаў Макар Казакевіч, хоць з фронту ён вярнуўся без нагі. Стыль яго кіравання гаспадаркай — гэта старонка з гісторыі самасцвярджэння беларускага гаспадара-селяніна ў савецкім соцыуме да ўзбуйнення калгасаў, калі ў вёсцы яшчэ неяк дзейнічалі нормы звычаёвага права, агульнага сходу.

Антон Пракапенка аддаваў перавагу няпісанаму закону людскасці, з якім усё ж немагчыма было паяднаць патрабаванні партыйнай бюракратычнай мудрасці, што ў год «вялікага пералому» (1929) была скандэнсавана «в один громящий кулак». Дабратворны ўплыў беларускай народнай мудрасці адчувае часам і сакратар райкама партыі Акапян — калі ён пакідае свой кабінет і ідзе да людзей. Так было на лесапавале зімой: «*Ён ехаў і баяўся, што з усіх бакоў будуць сыпацца крыўды і прэтэнзіі, а тут людзі валяць дрэвы на марозе, па калені ў снезе, ды яшчэ і жартуюць. Адкуль у гэтых людзей такая вынослівасць, жалезная цярплівасць?*»

Леаніда Левановіча, аднак, больш цікавяць жывыя праявы, чым вытокі народнай жыццяздольнасці. Празаік вылучае асноўныя тыпы носьбітаў і захавальнікаў

народнай мудрасці ў Хатынічах — філасофіі існавання, сацыяльнай філасофіі і фенаменалагічнай фальклорнай эстэтыкі. Названыя формы народнай аксіялогіі існуюць у сінкрэтычнай форме — як культура «на штодзень». Яе носьбітамі з'яўляюцца вобразы бабулі Васілісы, старога Гылігора, Макара Казакевіча, Кацярыны і Мацвея Сахутаў. Л. Левановіч спецыяльна не завастрае ўвагі на пераемнасці і трансляцыі гуманістычных традыцый духоўнай і сацыяльнай культуры продкаў, але з рамана ў раман нарастае ў яго шасцікніжжы трывога за «пласты народнай жыццяздольнасці» (К. Чорны) рассяляненага пакалення вёскі.

Маўчанне бабулі Васілісы, сціслая гісторыя страт у звернутым нібы да самой сябе маналогу Кацярыны — гэта выніковы рубеж беларускага народнага, сялянскага экзістэнцыялізму ў яго мацярынскай «рэдакцыі». Выступленне Макара Казакевіча перад вучнямі чацвёртага (выпускнога) класа Хатыніцкай пачатковай школкі — гэта таксама маналог-запавет, у якім народная сацыяльная філасофія перадаецца пакаленню ў сваёй першапачатковай чысціні, не заплямленая рыторыкай казённага замілавання мудрасцю правадыроў-тыранаў:

«*Ета вось цяпер здаецца, што ў нас, у Хатынічах, людзей багата. Сем'і былі вялікія... Страшэнную вайну мы перажылі, колькі загінула вашых старэйшых братоў, дзядзькоў. А ў некаторых з вас не вярнуўся дадому бацька, — старшыня памаўчаў, бы ўшаноўваў іх памяць. У класе зрабілася надзвычай ціха, толькі дзяўчынка шмарганула носам, мабыць гатовая заплакаць па кімсьці з блізкіх. — А каторыя вярнуліся на мыліцах... Мы будзем старэць. Так у прыродзе заведзена. А вы, маладыя, павінны пайсці нам на змену. Так спрадвеку вялося. І гэты ланцуг не павінен разрывацца. Вы цяпер вучыцеся розным навукам, кніжкі чытаеце. Вучыцца трэба рабіць. І майстраваць нешта. Хай ета будзе шпакоўня. Табурэт, зроблены сваімі рукамі. Касіць вучыцца, дровы калоць. А дзяўчаткам — шыць, вышываць, ткаць, прасці, — некаторыя заўсміхаліся. — Вы думаеце, што крамніны ўсім хопіць? Але ж сподняе са свайго палатна здаравей...*

*(...)*

*І не толькі працаваць трэба вучыцца, але і спяваць, скакаць, на гармоніку іграць. Нам і гарманісты свае патрэбны. Вось падрастайце. Будзе ў каго ахвота і здольнасць, пашлём на курсы баяністаў. А то клуб у нас ёсць, а чакаем, пакуль аднекуль прыедзе музыка...*»

Макар вярнуўся з сусветнага крывавага месіва са скалечаным, няпоўным целам, але яго дух па-ранейшаму жыў патрэбай «майстраваць нешта». «Нешта» ў разуменні беларускага селяніна — гэта ўсё тое, што адпавядае яго разуменню людскасці, норме «паміраць збіраешся, а жыта сей». Рацыянальны праект будучыні Казакевіча нагадвае канцэпцыю арыстоцелеўскай палітэі, сацыялогасу, які дзейнічае ў адпаведнасці з законамі народнай натурфіласофіі, як «*у прыродзе заведзена*». Светаўзіранне Мацвея Сахуты з яго схільнасцю да дасканалення духоўнай сферы, адшукання і ўсталявання ідэалу дабра нагадвае стыхійны варыянт беларускага народнага платанізму. Знайшоўшы рулон тканіны, Сахута шукае і знаходзіць таго крамніка, які праз свой недагляд можа быць асуджаны за растрату. Свайго здольнага да вучобы Андрэйку Мацвей хацеў бы ў сталасці бачыць ляснічым. Гэтая пасада, на думку Мацвея, дае чалавеку магчымасці свабоднага і забяспечанага існавання ў згодзе з законам. Эталонам руху да сонца для Мацвея, як і для бабкі Мар'і з трылогіі Я. Коласа «На ростанях», з'яўляецца дрэва. Новы садок каля хаты Мацвей садзіў разам з Андрэйкам: «*Ты прыкмячай усё, вучыся. Мяне бацька некалі вучыў*». Андрэйка на ўсё жыццё запомніў, як бацька кожную яблыньку апускаў карэннямі ў разбаўтаную гліну, прыпадымаў, прысыпаную, угару, «*каб не было там пустаты*». Побытавая сітуацыя закладкі саду каля хаты вырастае ў сімвалічны вобраз пераадолення *пустотнага часу*: «*Андрэйка таксама прыціх, ён думаў са шкадаваннем, што рана памёр дзед, і другога дзеда — матчынага бацьку — ён не ведаў. Толькі помніў бабу Васілісу, матчыну маці, ды і то ні разу не пагаварыў з ёй, а мо і гаварыў, ды забыўся. Затое пахаванне яе — а яна памерла, калі прагналі немцаў, урэзалася ў памяць назаўсёды*».

Дзве мадэлі народнай філасофіі, увасобленыя ў вобразах Макара і Мацвея, сваім вытокам маюць мастацкі канцэпт *шлях*, у беларускай літаратуры надзвычай насычаны інтэлектуальнай і эмацыянальнай інфармацыяй. Семантыка жыццёвага шляху ў беларускай народнай культуры ўвасоблена ў сімволіцы ручніка. Мастацкай аналогіяй ручніка ў рамане «Паводка сярод зімы» з'яўляюцца вытканыя з кужалю палотны, якія вымочваліся і рассцілаліся на паплавах пад сонцам. Гэтая праца была ганаровым абавязкам падлеткаў: дарослыя ад цямна да цямна працавалі на сенажаці ці ў полі.

Леаніда Левановіча хвалюе праблема гістарычнай дзеяздольнасці герояў яго раманаў. Пісьменнік даследуе ўзровень асэнсавання народнай думкай гістарычнага шляху нацыі. Пытанні сэнсу гісторыі паўстаюць раней ці пазней перад усімі персанажамі яго раманаў, акрамя партыйных функцыянераў, якім дазволена думаць толькі пра выкананне планаў паставак, нарыхтоўкі, дзяржаўнай пазыкі, перавыкананне заданняў на пяцігодку за чатыры гады. Настаўнік Пётр Мамута ў гутарках са старым археолагам спрабуе ўзняць заслону часу, аднак тая прага філасофскага пазнання патаемнага сэнсу быцця, якая была ўласціва героям Я. Коласа і М. Гарэцкага, новым пакаленнем вясковага настаўніцтва ў сярэдзіне XX ст. была страчана, выцеснена сублімацыяй асветніцкай дзейнасці — прапагандай пастаноў, прынятых партыйным кіраўніцтвам.

На першы погляд можа паказацца, што пасляваенная вёска, паказаная ў раманах Л. Левановіча, абяскроўленая і галодная, ужо вычарпала свае духоўныя і інтэлектуальныя рэсурсы, што ў вяскоўцаў захавалася толькі здольнасць да цярплівасці і гатоўнасць упрэгчыся ў ярмо ці ў хамут замест страчаных валоў і коней. У душы Мацвея і Кацярыны пасля перажытых страт ужо нібыта нічога і не засталося. Мары, надзеі, думкі і нават пакуты сплылі ў вечнасць разам з нябачнымі свету слязьмі. Аднак жа Л. Левановіч нейкім унутраным зрокам бачыць ісціну і сутнасць не толькі ў стратах. Дыялектыку пераадолення паласы спусташэння пісьменнік адлюстроўвае не ў формах барацьбы супярэчнасцей, а як дынаміку плана іманентнасці. У дадзеным выпадку эквівалентным гэтаму філасофскаму тэрміну можа быць паэтычны канцэпт «прайсці праз вернасць» — маральны імператыў, які складваўся вякамі, а вербальнае афармленне атрымаў у аднайменным зборніку вершаў М. Танка ў 1978 г. План іманентнасці мае на ўвазе станаўленне, эвалюцыю суб'екта з захаваннем вернасці самому сабе, складу сваёй душы, свайму патэнцыялу. Л. Левановіч даследуе гэты самы план іманентнасці ў сітуацыі галоднага існавання ў вёсцы ваеннага і пасляваеннага часу. Быў яшчэ і голад інфармацыйны. Прага пазнання ў Андрэйкі была такой жа моцнай, як і прага жыцця. Старэйшы яго брат Васька даволі хутка вызначыўся ў сваіх жыццёвых арыентацыях. Хлопец пераканаўся на ўласным вопыце, што ў калгасе ён не зможа сабе забяспечыць свабоднае і надзейнае існаванне. Андрэйка ж імкнуўся спасцігнуць закон уладкавання чалавечай грамады. Школьная навука не выводзіла думку на шляхі пошуку. Андрэйка прагна чытаў газеты, якімі былі абклеены ў хаце сцены. У газетах ішла бясконцая плынь славаслоўя ў гонар бацькі ўсіх народаў. У школе вучням давалася заданне вучыць на памяць урыўкі з «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну», складзенага ідэалагічнымі функцыянерамі і па загадзе зарыфмаванага чатырма слыннымі паэтамі. І вось пад уплывам афіцыёзнай рыторыкі здольны хлапчук і сам ўзяўся складаць падобнага кшталту оды:

Як чорны арол ты лятаеш высока,
Як бацька наш родны глядзіш ты далёка.

З-за адсутнасці паперы юны аўтар змясціў свой твор у матчынай працоўнай кніжцы, распісанай палачкамі «трудодней пустопорожних». Здавалася, творчы шлях патэнцыяльнага паэта Крамля ўжо надзейна скіраваны на шлях партыйнасці і нарматываў сацыялістычнага рэалізму. Аднак *прага* паўнацэннага жыццядзеяння абуджае ў падсвядомасці падлетка патрэбу ў пошуку ісціны. І вось па-

сля афіцыйнага святкавання пад наглядам улады дня рэвалюцыйнага перавароту хлопчык звярнуўся з пытаннем да бацькі: «*Тата, а калі б не было Кастрычніцкай рэвалюцыі, як бы мы жылі? Я б вучыўся ў школе?*» У сынавым пытанні было нешта такое, што прымусіла Мацвея Сахуту, былога парабка ў маёнтку пана Галынскага і былога гаспадара, «*моцна задумацца*». У супольным пошуку ісціны бацька і сын знаходзяць сваю, народную філасофію навейшай гісторыі — выказванне ў жанры традыцыйнай народнай развагі-гутаркі:

«— *Вось ты пытаешся, як жылі даўней. Цяжка жылося, а неяк усё прасцей было. А цяпер... Чым далей, тым болей усё заблытваецца, ускладняецца... Усё па-новаму... А калі ж па-добраму, па-чалавечаму? Раней мучыў пан, а цяпер душыць план... Усё давай, давай, — бацька ўздыхнуў, паківаў галавою. — Эх, сынок, сынок, каб ты ведаў, колькі людзей палягло за ету рэвалюцыю! У грамадзянскую вайну на маіх вачах гінулі людзі як мухі... А тады калікцівізацыя етая ўсчалася... І я чуць не загрымеў на Салаўкі...*».

Мацвей да *паспалітага добрага* (Скарына) ідзе ад аб'ектыўна існуючага *безумоўна маральна добрага* (Кант). Яго маналог-роздум можна кваліфікаваць як запавет сыну і як народны трактат па сацыяльнай філасофіі. Пасля размовы з падлеткам-сынам Мацвей успомніў сваю застольную прамову пра сусветнае значэнне Кастрычніка — «*і яму зрабілася сорамна, бо гаварыў як пішуць у газетах, гаварыў няпраўду*». І ў гэты момант бацька «*з любасцю зірнуў на свайго цікаўнага сына*».

Мода на эдзіпаў комплекс Л. Левановіча зусім не цікавіць. Праблема *бацькі і дзеці* ў яго раманах вырашаецца на шляху сумоўя суаднесеных у пошуку ісціны свядомасцей. Супольнымі намаганнямі бацька і сын Сахуты вызваляюцца са змяіных скруткаў афіцыйнай хлусні. Дзеля большай пэўнасці Андрэйка з прынцыповым пытаннем звярнуўся і да старога Гылігора: «*У газетах усё пішуць пра Сталіна, што ён бацька і сонца... А вы, дзеду, любіце Сталіна?*» Хлопчык падсвядома адчуваў, што да Пятра Еўдакімавіча, дырэктара школы, звярнуцца з такім пытаннем не мае сэнсу. Стары Гылігор не толькі з выгляду падобны на Сакрата, асуджанага ўладамі на смерць. Дзед заўсёды дакладна вызначае сэнс сітуацыі па-сакратаўску, карыстаючыся метадам маеўтыкі, які скіроўвае вучня на самастойны пошук:

«— *Сталіна? А што ён мне? — хмыкнуў дзед, падштурхнуў кепку на патыліцу, нахмурыў белы лоб, зморшчынкі-баразёнкі збегліся шчыльней. — Я з ім пакамісь дзяцей не ксціў, гарэлкі не піў... От, каб ён падаткі адмяніў, тады б я яго палюбіў. А так няма за што, Андрэйка*».

Пытанне пра Сталіна ўзнікла як бы спантанна, калі Андрэйка зносіў дадому палотны. Яму хацелася ўзяць два стусы, складзеныя гармонікам, за адзін раз. На кладцы хлопчык, аднак, пахіснуўся і ледзь не ўпаў разам з палотнамі ў балотную лужыну. І тут вельмі своечасова ў прыцемках пачуўся аднекуль збоку хрыплаваты голас дзеда Гылігора: «*Лень табе схадзіць яшчэ раз. Дык напінаешся етак. Кілу нажывеш змалку, тады век будзеш мучыцца*».

Думка пра гістарычны шлях Бацькаўшчыны і дзеяздольнасць новага пакалення пераключаецца ў віртуальную рэчаіснасць, у якой на першы план выходзіць парадыгматычная значнасць побытавай сітуацыі. У сне Андрэйка, складваючы палатно ў стус, адчуў, што нехта яму перашкаджае: «*Зірнуў і аж здрыгануўся: нехта ў бліскучых хромавых ботах ідзе да яго па белым палатне, за ім цягнуцца чырвоныя сляды. Андрэйка падняў галаву і яшчэ болей спалохаўся: перад ім быў Сталін у малінавай фуражцы, белым кіцелі з жоўтымі пагонамі, у зубах дымілася люлька*». Правадыр сам захацеў прачытаць верш пра сябе з працоўнай кніжкі калгасніцы Кацярыны Сахуты. Андрэйка, пачуўшы пахвалу за свой твор і матчыны працадні, узрадаваўся і хацеў сказаць праўду — «*што гэтыя працадні — проста палачкі, за іх нічога не даюць, а падаткі — малако, мяса, яйкі, воўну — трэба здаваць, што ў яго, Андрэйкі, няма сшыткаў, што ён даўно не еў*

*хлеба і бульба ў іх скончылася, адно шчаўе ды малако ядуць, а бацьку кожную вясну трасе цяцюха...*».

Аднаго жадання выказацца было дастаткова, каб сітуацыя крута змянілася: «*падкаціла бліскучая зялёная “Пабеда”, якая пераехала ўсімі чатырма коламі белыя палотны, на іх засталіся чорныя ўзорыстыя палосы, нібы шрамы на целе*». Сталін тым часам «*заціснуў хлопчыку далонню рот і панёс да машыны*». А «*ад Гылігоравай хаты кінулася да іх маці ў доўгай белай кашулі, з распушчанымі валасамі: “Што ты робіш, душагуб! Аддай маё дзіця!..”*»

Гісторыя напісання паэтычнага твора выдатнікам Хатыніцкай пачатковай школы «таварышам Сахутам» нагадвае па форме ўстаўную навелу, структурная цэласнаць якой забяспечана сэнсавым ўзаемадзеяннем адносна самастойных сінтагмаў. Паэтыка «абразкоў» і «згадак», характэрная для беларускай прозы нашаніўскага перыяду, сёння часам перарастае ў структуру аповесці ў рамане і рамана ў цыкле раманаў. Л. Левановіч не адчувае спакусы пісаць «раман пра раман». У яго прозе «згадка згадку кліча», каб пабудаваць ланцужок узаемадзеяння сэнсу і нонсэнсу ў чалавечай гісторыі і адкрыць магчымасці і перспектывы пераадолення сацыяльнай дэструкцыі. «*Чорныя ўзорыстыя палосы, нібы шрамы на целе*», пакінутыя на выбеленых палотнах усімі чатырма коламі сталінскай бліскучай зялёнай «Победы» — унікальная па сэнсавай ёмкасці экспрэсіі карціна зглумленай мары, беларускага шляху і лёсу ў XX стагоддзі. Лагічным яе завяршэннем з’яўляецца вобраз маленства, украдзенага вялікім злодзеем-інквізітарам, — вобраз пакалення, якое вырасла з заціснутым найсвятлейшай далонню ротам.

Прынцып сінтагмы ў раманнай структуры Л. Левановіча заканамерна вядзе пошукавую думку за межы побытавай рэальнасці. Выхад у віртуальную рэчаіснасць мяняе прывычныя велічыні складнікаў цэласнай карціны быцця, мяняе і напрамкі іх узаемадзеяння. Вобраз вытканага з кужалю *палатна-шляху* падводзіць вынікі рассялянньвання беларускай нацыі ва ўмовах сталінскай тыраніі, вынікі раззямельвання духоўнага свету сучаснага беларуса. Л. Левановіча цікавяць духоўныя рэсурсы абяскроўленай нацыі, якая апынулася не на горным перавале свайго шляху, а перад пагрозай правалу ў «ваўчыную яму». У фальклорным эпасе культурны герой у крытычнай сітуацыі валодае здольнасцю мяняць свой рост. У аповесці Л. Кэрала «Прыгоды Алісы ў Краіне цудаў» (1865) тое ж адбываецца з галоўнай гераіняй пасля яе запаволенага падзення ў глыбіні нонсэнсу. У раманнай прозе Л. Левановіча значнасць яго герояў таксама не застаецца нязменнай. На рубяжах пераадолення смяротнай пагрозы яны становяцца волатамі духу — канцэптуальнымі персанажамі. Кацярына Сахута — гэта беларуская самаахвярная маціптушка, якая вырвала дзіця з учэпістых кіпцюроў сцярвятніка. Стары Гылігор, Мацвей Сахута, Макар Казакевіч — манументальныя вобразы, у якіх увасоблены рэсурсы інтэлектуальнага патэнцыялу сялянства, мадэлі дзейнага варыянта народнай прафіласофіі, тыпалагічна блізкія да школ, аформленых Сакратам, Платонам і Арыстоцелем. Да маштабаў эпічнай значнасці вырастаюць «светлыя вобразы закінутых дзяцей» (Я. Колас), сярод якіх вылучаецца вобраз Андрэйкі Сахуты. Вялікую ролю ў духоўным жыцці маладога пакалення адыгрываў у пасляваенныя гады і народны мелас — песні, якія спявалі не таму, што некаму патрэбны былі для перамогі на конкурсах і аглядах, а таму, што спявалася.

Мастацкая дынаміка раманаў «Шчыглы» і «Паводка сярод зімы» адлюстроўвае патэнцыял духоўных рэсурсаў беларускай нацыі на заключным этапе існавання савецкай імперыі і рассяляненай ужо вёскі. Л. Левановіч выходзіць на ўзровень канцэптуальнага абагульнення, падкрэсліваючы змястоўную сувязь і пераемнасць сваёй творчасці з жыццесцвярджальным пафасам беларускай прозы 20-х гадоў:

«*Невыказная першародная радасць жыцця перапаўняе да краёў душу гарэзлівага падлетка. Веліч і прыгажосць прыроды, яе колеры і пахі, цеплыню зямлі і чысціню неба падсвядома, усёй сваёй істотаю прагна ўбіраў Андрэйка Сахута, жыхар напалову спаленай, напалову забітай, змучанай голадам і бядотаю вёскі*

*Хатынічы. Ён рос, дужэў і радаваўся насуперак “гарачай” і “халоднай” войнам, насуперак злавеснаму ценю атамнага грыба*».

Леанід Левановіч таксама ўсёй сваёй істотаю імкнецца ўзбагаціць дадатковымі вітальнымі сэнсамі канцэпт «радасць існавання», які ў культуры 20-х гадоў сфарміраваўся як канцэнтраваная альтэрнатыва некрафільству. Філасофія абясцэньвання жыцця ў ХХ стагоддзі дасягнула свайго апагея ў гітлерызме і сталінізме. Л. Левановіч не можа заставацца абыякавым да «ўдасканаленых» і модных форм сучаснага дэструктывізму — злёгку замаскіраванага некрафільства. Пісьменнік настойліва працягвае эстафету жыццесцвярджальнай альтэрнатывы, характэрную для беларускай літаратуры ХХ ст. Канцэптуальны ўзровень мыслення ў яго прозе адкрывае багатыя магчымасці для развіцця адпаведнай найноўшаму часу філасофіі жыцця.

Традыцыйны беларускі канцэпт «шлях» («адвечным шляхам», «млечны шлях», «крыжовы шлях») у прозе Л. Левановіча насычаны кансістэнцыяй, у якой пераважае перцэпцыя (адчуванне) змешанага, скажам так, часу. Празаік рыхтуе духоўны грунт для запаўнення паласы безгалоўя і бесчасоўя («пустога часу») эпохай чалавечага, сацыяльнага жыццядзеяння, якое не мае нічога агульнага з рухам да «зямлі абяцанай», якой нібыта можна дасягнуць нават не за сорак, а ўсяго толькі за дваццаць год, калі верыць прынятай пры Хрушчове праграме КПСС.

Леанід Левановіч умее паказаць магчымасць будучыні, якая вырастае з сучаснасці — як расліна з зерня. Інстынктыўна на традыцыйныя нацыянальныя каштоўнасці арыентуюцца людзі ў тых калгасах Лабанаўскага раёна, дзе на пасады старшынь былі выбраны пад апекай Антона Пракапенкі кіраўнікі з традыцыйнай гаспадарскай арыентацыяй. Макар Казакевіч з фронту прыйшоў без нагі, але ён памог сваім людзям стаць на ногі: вярнуцца з зямлянак — пячор пасляваеннага часу — у светлыя хаты, пасадзіць каля хат сады, пабудаваць уласную электрастанцыю. Мікалай Раковіч, старшыня калгаса «Радзіма», таксама з вайны прыйшоў «аднабокім», з абсечаным левым плячом, але гэта не перашкодзіла яму ўзяць на ўцалелае правае плячо двайны клопат — не толькі пра бульбу і хлеб, малако і мяса, але і пра клуб і бібліятэку. Клуб — «*хай сабе аднапавярховы, драўляны, але даволі вялікі, прасторны: ёсць глядзельная зала, пакой для заняткаў гурткоў, а ў другой палавіне размясцілася бібліятэка*» («Сіняе лета») — старшыня лічыў адным з найважнейшых дасягненняў у пасляваенным адраджэнні сваёй вёскі. Клуб і бібліятэка для Раковіча былі такой жа ўцехай, як электрастанцыя і святло ў хатах для Казакевіча.

Леанід Левановіч свядома адмежаваўся ад казённай канцэпцыі калгаснага раю — ідыліі «маякоў» у нарысах і раманах, напісаных «у добры час» паводле рэцэптаў нарматыўнай тэорыі сацыялістычнага рэалізму. Крыніцы кіраўнічай мудрасці народа, падкрэслівае празаік, не ў дырэктывах партыйнай бюракратыі, а ў народнай сістэме каштоўнасцей. У раманах Л. Левановіча па-новаму паказана галерэя «абсечаных» творцаў чалавечага соцыуму на руінах Бацькаўшчыны пасля вайны.

Пісьменніка цікавіць здольнасць новых пакаленняў вярнуць Бацькаўшчыну на яе ўласны шлях гістарычнага развіцця. Вырашэнне ў мастацкай літаратуры такой праблемы ставіць яго перад неабходнасцю аб’ёмнага бачання гісторыі савецкага соцыуму. Л. Левановіч у сваіх раманах зрабіў падарожжа ў залюстэркавы свет сацыялістычнай структуры, прапанаванай свету ў якасці эталона расійскімі марксістамі-ленінцамі. Л. Левановіч вывеў на паверхню наасферы інстытут *нарыхтовак* і *паставак*, якія ў савецкай мадэлі сацыялізму існавалі ў формах развёрсткі, натуральнага падатку, дзяржаўнай пазыкі, падарункаў да памятных дат і разнастайных збораў. Пранікненне ў залюстэркавы (падводны, падземны, замагільны) свет з’яўляецца характэрнай асаблівасцю стылю фальклорнай прозы. Люстэрка ў эпоху Рэнесансу актыўна выкарыстоўвалася ў жывапісе, пазней — у творчасці рамантыкаў.

## Жалезны кулак нарыхтоўшчыка

Выдатнай знаходкай у творчым пошуку Л. Левановіча ў савецкай залюстэркавай рэальнасці з'яўляецца мастацкі канцэпт *жалезны кулак*.

Пасля раскулачвання заможных гаспадарак, рассяляньвання вясковага насельніцтва ў працэсе калектывізацыі і дэтэрытарызацыі інтэлігенцыі партыя камуністаў узяла ў свае рукі ўладу эканамічную і палітычную і сама ператварылася, як сказаў паэт Крамля, у «руку миллионопалую, сжатую в один громящий кулак». «Жалезны кулак» нарыхтоўшчыка Паўла Крупадзёрава ў прозе Л. Левановіча жыве нейкім аўтаномным жыццём, як ганарысты чыноўніцкі нос ў аднайменным апавяданні М. Гогаля ці як галава, а то часам толькі адна ўсмешка Чашырскага ката ў аповесці Л. Кэрала «Аліса ў Краіне цудаў». Праўда, кулак-ударнік усё ж трымаецца на сухой руцэ загадчыка нарыхтоўчай канторы, да працы не здатнай, але надзейнай тады, калі трэба выкалочваць у сялянскіх дварах пастаўкі збожжа, мяса, малака, воўны, скуры і іншай сыравіны. Кулак нарыхтоўшчыка можа быць пераканаўчым доказам і тады, калі ёсць недахоп аргументаў у дыскусіі: «*Крупадзёраў так урэзаў кулаком па стале, што аж падскочыў масіўны чарнільны прыбор, зялёная драўляная ручка скацілася са стала і ўдзяўбнулася пяром у брудную падлогу*». Пачціва ставіліся да кулака Крупадзёрава і раённыя начальнікі: кулак забяспечваў першынства ў сацыялістычным спаборніцтве.

Павел Крупадзёраў, малапісьменны сялянскі хлопец, хутка ўцяміў свае магчымасці ў сітуацыі ліквідатарскай актыўнасці новай улады: вызначыцца можна, знішчаючы ўсё існае, але пад лозунгамі будаўніцтва новага свету. Ідэя ж новага рэалізуецца ў датэрміновым выкананні даведзеных планаў нарыхтовак і паставак.

М. Хайдэгер, раскрываючы філасофскі сэнс паняццяў «быццё» і «існае», падкрэсліў значэнне «*па-ставу*» ў сучасным таталітарным соцыуме. Свет, згодна з афіцыйнай ідэалогіяй, існуе для таго, каб *па-стаўляць* уладзе ўсё магчымае, у тым ліку і кадры, якія вырашаюць усё, што ім загадае вырашаць вышэйшая ў іерархіі ўлады каста. Па-стаўляць у метафізіцы М. Хайдэгера азначае вырываць быццё чалавека з быцця наогул. Важна, падкрэслівае нямецкі філосаф, «*навучаючыся і навучаючы мысленню, заставацца адначасова на шляху і ў патрэбны момант быць на месцы*». Вышэйшая бюракратыя якраз і стараецца кіраваць так, каб пастаўленыя ёю рэкруты («салдаты партыі») ніколі не адчувалі сябе на сваім месцы і былі ўсяго толькі нарыхтоўшчыкамі, для ўсіх чужымі. Пакінуўшы па сваёй волі сялянскае асяроддзе і атрымаўшы ўладу, Крупадзёраў поўнасцю страціў пачуццё роднасці з людзьмі, з зямлёй, на якой вырас. У камсамольскім юнацтве, калі заахвочваўся энтузіязм руйнавання цэркваў, Крупадзёраў вызваліўся ад пачуцця адказнасці перад людзьмі. Пячатка на пасведчанні наркамата вызваляла яго ад адказнасці і перад раённым кіраўніцтвам. Адкрывалася шырокае поле гульні для жалезнага кулака ў нарыхтоўчай дзейнасці. Раскілзаны ўладай малапісьменны сялянскі хлопец Павел Крупадзёраў у хуткім часе ўжо не задавальняўся злоўжываннямі і споўз на крымінальную сцяжыну.

Шматаблічная тыпалогія партыйна-савецкага нарыхтоўчага кулака ў раманах Л. Левановіча паказана ў гістарычнай дынаміцы. Своеасаблівым двайніком Паўла Крупадзёрава праз усе раманы праходзіць вобраз Валодзькі Бравусава. У войска ён трапіў ужо неабцяжараны той адказнасцю за жыццё, з якой у душы ідуць па дарогах жыцця-вайны Мацвей Сахута і Макар Казакевіч. Займеўшы ў партызанскім атрадзе ўладу камандзіра ўзвода і зброю, юны Бравусаў гатоў быў пусціць у расход любога, хто трапляў яму пад адпаведны настрой. У войску хуткага на рашучыя павароты байца заўважыў незнаёмы яму лейтэнант з «*бледным, хударлявым тварам*» і вострым позіркам «*стомленых вачэй пад чырвонымі павекамі*» — нібы носьбіт нежыці: «*Нам трэба ведаць, пра што гавораць між сабой салдаты, хто пра што думае*» — такое было першае заданне Уладзіміру Усцінавічу. Валодзь-

ка Бравусаў ведаў, што салдат Якаў Рацэеў думае пра скасаванне калгасаў пасля вайны. Гэта, безумоўна, зацікавіла лейтэнанта з асобага аддзела. Рацэеву пасля размовы ў асобым аддзеле няцяжка было вызначыць даносчыка: «*Ты накляпаў на мяне, шчанюк?*» Бравусаў лёгка і хутка знаходзіць выйсце з прыкрага становішча: падчас атакі можна непрыкметна пасляць кулю ў патыліцу Рацэева. Рашэнне было цвёрдае, але Бравусава на нейкую долю секунды апярэдзіў варожы снарад. Валодзька не паспеў націснуць курок і здзейсніць забойства, аднак сумленне праз усё жыццё напамінае яму пра гібель Рацэева. Звычка дзейнічаць нахрапіста і з прымяненнем зброі стала дамінуючым комплексам у псіхіцы Бравусава. Валодзька ні ў чым не ўступіў бы Крупадзёраву, калі б яго імпэт не стрымлівалі начальнік міліцыі Гоманаў і пракурор Ясючэня.

Яны — таксама «ўсечаныя» інваліды вайны. Іхнія размовы з Бравусавым таксама нагадваюць пра тыя, чалавечыя сэнсы народнай культуры, якія закладзены ў выказваннях Гылігора, Мацвея, Казакевіча. Ясючэня пацікавіўся ў Бравусава, ці зрабіў ён за ўсё сваё жыццё хоць адну бочку, ці ведае, што чыгунок каштуе восемдзесят рублёў. Напомніў участковаму і пра тое, што Просіны дзеці, можа, і не бачылі свайго бацьку-паліцая, сына раскулачанага ў час калектывізацыі хатыніцкага гаспадара. А яшчэ звярнуў увагу і на гістарычны лёс беларускай нацыі: «*Такую вайну мы перажылі, браток ты мой*». Ясючэня не прыняў непісьменна зробленага Бравусавым па камандзе старшыні Свідэрскага акта, але нічым не пагражаў стараннаму службісту і на развітанне з надзеяй шчыра паціснуў яму руку. «Браток» Бравусаў, можа, упершыню «праглынуў даўкі камяк» і адчуў прыкрае, але і ачышчальнае пачуццё сораму.

Леанід Левановіч мае зоркае вока на сховы беларускай людскасці і знаходзіць яе ўсюды, дзе працуюць рэкруты старой беларускай вёскі. У пракуратуры і міліцыі — таксама. І ўсё ж пісьменнік не спяшаецца паказваць абсалютны трыумф дабра, перамогу над злом ці, тым больш, хуткае «перавыхаванне» герояў. Бравусаў не можа самастойна арганізаваць сваё ўнутранае жыццё, яго паводзіны заўсёды сітуацыйна залежныя. Гэта праявілася і ў час апошняй сустрэчы з Крупадзёравым, якая закончылася непрадказальнай сутычкай «сяброў» і ненаўмысным забойствам Крупадзёрава.

У раманах Л. Левановіча структура ўлады ўспрымаецца як вертыкаль нарыхтоўшчыкаў, у якой вярхі стараюцца выцягнуць як мага больш з нізоў.

Чалавечае падзенне камсамольца Рамана Свідэрскага і яго ўзыходжанне на ступень старшыні сельсавета пачалося з публікацыі адрачэння ад свайго бацькі, пазней раскулачанага і высланага назаўсёды з роднай вёскі. З гэтага часу духоўныя сілы касамольца Свідэрскага былі падпарадкаваны адной мэце — выкананню даведзеных планаў паставак мяса, малака, воўны, скуры, яек, падатковых збораў, пазыкі, вывазу лесаматэрыялаў. Істотнае месца ў рабоце старшыні меў клопат пра знішчэнне самагонных апаратаў, арганізацыю пажарнай бяспекі, нагляднай агітацыі. Свідэрскі апынуўся ў стане перманентнай вайны са сваімі людзьмі. Яго жыццёвыя патрэбы — духоўныя і матэрыяльныя — былі рэдуцыраваны да апошняй мяжы. Нязменны на працягу дзесяці гадоў шынель з жоўта-зялёнага англійскага сукна і чырвоныя гумовыя боты з'яўляюцца сімваламі рэдукцыі чалавечых патрэб адданага служкі бюракратычнага монстра. Разам з пачуццём боязі перад начальствам у Свідэрскага недзе ў глыбінях пасвядомасці назапашвалася злосць. Спаганяць яе Свідэрскі прызвычаіўся на блізкіх. Крызісная сітуацыя імкліва перарасла ў катастрафічную дынаміку пасля сутычкі на двары Апанаса Шкурдзюка, калі старшыня Свідэрскі, агент па нарыхтоўках Парфір Драздоў і агент па зборах Іван Сырадоеў выказалі намер рэалізаваць падсвінка за нядоімку. У час тузаніны Палажка, паслізнуўшыся, рассекла брыво. Сітуацыя была выкарыстана раённым начальствам і «сябрамі», каб збавіцца ад утылізаванага і спустошанага Свідэрскага і аддаць яго пад суд. І вось цяпер нарэшце Свідэрскі на нейкі міг адчуў нешта падобнае на кволы покліч да пошуку ісціны, «*вучачыся мысленню*». Пера-

чытаючы напісаны Марксам і Энгельсам «Маніфест», ён упершыню ўбачыў у гэтай кнізе зло нігілізму — праграму разбурэння сям'і, агульначалавечай маралі, патрыятызму. У пошуках ісціны Свідэрскі прыйшоў да кіраўніка баптысцкай царквы: айчынныя прарокі ў часы сталіншчыны былі ліквідаваны як «ворагі народа». Размовы з прыхільнікамі «штунды», людзьмі, гаспадарлівымі і дабрадзейнымі ў сваім коле, не далі спатолі выпусташанаму Свідэрскаму, які з маладых год энергію сваёй псіхікі дабраахвотна скіраваў у рэчышча бальшавіцкага агрэсіўнага некрафільства. Пастар прапанаваў Свідэрскаму дактрыну, а яго скалечанай душы патрэбен быў *свой* ідэал, якому Свідэрскі здрадзіў у маладосці. Тым часам партыйныя раённыя правадыры далі «правільныя» ўстаноўкі маладому суддзі Яўгену Васілёнку, і справа з Палажкіным брывом была перакваліфікавана ў крымінальнае злачынства. У стане цяжкай дэпрэсіі псіхіка Свідэрскага знайшла выйсце з тупіка ў забойстве жонкі і самагубстве.

Л. Леванові́ч даследуе суіцыдальны комплекс, абапіраючыся на здабыткі сацыяльнай эстэтыкі (Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага), але найбольш блізкім яму застаецца камулятыўны сэнс творчага вопыту Я. Купалы («Раскіданае гняздо») і М. Гарэцкага («Антон», «Дзве душы»). Л. Левановіч паказвае ролю тупіковай сацыяльнай сітуацыі ў расчалавечванні міжасобасных зносін. А калі зазірнуць у глыбінныя напластаванні сэнсаў у нацыянальнай гнасеалогіі, то без вялікіх намаганняў можна акрэсліць актуальнае значэнне такіх «*знакаў бяды*» ў фальклоры, як комплекс Машэкі. Л. Левановіч сродкамі сацыяльна-псіхалагічнага аналізу стварае новыя мадыфікацыі канцэптуальных персанажаў, адкрытых у беларускай міфалогіі і фальклоры, па сваіх мастацкіх ёмістасцях раўнавялікіх канцэптуальным персанажам у раманах Ф. Дастаеўскага. У беларускай літаратуры — гэта выразна відаць на фоне рускай класікі — не абсалютызуецца роля пакаяння ў справе рэабілітацыі забойцаў, «мальчики кровавые в глазах» у іх не стаяць. Такі ракурс у нацыянальнай школе псіхааналізу выводзіць думку на паверхню перспектыўных пошукаў у галіне сацыяльнай філасофіі актуальнага часу. Вербальнае афармленне першай па значымасці задачы на гэтым напрамку мыслядзеяння было зроблена І. Мележам у форме *запыту*, а па сутнасці — выкліку, кінутага афіцыёзу: «*Куды вядуць дарогі?*» Прыём рэпрызы, характэрны для кампазіцыі раманаў Л. Левановіча, з'яўляецца фармальным момантам у структураванні хранікальна цэласнай карціны быцця і адначасова нагружаным кампанентам. Учыненае старшынёй сельсавета нематываванае забойства ў сваёй сям'і і яго самагубства не стала для кіраўнікоў Лабанаўскага лакальнага соцыуму пачаткам пераасэнсавання курсу на дэструкцыю. Гвалтоўная смерць нарыхтоўшчыка і па сумяшчальніцтве крымінальніка Крупадзёрава, які выславіўся сваім жалезным, зусім савецкім кулаком, падчас сяброўскай выпіўкі з былым ахоўнікам парадку Бравусавым засталася як бы і не заўважанай. Забойства былога пасля Свідэрскага старшыні сельсавета Сырадоева, учыненае некалі чулым і далікатным трактарыстам, а потым алкаголікам Вароніным, і яго самазабойства было паўтарэннем трагічнага комплексу Свідэрскага ў новым пакаленні. У асяроддзі мясцовых кіраўнікоў і інтэлектуалаў (дакладней — ідэолагаў) ніхто не звярнуў увагі на заканамернасць дэструкцыі ў соцыуме і псіхіцы асобы, ніхто не падумаў, куды ж усё-такі вядуць нас абраныя начальнікамі дарогі.

Леанід Левановіч добра адчувае пульс часу. Яго раманы прасякнуты разуменнем таго, што на пастаўленае пытанне сёння няма яснага адказу, што ў арсенале сучаснай раманістыкі яшчэ няма зручных, суразмерных з запытамі чалавека эпохі спажывання ёмістасцей, у якіх можна было б падаць грамадзе суровую праўду веку. Л. Левановіч шукае шлях да такой формы. Яго творчая інтуіцыя, узгадаваная на грунце народнага гісторыка-культурнага вопыту з часоў радзіміцкага язычніцтва, валодае магутнай сілай самаачышчэння — энергіяй *арганічнага выцяснення* (Фрэйд) агрэсіўнай дэструктыўнасці, для якой ліберальная ідэалогія цывілізаванага капіталізму пакідае даволі вялікія абшары культурнай прасторы, зыходзячы,

зразумела, з тымчасовых гандлёвых інтарэсаў. Носьбіты агрэсіўнага пачатку ў раманах Л. Левановіча — гэта часцей за ўсё ахвяры бюракратычнай сістэмы.

Акрэсленую І. Мележам праблему Л. Левановіч разглядае на фоне еўрапейскай геапалітыкі. Праўда, спалучэнне хронікі з гісторыі палітычнага жыцця Еўропы з хронікай быцця ў Хатынічах пакуль што здзейснена з дапамогай механічных прыёмаў, але, тым не менш, у падобных выхадах бачыцца перспектыўны напрамак развіцця беларускага новага рамана і рух да пашырэння магчымасцей сацыяльнай эстэтыкі. Несумненным поспехам аўтара з'яўляецца арганічнае адзінства стылю ў паказе жыццядзеяння розных слаёў беларускага грамадства — ад калгаснага нізу да кіраўнічай партыйнай вярхушкі. Змены, якія пасля смерці Сталіна адбываліся на вышэйшых паверхах улады, не мянялі прыроды савецкага соцыуму. Гэта былі тактычныя манеўры партыйных груповак у барацьбе за вышэйшую ўладу. Л. Берыя рабіў стаўку нібыта на вылучэнне ў рэспубліках нацыянальных кадраў. Г. Малянкоў даў каманду на змяншэнне падаткаў і збораў. М. Хрушчоў сваю стратэгію будаваў на развянчанні культу асобы Сталіна. Кожны з кіраўнічай тройцы быў у той ці іншай меры архітэктарам рэпрэсіўнай сістэмы сталінізму. Ініцыятыву перахапіла групоўка М. Хрушчова.

У раманах «Сіняе лета», «Бесядзь цячэ ў акіян» і «Палыновы вецер» Л. Левановіч паказвае павярхоўны характар змен у кіраўнічай і гаспадарчай дзейнасці, названых у часы М. Хрушчова рэформамі. Узбуйненне калгасаў не спыніла працэсаў дэградацыі вясковага жыцця. У рассяляненай і абязлюджанай вёсцы нібы самі сабой зніклі элементы дэмакратыі, прадугледжаныя Статутам сельгасарцелі. Выканкамы трапілі ў поўную залежнасць ад партыйных камітэтаў. Знікла патрэба ў прымітыўных нарыхтоўшчыках з жалезным кулаком, зборшчыках падаткаў і пазыкі, а нарыхтоўкі і планы ў новых умовах выконваюцца цэнтралізаваным спосабам — метадам ціску зверху непасрэдна на сакратароў райкамаў і старшынь калгасаў. Гэты метад самі чыноўнікі ў раёне, на той час пераважна былыя партызанскія камандзіры, называлі «дэ-квадрат — ша-квадрат»: «давай-давай, шуруй-шуруй». Накіроўваючая сіла, страціўшы перспектыву, ужо не магла валодаць сітуацыяй. У раманах Л. Левановіча паказаны працэс дэградацыі кіраўнікоў, занятых індывідуальнай кар'ерай і войнамі за захаванне месца ў кіраўнічай іерархіі. Дэмагогія пра вялікія заваёвы сацыялізму ўжо не ратавала. Калі сакратару райкама партыі Даўгалёву на паседжанні бюро паказалі, што калгасам нявыгадна павялічваць надоі з-за нізкіх закупачных цэн, ён імгненна ператварыўся ў нарыхтоўшчыка Крупадзёрава:

«— *Не можа гэтага быць! — грукнуў кулаком па стале Даўгалёў, рэзка павярнуўся да начальніка сельгасупраўлення. — Сяргей Іванавіч, ета праўда?*»

Сістэма была разлічана толькі на праграму «давай-давай», удасканаленне соцыуму выносілася за дужкі бягучага часу. Залюстэркавая дзяльба ўлады і вайна за доступ да нацыяналізаванай маёмасці суправаджалася здзічэннем і азвярэннем, вайна ў кабінетах мела працяг і за бяседным сталом:

«— *Нагі маёй тут болей не будзе! — Даўгалёў схапіў кульбу і рашуча патупаў да парога*».

Так заканчваліся арганізаваныя жонкамі сямейныя вечары ў кватэрах сакратара райкама Даўгалёва і старшыні райвыканкама Чэпікава пасля размоў пра культ асобы.

Вялікая чырвоная імперыя, ахутаная воблакам хлусні і дэмагогіі, набірала хуткасць у час падзення ў бездань нонсэнсу. Падзенне суправаджалася ўзнікненнем абломкаў, па форме падобных на суверэнныя дэмакратычныя рэспублікі.

***Працяг у наступным нумары.***

# МІХАІЛ ФІНБЕРГ: «МАЯ СЯМ'Я — ГЭТА МОЙ АРКЕСТР»


*З раніцы — на службе.*

Феномен Фінберга… Не помню ўжо, ад каго ўпершыню пачуў гэты выраз, які падаўся мне цікавым, але з крыху завышанай ацэнкай. Аднак калі пазней я стаў больш глыбока, больш прадметна знаёміцца з дзейнасцю Заслужанага калектыву «Нацыянальны акадэмічны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі» і яго нязменным кіраўніком Міхаілам Фінбергам, пераканаўся, што гэтае вызначэнне «феномен» цалкам адпавядае рэальнасці.

Бо што такое феномен? Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы акрэслівае яго, як «незвычайная, асаблівая з'ява, рэдкі факт». А калі размова ідзе пра асобу, то гэта «чалавек, які адрозніваецца выдатнымі здольнасцямі, талентам».

А цяпер прыкладзём гэтае вызначэнне да згаданага аркестра. Ён — незвычайная, асаблівая з'ява? Безумоўна! Ужо хоць бы таму, што ягоная структура складаецца з дзесяці розных калектываў — струннага і камернага аркестраў, камернага хору, ансамбля трубачоў, ансамбля флейцістаў, ансамбля кларнецістаў, джазавага калектыву «Біг-бэнд», групы салістаў на драўляных інструментах, вакальнай суполкі і балетнай групы. Нездарма мае калегі даўно і трывала замацавалі за аркестрам назву — малая філармонія.

Аркестр адпавядае гэтай назве не толькі па форме, але і па зместу. Тое, што робіць гэты калектыў, уражвае і здзіўляе. Вось толькі некалькі лічбаў. Сіламі аркестра ў малых гарадах рэспублікі праводзіцца 17 (сямнаццаць!) розных фестываляў, у якіх гучыць класічная, эстрадная, джазавая музыка. Прычым гучыць без фанаграмы — ужывую. Усюды і заўсёды! Для нашага часу гэта сапраўды рэдкая з'ява. І не проста рэдкая — унікальная. Тое, што робіць калектыў Фінберга, не робіць ніхто.

І, вядома ж, каб кіраваць такім калектывам, каб ажыццяўляць такую складаную, напружаную, markup разнабаковую канцэртную дзейнасць, трэба мець адмысловы талент і выдатныя арганізатарскія здольнасці. Маэстра Фінбергу ні таго, ні другога, як кажуць, не пазычаць. А пазнаёміўшыся з ім бліжэй, магу засведчыць: акрамя гэтых неад'емных якасцей ён вызначаецца яшчэ і высокай арганізаванасцю, неверагоднай працаздольнасцю.

Невялічкі прыклад.

Пра час і месца сустрэчы мы дамовіліся з першага тэлефоннага званка. Пачуўшы, хто я і чаго хачу, Міхаіл Якаўлевіч на хвіліну задумаўся, а, можа, зазірнуў у свой штодзённік і спытаў:

— Заўтра, у дзевяць гадзін раніцы падыдзе? Тады чакаю.

І гутарка наша пачалася крыху нечакана. Звычайна я ў сваіх субяседнікаў замаўляў некалькі гадзін вольнага часу, а калі спатрэбіцца, то і некалькі сустрэч, каб можна было пагаварыць нетаропка, грунтоўна, атрымаць вычарпальныя адказы на добрую паўсотню пытанняў. А тут сутыкнуўся з чалавекам нечым глыбока засяроджаным, нецярпліва наструненым, які пасля добразычлівага «слухаю вас» адразу ж азадачыў:

— Толькі давайце ў тэмпе. А то ў любую хвіліну да мяне можа зайсці наведвальнік…

На маю нясмелую прапанову папярэдзіць сакратарку, каб яна падчас нашай размовы нікога пакуль не пускала Міхаіл Якаўлевіч адмоўна пакруціў галавой:

— Я не прывык трымаць людзей у прыёмнай. Прабачце… Не будзем губляць часу. Давайце вашы пытанні.

І ўвесь імгненна ператварыўся ва ўвагу і слых. Прызнацца, я нават крыху разгубіўся, бо настроіўся быў на іншы тэмп размовы. Давялося па ходу фармуляваць свае пытанні больш коратка, без, як мне здавалася, неабходных тлумачэнняў і адступленняў. Міхаіл Якаўлевіч схопліваў сутнасць пытання, яшчэ не даслухаўшы яго да канца, і адказваў дакладна, ёмка, энергічна, эмацыянальна. І тут жа нецярпліва падганяў мяне:

— Далей, калі ласка… Наступнае пытанне… Паехалі…

Калі мы нарэшце дайшлі, хочацца сказаць — даімчаліся да канца, я зірнуў на гадзіннік і здзівіўся: мы ўклаліся менш чым у дзве гадзіны часу! І не ведаю, як у Міхаіла Якаўлевіча, а ў мяне ад такога напружання ажно спіна ўзмакрэла. Затое на ўласным прыкладзе найлепшым чынам зразумеў, як і чаму Маэстра ўдаецца гэтулькі ўсяго рабіць.

Аднак вернемся да пачатку.

## Музыка без межаў

**— Міхаіл Якаўлевіч, у мінулым годзе вы адзначылі адразу тры юбілеі: 65 гадоў з дня нараджэння, 50 гадоў творчай дзейнасці і 25 гадоў аркестру…**

— Павінен адразу сказаць, што я ніяк не адзначаў ніводзін юбілей. Мяне нават ніхто, акрамя Прэзідэнта і кіраўніка ўрада, не павіншаваў. Ды я і не чакаю гэтых віншаванняў. Усе юбілеі для мяне — гэта праца, праца і яшчэ раз праца.

Канешне, я не думаў, што дажыву да 50-годдзя творчай дзейнасці. Гэта дата для мяне не толькі вялікая, але і выпакутаваная. Яна не так проста мне далася. Таму што мая дарога ніколі не была выслана толькі ружамі. Там заўсёды былі і шыпы. Усё, што я раблю, даецца мне нялёгка. Я ўдзячны ўсім, хто мяне паважае, хто мне памагае. І найперш я ўдзячны сваёй краіне, якой я даражу і якую я вельмі і вельмі люблю. Гавару гэта абсалютна шчыра. І колькі будзе біцца маё сэрца, буду рабіць усё для таго, каб Беларусь ведалі ва ўсім свеце, каб яе любілі і паважалі.

**— Дзейнасць вашага аркестра надзвычай разнастайная. Ці можна неяк ахарактарызаваць асноўныя напрамкі гэтай дзейнасці?**

— Я спачатку назаву вам адну лічбу. За дваццаць пяць гадоў мы ажыццявілі 64 праекты адраджэння і папулярызацыі беларускай музыкі. Усе гэтыя праекты пры жаданні можна, канешне, раскласці на пэўныя групы ці, як вы сказалі, асобныя напрамкі.

Мы зрабілі больш за трыццаць праграм, прысвечаных творчасці класікаў беларускай літаратуры — Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Аркадзя Куляшова, Уладзіміра Караткевіча…

**— Дарэчы, адмысловай канцэртнай праграмы, прысвечанай Караткевічу, няма больш ні ў кога.**

— І ў нас яе магло не быць. Калі мы задумалі такую праграму, то аказалася, што творчасць нашага выдатнага пісьменніка неаднойчы натхняла кампазітараў на стварэнне музыкі ў розных жанрах — оперы, музычныя радыёспектаклі, хара-

выя партытуры. А вось песень знайшлі ўсяго адну ці дзве. І мы вырашылі запоўніць гэты прагал — заказалі нашым вядомым кампазітарам Эдуарду Зарыцкаму, Алегу Елісеенкаву, Валянціне Сярых, Алене Атрашкевіч, Ларысе Мурашка цыкл песень на вершы Караткевіча. Іх атрымалася каля трыццаці, якія і прагучалі ў выкананні салістаў і музыкантаў нашага аркестра. Прэм'ера адбылася ў сталічным клубе імя Дзяржынскага напрыканцы 2003 года і стала, без перабольшання, адной з найярчэйшых падзей у культурным і грамадскім жыцці рэспублікі.

**— Такой жа падзеяй, ведаю, сталася і канцэртная праграма, прысвечаная 120-гадоваму юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа…**

— Ну, гэта асобная гісторыя. Як вядома, многія вершы нашых слынных песняроў даўно былі пакладзены на музыку. Яны набылі новае жыццё ў оперных арыях, кантатах і хорах, вакальных цыклах, лірычных песнях… Такіх твораў напісана дастаткова многа. І вось тут стваральнікі праграмы сутыкнуліся з дзвюма цяжкасцямі. Першая: як адабраць лепшае з таго, што ўжо створана. І другая: высветлілася, што Коласу ў гэтым сэнсе пашанцавала значна менш, чым Купалу. А хацелася, каб абодва песняры былі прадстаўлены ў канцэрце раўнацэнна. Таму мы спецыяльна папрасілі кампазітара Эдуарда Зарыцкага напісаць цыкл песень на вершы Якуба Коласа. І ён бліскуча гэта зрабіў. Цыкл стаў своеасаблівай прэм'ерай у прэм'еры канцэртнай праграмы «Песняй мой дух маладзіцца».

**— А да 130-годдзя вы паўтарылі…**

— Мы ніколі нічога не паўтараем. Да сёлетняга юбілею мы стварылі абсалютна новую праграму. На жаль, гэту праграму змаглі паказаць толькі адзін раз — на фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечна.

**— А тэлебачанне яе хоць запісала?**

— Запісала. Але паказала ў пятніцу, у 10 гадзін раніцы… Толькі ці варта аб гэтым гаварыць? Наш калектыў, нягледзячы ні на што, стараецца займацца сваёй справаю.

Дык вось акрамя папулярызацыі літаратурнай спадчыны класікаў мы ажыццявілі шмат іншых праграм — правялі больш за дваццаць песенных вечароў сучасных паэтаў, прыкладна гэтулькі ж аўтарскіх вечароў нацыянальных кампазітараў. Перш за ўсё класікаў, чыя музыка, на жаль, пачала ўжо забывацца, вельмі рэдка гучыць з эстрады. Гэта творы Мікалая Аладава, Льва Абеліёвіча, Анатоля Багатырова, Мікалая Чуркіна, Уладзіміра Алоўнікава, Пятра Падкавырава, Рыгора Шырмы, Яўгена Глебава, Юрыя Семянякі, Ігара Паліводы, сучасных кампазітараў Ігара Лучанка, Эдуарда Ханка, Эдуарда Зарыцкага, Леаніда Захлеўнага, Валерыя Іванова і іншых. Такім чынам, няма сёння такога кампазітара на Беларусі, які працаваў ці працуе ў галіне эстраднай альбо класічнай музыкі і якому б наш аркестр не зрабіў аўтарскую вечарыну.

Дарэчы, у рамках гэтай праграмы былі праведзены аўтарскія вечары выдатных рускіх кампазітараў Аляксандры Пахмутавай, Давіда Тухманава, Аляксандра Зацэпіна, Юрыя Саульскага.

А з якім поспехам, з нязменнымі аншлагамі заўсёды праходзяць у нас бенефісы салістаў-спевакоў! Найперш, вядома, мы імкнёмся прапагандаваць творчасць беларускіх артыстаў — Мікалая Скорыкава, незабыўнага Якава Навуменкі, Дзмітрыя Качароўскага, Наталлі Тамела… Але не толькі. Сапраўднымі падзеямі сталіся, напрыклад, канцэрты вядомых расійскіх спевакоў — Іосіфа Кабзона, Льва Лешчанкі, Тамары Міянсаравай, Ларысы Долінай, Філіпа Кіркорава, вечар памяці выдатнай польскай спявачкі Ганны Герман…

**— Вы не ўпамянулі Алу Пугачову…**

— Не ўпамянуў, таму што ў нашых канцэртах яна толькі ўдзельнічала, але асобнай праграмы, прысвечанай яе творчасці, не было. Усё неяк не сабраліся.

Дарэчы, калі гаварыць пра накірункі нашай дзейнасці, то адным з галоўных з'яўляецца пошук новых талентаў. За гэтыя два з палавінаю дзесяцігоддзі мы адкрылі каля 50 новых імён. Прычым не толькі з Беларусі. Не ўсе, магчыма, ведаюць, што Надзея Бабкіна стала сольнай спявачкай пры ўдзеле нашага аркестра.



*Зоркі побач. Народныя артысткі Беларусі Марыя Захарэвіч і Наталля Гайда. Нясвіж, 2004 г.*

**— Так, яна сама пра гэта неаднойчы прызнавалася.**

— Не ўсе таксама ведаюць, што і вядомая цяпер украінская спявачка Таісія Павалій атрымала Гран-пры «Славянскага базару» менавіта з удзелам нашага аркестра.

Але, канешне ж, наш галоўны клопат і пачэсны абавязак — адкрываць маладыя таленты на Беларусі. Гэтаму як найлепш садзейнічае Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-93», якому сёлета споўніцца роўна дваццаць гадоў. Гэта, між іншым, другі фестываль, якім апякуецца Прэзідэнт. Але другім ён лічыцца чыста фармальна, бо колькі нашых суайчыннікаў называюць яго першым. І адзіным! Гэта — унікальная з'ява ў нашай культуры. Фестываль, які цесна зніталаваны з беларускімі традыцыямі, нацыянальным меласам, характарам, ментальнасцю беларусаў. Яго каштоўнасць і асаблівая адметнасць у тым, што ўсе канцэрты ідуць пры жывым гуку і ад першай да апошняй хвіліны на беларускай мове.

**— Калі мы загаварылі пра фестывалі, то я папрасіў бы вас расказаць пра гэты важны і, бадай, самы рэзанансны рух крыху падрабязней. Ведаю, што на сённяшні дзень у рэспубліцы праводзіцца 17 розных музычных фестываляў, да якіх вы спрычыніліся непасрэдна альбо прымаеце самы актыўны ўдзел.**

— Так, сапраўды, надзвычай важным накірункам дзейнасці нашага калектыву з'яўляецца папулярызацыя класічнай і эстраднай музыкі. Фестывалі праходзяць у такіх культурна-гістарычных цэнтрах рэспублікі, як Нясвіж, Заслаўе, Мір, Тураў, Мсціслаў, Чачэрск, Хойнікі, Пінск, Іванава і іншых.

Адным са старэйшых і надзвычай папулярных з'яўляецца міжнародны фестываль джаза, які праводзіцца з 1994 года. Павінен сказаць, што класічны джаз больш як за сто гадоў свайго развіцця дасягнуў сапраўдных творчых і прафесійных вышынь. Гэта настолькі сур'ёзны від мастацтва, што зрабіў істотны ўплыў на традыцыйныя акадэмічныя жанры музыкі. А папулярнасць джаза тлумачыцца, на мой погляд, тым, што ён вызначаецца высокай ступенню імправізацыі, пошукам новага. Разам з тым джаз — гэта яшчэ і школа музычнага густу і яго паказчык.

За гэтыя амаль дваццаць пяць гадоў, што праводзіцца фестываль, у нас ужо вызначыліся сапраўдныя джазавыя зоркі. Гэта — віртуоз трамбона Дзмітрый Бударын, гітарыст, аранжыроўшчык, кампазітар Аляксандр Каліноўскі, музыканты Валерый Шчарыца, Уладзімір Ткачэнка, Сяргей Анцішын, Андрэй Шпянёў… Усе яны — выхаванцы нашага калектыву.

Фестываль называецца міжнародным таму, што ён набыў вядомасць і папулярнасць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Да нас ахвотна прыязджаюць і прымаюць удзел у канцэртах самыя знакамітыя замежныя выканаўцы. Думаю, што наша публіка выдатна запомніла яркія выступленні расійскага джазмэна Анатоля Крола і яго выхаванцаў з «Акадэмік-бэнда», германскай спявачкі Паскаль фон Урублеўскі, малдаўскага трыа «Trigon» на чале з яго лідарам Андрэем Штэфанецам, літоўскага джаз-секстэта пад кіраўніцтвам Дэйніюса Пулаўскаса…

Часам у мяне пытаюцца: а якую мэту я ставіў перад сабою, арганізоўваючы фестываль джаза? Заўсёды адказваю: найперш мне хацелася парадаваць аматараў гэтага віду музыкі самымі лепшымі, самымі дасканалымі ўзорамі джаза, выхоўваць

у іх высокія музычныя, эстэтычныя густы. А па-другое, запрашаючы знакамітых замежных выканаўцаў, разлічваў даць штуршок для развіцця эстрадна-аркестравай і джазавай музыкі ў краіне. І я глыбока ўсцешаны, што многае з задуманага ажыццёўлена, пастаўленая мэта, на маю думку, дасягнута. Пра гэта сведчыць і такі факт: сёлета будзе праведзены ўжо дваццаць пяты фестываль джаза.

**— Міхаіл Якаўлевіч, я вось аб чым хачу ў вас запытацца. Год ад году аркестр набіраў моцы, пашыраў і разнастаіў сваю дзейнасць. Да першага свайго 10-гадовага юбілею слава аркестра выйшла далёка за межы рэспублікі. Здавалася б, можна ўжо было і крыху перадыхнуць, зменшыць, як кажуць, абароты. Але не, менавіта ў гэты, 1996 год, вы выступілі з новай рызыкоўнай, калі не сказаць авантурнай ідэяй — правесці ў Нясвіжы фестываль камернай музыкі. Чаму я кажу рызыкоўнай? Таму што і ў сталіцы далёка не кожны можа ўспрымаць такую музыку. А тут — глыбінка… Вы гэта разумелі?**

— Ну, у Мінску, я вам скажу, многія і не хочуць успрымаць. А ў малых гарадах мы набылі сваіх слухачоў. Маю фразу, якую я аднойчы сказаў, журналісты падхапілі і цяпер часта паўтараюць. Яна аб тым, што раней на нашы канцэрты прыходзілі бацькі, а цяпер — іх дзеці і нават унукі. Яны ведаюць музыку ўжо на ўзроўні прафесіяналаў і адносяцца да нас з вялікай павагай. Таму іграць для такой публікі адно задавальненне. Вось мой адказ на ваша пытанне.

А што датычыцца ідэі фестываля, то я вам павінен чэсна прызнацца: гэта не мая задума. Аднойчы ў гутарцы са мною Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка сказаў мне, што мы робім добрую справу, ладзячы канцэрты ў сталіцы, у абласных цэнтрах, але трэба бываць і ў маленькіх гарадах. Там людзі таксама жадаюць далучыцца да высокага мастацтва. І я вельмі ўдзячны нашаму Прэзідэнту за гэту падказку, якой я пры нагодзе скарыстаўся.

Чаму выбралі менавіта Нясвіж? Адкажу. Таму што для гэтага тут ужо была падрыхтавана пэўная гістарычная глеба. Яшчэ з XVI стагоддзя Нясвіж быў адным з найбольш знакамітых месцаў беларускай зямлі, куды сцягваліся лепшыя мясцовыя і замежныя музыканты. Крыху пазней тут былі арганізаваны музычныя тэатры, капэлы і школы, вакол якіх існавала сапраўднае сузор'е таленавітых творчых асоб. Менавіта з Нясвіжам звязана стварэнне першай прафесійнай оперы «Агатка», якую напісаў кампазітар Я. Голанд на лібрэта М. Радзівіла. А потым насталі не лепшыя часы, калі Нясвіж апусцеў і лепшыя творцы вымушаны былі з'ехаць у замежныя краіны, а музыка, якая стваралася і выконвалася тут, стала набыткам іншых народаў.

Дык вось прадумваючы канцэпцыю фестываля «Музы Нясвіжа», мы вырашылі ў аснову яго пакласці музыку, што стваралася на Беларусі і гучала тут на працягу мінулых стагоддзяў, і паяднаць яе з музыкай Заходняй і Усходняй Еўропы, якую тут ведалі і шанавалі. А таксама ўключыць творы сучасных беларускіх кампазітараў. Такі падыход надаў нашым канцэртам жанравую і стылёвую разнастайнасць, выклікаў у слухачоў павышаную цікавасць.

З гадамі фестываль удасканальваўся, узбагачаўся новымі формамі працы. Побач з канцэртамі пачалі ладзіцца мастацкія выставы, спектаклі, сустрэчы ў музычнай школе, навуковыя канферэнцыі. Дзякуючы гэтаму адбылося можа быць самае галоўнае — творчы сімбіёз тых, хто піша музыку, хто яе іграе і хто яе слухае.

**— Творчы поспех «Музаў Нясвіжа» натхніў вас на пашырэнне фестывальнага руху. Наступным крокам стаў…**

— …горад Заслаўе. У 2001 годзе тут прайшоў «Першы фестываль тысячагоддзя». Першы, але, дзякаваць Богу, не апошні. Пры актыўнай падтрымцы мясцовых улад і Міністэрства культуры фестываль камернай музыкі ў Заслаўі стаў штогадовым, традыцыйным. Ён — своеасаблівы працяг размовы пра музыку беларускіх сядзіб. Плённасці гэтай размовы садзейнічаюць і канцэрты «Заслаўскія прэм'еры», «Скарбы беларускага выканальніцкага мастацтва», і знаёмствы

з мясцовымі музыкантамі, і «Сустрэчы з джазам», і вернісажы… Усё тут дзеля спасціжэння сваёй гісторыі, мастацкай спадчыны, асэнсавання нацыянальных духоўна-эстэтычных каштоўнасцеў.

Наступным нашым крокам стаў музычны фестываль у Мсціславе, арганізаваны ў 2002 годзе. Тут вызначыліся свае традыцыі: дзве абавязковыя праграмы — «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» і «Музычная класіка», якія дапаўняюцца выступленнямі творчых калектываў Магілёўшчыны і суседняй Смаленшчыны, навуковымі чытаннямі, а таксама мастацкімі выставамі з фондаў абласнога музея.

Адметнасць мсціслаўскага фестывалю яшчэ і ў тым, што кожны год ён прысвячаецца творчасці каго-небудзь з кампазітараў-класікаў. На першым фестывалі мы выканалі творы Мікалая Чуркіна, музыка якога не гучала больш за сорак гадоў. На другім — прагучала музыка майго сябра, народнага артыста СССР Яўгена Глебава, на трэцім — Анатоля Багатырова, на чацвёртым — Льва Абеліёвіча… Я не буду пералічваць усе імёны, скажу толькі, што канцэрты гэтыя прайшлі з вялікім поспехам. Лічу галоўнай сваёй мэтай, каб тыя людзі, якія будуць жыць пасля нас, ведалі, што адбывалася ў айчыннай музычнай творчасці ў другой палове мінулага стагоддзя і ў пачатку цяперашняга.

Дзеля гэтага ў 2003 годзе мы арганізавалі новае свята — Беларускі фестываль мастацтваў «Мірскі замак». Канешне ж, месца для правядзення такога фестывалю выбрана не выпадкова. Напярэдадні Мірскі замак увайшоў у сусветную спадчыну ЮНЕСКА. Выступаючы з гэтай нагоды тагачасны віцэ-прэм'ер Уладзімір Дражын пажадаў тады, каб ніколі больш не паўтараліся тыя старонкі гісторыі, калі ля замкавых муроў сыходзіліся ў бітвах ваяры, а каб сюды прыходзілі людзі, якія цягнуцца да культуры, да ўзораў старажытнага дойлідства, і ладзілі свае святы.

Вось такое свята ля старажытных мірскіх муроў праводзіцца цяпер штогод. Мы пастараліся надаць яму сваю адметнасць і арыгінальнасць. Сіламі камерных калектываў, што працуюць у складзе нашага аркестра, ствараюцца ўнікальныя праграмы, якіх няма ў рэпертуары іншых выканаўцаў. Адна з такіх праграм — «Музычныя скарбы Гродзенскага краю», якая скіроўвае ўвагу на тую багатую музычную спадчыну, што назапашвалася не толькі ў фальклоры, але і ў творчасці прафесійна адукаваных музыкантаў XVI—XIX стагоддзяў.

Для ўдзелу ў свяце мы запрашаем лепшыя прафесійныя калектывы рэспублікі — Нацыянальны акадэмічны народны аркестр імя Жыновіча, Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, «Гродзенскую капэлу», аркестр народных інструментаў Магілёўскай абласной філармоніі, а таксама калектывы навучальных устаноў Гродзеншчыны, сярод якіх узорны хор «Камерата» Слонімскай дзіцячай школы мастацтваў, квартэт трубачоў «Дэбютанты» Лідскага музычнага вучылішча, камерны ансамбль выкладчыкаў і хор навучэнцаў Смаргонскай дзіцячай школы мастацтваў…

Два дні віруе ля мірскіх муроў фестывальны фэст. Шматлікія госці могуць не толькі паслухаць цудоўную музыку, але і паглядзець мастацкую выставу, стылізаванае сярэднявечнае рысталішча, дзе ўдзельнікі паказальнага турніру сыходзяцца ў двубоі, павандраваць па самабытным «Горадзе майстроў», набыць што-небудзь адмысловае з вырабаў народных умельцаў.

Я не думаю, што мне трэба падрабязна расказваць пра ўсе сямнаццаць фестываляў, якія мы маем у рэспубліцы на сённяшні дзень. Назаву толькі некаторыя з іх. Гэта — фестываль камернай і духоўнай музыкі ў Тураве, «Навагрудак: залаты век», «Чачэрскія сустрэчы», «Гасцінная Напалеона Орды» ў Іванаве і іншыя.

Хачу зазначыць, што ўсе фестывалі маюць асветніцкі характар. Мы раскрываем багацце беларускай музыкі пачынаючы з XVII стагоддзя. Дарэчы, і тут мы адкрылі шмат новых імёнаў, якіх не ведалі на Беларусі. Канешне, імя кампазітара Міхаіла Клеафаса Агінскага ведалі многія, але ж ведалі толькі адзін «Паланэз». Зараз мы маем дзве, як кажуць, поўнафарматныя праграмы музыкі гэтага таленавітага кампазітара.

Ці, напрыклад, Станіслаў Манюшка. Усе чамусьці думаюць, што гэта кампазітар польскі. Але ж, прабачце, з 52 гадоў свайго жыцця ў Польшчы ён знаходзіўся толькі 12. Астатнія гады правёў на сваёй малой радзіме пад Чэрвенем. І таму мы яго прадстаўляем як кампазітара беларускага.

А ўзяць такую асобу, як Напалеон Орда. Многія ведаюць яго як мастака. А ён жа пісаў і цудоўную музыку. Да 205-годдзя з дня яго нараджэння мы зрабілі цэлую праграму, складзеную з ягоных твораў.

У нас вельмі багатая музычная спадчына. Калі мы пачалі працаваць у архівах, то адкрылі не адзін дзясятак забытых намі імён таленавітых музыкантаў і кампазітараў. Такіх, напрыклад, як Аляксандр і Міхаіл Ельскія, Андрэй Рагачэўскі, Лявон Скрабецкі, Антон Абрамовіч, Ян Голанд, Восіп Казлоўскі… Дарэчы, многія вядомыя цяпер кампазітары Еўропы былі іх вучнямі.

Нашы фестывалі маюць выдатны навуковы падмурак, які нам забяспечвае доктар мастацтвазнаўства, прафесар Вольга Дадзіёмава. Мы з ёю працуем вось ужо два дзесяцігоддзі.

О, ледзь не забыўся. Трэба назваць яшчэ адзін немалаважны накірунак нашай дзейнасці. Гэта — прапаганда лепшых музычных узораў не толькі Беларусі, але і Расіі. Я лічу, што мы — братнія краіны, у нас шмат агульнага, мы многаму вучымся ў сваіх суседніх братоў. І калі ўважліва паглядзець на нашыя праграмы, то акажацца, што мы даволі шмат выконваем музыкі, якая нарадзілася ў Расіі.

Таму вось ужо сёмы год запар мы праводзім сумесны і адзіны на прасторах СНД фестываль «Шлягер на ўсе часы». Летась у межах гэтага фестывалю мы зрабілі праграму, прысвечаную 90-годдзю з дня нараджэння паэта-франтавіка Міхаіла Таніча. Перад гэтым давалі канцэрт, прысвечаны памяці Людмілы Гурчанка — выдатнай спявачцы, маёй даўняй сяброўцы. Дарэчы, яна ў свой час працавала з аркестрам Эдзі Рознера. І менавіта з гэтым калектывам запісала музыку да кінафільма «Карнавальная ноч». Сёлета рыхтуем праграму з папулярных хітоў выдатнага спевака Эдуарда Хіля, які любіў беларускую песню і з якім я таксама быў добра знаёмы.

Ну і каб ужо закончыць гаворку пра накірункі, назаву яшчэ адзін — выхаванне новых музыкантаў. У Беларусі зараз няма такой школы, дзе б выхоўвалі новых эстрадных выканаўцаў, джазавых выканаўцаў. І мы вымушаны іх выхоўваць самі, у сваім аркестры.

**— Міхаіл Якаўлевіч, у свой час вы прапанавалі і ажыццявілі яшчэ адну цікавую ідэю: «Майстры мастацтва — навучэнцам навучальных устаноў культуры і мастацтва».**

— Так, было гэта ў 2006 годзе. За гэтыя гады мы праехалі ўсе музычныя вучылішчы і ў кожным далі майстар-класы і канцэрты. Летась з такой праграмай выступілі ў Акадэміі мастацтваў. Атрымаў шмат пісем ад кіраўнікоў гэтых навучальных устаноў з падзякаю за нашы паказальныя і карысныя ўрокі. Маладым людзям гэта сапраўды вельмі патрэбна. Яны павінны слухаць нешта новае, развіваць густ да жывога гуку, знаёміцца з таленавітай музыкай, бачыць высокі ўзор прафесіяналізму.

**— А працяг будзе?**

— Гэта не ад мяне залежыць. Такія паездкі патрабуюць пэўных сродкаў. Мы ж працуем безганарарна, нават на гасцініцу не трацім грошай — ноччу вяртаемся дадому. Але транспарт трэба аплачваць.

**— А які лёс цудоўнейшага дзіцячага свята «Спяваем з аркестрам»? Нешта пра яго апошнім часам нічога не чуваць.**

— Гэта была цікавая мая знаходка, прабачце за нясціпласць, але я ж і спыніў гэты праект. Чаму? Беларускія кампазітары практычна перасталі пісаць дзіцячую музыку. Пішуць толькі самадзейныя музыканты. Я абыходзіўся год-два гэтым матэрыялам, а пасля зразумеў: паказваць кепскую якасць нельга. І спыніў. А шкада, бо гэта быў вельмі натуральны дзіцячы фестываль. Хлопчыкі і дзяўчынкі паводзілі сябе на сцэне вольна, натуральна, так, як ім хацелася. Цяпер жа

ўсё заарганізавана: руку ўлева, руку ўправа, галаву павярнуць туды альбо сюды. І атрымоўваецца штучнасць, на якую і глядзець няёмка.

**— А што гэта быў за фестываль беларускіх эстрадных аркестраў?**

— Быў, таму што ў Беларусі было 28 вялікіх эстрадных аркестраў. І мне тады падумалася: а чаму б гэтым калектывам хоць раз у два гады не збірацца разам і паказваць адзін аднаму і шматлікай публіцы сваё майстэрства? І арганізавалі такі фестываль. Адзін раз правялі яго ў Баранавічах, другі раз — у Мінску. Гэта было вельмі карысна: людзі маглі знаёміцца між сабой, вучыцца адзін у аднаго. У кожным выступленні было цяпло жывога мастацтва, жывой інструментальнай гаворкі, жывога чалавечага дыхання і музыкі. На жаль, цяпер сродкаў для гэтага няма — і фестываль заглух.

**— Міхаіл Якаўлевіч, я вось слухаю вас, а ў галаве ўвесь час круціцца думка: гэта ж вы самі, добраахвотна ўзвалілі на сябе такі непадымны цяжар, такі агромністы клопат. Штогод амаль два дзясяткі фестываляў, сотні канцэртаў, бясконцыя паездкі — усё жыццё, можна сказаць, на калёсах… Навошта вам усё гэта патрэбна?**

— Я ўжо гаварыў вам, што аднойчы Прэзідэнт заклікаў наш калектыў часцей бываць у глыбінцы. І я ўсе гэтыя гады чэсна, сумленна, ад усёй душы служу гэтаму закліку. Я ніколі аб гэтым раней не гаварыў, кажу ўпершыню. Служу і не шкадую. Мы зыходзім з таго, што асобу чалавека фарміруе перш за ўсё культура. І вельмі важна, каб да яе здабыткаў далучаліся жыхары малых гарадоў, дзе няма філармоній, музычных залаў. Мы ідзём і будзем «хадзіць у народ», бо ўкладваем у фестывальны рух ідэю патрыятычнага выхавання праз музыку.

Але гэта вельмі важна і для нас саміх. Чым больш гарадоў будзе ахоплена фестывальным рухам, тым больш запатрабаванымі, заахвочанымі адчуюць сябе нашы музыканты. У жывым кантакце з публікай, у духоўным узбагачэнні людзей яны бачаць сэнс сваёй працы.

## Аркестр, які заўсёды свята

**— Давайце крыху пагаворым пра ваш калектыў. Наколькі мне вядома, ён быў арганізаваны ў 1987 годзе. І называўся спачатку Канцэртны аркестр Беларусі.**

— Не, спачатку ён называўся Дзяржаўны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі. Пасля, каб карацей было пісаць на афішах, назву памянялі на тую, што вы назвалі. Крыху пазней да яе прыбавілася вельмі важная прыстаўка «заслужаны калектыў». У 2005 годзе аркестр атрымаў званне «нацыянальны». У 2010 годзе — званне «акадэмічны». І цяпер поўная назва гучыць так: заслужаны калектыў «Нацыянальны акадэмічны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі».

**— Калектыў, калі не памыляюся, лаўрэат многіх прэстыжных прэмій?**

— Мы — лаўрэаты прэміі Ленінскага камсамола, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў. Двойчы атрымоўвалі прыз Уладзіміра Мулявіна. Маем даволі рэдкую, а можа і адзіную на нашых прасторах прэмію Італьянскага тэлебачання. Усяго ж калектыў заваяваў 26 лаўрэацкіх званняў.

**— Лічба ўражвае. Гэта — самая яскравая характарыстыка калектыву. А якім чынам вы спрычыніліся да Італіі?**

— Вельмі проста. Па кантракту мы два гады працавалі на адным з італьянскіх тэлеканалаў. Кожную суботу выдавалі ў эфір новую музычную праграму. Дарэчы, маім «гаспадаром» быў шырока вядомы цяпер Берлусконі. Мы з ім здароўкаліся за руку.

**— Вернемся аднак да пачатку. Як фарміраваўся калектыў — па конкурсе ці за аснову быў узяты цыркавы аркестр, якім вы тады кіравалі?**

— Не, з цырка я запрасіў толькі двух чалавек. Усе астатнія праходзілі па конкурсе. А ўсяго мы набралі каля 80 чалавек.

**— І гэта праўда, што ўжо праз месяц аркестр даў свой першы самастойны канцэрт?**

— Праўда. І не дзе-небудзь, а ў самой Маскве, у канцэртнай зале «Расія». Наш канцэрт быў сумесна з лаўрэатамі юрмальскага фестывалю. Сярод іх былі Валерыя, Малінін і іншыя вядомыя цяпер спевакі.

**— З гэтага, уласна, і пачалося імклівае ўзыходжанне маладога калектыву да вышынь сённяшняй папулярнасці і славы. Ці маглі б вы вызначыць знакавыя этапы гэтага станаўлення?**



*Джазавае трыа ў кампаніі Валерыя Шчарыцы і Сяргея Манукяна.*

— Пасля выступлення ў Маскве важным этапам для нас стаў удзел у фестывалі польскай песні, што два гады запар ладзіўся ў Віцебску і які пасля плаўна рэарганізаваўся ў «Славянскі базар». З таго часу мы — нязменныя ўдзельнікі гэтага самага значнага музычнага мерапрыемства ў рэспубліцы.

Сур'ёзным экзаменам на прафесіяналізм, на трываласць нашага калектыву сталася тэлеперадача «Угадай мелодыю». Само запрашэнне на гэту папулярнейшую ў тыя гады перадачу было, вядома, вялікім гонарам. Але мы нават не здагадваліся, якое нас чакае выпрабаванне. Мы працавалі па 10—12 гадзін у суткі. Часам працавалі да поўнай знямогі. Але экзамен вытрымалі — запісалі 688 перадач!

Пасля гэтага мы сталі шырока вядомымі ў Савецкім Саюзе. Нас пачалі запрашаць у Маскву на самыя адказныя канцэрты. У Крамлёўскім палацы з'ездаў і ў Канцэртнай зале «Расія» мы сыгралі каля 80 праграм.

Новы, вельмі важны і надзвычай адказны этап у жыцці калектыву наступіў тады, калі ў рэспубліцы пачаў развівацца фестывальны рух. Каб вы мелі ўяўленне, што мы за гэты час зрабілі, я назаву некалькі лічбаў. Мы правялі 156 музычных фестываляў у малых гарадах рэспублікі, 24 джазавыя фестывалі, 20 фестываляў беларускай песні і паэзіі. Штогод, як я ўжо казаў, прымаем удзел у «Славянскім базары». Дабаўце да гэтага яшчэ шмат іншых, не фестывальных канцэртаў. Такіх паказчыкаў няма ні ў кога.

**— Прабачце за гучнае слова, але гэта — сапраўдны творчы подзвіг.**

— Мы пра гэта не думаем. Мы жывём будучыняй. Вось на маім стале ляжыць цэлы стос папак. Гэта праграмы аўтарскіх вечароў, якія будуць праведзены ў 2014 годзе. Мы працуем па замежнай сістэме — плануем сваю дзейнасць на два-тры гады наперад. І мне гэта вельмі памагае.

**— Раней вы даволі часта выязджалі на замежныя гастролі. А як цяпер?**

— Цяпер сітуацыя змянілася. Мы працуем у рынкавых умовах. Мы лічым грошы. Сёння, каб паехаць у Маскву і вярнуцца, патрабуюцца значныя сродкі. Мы столькі не заробім, колькі каштуюць білеты на праезд. Я ўжо не кажу пра гасцініцу. Калі будзе багаты спонсар, які аплаціць такія гастролі, мы паедзем. А так няма сэнсу — мы ў Беларусі зарабляем больш.

І каб вы ведалі, зарабляем грошы не ў элітных сталічных залах, а галоўным чынам у глыбінцы, на вёсцы. Мы шмат разоў займалі першыя месцы па абслугоўванні сельскіх жыхароў. Хаця нам спаборнічаць з філармоніяй, у якой больш за 20 калектываў, цяжка.

**— Ведаю, вы многа канцэртаў даяце і на дабрачыннай аснове.**

— Вельмі многа. Для арміі (войскі проціпаветранай абароны супрацоўнічаюць з нашым аркестрам ужо больш за 20 гадоў), для КДБ (таму што мы працуем

на пляцоўцы клуба імя Дзяржынскага, праводзім там джазавыя фестывалі) і нарэшце для міліцыі (з органамі правапарадку ў нас таксама склаліся даўнія сяброўскія адносіны). А яшчэ мы ладзім праграмы для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Шэраг дабрачынных канцэртаў даём для аматараў музыкі майго любімага горада Мінска і Мінскай вобласці, таму што я з'яўляюся ганаровым грамадзянінам гэтай вобласці.

**— Калектыў атрымоўвае датацыю ці, можа, абыходзіцца без яе?**

— Запомніце раз і назаўсёды: такія калектывы, як наш, ва ўсім свеце (не толькі ў нас!) не могуць абыходзіцца без датацый. Іншая справа, калі мы пра гэта гаворым, то трэба мець на ўвазе і іншае — тое, што, зарабляючы вялікія грошы, мы плацім і немалыя падаткі, якія могуць нават перавышаць памер датацыі. Таму толькі ў спалучэнні гэтых трох паказчыкаў можна рэальна ацаніць, як працуе калектыў.

**— У вашым калектыве цяпер…**

— …дзвесце адзінаццаць чалавек.

**— І багатая, разгалінаваная структура.**

— Так, дзесяць творчых калектываў плюс група рэдактараў, бухгалтэрыя, тэхнічная група.

**— І як вам удаецца кіраваць такой шматлікай і разнашэрснай армадай?**

— Удаецца, бо і творчы склад, і тэхнічны — людзі надзвычай дысцыплінаваныя. У нас няма парушэнняў. Цьфу, цьфу, каб не сурочыць *(стукае па стале)*. Гэта — першае. Другое — у нас высокааплатны калектыў. Сюды людзі імкнуцца паступіць. Пры гэтым мы грошы не атрымоўваем, а зарабляем. Трэцяе — у нас усё ідзе дакладна па плану. Год толькі пачынаецца, а ўсе ведаюць, што будуць рабіць 31 снежня. І кожны разумее, што раблю я. Гэта ўносіць у настрой людзей спакой, упэўненасць, аптымізм. Планаванне — тая аснова, на якой мы працуем і якой я ганаруся. На жаль, ніхто гэтым не цікавіцца, ніхто мяне аб гэтым не пытаецца.

**— Скажыце, а за мінулыя гады здараліся якія-небудзь экстраардынарныя выпадкі, калі даводзілася з чалавекам расставацца?**

— Даводзілася. Калі чалавек дазваляў сабе тое, што не належыць рабіць. Я такія кадры не трымаю. Калі ёсць сур'ёзнае парушэнне дысцыпліны — ніякіх размоў, ніякіх скідак не можа быць. Толькі звальненне.

**— А якога характару здараюцца парушэнні? Спазненні на працу…**

— Спазненні ў нас караюцца адразу мільённым штрафам. Таму такіх парушэнняў у нас няма і быць не можа.

**— П'янкі…**

— П'янак у нас таксама не бывае. А калі нехта, не дай Бог, падобнае дапусціць, то гэта расцэньваецца, як надзвычайнае здарэнне.

**— А бывае, што чалавек не апраўдвае сябе ў творчым плане?**

— У нас, каб вы ведалі, кожны артыст штогод праходзіць індывідуальнае праслухоўванне. Такога, наколькі я ведаю, нідзе няма. Гэта трымае артыстаў у форме. Разам з тым я не стаўлю чалавека ў экстрэмальныя ўмовы. Калі ён не прайшоў нашу атэстацыю, мы даём яму дастаткова часу, каб ён мог падрыхтавацца і перайсці ў іншы калектыў.

**— Міхаіл Якаўлевіч, вы — дырэктар, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор у адной асобе. Складана спалучаць фактычна тры розныя пасады?**

— Складана, калі ты кепскі прафесіянал. Калі ж працуеш прафесіянальна — нічога складанага няма. Больш таго, у гэтым спалучэнні ёсць вялікі плюс, бо мне не трэба як мастацкаму кіраўніку аб нечым прасіць дырэктара. Я выдатна ведаю, што мне трэба зрабіць сёння, а што заўтра, каго варта заахвоціць, а каго пажурыць. Хаця, канешне, гэта нагрузка немалая. І за гэту нагрузку, каб вы ведалі, я дадатковых грошай не атрымоўваю.

**— Якімі якасцямі павінен валодаць галоўны дырыжор? І ў чым, дарэчы, розніца паміж мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам?**

— Мастацкі кіраўнік — гэта той чалавек, які можа кіраваць рознымі жанрамі. Мы ж выконваем розныя жанры — джазавую музыку, сімфанічную, камерную. А ёсць яшчэ вакальная музыка, інструментальная. Ну і гэтак далей. Гэта ўсё ў кампетэнцыі мастацкага кіраўніка.

А галоўны дырыжор — той, хто праводзіць рэпетыцыі, хто кіруе дзеяннямі іншых дырыжораў, а іх у нас дзевяць чалавек. Якімі якасцямі ён павінен валодаць? Умець мысліць перспектыўна. Гэта — першае і самае галоўнае. Ён павінен ведаць, што будзе рабіць праз год, два, тры і болей. Без гэтага працаваць немагчыма. На жаль, некаторыя сучасныя дырыжоры нават кансерваторыі не заканчвалі, не могуць правільна скласці праграму. Не ведаюць, як з адной музычнай эпохі перайсці ў іншую. Атрымоўваецца нейкі кампот ці, як кажуць вучоныя, эклектыка.

**— Абсалютны музычны слых неабходны?**

— На жаль, і пра гэта вымушаны гаварыць, бо здараюцца выпадкі, калі чалавек пры паступленні ў кансерваторыю па слыху атрымоўвае слабенькую тройку, а пасля яму выдаюць дыплом дырыжора.

**— А характар?**

— Абавязкова! Дырыжор, асабліва галоўны дырыжор павінен быць валявым чалавекам. Але пры гэтым любіць усіх тых, з кім ён працуе. Паважаць іх і любіць. Калі ж у яго гэта не атрымоўваецца і ён жыве толькі дзеля самога сябе — яму на гэтай пасадзе знаходзіцца нельга.

**— Ці значыць гэта, што дырыжор павінен быць дыктатарам?**

— Ён павінен быць строгім, але, паўтаруся, праз любоў да чалавека. Ну і яшчэ: працуючы ў нацыянальнай рэспубліцы дырыжор, як і мастацкі кіраўнік, павінен любіць усё нацыянальнае.

**— Калі браць канкрэтна вас, то пры ўсіх дыктатарскіх паўнамоцтвах вы да думкі, меркаванняў, прапаноў артыстаў прыслухоўваецеся?**

— Абавязкова. Зваротная сувязь павінна быць абавязкова. Калі я бачу, што меркаванне артыста слушнае, я не проста да яго прыслухаюся, а прыслухаюся з задавальненнем. Гэта ж дапамагае ў рабоце, узбагачае нашу працу. Ну што вы!

**— У вас ёсць і мастацкі савет?**

— Канешне.

**— І якія ў яго функцыі?**

— Мастацкі савет узгадняе альбо дае згоду на тыя ці іншыя дзеянні мастацкага кіраўніка. Скажам, пры прыёме на работу, пры аплаце партытур, аранжыровак, пры зацвярджэнні канцэртных праграм, плана работы аркестра. Ну і, канешне, пры вызначэнні зарплаты, ставак. Праўда, савет мае пры гэтым дарадчы голас, але я да гэтага голасу заўсёды прыслухоўваюся.

**— За сваё немалое жыццё я неаднойчы меў магчымасць пераканацца: вельмі многае, калі не ўсё залежыць ад кіраўніка — хай гэта будзе калгас, прамысловае прадпрыемства ці творчы калектыў. Ёсць таленавіты, самаадданы кіраўнік — будзе і поспех. Гэта правільна?**

— Правільна. Трэба працаваць. Няма чаго спаць. Многія чакаюць, што ім нехта павінен падаць. Усё на нешта спадзяюцца. А спадзявацца трэба толькі на ўласныя сілы. Я зараз працую ў вельмі складаных умовах. Каб быць запатрабаваным, неабходна ўвесь час прапаноўваць гледачу новае, арыгінальнае, цікавае. Весці напружаны графік выступленняў. На многім эканоміць. Мы, напрыклад, ніколі не застаёмся начаваць у гасцініцы. Пасля канцэрта, нават калі ён заканчваецца ў глыбокую поўнач, вяртаемся дадому. Канешне, гэта цяжка, але, каб быць паспяховым калектывам, інакш нельга.

**— Як вы лічыце, кіраўніком трэба нарадзіцца ці яго выхоўвае асяроддзе, вопыт работы, кіруючыя органы?**



*Песеннае рэтра з Людмілай Гурчанка і Аляксандрай Пахмутавай, 2004 г.*

— Не, гэтых якасцей не выхаваеш. Кіраўніку трэба жыць не сабой, нават не сваёй сям'ёй, а толькі тым, чым ты займаешся. Жыць кожнай дробяззю, кожным вінцікам. Цаніць і любіць людзей, таму што кожны артыст — асоба. Кожны! І без аднаго музыканта аркестра ўжо няма.

**— Аднойчы пра свой калектыў вы сказалі, што гэта «аркестр, які заўсёды свята». Але свята ствараюць людзі. Раскажыце крыху пра іх.**

— У аркестры, каб вы ведалі, працуюць 4 прафесары, 2 доктары навук, 3 кандыдаты навук, 5 дацэнтаў. Мы ганарымся тым, што сярод нас ёсць лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, 3 народныя артысты і 18 заслужаных артыстаў рэспублікі. 37 нашых артыстаў — уладальнікі першай прэміі ўсесаюзных конкурсаў, 11 — лаўрэаты спецыяльнай прэзідэнцкай прэміі. А ўсё разам — гэта найлепшая і самая яскравая характарыстыка калектыву.

**— Ваш аркестр выхаваў не толькі шмат таленавітых музыкантаў, але і цэлую плеяду выдатных спевакоў. Так, напрыклад, пуцёўку ў самастойнае жыццё салістаў атрымалі Якаў Навуменка, Іна Афанасьева, Валерый Дайнэка, Ларыса Грыбалёва, Георгій Калдун, Б'янка, Саша Нэма… У гэтай сувязі такое пытанне: вам не шкада, калі таленавітыя людзі сыходзяць з калектыву? Вы расстаецеся з імі без крыўды?**

— Калі ласка, калі ласка… Я магу толькі парадавацца, калі яны дасягаюць нейкіх поспехаў. На жаль, ні ў кога з іх не атрымалася сольнай кар'еры.

**— Вы лічыце, што і ў Афанасьевай, і ў Дарафеевай не атрымалася?**

— Не я лічу — жыццё лічыць. Разумееце, быць сольным выканаўцам — ох як няпроста. Трэба, каб на цябе куплялі білеты. Каб гэтых білетаў было не дастаць. А калі яны распаўсюджваюцца прымусова, праз адпаведныя арганізацыі, то я не лічу такога спевака зоркай. Такая мая думка.

**— Скажыце, калі ласка, а як прадаюцца білеты на вашы канцэрты?**

— Без усялякіх цяжкасцей. Усе выступленні праходзяць з аншлагамі. Але я не хачу, каб склалася ўражанне, нібыта мы працуем без праблем, што ўсё ў нас проста і лёгка. Канешне ж, гэта не так. Ну, напрыклад, у нас няма свайго адзінага памяшкання. Мы размяшчаемся ў шасці розных падвалах, якія раскіданы ледзь не па ўсім горадзе.

**— Міхаіл Якаўлевіч, вы ж былі сенатарам, няўжо не маглі паставіць пытанне?**

— Не, я быў сціплым сенатарам — займаўся толькі тым, што належыць. А за сябе прасіць лічыў непрыстойным.

**— Дык гэта ж не для сябе — для калектыву. Урэшце рэшт, для рэспублікі.**

— Ну, нічога. Як ёсць, так ёсць. Нягледзячы на праблемы, мы ідзём наперад і робім усё, каб нам працавалася камфортна і плённа.

## Шлях да музыкі

**— Надышла чарга расказаць крыху пра сябе. Пра свой шлях у прафесію.**

— Прафесія мне далася нялёгка. Я часта пра гэта расказваю, таму што забыць гэта немагчыма. Я вельмі рана пайшоў у музычную школу. Ужо ў пяць гадоў стаў займацца на скрыпцы. Не ўсім мая ігра падабалася. Ды мне і самому не падабалася, бо не ведаў, як трэба займацца. І атрымалася, што з музычнай школы мяне выключылі. Пазней я некалькі разоў спрабаваў паступіць у музычнае вучылішча, але і туды мне не ўдалося трапіць.

Я паехаў у горад Курск, стаў выхаванцам ваеннага аркестра і многа гадоў там служыў. Я ўдзячны Савецкай Арміі за тое, што мяне там выхавалі і як чалавека, і як музыканта.

Я не жыў у багатай сям'і. Я жыў у вельмі і вельмі сціплых умовах. Бацькі мае Бэла Барысаўна і Якаў Захаравіч жылі спачатку ў вёсцы Мялешкавічы, што на Гомельшчыне, і толькі ў 1948 годзе пераехалі ў Мазыр. І я помню ўсіх тых вясковых жанчын, мужчын, якія прыязджалі ў горад гандляваць ягадамі, грыбамі і спыняліся ў нас на начлег. Часам у хаце начавала да пятнаццаці чалавек, клаліся на падлозе валетам і спалі. А каб аддзячыць за гасціннасць, памагалі прыбрацца ў хаце, у агародзе. Жывымі засталіся ў маёй памяці цётка Маланння, дзядзька Максім, іншыя вяскоўцы.

Ніколі не забуду, як дваццаць гадоў таму я прыехаў у Мялешкавічы і літаральна ўся вёска абкружыла мяне і доўга-доўга не адпускала. Не буду хаваць: я тады ажно праслязіўся. Ужо няма ні тых людзей, ні маіх бацькоў, але кожны раз, калі я еду на фестываль у Тураў, я абавязкова спыняюся ў Мялешкавічах — проста пастаяць дзве-тры хвіліны, і еду далей.

Але я забег наперад… Дык вось у Курску я пачаў займацца музыкай сур'ёзна. Паступіў у музычнае вучылішча. Мне пашанцавала з педагогамі, якія ў большасці сваёй былі выпускнікамі Маскоўскай кансерваторыі. І нават цяпер я знаходжу свае сшыткі той пары (не буду называць іх канспектамі — не люблю гэтага слова) і мне яны здаюцца найлепшымі падручнікамі, таму што асновы музычнай граматы там выкладзены глыбока і цікава.

Пасля я перавёўся ў Мінск — хацелася ўсё ж на радзіму. Стаў служыць у аркестры штаба Беларускай ваеннай акругі і працягваць вучобу ў музычным вучылішчы. І хоць да гэтага я не быў яркім выканаўцам, але менавіта тут, у Мінску, у мяне справа пайшла. Я не скончыў вучылішча, але мяне як лаўрэата рэспубліканскага музычнага конкурсу ў намінацыі «трамбон» прынялі ў кансерваторыю і ў 1970 годзе я скончыў яе экстэрнам. Два гады вучыўся ў аспірантуры па класу дырыжыравання. Пасля гэтага стаў працаваць у аркестры Беларускага радыё, мастацкім кіраўніком якога быў тады Барыс Райскі.

Я хутка рос як музыкант. І мне захацелася самастойнай працы. А тут якраз і выпадак дапамог — у аркестры Белдзяржцырка аказалася вакансія дырыжора. Гэтаму калектыву я аддаў 17 гадоў свайго жыцця — спачатку ў якасці чарговага дырыжора, а пасля і галоўнага дырыжора. І вось ужо 26-ы год я працую з заслужаным калектывам «Нацыянальны акадэмічны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі». Такі мой шлях у прафесію.

**— Міхаіл Якаўлевіч, у вас шмат высокіх узнагарод і ганаровых званняў. Заслужаны дзеяч мастацтваў, народны артыст Беларусі, лаўрэат прэмій Ленінскага камсамола, Федэрацыі прафсаюзаў, Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, Саюзнай дзяржавы, спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Кавалер ордэна Францыска Скарыны. Я не пытаюся, як вы да гэтага адносіцеся (аднойчы вы прызналіся, што расцэньваеце гэта не як асабістую заслугу, а як заслугу ўсяго аркестра), але цікава ведаць, якая з гэтых узнагарод стала для вас самай хвалюючай, самай дарагой.**

— Усе званні дарагія. Яны выпакутаваныя. Мне ніхто нічога за так не даваў. Я шмат працаваў. І працаваў не для званняў, паверце. Дзякуй, што мяне сталі заў-

важаць і адзначаць. Я вельмі ўдзячны беларускай зямлі, беларускім людзям, якія столькі гадоў ходзяць на мае канцэрты, за тое, што адносяцца да мяне з такой павагай, за тое, што па-ранейшаму цікавяцца маёй творчасцю.

**— Дарэчы, вас заўважылі не толькі ў Беларусі. Я маю на ўвазе вашу імянную Зорку на Алеі славы ў Маскве. Такога гонару ўдастоіліся толькі трое — Мулявін, Лучанок і вы.**

— Гэта сапраўды вельмі ганарова. І мне надзвычай прыемна, што такі факт ёсць у маёй творчай біяграфіі. Думаю, што нас ацанілі не толькі за тое, што мы ў свой час шмат ігралі ў Маскве, але і за наш прафесіяналізм. Мы ж іграем толькі ўжывую. Без усялякіх фанаграм і з адной рэпетыцыі.

**— Міхаіл Якаўлевіч, зробленае вамі не можа не ўражваць. А ці ўсё з задуманага ўдалося ажыццявіць?**

— У асноўным усё. Я толькі хвалююся аб адным: ці хопіць мне часу ажыццявіць тое, што яшчэ задумана.

**— З якімі праблемамі — арганізацыйнымі, матэрыяльнымі — вам даводзіцца сутыкацца?**

— Не, пра матэрыяльныя я ніколі не гавару. Бо добра разумею праблемы нашай краіны. Да таго ж я чалавек не распешчаны. І мае музыканты таксама. Ніколі ні адзін мой музыкант не сказаў мне пра грошы. Ніколі. Мы грошы не просім, мы іх зарабляем. Нам, праўда, даюць магчымасць зарабляць — гэта вялікае шчасце. І самае галоўнае, што мы ніколі і нідзе не падвялі нашу краіну, наш народ. Усюды, дзе б мы ні былі (а нам пашчасціла пабываць у многіх краінах), наконт нашых выступленняў замежныя гледачы выказвалі заўсёды задавальненне і — скажу можа трохі нясціпла — нават захапленне.

Сёння ў нас ёсць усе ўмовы, каб паспяхова працаваць. І трэба меней скардзіцца, што нешта не так. Усё добра! Толькі працуй.

**— А калі выйсці за межы вашага аркестра. Што вас хвалюе, трывожыць у нашым сённяшнім музычным жыцці?**

— Найперш хвалюе засілле фанаграмы. Гэта людзі, якія прыстроіліся да мастацтва, атрымалі сякую-такую адукацыю, а часам (хай мне даруюць за гэту рэзкасць) не ведаюць нават толкам нотнай граматы. У любым жанры я не выношу выканання без ведання справы, зробленага несумленна, не музычна.

На жаль, сёння вельмі заніжана планка прафесіяналізму. Памяняліся крытэрыі ацэнкі. Што добра, што кепска — кожны ацэньвае па-свойму. Сядзіць недзе ў тэлеальбо радыёстудыі музычны рэдактар, які слаба разбіраецца ў музыцы, і выбірае песні на свой густ. І які-небудзь таленавіты малады чалавек можа аказацца незапатрабаваным толькі таму, што яго творчасць, яго талент, бачыце, не таго фармату.

**— Шоу-бізнес… А ці можна як-небудзь спыніць гэту негатыўную, разбуральную стыхію?**

— Ведаеце, сёння вы ўжо нічога не спыніце. Людзі павінны самі выбіраць, што ім слухаць, што ім глядзець. Нешта паправіць можна будзе тады, калі правая рука будзе працаваць у згодзе з левай, калі наша тэлебачанне будзе супрацоўнічаць з канцэртнымі арганізацыямі і Міністэрствам культуры. А ў нас цяпер тэлебачанне — гэта адно, Міністэрства культуры — другое, канцэртныя арганізацыі — трэцяе, а выканаўцы — чацвёртае, хаця яны, можа, па значэнні павінны быць якраз першымі.

**— Вы закранулі пытанне, пра якое я хацеў у вас запытацца. Вас рэдка паказваюць па тэлебачанні. Гэта пазіцыя тэлебачання ці ваша нежаданне мільгаць на экране?**

— Якое там нежаданне! Вось вам свежы прыклад. У адной нашай салісткі карэспандэнт тэлебачання брала інтэрв'ю. Вялікае — хвілін на сорак. І выразалі ўсё, што датычыла аркестра. Як гэта разумець? Гэта ж не мой прыватны аркестр. Нацыянальны. Каштоўнасць рэспублікі. І я не думаю, што такое было ўказанне старшыні тэлеканала. Гэта зрабіла рэдактар, якая лічыць нашу музыку не фарматнай, а аркестр не модным.

Вы правільна заўважылі: нас не паказваюць ужо гадоў дзесяць. Ні па адным з нашых тэлеканалаў. БТ здымае толькі тое, што іграецца на «Славянскім базары». А паказваюць рэдка і ў самы нязручны для гледача час. Гэта правільна? Яны ж абкрадваюць не мой калектыў — маю краіну. І дзякуй, што вы пра гэта запыталіся, таму што цяпер гэта нікога не цікавіць. Раней журналісты за намі ездзілі, ахвотна пісалі пра нашы канцэрты, а цяпер чамусьці наступіла поўная абыякавасць.

**— Наконт «Славянскага базару». Ці не здаецца вам, як актыўнаму і пастаяннаму яго ўдзельніку, што сёе-тое ў гэтым фестывалі мае патрэбу ва ўдасканаленні?**

— Магчыма. Ёсць такія моманты. Нешта і сапраўды трэба было б ужо памяняць. Павінны з'явіцца новыя рэжысёры з новым поглядам і каб яны былі ўзбагачаны еўрапейскім вопытам. Сёння гэтага фестывалю не хапае.

**— Ёсць нараканні, што не заўсёды аб'ектыўна вызначаюцца пераможцы…**

— Вы ведаеце, я ў журы цяпер не працую. Таму нічога на гэты конт гаварыць не буду.

**— Шмат прэтэнзій выклікае канцэрт беларускіх артыстаў. За паўтарыдзве гадзіны гучаць адна-дзве беларускамоўныя песні.**

— Прэтэнзіі справядлівыя. Канцэрты і сапраўды вельмі слабыя. Слабая рэжысура. Слабаватыя выканаўцы — ставяць людзей, якія не паспелі яшчэ выступіць у правінцыі, а іх ужо вязуць на «Славянскі базар». Гэта няправільна. Трэба, каб склад удзельнікаў абмяркоўваўся спецыялістамі.

**— Апошнім часам у нас вельмі многа шуму вакол «Еўрабачання». Ці той гэта конкурс, каб узнімаць такі шум?**

— Гэта сучасны конкурс маладзёжнай песні. І на яго трэба прасцей глядзець. Аднак песняй трэба займацца сур'ёзна. А ў нас што атрымоўваецца? Рытм нібыта і новы, а песня старая. А там патрабуюцца ўжо зусім іншыя інтанацыі. Колькі год таму разам з Філіпам Кірковым і Алай Пугачовай мы прадстаўлялі на Еўрабачанні Расію. Я тады ж, калі вярнуўся, хацеў расказаць нашым спецыялістам, што такое Еўрабачанне, але ў мяне ніхто пра гэта не запытаўся…

**— Чым яшчэ можна растлумачыць ганебныя правалы нашых салістаў на гэтым конкурсе? Можа тым, што мы перасталі сур'ёзна, сістэмна займацца музычным выхаваннем у нашай агульнаадукацыйнай школе? Памятаеце, у свой час кампазітар Дзмітрый Кабалеўскі быў распрацаваў і актыўна ўкараняў спецыяльную праграму такога выхавання ў савецкай школе? Цяпер, наколькі мне вядома, нічога гэтага не робіцца.**

— Я пра школу ведаю мала, выдумваць не буду. Ясна адно: многае залежыць ад таго, як настроены сам гэты хлопчык альбо дзяўчынка. Ну і, канешне, ад тых людзей, якія хочуць, каб гэты хлопчык, дзяўчынка сталі музыкантамі, спевакамі. Наш Прэзідэнт на нарадзе па спорту гаварыў пра нашага праслаўленага гімнаста Валерыя Шчэрбу. Дзе яго знайшлі? У дзіцячым садзе. Так і ў музыцы. Павінен быць пошук, адбор з ранняга дзяцінства. І прадуманая сістэма выхавання.

Раней у прафтэхвучылішчах былі духавыя аркестры, былі выхаванцы ваенных аркестраў. Было з каго выбіраць. Цяпер нічога гэтага няма. Значыць, трэба шукаць новыя падыходы. Вось чым павінна займацца наша акадэмія музыкі.

Я многа працаваў на Захадзе і магу параўноўваць. Павінен сказаць, што хвалёны Захад не варты нашай левай пяты. Мы — нацыя адукаваная, таленавітая. Трэба толькі ўмець карыстацца гэтым патэнцыялам.

І яшчэ хацелася б пажадаць, каб трошкі інакш адносіліся да людзей, якія ўжо нешта зрабілі для рэспублікі. Нядобра іх не заўважаць, нядобра…

**— Міхаіл Якаўлевіч, але вам, па-мойму, грэх наракаць на няўвагу. Вы — чалавек у рэспубліцы запатрабаваны.**

— Я не столькі пра сябе, колькі пра сітуацыю ў цэлым. Заслужаныя людзі маглі б выкарыстоўваць свой вопыт, свой талент больш актыўна, больш плённа. А што датычыцца мяне, то грамадскіх нагрузак сапраўды хапае. Я — член савета

па культуры і мастацтве пры Савеце Міністраў, член камітэта па Дзяржаўных прэміях, два скліканні падрад быў членам Савета Рэспублікі. З'яўляюся членам шматлікіх журы. Абраны ганаровым грамадзянінам Мінска, Мінскай вобласці, Мазыра і Нясвіжа.

**— А ці маеце пры гэтым вольны час?**

— Не маю.

**— І тэлевізар не глядзіце?**

— Гляджу толькі тое, што мне патрэбна па працы.

**— Кнігі ўдаецца чытаць?**

— Мне заўсёды было сорамна, што я ў гэтым адстаю, не паспяваю сачыць за кніжнымі навінкамі. Хоць я многа чаго ведаю з класікі, з твораў нашых выдатных пісьменнікаў — Мележа, Шамякіна, Караткевіча… Я ў школе вучыў беларускую мову, люблю яе і да гэтага часу стараюся гаварыць па-беларуску. Калі я чую, што нехта выдатна гаворыць на роднай мове, я ім захапляюся.

**— Вы неяк сказалі, што пастаянна вучыцеся…**

— Гэта праўда. Навука — мая слабасць. Я пастаянна перачытваю падручнікі па поліфаніі, гармоніі, па музычнай форме. Мне гэта цікава! Сябрую з такой навукай як інструментазнаўства. Я ведаю гісторыю кожнага інструмента, яго магчымасці. Для дырыжора гэта вельмі важна.

**— Пра вас гавораць living рознае: добры і жорсткі, вытрыманы і ўзрыўны, справядлівы і неаб'ектыўны. А як бы вы самі ахарактарызавалі галоўныя рысы свайго характару?**

— З усяго таго, што вы назвалі, толькі адно не адпавядае рэальнасці — неаб'ектыўны. Ніколі я не скажу няпраўды. Так, я магу памыліцца, але як толькі я гэта зразумею, адразу ж прызнаюся. Так, я чалавек прамы: кажу ў лоб, не думаючы, прыемна гэта каму ці непрыемна. Кажу часам рэзка, можа, нават жорстка. Але калі чалавек таленавіты, добры — я гатоў яму многае дараваць.

**— Ваша галоўная рыса характару?**

— Я прагны да працы. Я люблю працу і люблю дабівацца станоўчага выніку.

**— Адзін з блізкіх вам людзей сказаў пра вас, што вы балюча ўспрымаеце нават сяброўскія заўвагі.**

— Ведаеце, калі заўвагі робіць прафесіянал — гэта адно. А калі недасведчаны чалавек гародзіць розную лухту — як я магу яе ўспрымаць?

**— Вам даводзілася сутыкацца з чорнай зайздрасцю калег, са здрадаю сяброў, блізкіх людзей?**

— Сістэматычна. Каб вы ведалі: кожнае маё званне — гэта дзесяць новых зайздроснікаў, а то і ворагаў. Не магу забыць такі факт. Я паехаў на тры месяцы з гастролямі ў Японію, а тыя людзі, што засталіся, напісалі на мяне больш за дзесяць скаргаў у самыя розныя інстанцыі. І пасля вяртання мне давялося яшчэ на працягу не аднаго месяца вытрымаць безліч праверак, даказваць, што я не вярблюд. Гэта была балючая здрада.

Акрамя таго, ёсць людзі, якія даюць мне шмат парад, заўваг, але не былі ні на адным маім канцэрце. Ні на адным! І яны даюць мне ацэнку. Што тут можна гаварыць?

**— Гэта вы пра чыноўнікаў ад культуры?**

— Вы ведаеце, чыноўнікі розныя бываюць. Ёсць у нас віцэ-прэм'ер Анатоль Апанасавіч Тозік. Гэта такі душэўны чалавек. Я прыйшоў да яго, мне нічога не трэба было, я нічога не прасіў, але пагаварыў з ім, параіўся — і нібы пабываў у царкве.

Я павінен сказаць, што ва ўсіх міністэрствах да мяне адносяцца з павагай. Не магу паскардзіцца. От нядаўна быў у міністра фінансаў Харкаўца. Які гэта таленавіты чалавек! Як ён ведае сваю справу! І з якой павагай адносіцца да дзеячаў мастацтва. Не падумайце, што я прасіў у яго грошай. Не. Я прыйшоў параіцца, як мне лепш паступіць у адной складанай сітуацыі. І атрымаў вычарпальны адказ.

**— Як у вас складваецца працоўны дзень?**

— Я падымаюся ў 5 гадзін раніцы і выходжу на прагулку. Іду чатыры кіламетры. Раней праходзіў восем, але цяпер ужо цяжкавата. У сем гадзін — на працы. Недзе а дзявятай — нарада, вырашаем арганізацыйныя, рабочыя пытанні. З дзесяці пачынаецца рэпетыцыя. Пасля абеду я зноў у сваім рабочым кабінеце — прымаю наведвальнікаў, вырашаю бягучыя пытанні. А калі гастролі — тады ўвесь гэты графік, канешне ж, ламаецца.



*Самы галоўны настаўнік і сябра Алег Лундстрэм.*

**— Вы шмат гадоў цесна сябравалі з Яўгенам Глебавым, выдатным беларускім кампазітарам. Што вас з ім звязвала?**

— Напэўна, агульнасць інтарэсаў, роднасць душ.

**— А на чым яшчэ трымаецца сяброўства?**

— Безумоўна, на ўзаемным даверы, на бескарыслівасці адносін, гатоўнасці ў любы час, у любой сітуацыі прыйсці на дапамогу. Калі Глебаў пісаў оперу «Майстар і Маргарыта», сям'я яго сядзела без капейкі грошай. Я прапанаваў Яўгену Аляксандравічу напісаць для нас некалькі аркестровых мініяцюр. У скрутныя гады перабудовы купляў і іншыя творы кампазітара. А калі Глебаў цяжка захварэў, як мог, падтрымліваў яго маральна.

**— З кім яшчэ са сваіх калег вы сябравалі, сябруеце?**

— У мяне склаліся добрыя адносіны з кампазітарам Дзмітрыем Смольскім. Гэта выдатны музыкант. Шкада, што ён цяпер цяжка хворы і ўжо амаль нічога не піша. Але і таго, што ён стварыў, дастаткова на некалькі канцэртаў.

Я ганаруся, што ў свой час блізка сябраваў з Андрэем Пятровым, народным артыстам Савецкага Саюза. Геніяльны музыкант! На вялікі жаль, такіх людзей у маім жыцці застаецца ўсё менш і менш. Я вось адкрываю сваю запісную кніжку, і там ужо столькі людзей, якіх няма. Але я іх тэлефоны не выкрэсліваю.

**— А ўвогуле ва ўмовах шоу-бізнеса можна сябраваць?**

— Я не ведаю. Людзей, якія цяпер там працуюць, мне цяжка зразумець. Мы — з розных пакаленняў.

**— І даруйце, калі ласка, хачу задаць вам цалкам асабістае пытанне. У вас была жонка, сын, а цяпер, як вы сказалі, жывяце адзін. Што здарылася?**

— Як заўсёды, не сышліся характарамі.

**— І колькі вы былі разам?**

— Дваццаць пяць гадоў.

**— Сын застаўся з жонкаю?**

— Так. З былой жонкай мяне нічога не звязвае. Нам трэба было адразу развесціся, у першы ж год. Але я ўсё цягнуў. Чаму? Тады наш калектыў многа ездзіў за мяжу, на гастролі. А калі б я быў разведзены, мяне не пусцілі б нават у Чэхаславакію, не кажучы ўжо пра капіталістычныя краіны. І я цярпеў.

**— Жонка таксама мае дачыненне да музыкі?**

— Яна скончыла музычнае вучылішча.

**— І колькі вы ўжо жывяце адзін?**

— Болей за дваццаць гадоў.

**— Пачуццё адзіноты вам знаёмае?**

— Не. Мне пасля вялікага напружання трэба адпачываць аднаму. Так што адзіноты я не баюся. Але я ведаю, што прыйдзе той момант, калі мне будзе

цяжка і мне толькі за грошы пададуць шклянку вады. Я гэта ведаю. Я да гэтага падрыхтаваны.

**— Дай Бог, каб гэта здарылася як мага пазней.**

— На гэты конт я раскажу вам адзін анекдот. Сустрэліся два яўрэі. «Фіма, — кажа адзін з іх, — я хачу цябе павіншаваць з юбілеем і пажадаць, каб ты дажыў да 120 гадоў». — «Ты ведаеш, — адказвае той, — я не хачу да 120-ці. Хачу да 119-ці». — «Чаму?» — «Хачу, каб на помніку напісалі: пайшоў з жыцця дачасна» *(маэстра весела, ад душы смяецца).*

**— Тады я запытаюся ў вас крыху інакш. У беларускай мове ёсць цудоўны шэраг слоў сінонімаў: журба, самота, туга, скруха, нуда, маркота, смутак, панылась; і больш моцных выразаў: песімізм, дэпрэсія, адчай. Якія з гэтых пачуццяў вы часам перажываеце?**

— Бывае і сум, і маркота. Усё бывае. Адценні гэтых пачуццяў залежаць толькі ад таго, у якім месцы я знаходжуся — у лесе, у хаце, на вуліцы. Альбо пасля нейкай падзеі. А вось дэпрэсіі, адчаю ў мяне не бывае ніколі. Я кожны дзень у працы. Калі б у мяне была дэпрэсія, я б нічога не зрабіў.

**— Чаму вы пазбавіліся ад уласнай аўтамашыны?**

— Мне ўжо 65 гадоў. Кіраваць машынай — гэта вельмі адказная справа. Я быў за рулём 38 гадоў. І аднойчы трапіў у складаную аварыю, пасля якой вырашыў больш за руль не садзіцца.

**— А чым вам перашкаджала ўласнае лецішча?**

— Якое там лецішча! Я прыехаў з Італіі, і трэба было патраціць заробленыя грошы. Мне падказалі, што вось там, у Гарадзішчы, ёсць дом, які прадаецца. Я ў будаўнічых справах не разбіраюся і купіў яго. Аказалася, што гэта не дом, а халабуда, збітая з дошчачак з-пад драўляных скрынак. Ледзь яе змог прадаць. Шэсць гадоў прадаваў. Цяпер жа мне не да дачы. Я кожны дзень на працы.

**— І ў выхадныя?**

— І ў выхадныя. У такія дні я толькі і магу спакойна над нечым падумаць.

**— Вы шчаслівы чалавек?**

— Я шчаслівы ўжо хоць бы таму, што магу займацца той справай, якую люблю. І мне яшчэ за гэта даюць зарплату. Я шчаслівы і тым, што жыву ў Беларусі і тым ганаруся. Паверце, я гэта гавару не для пафасу. Гэта — шчыра, ад душы. Я шчаслівы таксама тым, што, як бы ні было цяжка, у мяне ўсё ж такі ёсць некалькі чалавек — добрых, мілых, сур'ёзных, адукаваных, якія могуць не толькі мяне зразумець, але і нешта параіць, падказаць.

**— У чым, на вашу думку, сэнс жыцця?**

— Можна адказаць коратка: сэнс жыцця — у самім жыцці. Але для таго, каб пражыць гэтае жыццё паўнацэнна, паўнакроўна, трэба, па-першае, быць здаровым чалавекам; па-другое, высокаадукаваным чалавекам, не дыплом мець, а сапраўдныя, глыбокія веды; і па-трэцяе, быць прафесіяналам, каб цябе паважалі людзі і каб ты заўсёды быў першым. А першым быць — гэта вельмі адказна і вельмі цяжка. Ну і яшчэ: трэба моцна любіць сваю Бацькаўшчыну. Я шмат езджу па рэспубліцы і радуюся — якая яна чыстая, дагледжаная. Гэтым трэба ўмець ганарыцца. А мы часам добрага і не заўважаем.

Але я трохі адхіліўся. Калі вярнуцца да вашага пытання і падсумаваць усё мною сказанае, то сэнс жыцця ў тым, каб спаўна рэалізаваць той патэнцыял, які дадзены табе Богам, бацькамі, займацца сваёй, любімай справай, пакінуць адметны след на зямлі.

***Гутарку вёў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

Анатоль МАРКУШАЎ

# ЯК СТАТКЕВІЧ-ЧАБАГАНАЎ ДАПОЎНІЎ АЛЯКСЕЯ ТАЛСТОГА

**Анатолий Стецкевич-Чебоганов. Я — сын Ваш. Казановичи герба «Гржимала». Летопись белорусской шляхты.**

*Минск : Белорусская Православная Церковь, 2012.*

Захацелася надоечы ажывіць сваю памяць. Калі тая трылогія «Хождение по мукам» Аляксея Талстога чыталася?! Бадай, яшчэ ў старэйшых класах сярэдняй школы. Магчыма, і студэнтам звяртаўся да яе. Але і гэта запамятаваў. Колькі ж часу мінулася! Запамятаваў і іншае. У каторай з трох кніг (менавіта як кнігі, а не як раманы, як вядома, пазначаны састаўныя часткі трылогіі самім аўтарам) Аляксей Мікалаевіч так прыязна адзываецца аб адным з белагвардзейскіх генералаў.

Даўгавата думаў-гадаў, пакуль памяць нарэшце ўсё ж вырашыла аказаць мне сваю паслугу. Сведчанне, якое гэтак зацікавіла мяне, напаткаў ці не напрыканцы кнігі другой «Восемнадцатый год»: «Генерал Казанович стоял на срубе колодца у железнодорожной будки и спокойно следил за умелыми движениями офицерских цепей, идущих без выстрела. Тонкое, изящное лицо его, с полуседыми длинными усами и подстриженной бородой (как носил государь император), было насмешливо-сосредоточенно, красивые глаза холодно, с женственной страстностью улыбались. Он был настолько уверен в исходе боя, что ни минуты не захотел ждать дивизии Дроздовского. Он соперничал в поисках славы с Дроздовским, болезненно самолюбивым, осторожным и, часто во вред делу, медлительным. Он любил войну за ее пышный размах, за музыку боя, за громкую славу побед».

Канечне, каб гэтак сказаць пра таго, хто з'яўляўся ворагам рэвалюцыі, на той час трэба было мець немалую смеласць. На яе А. Талстога, безумоўна, падштурхоўвала тое, што ён ужо тады (гэтая кніга, як вядома, завершана ў 1928 годзе) ведаў тое, чаго не ведала пераважная большасць тых, хто чытаў тады трылогію «Хождение по мукам». Таму і адштурхоўваўся ад праўды пра Грамадзянскую вайну, прынамсі, пра пачатак гэтай вайны, блізкай да сапраўднасці. Сутнасць жа гэтай праўды, калі казаць коратка, у тым, што нельга прычэсваць усіх, хто ваяваў у Грамадзянскую вайну, пад адзін грабянец. Трэба адштурхоўвацца ад фактаў і толькі фактаў. Факты ж былі такія, што белагвардзеец Барыс Казановіч, хоць ён і змагаўся супраць рэвалюцыі, заслугоўвае ўдзячнага стаўлення да сябе. Бо ён не здрадзіў клятве, якую даваў. Ён абараняў тую Расію, якой служыў і ў якую верыў.

У тым, што пра такіх людзей, як Б. Казановіч нельга не пісаць з павагай, А. Талстой быў перакананы ўжо тады, калі ствараў сваю трылогію. Я ж у гэтым канчаткова ўпэўніўся нядаўна, пазнаёміўшыся з чацвёртай кнігай з серыі «Летопись белорусской шляхты» Анатоля Статкевіча-Чабаганава, прысвечанай роду Казановічаў герба «Гржымала». Пакуль што, дзякуючы выдавецтву Беларускага Экзархата, з'явіўся рускамоўны варыянт. На падыходзе — беларускамоўны, які пабачыць свет, дзякуючы часопісу «Роднае слова». Тыя, хто паспеў гэтую кнігу А. Статкевіча-Чабаганава прачытаць,

несумненна, здзівіліся. Навошта было мне шукаць у трылогіі А. Талстога ўрывак, дзе гаворыцца пра Барыса Казановіча як абагульнены вобраз афіцэра Добраахвотнай арміі, «прокалённой насквозь железной дисциплиной, поражаемой и отступающей, но, как механизм, послушной воле единого командования», калі сам Анатоль Васільевіч прыводзіць гэты ўрывак, прытым куды больш разгорнуты. Ды мне хацелася ўсё ж далучыцца да першакрыніцы.

Падаючы пра Б. Казановіча звесткі, якія, паводле мастакоўскай задумы Аляксея Мікалаевіча, у трылогію «Хождение по мукам» не ўвайшлі, але веданне такіх фактаў дапамагае лепшаму спасціжэнню гэтай задумы, А. Статкевіч-Чабаганаў, па сутнасці, дапаўняе А. Талстога. Сваю ж мастакоўскую задуму А. Талстой абгрунтаваў 4 мая 1927 года ў лісце да рэдактара «Нового мира». Сімптаматычна тое, што гэтыя высновы акурат тычацца напісання другой кнігі «Восемнадцатый год».

Аляксей Мікалаевіч, бадай, не мог не прадбачыць, што знойдуцца тыя, каму можа не спадабацца, як падае ён паслярэвалюцыйныя падзеі, таму ўдакладняў: «Первое: я не только признаю революцию, — с одним таковым признанием нельзя было бы и писать роман, — я люблю ее мрачное величие, ее всемирный размах. И вот — задача моего романа, — создать это величие, этот размах во всей его сложности, во всей его трудности». У гэтым прызнанні істотна тое, што А. Талстой, знаходзячыся ў сваім часе, вырываўся з гэтага часу, глядзеў далёка наперад. Ён разумаеў, што аднабаковы падыход да рэвалюцыйных і паслярэвалюцыйных падзей карысці не дасць: «Вы хотите, чтобы я начал с победы и затем, очевидно, показал бы растоптанных врагов. По такому плану я *отказываюсь* (выдзелена самім А. Талстым. — *А. М.*) писать роман. Этот будет одним из многочисленных, никого уже теперь, а в особенности молодежь, не убеждающих плакатов».

Пазбаўленне плакатнасці — гэта, зразумела, і праўда пра таго ж Б. Казановіча. Але гэта і праўда пра ўвесь род Казановічаў. Яна і стала магчымая, дзякуючы А. Статкевічу-Чабаганаву, які прасачыў гісторыю гэтага роду, прадстаўнікі якога пакінулі глыбокі след у гісторыі Беларусі і Расіі, за пяцьсот гадоў. Безумоўна, шмат далі ягоныя даследчыцкія росшукі — дваццаць гадоў апантана працуючы ў архівах, Анатоль Васільевіч вывучыў гісторыю больш як сарака вядомых шляхецкіх родаў Беларусі. Найперш тых, хто ў той ці іншай ступені з'яўляецца ягоным прашчурам. Сам жа А. Статкевіч-Чабаганаў належыць да роду Стацкевічаў, Стацкевічаў-Статкевічаў і Карафа-Корбутаў. Ды свет цесны. Ягоны род знаходзіцца ў сваяцтве і з тымі ж Казановічамі.

Гэткімі ж роднаснымі сувязямі проста нельга не ганарыцца. Старанна вывучаючы кнігі магілёўскага магістрата, А. Статкевіч-Чабаганаў устанавіў, што род Казановічаў бярэ свой пачатак ад двух братоў — Гаўрылы і Яроша, якія жылі ў Магілёве ў XVI стагоддзі. Казановічы годна служылі Айчыне. Для прыкладу, шэсць сыноў Гаўрылы Казановіча праславіліся ратнымі справамі ў Айчыннай вайне 1812 года. Аляксей жа і Гілярый Казановічы прымалі ўдзел у знакамітай Барадзінскай бітве. Як яны ваявалі, яскрава сведчыць тое, што абодва былі ўдастоены залатой зброі. Так адзначалі тады толькі самых смелых і адважных. Паколькі Гілярый у гэтай бітве кроў праліў, то ягонае імя навечна выбіта на памятнай дошцы, устаноўленай ў Храме Хрыста Збавіцеля ў Маскве. Істотны і такі факт: браты Казановічы ўдзельнічалі ў Барадзінскай бітве ў званні паручнікаў Ахтырскага гусарскага палка, а даслужыліся да падпалкоўнікаў.

Быў і яшчэ адзін паручнік Казановіч — Васіль. Да тых належаў, хто ў гэтую памятную вайну арганізоўваў партызанскія атрады. І не беспаспяхова дзейнічаў. Таму яго і прыгадвае ў сваім «Дневнике партизанских действий» Дзяніс Давыдаў: «...Рано 14 числа мы выступили к Белыничам. На подходе встретили мы Ахтырского гусарского полка поручика Казановича. [...] Он, узнав о приближении моем к сему

местечку, сел на конь и поскакал ко мне навстречу, чтобы уведомить меня о пребывании неприятеля в местечке, о числе оного и вместе с тем, чтобы быть вожатым моим по дорогам, более ему, нежели мне, известным…»

Але не аднымі мужчынамі род Казановічаў слаўны. Праўда, слава славе розніца. Ды, калі ўжо быць аб’ектыўным, то нельга нічога ўпускаць з-пад увагі. Таму А. Статкевіч-Чабаганаў расказвае і пра Лідзію Казановіч (Язерскую). Лідзія Паўлаўна была эсэркай. Ад гэтага, як кажуць, нікуды не дзенешся. Затое яе сястра Еўлалія стала адным з заснавальнікаў Пушкінскага Дома. Гэта ёй Аляксандр Блок запісаў у альбом свой апошні верш — «Пушкинскому Дому». Да ўсяго Еўлалія Паўлаўна збірала фальклор Магілёўшчыны. У гэтым томе прадстаўлены яе запісы «Валачобныя песні» і «Гавары Азеранскага края». Трэба сказаць, надзіва арыгінальныя. Яны, безумоўна, сведчаць пра тое, якая багатая творчая фантазія ў беларускага народа, а перадусім пацвярджаюць тую думку, што лепшыя выхадцы з таго ж народа з павагай ставіліся да гэтай багатай духоўнай спадчыны, стараючыся зрабіць усё ад іх магчымае, каб зберагчы яе для нашчадкаў.

Аднак вернемся да генерала Барыса Казановіча. Апошнія свае дні ён правёў у эміграцыі, з’яўляўся старшынёй Галоўнага кіраўніцтва Саюза ўдзельнікаў 1-га Кубанскага паходу і Таварыства афіцэраў Генеральнага штаба ў Югаславіі. У час Грамадзянскай вайны эмігрыравала і ягоная дачка Алена. Сама гісторыя яе жыцця — настолькі цікавая, што заслугоўвае ўважлівага прачытання. Што і робіць А. Статкевіч-Чабаганаў, перагортваючы старонкі яе біяграфіі. У гэтым яму дапамагае дзённік, які яна вяла на працягу не аднаго дзясятка гадоў і які, на шчасце, захаваўся, пра што і гаворыць Анатоль Васільевіч: «…благодаря моей родственнице Наталье Татур мне удалось получить часть забытых рукописей. […] В дневниках Елены Борисовны оказалось много интересных сведений из истории родов Казановичей и Островских, к последнему принадлежала ее мать Ольга Николаевна».

Дачка Барыса Казановіча таксама доўгі час жыла ў эміграцыі. Але ў 1950-я гады яна са сваім мужам, афіцэрам Сяргеем Карповічам вярнулася на радзіму. Само вяртанне іх — гэта, па сутнасці, адысея, у якой спалучаны смеласць і рашучасць, рызыка і пэўная авантура, небяспека, якая падсцерагала на кожным кроку, і ўпэўненасць у тым, што ўсё ў рэшце рэшт закончыцца добра. Гэтая адысея пад пяром А. Статкевіча-Чабаганава набывае форму апавядання, напісанага на аснове багатага фактычнага матэрыялу, аб з’яўленні якога сведчыць так: «Друзья их семьи — Наталья Николаевна Татур, Зинаида Ивановна Ляшевич, Валентина Ивановна Ивашина и Клавдия Степановна Глазкова с дочерью Ольгой — поведали мне о жизни Казановичей в эмиграции и судьбе Елены Борисовны после возвращения».

Несумненна, для лепшага разумення, кім жа былі прадстаўнікі гэтага славутага роду, якім душэўна багатым чалавекам з’яўлялася сама Алена Барысаўна, шмат дае сам яе дзённік, змешчаны ў кнізе. Сапраўдным адкрыццём для А. Статкевіча-Чабаганава (гэтае адкрыццё напаўняе і кожнага чытача) стала тое, што гэта не проста запісы, няхай самі па сабе і значныя. Яны напоўнены цікавывымі фактамі, што дазваляюць лішні раз упэўніцца, наколькі неардынарнымі былі прадстаўнікі роду Казановічаў.

Кожны з іх быў у чымсьці адметны. У нечым яны маглі і памыляцца, але ў адным ні ў якім разе нельга адмовіць ім — у любові да Радзімы. Яны маглі ахвяраваць малым дзеля таго вялікага, што дазваляе адчуваць сябе грамадзянамі сваёй краіны. Што і відаць з запісаў А. Казановіч, пра значнасць якіх у прадмове дакладна сказаў доктар гісторыка-філалагічных навук, прафесар гісторыі Рускай Царквы і рускай філасофіі Свята-Сергіеўскага багаслоўскага інстытута ў Парыжы, старшыня Радаслоўнай камісіі Саюза Рускіх Дваран князь Д. Шахаўской: «Дневники Елены Борисовны удачно дополняют историю

рода Казановичей и, несомненно, являются определенным вкладом в мемуарную литературу».

Жыццё Алены Казанович і яе мужа — таксама свайго роду «Хождение по мукам». Дарэчы, у гэтых блуканнях, дакладней, у самым пачатку іх быў вельмі цікавы эпізод: «…1918 год. Могилёв. В один из церковных праздников прихожане Трёхсвятительского храма, несмотря на то, что уже было принято решение о закрытии его и запрете богослужения, направились с крестным ходом в другую церковь. Люди несли в руках хоругвы и иконы. Чекисты стали разгонять прихожан, начали стрелять — и люди разбежались, унося по домам святыни.

В этом крестном ходе участвовала и Елена Борисовна, в руках которой находилась икона “Образ Пресвятой Богородицы” с мощами святого Онуфрия. Именно эта святыня, как считала Елена Борисовна, помогла им выжить в трудные годы эмиграции и пройти тяжелейший путь возвращения на родину».

Аб высокай маральнасці шляхецкага роду Казановічаў, аб ягонай вернасці хрысціянскім традыцыям і сведчыць тое, што сям’я Алены Барысаўны, знаходзячыся ў эміграцыі, старанна берагла гэтую праваслаўную святыню. Па вяртанні ж на радзіму перадала яе сваім сябрам — Клаўдзіі Сцяпанаўне Глазковай і яе дачцэ Вользе. У жніўні 1995 года ікона была вернута гораду на Дняпры, перададзена на захаванне ў Магілёўскі Свята-Нікольскі манастыр. Не магла быць не вернута. Калі Вольга цяжка хварэла, то яна «часто обращалась за помощью к образу Пресвятой Богородицы. Она чувствовала тепло, исходящее от иконы, и ей становилось легче». Аднойчы ж пачула голас: «Отвези Меня на место». Пасля гэтага просьба паўтаралася яшчэ двойчы.

Вярнуся яшчэ раз да вышэйзгаданага ліста А. Талстога да рэдактара «Нового мира». Аляксей Мікалаевіч прызнаваўся: «В романе я беру живых людей со всеми их слабостями, со всей их силой, и эти живые люди делают живое дело». «Эти живые люди», як вядома, у Грамадзянскую вайну знаходзіліся па абодва бакі барыкад. Толькі пісьменнік вялікага таленту і не менш вялікага грамадзянскага абавязку, якім і з’яўляўся А. Талстой, мог асмеліцца ўзяць на сябе адказнасць падаць станоўчы вобраз таго, хто змагаўся з бальшавікамі. І паспяхова справіўся з пастаўленай перад сабой задачай. Дый, калі разабрацца, не мог гэта не зрабіць, бо ў яго рэальны персанаж, які цалкам спрыяў вырашэнню такой адказнай задачы. Таму ён і вывеў Барыса Казановіча пад сапраўдным прозвішчам.

Кніга ж А. Статкевіча-Чабаганава «Я — сын Ваш. Казановичи герба “Гржимала”» дапамагае, заглыбіўшыся ў гісторыю гэтага роду, а таксама даведаўшыся нямала пра іхніх родзічаў — Астроўскіх, Кігнаў, Свянціцкіх і іншых (пра іх таксама расказваецца ў гэтым томе), лішні раз упэўніцца ў тым, што грамадства заўсёды было, ёсць і будзе дзякуючы сваім лепшым прадстаўнікам. Пры гэтым, зразумела, нельга адмаўляць сам народ як вялікую рухаючую сілу, але народ у такую вялікую рухаючую сілу ператвараюць менавіта лепшыя з лепшых. То яшчэ раз дзякуй А. Статкевічу-Чабаганаву за яго падзвіжніцкую працу на карысць Бацькаўшчыны.



Сяргей ДЗЯМІДЧЫК

# ЗЯМЛЯ ДАЎНЯЯ, ЗЯМЛЯ СЛАЎНАЯ

*(Артыкул першы)*

Людзі на тэрыторыі сучаснага Ляхавіцкага раёна пасяліліся ў сівой даўніне. Прыкладна 13 тысячагоддзяў назад. Меркаваць так дазваляе знойдзеная археолагамі на высокім беразе ракі Шчары, на паўночнай ускраіне вёскі Набярэжная (колішнія Воնькі) вялікая пласціна-нож, якой, несумненна, карыстаўся хтосьці са старажытных людзей яшчэ ў канцы каменнага веку, у перыяд палеаліту. Акурат у той час ледавік, які дагэтуль накрываў Паўночную Еўропу, пачаў адступаць, а клімат паступова станавіўся ўсё больш цёплым, што не магло не прывесці да з'яўлення багатай раслліннасці і розных жывёл. У пошуках лепшага месца для пражывання і прыйшлі сюды людзі, якім спадабалася мясцовасць, дзе працякае Шчара і яе прытокі — Ведзьма, Мышанка, Ліпнянка. Безумоўна, назвы гэтыя, як і іншыя тамашнія тапонімы, узніклі пазней, як і назва краю — Ляхавіцкі.

Першыя пісьмовыя крыніцы, што тычацца тэрыторыі Ляхавіцкага раёна, адносяцца да канца XV стагоддзя. Самі Ляхавічы ўпершыню згадваюцца ў не датаваным прывілеі караля польскага і вялікага князя літоўскага Казіміра, выдадзеным камусьці на права правядзення ў гэтым населеным пункце кірмашоў і адкрыцця корчмаў. Хутчэй за ўсё, уладальнікам Ляхавіч стаў тады А. Гаштольд. Паколькі Казімір з'ўляўся каралём з 1447 па 1492 год, дык дзесьці ў гэтым прамежку Гаштольд і атрымаў прывілей.

Калі прытрымлівацца першай даты, дык Ляхавічам летась споўнілася 565 гадоў. Узяўшы апошнюю, даведваемся, што ўзрост іх хоць і меншы, аднак таксама значны — 520 гадоў. Апошнюю акалічнасць і прыняло пад увагу кіраўніцтва раёна, вырашыўшы ў 2012 годзе ўрачыста адзначыць гэты юбілей. Згадваліся падзеі даўнія, гаварылася аб сённяшніх поспехах працаўнікоў Ляхаўшчыны.

Расказваючы ж хоць з большага пра тое, што адбылося за 520 гадоў, можна пісаць кнігу. У 1572 годзе Ляхавічы перайшлі да кастэляна віленскага Ян Гераніма Хадкевіча. Ягоны сын Ян Караль, з'ўляючыся гетманам Вялікага Княства Літоўскага, перабудаваў старую крэпасць. Яна пачала называцца Ляхавіцкай фартэцыяй. Лічылася найбуйнейшай у Рэчы Паспалітай. Сцены гэтай крэпасці ў даўжыню мелі ажно кіламетр. За імі, акружанымі глыбокім ровам, у цэнтры знаходзіўся двухпавярховы палац.

Крэпасць у 1621 годзе, зразумела, з самімі Ляхавічамі і наваколлем перайшла да Сапегаў, якія валодалі імі да 1775 года. Затым гаспадаром Ляхавіч стаў епіскап Ігнацій Масальскі. У 1793 годзе, паводле другога падзелу Рэчы Паспалітай, Ляхавічы адышлі да Расіі. Развіццю горада шмат паспрыяла адкрыццё ў канцы XIX стагоддзя ўчастка Палескай чыгункі Баранавічы — Лунінец.

Нямала можна гаварыць і пра падзеі мінулага стагоддзя: рэвалюцыя, уваходжанне ў склад буржуазнай Польшчы, Вялікая Айчынная вайна, пасляваенны перыяд, поспехі працаўнікоў сельскай гаспадаркі. А потым перайсці да таго, што ўжо зроблена ў стагоддзі цяперашнім.

## Гонар айчыннага кіно

Важкія набыткі ляхаўчан і на культурнай ніве. Прынамсі, гэтая зямля дала жыццё знакамітаму кінарэжысёру Міхаілу Пташуку.

Нарадзіўся заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, народны артыст Беларусі М. Пташук у вёсцы Федзюкі 28 студзеня 1943 года.

Пабачыў свет у зямлянцы, што знаходзілася на ўскраіне вёскі і ў якой ягоная маці хавалася ад гітлераўцаў. Калі Мішу споўнілася тры гады, ён асірацеў: у студзені 1946 года памёр бацька. Маці давялося адной ставіць сына на ногі. Дзякаваць Богу, ён аказаўся хлапчуком старанным, кемным, таму, як ні цяжка даводзілася, школу скончыў у пятнаццаць гадоў.

Няпроста гэта далося, толькі да цяжкасцей яму было не прывыкаць. У школе вучыўся ў Баранавічах, куды дабіраўся цягніком. Выязджаў з сябрамі раніцай, а дамоў вяртаўся позна вечарам. Успамінаў: «Днём цягніка не было, і мы праводзілі па 8—10 гадзін на вакзале, тут чыталі, рыхтавалі ўрокі, спалі, успрымалі ўражанні мітуслівага переннага жыцця».

Пасля заканчэння школы Пташук працаваў у родным калгасе, а пасля паступіў на рэжысёрскі факультэт Маскоўскага тэатральнага вучылішча імя Б. Шчукіна. Дыплом аб вышэйшай адукацыі атрымаў у 1967 годзе. Праз пяць гадоў завяршыў вучобу і на Вышэйшых рэжысёрскіх курсах Дзяржкіно СССР, займаючыся ў майстэрні вядомага савецкага кінарэжысёра Георгія Данэлія.

Пасля заканчэння Шчукінскага вучылішча працаваў рэжысёрам у тэатрах Масквы і Казані, але вабіла кіно. Таму ў 1974 годзе звязаў свой лёс з кінастудыяй «Беларусьфільм». Годам раней дэбютаваў мастацкім фільмам «Пра Машу, пра Віцю і марскую пяхоту». Праўда, на Адэскай кінастудыі. Дарэчы, гэтая стужка была ягонай дыпломнай работай пры завяршэнні вучобы на рэжысёрскіх курсах.

Дэбют атрымаўся настолькі ўдалым, што пра М. Пташука адразу загаварылі як пра кінарэжысёра яркага творчага дараванння, творцу, якому па сіле вырашэнне самых складаных мастакоўскіх задач. Высока быў ацэнены і сам фільм. Ён атрымаў Гран-пры Усесаюзнага кінафестывалю маладых кінематаграфістаў, што праходзіў у 1973 годзе ў Кіеве. На гэтым жа фестывалі прызам быў адзначаны акцёр С. Святліцкі як выканаўца мужчынскай ролі. Гран-пры фільму «Пра Машу, пра Віцю і марскую пяхоту» прысудзілі і на Міжародным кінафестыфвалі ў Іспаніі (1974).

Пазней Пташуком былі зняты фільмы «Лясныя арэлі», «Час выбраў нас», «Наш бранепоезд», «Кааператыў “Палітбюро”» і іншыя. Шмат якія з іх таксама атрымлівалі на розных фестывалях высокія ўзнагароды. Асабліва многа іх сабраў фільм «У жніўні 44-га…»: Гран-пры Міжнароднага кінафестывалю «Залаты Віцязь», прызы — Прэзідэнта Расіі за ўвасабленне тэмы любові да Радзімы; тройчы прызы за лепшую мужчынскую ролю, а таксама прызы за лепшую распрацоўку тэмы Вялікай Айчыннай вайны, за лепшы мастацкі фільм на нацыянальным кінафестывалі ў Брэсце, прыз Юрыя Озерава за лепшы кінатвор на ваенна-патрыятычную тэму.

Міхаіл Пташук зняў таксама шэраг фільмаў паводле твораў беларускіх пісьменнікаў: «Вазьму твой боль» (паводле Івана Шамякіна), «Чорны замак Альшанскі» (паводле Уладзіміра Караткевіча), «Знак бяды» (паводле Васіля Быкава), які быў адзначаны Гран-пры Міжнароднага кінафестывалю ў Югаславіі.

Жыў новымі творчымі планамі, але яго жыццё трагічна абарвалася ў аўтамабільнай катастрофе 26 красавіка 2002 года. Як не пагадзіцца з І. Шамякіным: «Смерць кожнага чалавека — страта для грамадства. Смерць чалавека, якому Бог даў талент, — нацыянальная трагедыя».

## Як нараджаўся акадэмічны народны хор

Магчыма, некаторыя і не ведаюць, што Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча не было б, калі б не вёска Вялікае Падлессе ў Ляхавіцкім раёне. У падобным сцверджанні ніякай нацяжкі. Генадзь Іванавіч яшчэ ў 1936 годзе ў час адной са сваіх фальклорных вандровак звярнуў увагу, наколькі адметная народная песенная творчасць у гэтай вёсцы. Калі ж Цітовіч адразу пасля вызвалення Заходняй Беларусі стаў адказным рэдактарам Баранавіцкага радыё, у пачатку кастрычніка 1939 года да яго завіталі жыхаркі Вялікага Падлесся — сёстры Вольга і Вера Федчык. «У нас у суботу вечарам, — паведалі яны, — сяло разлягаецца ад песень. І ў тым канцы, што пад Улазавічы, і ў другім,

што пад Жарабковічы, спевакі пераклікаюцца, як салаўі ў лесе». Дый некалькі песень сёстры праспявалі Генадзю Іванавічу.

Цітовіч загарэўся жаданнем стварыць беларускі народны хор, падобны на праслаўлены рускі калектыў імя Пятніцкага. Таму і паспяшаўся ў Вялікае Падлессе. На ягоную прапанову ахвотна адгукнуліся 18 чалавек. Праз дзесяць дзён яны спявалі на Баранавіцкім радыё, а на кастрычніцкія святы Падлескі хор выступаў у Ляхавічах.

К канцу года ў калектыве ўжо было 30 спевакоў. У лютым 1940 года хор прыняў удзел у аглядзе мастацкай самадзейнасці Баранавіцкай вобласці, на якім заняў першае месца. Тым самым быў прызнаны адным з лепшым у Беларусі. Неўзабаве ён прыняў удзел у Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве, выступаў на сцэне Вялікага тэатра СССР. Песні былі запісаны на грампласцінку. На ўрачыстым прыёме у Крамлі падлескія артысты ў якасці падарунка атрымалі баян, а яшчэ кожнаму спеваку далі па пары ботаў — падарунак для таго часу вельмі каштоўны.

Праўда, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, гэтая паездка дорага каштавала падлескім артыстам. Вёску гітлераўцы ледзь не спалілі. Патрабавалі аддаць баян. Зразумеўшы, што забраць яго не ўдасца, некалькі чалавек забілі. Тыя, хто застаўся ў жывых, з нецярпеннем чакалі вызвалення. Калі ж яно прыйшло, з задавальненнем выступалі ў прыфрантавых шпіталях. Аднак у асноўным спявалі дзяўчаты. Мужчыны ці загінулі, ці знаходзіліся на фронце. А з вызваленнем усёй Беларусі ад гітлераўскіх захопнікаў у гісторыі гэтага самадзейнага калектыву пачалася новая старонка.

У 1949 годзе Г. Цітовічу як кіраўніку Падлескага хору было прысвоена ганаровае званне Заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. У 1951 годзе яму даручылі стварыць Дзяржаўны народны хор БССР. Як успамінаў пазней Генадзь Іванавіч, «асновай стылю і рэпертуару Дзяржаўнага народнага хору БССР стала творчасць спевакоў Вялікага Падлесся, хоць адтуль у хор прыйшло толькі тры чалавекі. Я хацеў узяць, напрыклад, тэнараў Праневіча, Махнача, многіх іншых, але іх трымалі сем’і, гаспадаркі. Ды і цяжка было людзям мяняць карэнны лад жыцця».

Падлескі ж хор, які цягам часу атрымаў званне народнага, працягваў жыць. Цітовіч часта наведваўся да сваіх артыстаў. Не стала Генадзя Іванавіча 20 чэрвеня 1986 года. У 1988 годзе Дзяржаўнаму акадэмічнаму народнаму хору Рэспублікі Беларусь было прысвоена імя Г. І. Цітовіча.

На Ляхаўшчыне ж працягваюцца песенныя традыцыі, працуюць і іншыя самабытныя калектывы. Увогуле, край гэты адметны і сваімі народнымі касцюмамі. Нездарма існуе такое паняцце, як ляхавіцкі строй. Непаўторныя і тамашнія народныя тканіны. Але тут, як, бадай, ў пераважнай большасці раёнаў Беларусі, моцныя і літаратурныя традыцыі.

## Сведчанні скупыя, ды важныя

Як ні ўспомніць Фёдара Еўлашоўскага, які з’яўляецца першым беларускім пісьменнікам-мемуарыстам. Нарадзіўся ён 7 лютага 1546 года ў Ляхавічах. Паходзіў Еўлашоўскі (часам пішуць і Еўлашэўскі) з дробнай шляхты. Хоць нідзе і не вучыўся, але добры плён далі заняткі самаадукацыяй. Дзякуючы стараннасці, набыў неблагія веды па матэматыцы, юрыспрудэнцыі, філасофіі. Неабыякавы быў Еўлашоўскі і да слова. Ва ўсякім разе, працуючы падсудкам Навагрудскага земскага суда, не толькі выконваў свае непасрэдныя абавязкі. З 1603 года пачаў пісаць і «Дыярыуш», ці «Дзённік».

Але гэта не «Дзённік» у традыцыйным разуменні жанру, а мемуары. Еўлашоўскі расказваў не пра тое, што было ў той дзень, калі ён браўся за пяро, а ўспамінаў тое, што адбывалася раней. Відаць, выкарыстаў і запісы, зробленыя ім за папярэднія 40 гадоў. Атрымліваецца, што ягоны «Дыярыуш» — гэта ўспаміны.

Істотны такі момант: Еўлашоўскі са старонак «Дзённіка» паўстае патрыётам сваёй краіны — Вялікага Княства Літоўскага. Ён ганарыцца тымі, хто правіў гэтай дзяржавай. Праўда, у «Дзённіку» усё ж асноўная ўвага скіравана на падзеі

мясцовага жыцця. Не абыходзіць Еўлашоўскі і тое, што тычыцца ягонага асабістага. Безумоўна, часцей за ўсё гэта толькі пэўныя згадкі: называе, калі хто нарадзіўся, а калі адышоў у вечнасць, успамінае, з кім сам пазнаёміўся. Але нярэдка сустракаюцца і больш разгорнутыя запісы, што нагадваюць сабой навелы, пабудаваныя на канкрэтных фактах.

Даводзіцца толькі шкадаваць, што Еўлашоўскі чамусьці не пакінуў падрабязнага апісання тагачасных Ляхавіч. Такі матэрыял, несумненна, уяўляў бы цікавасць. Аднак у «Дыярыушы» ёсць толькі расказ пра вялікую паводку, якая адбылася ў гэтым населенным пункце вясной 1576 года. Тады вада пачала прыбываць так хутка, што ўзнікла пагроза для новага млына. Давялося вакол яго збіваць лёд. Гэта ледзь не каштавала жыцця млынару Янушу.

Януш стаяў на крайняй бэльцы моста і адбіваў пешняй вялізную крыгу. За ім на мосце знаходзіліся двое слуг і тое ж самае рабілі бервяном. Нечакана яны ўпусцілі яго, і бервяно з усёй сілы ўдарыла Януша ў патыліцу. Ён не ўстаяў і ўпаў у ваду. На шчасце, усё абышлося. Янушу ўдалося выплыць.

Апошні запіс у «Дыярыушу» пазначаны 1604 годам. Доўгі час меркавалася, што ў гэтым годзе Еўлашоўскі і памёр. Аднак пазней устанавілі, што ў вечнасць ён пайшоў у 1619 годзе. Што тычыцца ягонага «Дзённіка», то нельга не прыслухацца да меркавання вядомага літаратуразнаўцы, гісторыка літаратуры Аляксандра Коршунава: «Само сабой зразумела, што ва ўсёй паўнаце паказаць разнастайныя праявы жыцця свайго сацыяльнага асяроддзя аднаму Еўлашоўскаму было не пад сілу. Ён зрабіў толькі тое, што мог. Але зрабіў з добрым веданнем справы. Аўтар здолеў жыва і маляўніча расказаць аб убачаным, пачутым і перажытым. Якраз у гэтым і заключаецца адна з галоўных вартасцей яго ўспамінаў як помніка гістарычна-мемуарнай літаратуры канца XIV — пачатку XVII ст». Дадамо: помніка, што нарадзіўся на старажытнай Ляхавіцкай зямлі.

Апісання Ляхавіч у Еўлашоўскага няма, аднак ёсць куды пазнейшае апісанне. Яно зроблена рускім ваенным пісьменнікам і падарожнікам Уладзімірам Бранеўскім у ягонай кнізе «Путешествие от Триеста до С.-Петербурга в 1810 году». Фактаў, праўда, прыведзена не так і шмат, але, як кажуць, малы залатнік, ды дарагі.

Уладзімір Бранеўскі сведчыў: «Ляховичи, большое местечко с двумя тысячами домов, расположено прямыми улицами, разделенными площадями; на воротах каждого дома прибита дощечка, на которой нарисованы номер и знак орудия, с коим должно идти на пожар. Церковь, синагоги, лавки и особенно развалившаяся крепость придают ему вид порядочного города».

Але ваенныя дзеянні, якія яшчэ не так даўно вяліся тут, пакінулі свой след. У гэтым Бранеўскі ўпэўніўся, калі вечарам пасля невялікага дажджу вырашыў паглядзець замак: «Жилище гетмана, состоящее из нескольких высоких зданий, стоит без крыши; стены от верху до низу треснули и частию развалились, лестницы снизу разобраны и поэтому не мог осмотреть длинных переходов, темных зал, увешанных быть может фамильными портретами. Входы в подвалы также засыпаны наносным песком, и я, к сожалению, не мог отыскать в подземной темнице костей или гробницы какой-нибудь Ладоиски, похищенной прадедом гетмана. Я видел пред собою развалины, в которых очень бы удобно поместить вымышленных героев романтического происшествия, с подземельями, привидениями, гробницами, сражающимися мертвецами […]».

Сведчанні скупыя ды важныя. Яны дазваляюць даведацца, што ж уяўлялі сабой Ляхавічы на пачатку XIX стагоддзя.

## Астравок сярод ніў

Ян Чачот, як вядома, нарадзіўся 7 ліпеня 1796 года ў вёсцы Малюшычы, цяпер гэта Карэліцкі раён, але маленства яго прайшло ў былым фальварку Рэпіхава, куды сям'я пераехала каля 1806 года, калі будучаму беларускаму і польскаму паэту, фалькларысту, этнографу споўнілася ўсяго дзесяць гадоў. Пераезд быў звязаны з тым, што бацька Яна служыў эканомам у маёнтку графа Тызенгаўза.

Шкода, што рэпіхаўская сядзіба не захавалася. Няма ні дома, у якім жыла сям'я Чачотаў, ні службовага флігеля, ні гаспадарчых пабудоў. Дый парк — ён, праўда, быў закладзены ў другой палове XIX стагоддзя — таксама збярогся далёка не поўнасцю. Аднак аб жыцці ў тамашніх мясцінах Я. Чачота напамінае мемарыяльная дошка. Дый пры наведванні гэтай мясціны з'яўляецца своеасаблівы настрой, які хараша перадаў у вершы «Рэпіхава» Віктар Гардзей:

У траве натапырыўся злётак сарокі,
І жывы камячок хоць у кепі хавай.
Дождж абмыў, захлынуўшыся ў громе далёкім,
Старажытнае ўрочышча Рэпіхава.
Паміж сёлаў Крывошын і Нецячын за Шчарай
Астраўком сярод ніў зелянее яно.
Грай птушыны вісіць тут часінаю шарай,
І падзеі былыя забыты даўно.

Асобныя балады Я. Чачота, няхай і ўскосна, сведчаць пра Рэпіхава, бо ў аснову іх пакладзены мясцовыя песні і паданні, якія ён пачуў у маленстве.

Напрыклад, у баладзе «Калдычэўскі шчупак» згадваецца, як некалі ў Свіцязі злавілі шчупака. На ім было кальцо, якое сведчыла аб тым, што раней ён вадзіўся ў Калдычэўскім возеры. Возера Калдычэва па цяперашнім адміністрацыйным дзяленні знаходзіцца ў Баранавіцкім раёне.

У маленстве Я. Чачот, відаць, чуў і паданне пра злога пана, які некалі жыў у вёсцы Узногі. Яно і падказала тэму баладзе, што так і называецца — «Узногі». Дарэчы, вобраз злога пана для сваёй паэмы «Дзяды» запазычыў з балады Я. Чачота Адам Міцкевіч. Другая частка «Дзядоў», як вядома, пачынаецца тым, што вечарам у званіцы з'яўляецца прывід. Гэтаксама, як і ў творы Я. Чачота, яго пачынаюць дзяўбці птушкі. Совы, пугачы, крукі, арліцы, аднак, не проста птушкі, а тыя, у каго ператварыліся замучаныя злым панам ягоныя прыгонныя сяляне.

Яшчэ адзін, калі можна так сказаць, чачотаўскі адрас на Ляхаўшчыне — вёска Дарава. Яна згадваецца ў баладзе «Падземны звон на горцы ў Пазяневічах». Тое, пра што расказаў Я. Чачот, некалі, па некаторых звестках, сапраўды адбылося ў Пазяневічах (ці Пузяневічах), паблізу мястэчка Турэц сённяшняга Карэліцкага раёна. Паглядзець на «цуд», якім збіраліся здзівіць прыхаджан сквапныя поп і ягоная жонка, сабраў шмат цікаўных.

«Па-здароўе люд ехаў з-за свету» да жыхара Дарава Антося Голеца. Непісьменны селянін, ён праславіўся тым, што мог лячыць любыя хваробы. Нават такую страшную, як рак. Нямоглыя, страціўшы ўсякую надзею на выратаванне, спяшаліся да гэтага знахара, будучы перакананымі, што Голец іх абавязкова вылечыць. Наведвалася да яго і маці Міцкевіча са старэйшым сынам Аляксандрам.

Аднак гродзенскі губернатар скептычна паставіўся да такой урачэбнай практыкі самазванца. Была створана спецыяльная камісія. Прыехаўшы ў Дарава, яна высветліла, што мясцовы знахар выпрацаваў свой метад лячэння. Голец уважліва ўглядаўся ў вочы і твар чарговага пацыента і зыходзячы з гэтага вызначаў, якія лекі яму неабходны. Па меркаванні камісіі, гэтыя лекі хоць і з'яўляліся бясшкоднымі, але і карысці ад іх ніякай не было. Некаторыя пацыенты вылечваліся толькі таму, што слепа верылі ў станоўчы вынік.

Губернатар забараніў Антосю падобную «лячэбную практыку». Але ў Голеца знайшліся заступнікі. У тым ліку і ў друку. Толькі губернатар ад свайго адступаць не збіраўся. Каб паставіць крыж на падобным «лячэнні», загадаў аддаць знахара ў рэкруты.

Пра тое, як царква ў выніку Боскага пакарання правалілася пад зямлю, гаворыцца і ў баладзе Міцкевіча «Лілеі». Гэты сюжэт ён таксама запазычыў у Чачота. Самае цікавае тое, што ў тагачасным друку былі звесткі, што такі выпадак меў месца ў сапраўднасці.

Некалі ў Дараве знаходзіўся манастыр. Прытым далёка не радавы. Пра гэта сведчыць тое, што ў ім мелася багатая бібліятэка: 172 кнігі ў 207 тамах. Самая каштоўная з іх была рукапісная «Триодь цветная». А яшчэ Дарава — месца пахавання польскага пісьменніка, філосафа-маралiста Фларыяна Бохвіца.